УДК 94(476)(082)

Укладальнік – *Аляксандр Фядута*

Пад навуковай рэдакцыяй
доктара філалагічных навук прафесара *Т. Я. Аўтуховіч*
і доктара гістарычных навук прафесара *З. В. Шыбекі*

Да падрыхтоўкі выдання мелі непасрэднае дачыненне
МГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў» і *І. А. Карпюк*

«Асоба і час» — альманах пра людзей, чые жыццё было звязанае з Беларуссю. У першы выпуск альманаха ўвайшлі матэрыялы, прысвечаныя як добра вядомым асобам (Васіль Быкаў, Пётр Машэраў, Зоська Верас, Фёдар Фёдараў), так і тым, хто пакуль не стаў часткай свядомасці нашага народа, але заслугоўвае.

# АСАБІСТЫЯ АРХІВЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЭЛІТЫ Ў КАНЦЫ XVIII — ПАЧАТКУ XX ст.

Канец XVIII — пачатак XX ст. — перыяд, калі беларускія землі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай уваходзілі ў склад Расійскай імперыі і не вызначаліся як самастойная дзяржаўная адзінка, якая стварае ўласную сістэму захоўвання архіўных дакументаў. Да XVIII ст. дакументы вышэйшых службовых асоб і творцаў у Расіі захоўваліся, як правіла, у складзе архіваў устаноў, фамільных і сядзібных архіваў. У XVIII–XIX стст. некаторыя асабістыя архівы дзяржаўных дзеячаў паступілі ў Пецярбургскі дзяржаўны і Маскоўскі галоўны архівы Міністэрства замежных спраў, Ваенна-навуковы архіў і інш., вучоных — у архіў Акадэміі навук, дзеячаў літаратуры, мастацтва, навукі — у рукапісны аддзел Пецярбургскай публічнай бібліятэкі і Румянцаўскага музея, актыўным з'яўлялася прыватнае калекцыяніраванне[1]. У апошняй чвэрці XIX — пачатку XX ст. значная колькасць асабістых архіваў трапіла ў спецыяльныя архівасховішчы: Політэхнічны, Гістарычны і Рускі музеі, Траццякоўскую галерэю, Тэатральны музей А. Бахрушына, Пушкінскі дом, арганізаваныя мемарыяльныя музеі-архівы[2].

У той жа час у Варшаве паўсталі вялікія зборы друкаваных і рукапісных дакументаў, уключна з дакументамі асабістага паходжання, заснаваныя прадстаўнікамі вядомых родаў Красінскіх, Замойскіх, Пшэздзецкіх. У бібліятэцы ардынацыі Замойскіх, напрыклад, захоўваліся дакументы М. Баброўскага і У. Трамбіцкага, у бібліятэцы ардынацыі Красінскіх — копіі Статута ВКЛ з асабістага архіва І. Даніловіча, у бібліятэцы Пшэздзецкіх — частка дакументаў мінскага ваяводы А. Хмары.

Зборам архіваў асабістага паходжання займаліся грамадскія ўстановы, універсітэты, музеі Варшавы, Вільна, Кракава і інш. У Таварыства сяброў навук у Варшаве ў 1818 г. быў перададзены ў адпаведнасці з тастаментам вялікі архіў генерала Яна Генрыха Дамброўскага (1755–1818), што ўтрымліваў інфармацыю па гісторыі напалеонаўскіх войнаў, лісты і загады шэрагу французскіх і расійскіх военачальнікаў[3]. У бібліятэку Віленскага універсітэта на пачатку стагоддзя па ініцыятыве рэктара, вядомага астранома і матэматыка Я. Снядэцкага паступілі дакументы гісторыкаў М. Догеля (1715–1760) і Я. Альбертрандзі (1731–1808), Т. Чацкага (1765–1813), архіў вроцлаўскага матэматыка і астранома Я. Шэйбеля[4]. У Ягелонскую бібліятэку ў Кракаве — карэспандэнцыя Я. Лялевеля, частка збораў А. Ельскага, уключна з архівам мінскага выяводы А. Хмары. На падставе збораў Э. Гутэн-Чапскага, які ў 1894 г. перавёз сваю калекцыю ў Кракаў, быў арганізаваны Нацыянальны музей[5].

Лёсы асобных вялікіх архіваў грамадска-палітычных дзеячаў складваліся па-рознаму — не абыходзілася без страт. У 1818 г., згодна з тастаментам, архіў Т. Касцюшкі (1746–1817) быў знішчаны ў прысутнасці натарыуса. У XIX ст. вялікі комплекс дакументаў аб яго дзейнасці нанова сабраны Польскім музеем у Раперсвілі (Швейцарыя), але большая частка загінула падчас Другой сусветнай вайны разам са зборамі Нацыяналь-

[1] Гл.: Никифоров Е. И. Частное собирательство документальных материалов в России в первой половине XIX в. // Советские архивы. 1972. № 3. С. 40–42.

[2] Гл.: Кононов Ю. Ф. Организация хранения личных фондов в архивах СССР // Труды научной конференции по вопросам архивного дела в СССР. Т. 1–2. М., 1966. Т. 1. С. 267–269.

[3] Гл.: Wiśniewski J. Archiwalia w bibliotekach i muzeach. Poznań, 2000. S. 32–33.

[4] Гл.: Brensztejn M. Biblioteka Uniwersitecka w Wilnie do roku 1832. Wilno, 1925. 160 s.

[5] Гл.: Wiśniewski J. Archiwalia… S. 43–46, 326.

най бібліятэкі ў Варшаве[6], цяпер рэшткі архіва захоўваюцца ў некалькіх сховішчах. Архіў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1732–1798) (Архіў Кабінета караля, архіў Каралеўства Польскага, Archivum de Varsovie і інш.) складаўся па большай частцы з афіцыйных дакументаў Рэчы Паспалітай, дакументаў каралеўскага двара, прыватнай карэспандэнцыі, калекцыі рукапісаў і можа быць толькі ўмоўна аднесены да архіва асабістага паходжання. Тым не менш у яго складзе захаваліся асабістыя архівы гісторыкаў Я. Альбертрандзі (1731–1808) і А. Нарушэвіча (1733–1796). Пасля смерці Панятоўскага архіў перайшоў ва ўладанне яго брата Юзэфа, потым быў раскіданы па розных сховішчах: частка вывезена ў Пецярбург, частка апынулася ў Порыцкай бібліятэцы Чацкага (потым у музеі князёў Чартарыйскіх)[7].

Значным зборам, які захоўваў дакументы дзеячаў літаратуры, з'яўляўся так званы Архіў філаматаў, сабраны А. Петрашкевічам (1793–1863). Пасля смерці яго дакументы перайшлі да віленскіх сваякоў. У канцы 1950-х гг. частка архіва была перададзеная спадкаемцамі ў аддзел рукапісаў Віленскага універсітэта, другая ў бібліятэку Каталіцкага універсітэта ў Любліне, яшчэ адна трапіла ў Музей літаратуры імя А. Міцкевіча ў Варшаве. Дакументы філаматаў захоўвалі Францішак Малеўскі (1800–1870) і Тамаш Зан (1796–1855): гэтыя часткі захоўваюцца ў Музеі літаратуры імя А. Міцкевіча ў Варшаве і ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы ў Вільна. У архіве акрамя дакументаў па гісторыі Таварыства філаматаў захаваліся творы і ліставанне А. Міцкевіча, Я. Чачота, Т. Зана, А. Петрашкевіча, К. Пясецкага і інш.[8].

Свае асаблівасці гісторыі захоўвання і складу мелі архівы гісторыкаў-навукоўцаў. Яны, для напісання працы, збіралі гістарычныя крыніцы (копіі і выпісы з архіўных дакументаў, творы і г. д.), якія з цягам часу станавіліся асноўнай і найбольш каштоўнай часткай асабістага архіва, да якой далучаліся творы і біяграфічныя дакументы дзеяча. Адной з першых такіх калекцый сталі так званыя тэкі Нарушэвіча, аўтара «Гісторыі польскага народа» А. Нарушэвіча (1733–1796), якія складаліся з 230 тамоў копій дакументаў ад 1140 г. да другой паловы XVIII ст. Зборам і захаваннем гістарычных дакументаў займаліся прафесары Віленскага ўніверсітэта І. Анацэвіч (1780–1845), М. Баброўскі (1784–1848), І. Даніловіч (1787–1843), І. Лабойка (1786–1861), Ю. Ярашэвіч (1793–1860), якія стаялі ля вытокаў беларускага мовазнаўства, правазнаўства, археаграфіі, гістарыяграфіі. У іх асабістых архівах адклалася вялікая колькасць матэрыялаў па гісторыі Беларусі. Пасля смерці сваіх уладальнікаў архівы часта станавіліся прадметам куплі-продажу і разыходзіліся па руках калекцыянераў. Напрыклад, частка дакументаў І. Анацэвіча (уключна з дакументамі з архіваў Пецярбурга, Кёнігсберга, Дзярэчына, Пулаў, перапіскай С. Панятоўскага, папскімі буламі, дакументамі па гісторыі дома Ягелонаў, дакументамі аб дыпламатычных зносінах Расіі і Польшчы ў XVI–XVIII стст. і інш.) была перададзеная калекцыянеру К. Свіндзіцкаму, частка — гродзенскаму калекцыянеру Слізню, частка трапіла ў зборы Э. Рачынскага і Р. Падбярэскага. Рукапісная спадчына М. Баброўскага разышлася па руках адразу пасля яго смерці (найбольшая колькасць — да бібліяфіла У. Транбіцкага), неапублікаваныя рукапісы І. Даніловіча набыты Е. Тышкевічам у Віленскі музей старажытнасцяў у 50-я гг. XIX ст.[9].

---

[6] Гл.: Jedynakiewicz K. Osobowość i życie codzienne Tadeusza Kościuszki. Łódź, 1996. S. 15.

[7] Гл.: Bańkowski P. Archiwum Stanisława Augusta. Warszawa, 1958. S. 5–10.

[8] Гл.: Korespondencja filomatów. Wybor. Wrocław — Warszawa — Kraków, 1999. С. XXXI–XXXII.

[9] Карев Д. В. Белорусская и украинская историография конца XVIII — начала 1920-х гг. XX в., в процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев. Вильнюс, 2007. С. 94–95; Николаев С. И. О колекции Игнатия Онацевича // Духовная культура славянских

Дакументы заснавальніка навуковай археалогіі, этнографа і славіста З. Даленгі-Хадакоўскага (1784–1825) пасля перайшлі да М. Палявога, а потым да М. Пагодзіна, якія займаліся калекцыянаваннем, значная колькасць трапіла ў рукі польскіх, украінскіх, расійскіх калекцыянераў[10]. Асабісты архіў члена Румянцаўскага гуртка гісторыка і археографа І. Грыгаровіча характарызуецца наяўнасцю вялікай колькасці капійных дакументаў з архіваў Полацка, Магілёва, Віцебска, Оршы, якія рыхтаваліся для публікацыі. Пасля яго смерці дакументы захоўваліся ў яго сына, Мікалая Грыгаровіча, а ў 1872 г. былі перададзены ў Румянцаўскі музей (цяпер Навукова-даследчыцкі аддзел рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі). Вялікая частка архіва апынулася ў прыватных зборах краснаярскага бібліяфіла Г. У. Юдзіна[11].

У другой палове XIX ст. пачынаюць ствараццa сховішчы, якія значна садзейнічаюць захоўванню дакументаў выдатных дзеячаў краю. Гэта справа з'яўлялася, як правіла, прыватнай ініцыятывай і гуртавала вакол сябе прадстаўнікоў мясцовай інтэлектуальнай эліты. У 1856 г. у Вільні былі адчынены Музей старажытнасцяў і Віленская археалагічная камісія пад кіраўніцтвам Е. Тышкевіча, супрацоўнікамі якой з'яўляліся Т. Нарбут, І. Крашэўскі, М. Маліноўскі, І. Ходзька, П. Кукальнік, А. Кіркор, І. Ярашэвіч і інш. У Віленскі музей у якасці добраахвотных ахвяраванняў былі перададзены ад А. Важынскага — некалькі аўтографаў вядомых у краі асоб, ад А. Вейнерта — уласны твор у 4 т. пад назвай «Starożytności Warszawskie», ад А. Кастравіцкага — аўтограф Ф. Карпінскага, ад Т. Нарбута — «Гісторыя Літвы» ў 9 т., выданне ў багатым пераплёце, чарнавы рукапіс 4-га т., чарніліца, якая ужывалася падчас напісання твора. У 1866 г. пры разборы дакументаў Віленскага музея старажытнасцяў і стварэнні Віленскай публічнай бібліятэкі П. Гільтэбрандтам быў знойдзены архіў Сапегаў з Дзярэчына і вялікае ліставанне мясцовых і польскіх магнатаў XVIII ст.[12].

У другой палове XIX — пачатку XX ст. працавалі Віленская археаграфічная камісія, Віленскі і Віцебскі цэнтральныя архівы старажытных актавых кніг, Віцебская вучоная архіўная камісія, што займаліся ў асноўным захаваннем і вывучэннем дакументаў устаноў, часам прыватных (фамільных) архіваў і збораў[13]. У 1898 г. у Вільні быў створаны т.зв. Мураўёўскі музей, мэтай якога была канцэнтрацыя дакументаў аб дзейнасці М. М. Мураўёва ў Паўночна-Заходнім краі ў 1863–1865 гг. Пры музеі існаваў архіў, які камплектаваўся дакументамі па гісторыі паўстання, дзе захавалася каля 47,5 тыс. спраў. Гэта былі, дакументы устаноў, створаных у сувязі з паўстаннем, часткі матэрыялаў палітычнага аддзялення канцэлярыі генерал-губернатарства, а таксама асабістыя дакументы і рэчы М.М. Мураўёва, дакументы

---

народов. Литература. Фольклор. История: сб. статей к IX международному съезду славистов. Ленинград, 1983. С. 197–208.

[10] Гл.: Maślanka J. Zorian Dołenga-Chodakowski jego mejsce w kulturze Polskiej i wpływ na polskie piśmennictwo romantyczne. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1965. S. 143–145.

[11] Гл.: Іванова В. Дакументальная спадчына протаіерэя Іаана Грыгаровіча // Праваслаўе. 2004. № 12–13. С. 78–85; Іванова В. Лісты з асабістага архіва Івана Грыгаровіча // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 8. Мінск, 2007. С. 222.

[12] Гл.: Гильтебрандт П. Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Вып. 1. Церковно-славянские рукописи. Русские пергамены. Вильна, 1871. С. VII–XXIV.

[13] Так, напрыклад, VII і VIII тт. «Археографического сборника документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси», што выдаваліся Віленскай археаграфічнай камісіяй былі складзены з дакументаў Нясвіжскага і Кейданскага архіваў Радзівілаў. У прыватным архіве Е. Тышкевіча захоўваліся дакументы гродзенскіх прысутных местаў, якія былі передадзены ў Віленскі цэнтральны архіў старажытных актавых кніг // Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 596. Воп. 1. Адз. зах. 669.

ўдзельнікаў паўстання. Мураўёўскі музей стаўся адным з першых прыкладаў выкарыстання постаці дзеяча і сведчанняў аб яго дзейнасці (дакументаў, прадметаў) у ідэалагічных мэтах[14].

Захаваннем гістарычных памятак у другой палове XIX ст. на беларускіх землях актыўна займаліся збіральнікі, якія хоць і не мелі значных матэрыяльных сродкаў, але былі перакананы ў неабходнасці калекцыянавання дзеля захавання і вывучэння нацыянальнай культуры. А. Ельскі і М. Федароўскі ўпершыню паставілі пытанне аб неабходнасці захавання дакументальнай спадчыны асобы і сям'і, у гэты ж час былі створаны пералікі наяўных і страчаных архіўных, бібліятэчных, мастацкіх збораў[15]. Канстатуючы факты знішчэння цэлага шэрагу фамільных архіваў пасля 1863 г. М. Федароўскі называе асноўнай прычынай тое, што «злачынцы-ўнукі не перанялі ад сваіх дзядоў іх паважлівага стаўлення да старажытных дакументаў»[16].

Найбольш вядомай на беларускіх землях у сярэдзіне XIX ст. была калекцыя А. Ельскага (1834–1916) у Замосці, якая налічвала больш за 20 тыс. аўтографаў знакамітых асоб з усёй Еўропы, тут захоўваліся часткі асабістых архіваў А. Міцкевіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Кіркора (каля 5 тыс. пісьмаў), С. Манюшкі, братоў Ф. і А. Смуглевічаў, фамільныя архівы Прозараў, Ельскіх, Заранкаў, Хмараў і інш. Акрамя таго, А. Ельскі збіраў дакументы філаматаў, даў апісанне асабістага архіва К. Пясецкага, шкадаваў, што не здолеў здабыць дзённік Д. Манюшкі, які мусіў быць «неацэннай крыніцай пераважна мясцовасці, дзе жыў і дзейнічаў Манюшка, і яшчэ напалеонаўскага перыяду»[17]. Паводле сведчанняў калегі і біёграфа А. Ельскага Ю. Талькі-Грынцэвіча, «у паперах, што засталіся пасля Ельскага, ёсць сорак папак, дзе змяшчаюцца яго нататкі, манаграфіі, запіскі і карэспандэнцыі аб людзях і фактах. З цягам часу яны будуць мець вялікую каштоўнасць для гісторыі» — па сутнасці, гэта апісанне асабістага архіва самога калекцыянера[18]. У сваіх зборах А. Ельскі стварыў пэўную сістэматызацыю і праводзіў навукова-тэхнічную апрацоўку дакументаў. Фамільныя архівы, уключна з асабіста-сямейнымі, публічнымі і маянткова-гаспадарчымі дакументамі, захоўваліся ў фасцыкулах і звязках, мелі інвентары ці сумарыушы. Калекцыя сістэматызаваная па тэматычна-асабовым прынцыпе, уключала больш за 100 тэматычных раздзелаў, сярод якіх: літоўскія ваяводы і кашталяны, польская філасофія, рускія саноўнікі і духоўныя асобы, царская папка, французская папка, падзеі 1861–1863 гг. і інш. У рамках раздзелаў дакументы згрупіраваны па тэчках, на кожнай з якіх напісана прозвішча і імя асобы, сфера яго дзейнасці, таксама можа быць змест і дата дакумента. Прозвішчы падкрэс-

---

[14] Гл.: Шумейка М. Як захоўвалі дакументальную спадчыну Мураўёва-вешальніка // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 1. С. 8–11; Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 249. Воп. 5. Адз. зах. 681; Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 439. Воп. 1. Адз. зах. 33, 74.

[15] Гл.: Federowski M. Materialy do historii życia umyslowego na Litwie — niszczenie dzieł sztuki i zabytków kultyralnych // Gabinet Rękopisów. Biblioteka Uniwersitecka w Warszawie. № 448/2; Radziszewski F. Wiadomość historyko-statystyczna o znakomitych bibliotekach i archiwach publicznych i przywatnych, tak kiedyś byłych jako i obecnie istniejących w krajach dawną Polskę skladajacych, a mianowicie: w Królewstwie Polskiem, Galicyi, W. Ks. Poznańskim i Zachodnich guberniach Państwa Rossyjskiego. Kraków: W drukarni Wł. L. Anczyca i Sp., 1875. 124 s.

[16] Federowski M. O lekkomyślem niszczeniu starych dokumentów // Księga pamiąkowa na uczenie setnej rocznicy urodzin Adama Mickiewicza 1798–1898. T. 1–2. Warszawa — Peterburg — Kraków, 1899. T. 2. S. 16.

[17] Ельскі А. Выбранае. Мінск, 2004. С. 135, 147.

[18] Гл.: Кісялеў Г. Ад Чачота да Багушэвіча: праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст. Мінск, 2003. С. 79.

лены чырвоным алоўкам, ставілася пячатка «Biblioteka i museum Aleksandra Jelskiego w Zamościu»[19].

У зборах этнографа М. Федароўскага (1853–1923) было сабрана шмат дакументаў з расійскіх устаноў, ліставанне В. Маеўскага, З. Глогера, фамільныя (сядзібныя) архівы Віленскага, Навагародскага, Полацкага і іншых паветаў, сем'яў Коханаў, Краснікаў, Бутаўтаў, Эйсмантаў, Шчытоў-Забельскіх і інш., дастаткова вялікай была частка асабістых папер М. Федароўскага: зборы фальклору, падрыхтоўчыя матэрыялы да выдання «Ludu Białoruskiego», карэспандэнцыя, біяграфічныя матэрыялы[20].

Шмат фамільных і асабістых архіваў і іх частак захоўваліся ў віленскіх калекцыянераў Л. Марашэўскага (частка Дзярэчынскага архіва Сапегаў, архівы Ордаў, Стравінскіх, Вайніловічаў, Палубінскіх), А. Заштаўта (архівы Пацаў, Радзівілаў, Сапегаў), Л. Узэмблы (матэрыялы філаматаў і філарэтаў, карэспандэнцыя прафесараў Віленскага універсітэта і іншых прадстаўнікоў Віленскай інтэлігенцыі), Т. Урублеўскага (часткі калекцый Г. Татура, В. Федаровіча). Дзякуючы калекцыянерам захаваліся дакументы пісьменнікаў: у Р. Зямкевіча — рукапісы А. Рыпінскага, А. Вярыгі-Дарэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, у В. Федаровіча — рукапісы Я. Баршчэўскага, у М. Піятуховіча — рукапісы А. Рыпінскага[21].

Адным з набольш вядомых віленскіх калекцыянераў быў ваенны юрыст, літаратар А. Жыркевіч (1857–1927), які яшчэ гімназістам пачаў збіраць рукапісы і прадметы даўніны. Ён перадаваў іх у музеі, архівы, бібліятэкі Гродна, Коўна, Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга. Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве падараваў аўтографы Т. Касцюшкі і А. Міцкевіча, Віленскай публічная бібліятэцы — рукапісы Стафана Баторыя, Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Кацярыны II, А. Кіркора, Ю. Крашэўскага, Л. Кандратовіча[22]. Ён стаў адным з ініцыятараў і арганізатараў стварэння музея М. Мураўёва ў Вільна, Ваеннага музея пры Віленскім ваенным сабранні, даследваў гісторыю дакументальных архіўных страт[23], выказваў клопат аб захаванні гістарычных дакументаў: «…Вы знаете ,каково воевать за старую бумагу! Но тяжело и воевать, когда видишь равнодушие»[24]. Яго вялікі асабісты архіў, што цяпер захоўваецца ў Музеі Л. Талстога ў Маскве, утрымлівае шэраг крыніц па гісторыі краю.

На пачатку ХХ ст. у кірунку збірання дакументаў асабістага паходжання актыўна сталі дзейнічаць культурна-грамадскія суполкі. Варшаўскае таварыства аматараў навук, якое было ўтворанае яшчэ на пачатку ХІХ ст., прыняла на захоўванне дакументы калекцыянераў М. Федароўскага і З. Глогера. У 1907 г. па ініцыятыве прафесара А. Парчэўскага было створанае Таварыства аматараў навук у Вільні, якое праіснавала да 1922 г. Сюды перадалі свае зборы М. Брэнштэйн, А. Ельскі, А. і У. Тышкевічы, С. Кастравіцкая, тут захоўваліся перапіска А. Кіркора, Т. Касцюшкі, Я. Карловіча, да-

---

19 Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 1135. Воп. 21. Адз. зах. 64. Арк. 383–385; Дзяржаўны архіў старажытных актаў (Варшава). Ф. 376, 144. Адз. зах. за 1560–1915 гг.

20 Гл.: Спадчына Федароўскага // Савецкая Беларусь. № 156. 1923. 11 ліп. С. 6.

21 Гл.: Buika M. Wileńscy kolekcionerzy zabytków i pamiątek historycznych na przełomie XIX–XX wieku // Zeszyty naukowe Uniwersitetu Jagiełłońskiego. Prace historyczne. Z. 134. Kraków, 2007. S. 81–90; Кісялеў Г. Ад Чачота да Багушэвіча: праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры ХІХ ст. С. 44–82.

22 Аддзел рукапісаў бібліятэкі Віленскага універсітэта. Ф. 48. Адз. зах. 1–306 за 1303–1964 гг.

23 Гл.: Жиркевич А. В. Свежо предание, а верится с трудом. СПб., 1902. 45 с. Жиркевич А. В. Смоленские архивы в 1812 году // Смоленская старина. Т. 1. 1909. С. 345–377.

24 Аддзел рукапісаў бібліятэкі Віленскага універсітэта. Ф. 6. Адз. зах. 26. Арк. 57.

кументы Т. Нарбута, Т. Зана, І. і К. Кантрымаў і інш.[25]. Дзеячы краю пачалі сур'ёзна задумвацца аб лёсе сваіх збораў пасля сваёй смерці ці на выпадак розных грамадскіх і гістарычных трансфармацый. Так, напрыклад, А. Ельскі перадаў вялікую карэспандэнцыю А. Кіркора (больш за 5 тыс. лістоў) у Таварыства аматараў навук у Вільні пры ўмове, што пры спыненні ці змяненні характару дзейнасці таварыства дакументы павінны быць вернуты ахвярадаўцу ці яго спадчыннікам[26].

Вельмі клапатліва ставіўся да свайго асабістага архіва загадчык Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актавых кніг І. Спрогіс (1833–1918). У ім утрымлівалася багатае ліставанне, дзённікі, якія адлюстроўвалі не толькі інтэлектуальнае, духоўнае і культурнае жыццё так званай рускай Вільны, але і стасункі з вядомымі навукоўцамі таго часу ў кантэксце гістарычных і ідэалагічных узаемадзеянняў. Перад самай вайной у лістах да свайго сябра А. Жыркевіча І. Спрогіс ставіць пытанне аб лёсе свайго архіва, мяркуючы яшчэ пры жыцці перадаць яго ў Віленскую публічную бібліятэку. Гэта выклікала даволі рэзкую рэакцыю Жыркевіча: «Ваше распоряжение при вашей жизни явно несообразно с литературными обычаями…Только когда пройдет 25–50 лет после вашей смерти можно разрешить ими пользоваться, а так при жизни Вы наживете себе врагов… Убедительно прошу Вас во всяком случае вернуть мне мои письма, не позволяя рыться в них посторонним…Я ничего не буду иметь против, если вы соберете и при мне уничтожите, т. е. сожжете, дав мне их предварительно пересмотреть и перечитать»[27]. У выніку І. Спрогіс, каб захаваць канфідэнцыяльнасць, передае дзевяць сшыткаў сваіх дзённікаў на захоўванне А. Жыркевічу з умовай перадаць іх пасля смерці ў Віленскую публічную бібліятэку. Трэба меркаваць, што сам архіў быў перададзены ў бібліятэку да 1915 г., калі яна была вывезена, а яе зборы пазней увайшлі ў склад Бібліятэкі Віленскага універсітэта[28]. А. Жыркевіч не выканаў запавет Спрогіса адносна дзённікаў, і яны трапілі на захоўванне ў Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі[29].

Аднак і клопат уладальнікаў не заўсёды выратоўваў архівы ад знішчэння: так, архіў А. Ельскага і вялікая колькасць фамільных архіваў, сярод якіх архівы Чапскіх, Ваньковічаў, Вайніловічаў, Мілашаў і іншых былі знішчаны падчас Першай сусветнай вайны і рэвалюцыі.

Фрагменты захаваўшыхся асабістых архіваў даюць магчымасць гаварыць аб пэўных тэндэнцыях у захоўванні дакументаў простых людзей, што маюць значную цікавасць для ўзнаўлення гісторыі эпохі. Так, у Аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя Асалінскіх у Вроцлаве ўтрымліваюцца «Думкі» мінчаніна, беларускага і польскага паэта Ігнація Легатовіча, успаміны жыхара Віцебска Максіміліяна Маркса, успаміны пра дамок лідскіх піяраў Язафата Вайшвілы, успаміны жыхара Слуцка Станіслава Шантыра,

[25] Гл.: Brensztejn M. Biblioteka Towarzystwa przyjaciól nauk w Wilnie. 1907–1931. Wilno: Zakł. graf. «Znicz», 1932. С. 13–15; Chwalewik E. Zbiory Polskie archiwa, biblioteki, gabinety, galerje, muzea i inne zbiory pamiątek przesłości w ojczyżnie i na obczyznie. W porządku alfabetycznym wedlug miejscowości ułożone. Warszawa-Kraków: Wyd-wo J. Mortkowicza, 1926. T. 1. S. 472–473.

[26] Гл.: Кісялёў Г. Замосце: скарбы Аляксандра Ельскага. Генрых Ельскі пра музей свайго дзеда // Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. / уклад. Г. Кісялёў. Мінск, 1990. С. 303.

[27] Аддзел рукапісаў бібліятэкі Віленскага універсітэта. Ф. 6. Адз. зах. 26. Арк. 137.

[28] Аддзел рукапісаў бібліятэкі Віленскага універсітэта. Ф. 6. Адз. зах. 136.

[29] Іванова В. Асабістыя архівы ў Латвійскіх сховішчах як крыніца па гісторыі Беларусі // Сучасныя праблемы дакументазнаўства, архівазнаўства і археаграфіі: матэрыялы навук.-практ. канф., прысвеч. 85-годдзю Дзярж. архіўн. службы і 80-годдзю Нац. архіва Рэсп. Беларусь. (Мінск, 12 красавіка 2007) / склад. В. С. Пазднякоў, П. П. Журкевіч. Мінск, 2007. С. 162–168.

карэспандэнцыя і асабістыя дакументы польскага пісьменніка і мемуарыста Эдуарда Паўловіча з Навагрудчыны, успаміны Г. Велявейскага з Любчы. У Курніцкай бібліятэцы — карэспандэнцыя жыхара Случчыны, мастака і рэвалюцыянера Браніслава Залескага[30], у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі — ліставанне мінскай настаўніцы Я. Іоэльсан, у Навукова-даследчыцкім аддзеле кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — дзённік мінскага архіепіскапа М. Галубовіча. У статыстычных апісаннях беларускіх губерній, што праводзіліся ў XIX ст., была пададзеная інфармацыя аб захаванні асабістага архіва Ю. Ярашэвіча ў яго ўдавы ў Бельскім павеце, дакументаў айца Гарбацэвіча са Слуцкага павета, што складаліся з ліставання па гісторыі уніі ў 1596 г., дакументаў дырэктара Беластоцкай гімназіі Кулакоўскага і інш.[31].

Такім чынам, у XVIII — пачатку XX ст. дакументы асоб, якія ўплывалі на грамадска-палітычныя працэсы на беларускіх землях ці зрабілі ўнёсак у развіццё беларускай навукі, літаратуры і мастацтва, захоўваюцца ў складзе архіваў дзяржаўных і грамадскіх устаноў Расійскай імперыі і Каралеўства Польскага, у прыватных архівах і калекцыях. Найбольш вядомымі захавальнікамі дакументаў асабістага паходжання з'яўляюцца М. Румянцаў, М. Пагодзін, У. Транбіцкі, А. Жыркевіч, А. Ельскі, І. Каладзеў, Г. Юдзін і інш., яны утрымліваюцца ў фамільных і сядзібных архівах, публічных і прыватных зборах (Віленская публічная бібліятэка, Мураўёўскі музей, бібліятэкі ардынацый Замойкіх, Красінскіх, бібліятэка Пшэздзецкіх), грамадска-культурных установах (таварыствы аматараў навук у Вільні і Варшаве). Працэс фарміравання асабістых архіваў яскрава прасочваецца на прыкладзе архіваў грамадска-палітычных дзеячаў, літаратараў, навукоўцаў, у першую чаргу гісторыкаў, асаблівасцю складу апошніх з'яўляюцца зборы гістарычных дакументаў. У другой палове XIX ст. на беларускіх землях пачалі фарміравацца прыватныя калекцыі (А. Ельскі, М. Федароўскі, браты Тышкевічы, А. Жыркевіч, віленскія калекцыянеры), уладальнікі якіх усвядомілі неабходнасць захавання памятак па гісторыі краю ў тым ліку і асабістых архіваў дзеячаў літаратуры, навукі, культуры. Калекцыяніраванне стала адной з асноўных формаў пошуку, сістэматызацыі, захоўвання і выкарыстання асабістых архіваў.

Большасць асабістых архіваў, што фарміраваліся ў канцы XVIII — пачатку XX ст., не захавалася ў сваёй цэласнасці, іх часткі страчаны ці раскіданы па сховішчах Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны [гл. Дадатак], а вывучэнне вымагае рэканструкцыі гісторыі і складу, збора звестак аб сучасных месцах захоўвання. У Беларусі захаваліся фрагменты асабістых архіваў гісторыка і археографа І. Грыгаровіча, паэта А. Гурыновіча, пісьменніка К. Каганца, частка калекцыі А. Ельскага і сямейнага архіва Багдановічаў (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), архівы бабруйскага купца М. Кагановіча, настаўніцы Е. Іоэльсон (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі), а таксама асобныя дакументы ў складзе калекцый і фамільных фондаў.

*Вольга ІВАНОВА*

---

[30] Гл.: Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных, бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах. Вяртанне-6 / пад. рэд А. Мальдзіса. Мінск, 1999. С. 150–158.

[31] Гильтебрандт П. Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Вып. 1. Церковнославянские рукописи. Русские пергамены. С.VII–XXIV.

# ДАДАТАК
## Асабістыя архівы дзеячаў беларускай навукі, культуры і грамадска-палітычнай сферы ў сховішчах Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны[32]

***Абіхт Рудольф*** (1850, Намыслаў, Сілезія — 1921), славіст Вроцлаўскага універсітэта, выкладчык Свіслацкай гімназіі.

Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (АР ЦБАН Літвы). Ф. 78 (фонд Л. Абрамовіча). Воп. 1. Адз. зах. 338.

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Ф. 3 (Калекцыя музея імя І. Луцкевіча ў Вільна). Воп. 1. Адз. зах. 261.

***Абуховіч Альгерд*** (1840, Калацічы, Бабруйскі пав., Мінская губ. — 1898), пісьменнік.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 21 (Віленскі беларускі фонд). Воп. 1. Адз. зах. 431.

***Агінскі Міхал Клеафас*** (1765, Гузаў, Польшча — 1833), кампазітар.

Архіў каралеўскага замка (Варшава), перапіска.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (РДАСА). Ф. 12 (Справы аб Літве і Польшчы), творы, перапіска, нататкі за 1683–1854.

Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музыкальнай культуры (ДМГТМК). Копіі дакументаў Агінскага з РДАСА.

***Адынец Антон Эдвард*** (1804, Гейстуны, Ашмянскі пав., Гродзенская губ. — 1885), паэт, перакладчык.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 2847 за 1826–1884.

***Ажэшка Элаіза*** (1841, Мількаўшчына, Гродзенскі пав. — 1910), пісьменніца.

Бібліятэка Інстытута літаратуразнаўства Польскай акадэміі навук. 1 000 адз. зах.

Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (ЛДГА). Ф. 1137 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 15. 37 адз. зах. за 1777–1931.

Аддзел старажытных кніг і рукапісаў Публічнай бібліятэкі (Варшава), творы, ліставанне.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. № 1457–1458.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў). № 12028.

Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. 85 адз. зах. і інш.

***Альбертрандзі Ян*** (1731, Варшава — 1808), гісторык, архівіст, настаўнік Нясвіжскай езуіцкай семінарыі.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў).

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў).

Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Кракаў), карэспандэнцыя і афіцыйныя паперы.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. № 135.

Курніцкая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Познань), дакументы дзейнасці: копіі з архіваў польскіх і італьянскіх з бібліятэкі Ватыкана, фрагмент каталогу бібліятэкі Станіслава Аўгуста.

---

[32] Пададзена інфармацыя аб архівах дзеячаў XIX — першай паловы XX ст., уключна з часткамі архіваў, якія захоўваюцца ў Беларусі. Даведнік не прэтэндуе на вычарпальнасць: звесткі могуць быць дапоўнены.

***Анацэвіч Ігнат*** (1780, М. Бераставіца, Гродзенскі пав. — 1845), гісторык.

Інстытут рускай літаратуры РАН (Пушкінскі дом), калекцыя, 374 адз. зах.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 6975, выпісы з дакументаў.

Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага універсітэта (АР БВУ). Ф. 12 (асабісты фонд І. Лялевеля). Воп. 1. Адз. зах. 145.

АР ЦБАН Літвы, асобныя дакументы ў складзе ф. 18, 43, 151, 273.

ЛДГА. Ф. 721. (Віленскі універсітэт). Воп.1. Адз. зах. 68, 121, 130, 254, 624, 741, 1195, дакументы аб працы прафесарам Віленскага універсітэта.

Бібліятэка Рачыньскіх (Познань).

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў).

***Баброўскі Міхаіл*** (1784, Вулька, Бельскі пав. — 1848), гісторык.

АР БВУ. Ф. 58. 11 адз. зах., нататкі, выпісы, ліставанне.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 0827, 0872, 0924, 1659, 1735 за 1805–1845, нарысы, нататкі, даклады, службовыя дакументы, перапіска.

Аддзел рукапіснай і старажытнай кнігі Бібліятэкі Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу. Ф. 46. (збор).

АР РНБ. Ф. 80 (асабісты фонд П. В. Баброўскага).

Ватыканскі архіў.

***Бадуэн дэ Куртэне Іван Аляксандравіч*** (1845, Радзымін, Польшча — 1929), рускі і польскі мовазнавец.

Аддзел рукапісаў Расійскай акадэміі навук (АРАН СПб). Ф. 102. Воп. 1–2. 385 адз. зах. за 1870–1909.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава).

Навуковая бібліятэка НАН Украіны (Львоў). № 3152–3343 (фонд Я. Галавацкага).

Архіў Польскай акадэміі навук (Варшава).

***Балінскі Міхаіл*** (1794, Цярэспаль, Полацкі пав. — 1864), гісторык, публіцыст.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 81. Воп. 1. 46 адз. зах. за 1380–1920.

АР БВУ. Ф. 22. 807 адз. зах. за 1509–1939.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў), навуковыя працы, перапіска, матэрыялы па гісторыі Літвы, успаміны аб А. Снядзецкім.

***Беражкоў Міхаіл*** (1850, Мастцы, Украіна — 1937), гісторык.

Інстытут рукапісу Нацыянальнай бібліятэкі Украіны (Кіеў). Ф. 23. 1480 адз. зах. за 1842–1932.

***Богуш-Сестранцэвіч Станіслаў*** (1731, Занкі, Свіслацкі пав., Гродзенскае ваяв. — 1826), гісторык, літаратар, Магілёўскі архіепіскап.

РГАСА. Ф. 12. Воп. 1. Адз. зах. 192, лісты да кн. Г. А. Пацёмкіна-Таўрычаскага.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА) (фонд архіва). Воп. 2. Адз. зах. 3475.

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны (ЦДГАУ) у Кіеве. Ф. 257 (фамільны фонд кн. Радзівілаў). Воп. 1. Адз. зах. 128, дзённік за 1731–1754.

Бібліятэка Чартарыйскіх (Кракаў). № 689, 700, 707, лісты да Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Ватыканскі архіў.

***Брэжга Баляслаў*** (1887, Айзупіша, Рэжыцкі пав., Віцебская губ. — 1957), гісторык.

Латгальскі культурна-гістарычны музей ў Резекене (Латвія), 401 адз. зах.

Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі (Рыга). Ф. 6984. 86 адз. зах. за 1473–1841.

Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці. Ф. 289 (Віцебскі архіў). Воп. 1. Адз. зах. 1, 23, 49.

АР ЦБАН. Ф. 21 (Віленскі беларускі фонд). Воп. 1. Адз. зах. 41–43, 49 за 1910–1917.

Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Латвійскай Нацыянальнай бібліятэкі (Рыга). Ф. 3. 177 адз. зах. за канец XVIII ст. — 1950-я гг.

Пушкінскі дом (Інстытут рускай літаратуры РАН, СПб). Ф. 5325. Воп. 9. Адз. зах. 257.

***Брэнштэйн Міхаіл*** (1874, Цяльшай, Літва — 1938), гісторык, бібліёграф.

ЦБАН Літвы. Ф. 84. 34 адз. зах. за 1897–1935.

ЛДГА. Ф. 1135 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 1. 221 адз. зах. за 1507–1939.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава), біяграфічныя дакументы, дзённікі, творы, перапіска, сямейныя дакументы.

***Булгак Ян*** (1876, Асташына, Навагрудскі пав., Гродзенская губ. — 1950), фатограф, этнограф, фальклырыст.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, каталог набыткаў. 1911, «Успаміны дзяцінства, праведзенага на Навагрудчыне (І880–1887)». 1940.

***Бялінскі Юзэф*** (1848–1926), гісторык, бібліёграф.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 82. 148 адз. зах. за 1879–1911.

***Валіцкі Аляксандр*** (1826, Вільна — 1896), літаратар, музыкальны крытык, архівіст.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава), карэспандэнцыя А. Валіцкага за 1844–1893.

***Варонка Язэп*** (1891, Саколскі пав. — 1952), грамадска-палітычны дзеяч.

ЛДГА. Ф. 582. Воп. 1. Адз. зах. 2.

АР ЦБАН. Ф. 21 (Віленскі беларускі фонд). Воп. 1. Адз. зах. 732–735 за 1919–1921.

***Галавацкі Якаў*** (1814–1888), фалькларыст, мовазнавец, старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі.

Навуковая бібліятэка НАН Украіны (Львоў), дакументы выкладчыцкай дзейнасці, перапіска.

***Галубовіч Міхал*** (1800–1881), уніяцкі (праваслаўны) архіепіскап.

Навукова-даследчыцкі аддзел кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (НДАК НББ), 091/203 № 7 за 1858–1860, дзённік.

Нацыянальны музей гісторыі культуры (НМГК). № 5420 за 1865–1867.

***Галубок Уладзіслаў*** (1882, Лясная, Навагрудскі пав., Мінская губ. — 1937), рэжысёр.

Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва (Масква). Ф. 837 (М. А. Папоў). Воп. 1. Адз. зах. 117.

АР ЦБАН. Ф. 21. Воп. 1. Адз. зах. 146, 147 за 1926–1927.

***Гарун Алесь*** (1887, Новы Двор, Мінскі пав. — 1920), пісьменнік.

ЦБАН Літвы. Ф. 21. Воп. 1. Адз. зах. 145, 473, 760 за 1912–1919.

БДАМЛМ. Ф. 55. Воп. 1. Адз. зах. 37–52 за 1908–1985.

***Гільтэбрандт Пётр*** (1840, Пер'і, Разанская — 1905), архівіст, этнограф, археограф.

АР БВУ. Ф. 6 (фонд І. Спрогіса). Адз. зах. 35 за 1899–1902, лісты да І. Спрогіса.

АР РНБ, фальклорныя запісы.

***Глогер Зыгмунт*** (1845 Каменка, Ломжыцкі пав., Аўгустоўская (Польшча) — 1910), археолаг, калекцыянер.

Нацыянальны музей (Кракаў), зборы рукапісаў, маянтковыя дакументы.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава), літаратурныя творы, перапіска.

Аддзел старажытных кніг і рукапісаў Публічнай бібліятэкі (Варшава), асабістыя дакументы, літаратурныя творы за 1809–1907.

Дзяржаўны архіў у Кракаве. Ф. 678, калекцыя дакументаў за 1515–1907.

***Грыгаровіч Іван*** (1792, Прапойск, Старабыхаўскі пав., Магілёўскае ваяв. — 1852), археограф, гісторык, мовазнавец.

Навукова-даследчыцкі аддзел рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве (НДАР РДБ). Ф. 255 (фонд М. П. Румянцава); Ф. 178; Калекцыя рускіх аўтографаў, 1 папка, 2 адз. зах. за 1820-я гг.

Аддзел рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў СПб (АР РНБ). Ф. 223. Рукапіс «Беларуская іерархія» за 1801–1825.

БДАМЛМ. Ф. 6. 118 адз. зах. за 1695–1896.

***Гурыновіч Адам*** (1869, Ковелькі, Вілейскі пав., Віленская губ. — 1894), паэт.

БДАМЛМ. Ф. 171. 17 адз. зах. за 1887–1921.

ЦБАН Літвы. Ф. 21 (Віленскі беларускі фонд). 175 адз. зах.

***Даленга-Хадакоўскі Зарыян*** (сапр. Чарноцкі А.) (1784, Гайна, Лагойскі пав., Мінскае ваяв. — 1825), археолаг, этнограф, гісторык.

НДАР РДБ. Ф. 588, 32, 255, дакументы за 1784–1820.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. № 459.

Мінскі абласны краязнаўчы музей у г. Маладзечна. № 1675, грамата на дазвол праводзіць археалагічныя раскопкі, працаваць у музеях і бібліятэках.1818.

АР РНБ. Ф. 588 (фонд М. П. Пагодзіна). Воп. 4., выпісы, справаздачы, ліставанне.

Дзяржаўны архіў старажытных актаў (Варшава), перапіска.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў), копіі лістоў.

РДГА. Ф. 733 (фонд Міністэрства народнай асветы). Воп. 2. Адз. зах. 45732 і інш.

***Дамейка Ігнат*** (1802, Мядзведка, Навагрудскі пав., Гродзенская губ. — 1889), геолаг, мінеролаг.

Музей літаратуры імя А. Міцкевіча (Варшава), перапіска.

НГАБ у г. Гродна. Ф. 1, 2, 5, 31 за 1824–1841.

Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Кракаў). Перапіска, «Мемуары выгнанца», навуковыя працы.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў). № 10500 (са спадчыны філолага С. Пігоня).

***Даўгяла Зміцер*** (1868, Каз’яны, Гарадоцкі — 1942), археограф.

АР БВУ. Ф. 52 (фонд З. Даўгялы). 467 адз. зах. за 1595–1914.

ЛДГА. Ф. 596 (Віленская археаграфічная камісія). Воп. 1. Адз. зах. 330, 368, 371, 376.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 79 (Л. Абрамовіч). Воп. 1. Адз. зах. 139, 181.

НАРБ. Ф. 249 (Галоўнае архіўнае упраўленне). Воп. 5. Адз. зах. 680.

НГАБ у Мінску. Ф. 2771. Воп. 1. Адз. зах. 2790.

***Догель Мацей*** (1715, Гембулы, Лідскі, Віленскае ваяв. — 1760), гісторык-архівіст, педагог, прававед.

Курніцкая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Познань), матэрыялы да зборніка «Межы Польскага каралеўства…».

АР РНБ. Рукапіс «Кодэкса Каралеўства Польскага і ВКЛ».

***Доўгірд Анёл*** (1776, Юркаўшчына, Мсціслаўскі пав., Магілёўскае ваяв. — 1835), філасаф, логік.

Навуковая бібліятэка НАН Украіны (Львоў). № 906.

***Доўнар-Запольскі Мітрафан*** (1867, Рэчыца, Мінская вобл. — 1934), гісторык.

ЦДГАУ ў Кіеве. Ф. 262. 212 адз. зах. за 1518–1918.

НДАК НББ. Ф. 2 (Збор матэрыялаў дзеячаў навукі і культуры Беларусі). Воп. 1. Адз. зах. 1.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 21 (Віленскі беларускі фонд). Воп. 1. Адз. зах. 86.

ВАКМ. № 9893.

***Ельскі Аляксандр*** (1834, Дудзічы, Ігуменскі пав., Мінская губ. — 1916), публіцыст, калекцыянер.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 2760–2769, частка сямейнага архіва Ельскіх.

Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. № 2476–2479, дакументы сям’і Ельскіх.

Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Кракаў), перапіска.

Дзяржаўны архіў старажытных актаў у Варшаве (ДАСА). Ф. 376. 144 адз. зах., фамільны архіў Прозараў-Ельскіх, дакументы з калекцыі А. Ельскага.

ЛДГА. Ф. 1135. Воп. 10. Адз. зах. 97, 116, лісты да Я. Карловіча.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў), перапіска, дакументы XVI–XVIII стст.

АР ЦБАН, перапіска з рознымі асобамі ў складзе ф. 79, 151, 273.

БДАМЛМ. Ф. 43. 30 адз. зах. за 1839–1885, частка калекцыі аўтографаў.

Ватыканскі архіў.

***Жыркевіч Аляксандр*** (1857, Люцін, Віцебская губ. — 1927), калекцыянер, ваенны юрыст.

Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва (РДАЛМ). Ф. 206. 357 адз. зах. за 1854–1917.

Дзяржаўны музей Л. М. Талстога (Масква). Ф. 4597. 4694 адз. зах. за 1880–1929.

АР БВУ. Ф. 48. 36 адз. зах. за 1303–1964, калекцыя аўтографаў.

АР РНБ. Ф. 284. 2 карт.

***Завадскі Юзэф*** (1781–1838), кнігадрукар Віленскага універсітэта.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 158. 482 адз. зах. за 1805–1940.

ЛДГА. Ф. 1135 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 7 (сямейны архіў Завадскіх). 557 адз. зах. за 1732–1939.

***Зан Тамаш*** (1796, Мясата, Ашмянскі пав., Гарадзенская губ. — 1855), паэт, грамадска-палітычны дзеяч.

ЛДГА. Ф. 1135 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 9. 61 адз. зах. за 1791–1855.

Музей літаратуры імя А. Міцкевіча (Варшава), перапіска.

НГАБ. Ф. 319. Воп. 2. Адз. зах. 3627 (з радаводнай справы Чачотаў).

***Каладзееў Іван***, землеўладальнік Мінскай губ., інжынер, калекцыянер.

АПК ДГМ. Ф. 143. 3 адз. зах.

***Каніскі Георгій*** (1718, Нежын, Украіна — 1795), беларускі архіепіскап.

АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 23. Воп. 1. Адз. зах. 1161.

ЦДГАУ г. Львове. Ф. 201 (Львоўская грэка-каталіцкая кансісторыя). Воп. 4в. Адз. зах. 273, урыўкі з дзённіка.

***Каратынскі Вінцэнт*** (1831, Селішча, Навагрудскі, Гродзенская — 1891), паэт.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 2679.

***Карловіч Ян*** (1836, Субартоніс, Літва — 1903), польскі лінгвіст, этнограф.

ЛДГА. Ф. 1135 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 10. 249 адз. зах. за 1500–1908.

Навуковая бібліятэка НАН Украіны (Львоў). Ф. Я. Галавацкага, перапіска.

***Карскі Яўхім*** (1861, Лаша, Гродзенскі пав. — 1931), мовазнаўца. АРАН. Ф. 292. 194 адз. зах. за 1883–1932.

АПК ДГМ. Ф. 37 (фонд П. К. Сімані). Адз. зах. 50 за 1894–1920.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 79 (фонд Л. Абрамовіча). Адз. зах. 89, 92, 165, 294, 295.

Дзяржаўны архіў горада Варшавы, папка з дакументамі аб працы ў якасці рэктара Варшаўскага універсітэта.

***Кіркор Адам Ганоры*** (1818, Слівіна, Клімавіцкі пав., Магілёўская губ. — 1886), гісторык, археолаг, выдавец, грамадскі дзеяч.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў). № 1497, 4496.

ЛДГА. Ф. 1135 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 11. 25 адз. зах. за 1854–1867.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў). № 12036, 12273.

БДАМЛМ. Ф. 43 (фонд А. Ельскага). Воп. 1. Адз. зах. 9, 12, 13.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 79 (фонд Л. Абрамовіча). Воп. 1. Адз. зах. 82, 85, 262, 290, 437.

***Крашэўскі Юзаф Ігнацій*** (1812, Варшава — 1887), пісьменнік.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 114. Воп. 1. 74 адз. зах. за 1839–1860.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава).

Нацыянальны музей (Кракаў), творы, перапіска.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў). № 7922 за 1836–1887.

***Касцюшка Тадэвуш*** (1746, Мерачоўшчына, Гродзенская губ. — 1817), грамадска-палітычны дзеяч.

Курніцкая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Познань), матэрыялы дзейнасці, вопіс кампаніі, малюнкі, перапіска.

Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Кракаў), перапіска, асабістыя і ўрадавыя дакументы.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнага музея (Варшава), лісты.

Нацыянальны музей (Кракаў), асабістыя дакументы, перапіска.

Дзяржаўны архіў у Кракаве. Ф. 645 / 83, 1794–1798 і інш.

Дзяржаўны архіў у Познані. Ф. 5113 (сямейны архіў). 1639–1810 і інш.

***Корзан Тадэвуш*** (1839, Мінск — 1918), гісторык, гістарыёграф, дырэктар бібліятэкі Красінскіх.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 5921–5950.

Навуковая бібліятэка НАН Украіны (Львоў), артыкулы, рэцэнзіі.

***Лабойка Іван*** (1786, Золачаў, Харкаўскае ваяв. — 1861), гісторык.

АР РНБ. Ф. 440. 15 адз. зах. за 1820–1860.

ЛДГА. Ф. 791. 7 адз. зах. за 1821–1825, ліставанне.

Пушкінскі дом (Інстытут рускай літаратуры РАН СПб). Ф. 154. 119 адз. зах. за 1830–1869.

***Лада-Заблоцкі Тадэвуш*** (1811, Лугінавічы, Сенненскі пав., Магілёўская губ. — 1847), паэт, перакладчык.

Навуковая бібліятэка НАН Украіны (Львоў). № 653.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў). № 6458/4.

***Лучына Янка*** (1851, Мінск — 1897), паэт.

БДАМЛМ. Ф. 435 (неапрац).

ЦДГАУ у Кіеве. Ф. 262. 169 адз. зах.

АРАН. Ф. 104. Воп. 2. Адз. зах. 275. Арк. 1–2.

***Лялевель Іаахім*** (1786, Варшава — 1861), гісторык.

Нацыянальны музей (Кракаў), артыкулы, карэспандэнцыя.

Бібліятэка Рачыньскіх (Познань), навуковыя працы, перапіска.

Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Кракаў), артыкулы, перапіска.

Аддзел старажытных кніг і рукапісаў Публічнай бібліятэкі (Варшава), навуковыя працы, перапіска.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 6559–6576, 7109–7111.

АР БВУ. Ф. 12. 542 адз. зах. за 1732–1939.

Курніцкая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Познань), артыкулы, перапіска.

Архіў Польскай акадэміі навук (Варшава), лекцыі за 1822.

***Ляцкі Яўген*** (1868, Мінская губ. — 1942), літаратуразнаўца.

АПК ДГМ. Ф. 37. Воп. 1. Адз. зах. 61. за 1896–1914.

Літаратурны архіў Музея нацыянальнай літаратуры Чэхіі (Прага).

Інстытут рускай літаратуры РАН (Пушкінскі дом). Ф. 163.

***Маліноўскі Мікалай*** (1799, Махноўка, Падолле — 1865), гісторык, мовазнаўца, архівіст.

АР БВУ. Ф. 9. 92 адз. зах. за 1800–1879.

Курніцкая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Познань). № 1283–1352.

НГАБ у г. Мінску. Ф. 694 (фамільны фонд Радзівілаў). Воп. 1. Адз. зах. 411, 412, 438.

Архіў Польскай акадэміі навук (Варшава). № 6.

Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Кракаў). № 1283–1352.

***Манюшка Станіслаў*** (1819, Убель, Ігуменскі пав., Мінская губ. — 1872), кампазітар.

Варшаўскае музычнае таварыства імя С. Манюшкі (Варшава), дакументы асабістыя, афіцыйныя і маянтковыя, перапіска, дакументы сям’і.

***Маркс Максіміліян*** (1816, Віцебск — 1893), удзельнік грамадска-палітычнага руху, даследчык Сібіры.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў). № 3454.

Навуковая бібліятэка НАН Украіны (Львоў), успаміны.

***Меніцкі Рычард*** (1886–1956), гісторык.

Галоўная бібліятэка універсітэта М. Каперніка (Торунь), біяграфічныя дакументы, навуковыя працы, ліставаннне.

ЛДГА. Ф. 599 (фамільны фонд Меніцкіх). 248 адз. зах. за 1579–1908.

***Міцкевіч Адам*** (1798, Навагрудак, Гродзенская губ. — 1855), паэт.

Музей літаратуры імя А. Міцкевіча (Варшава), творы, перапіска.

Курніцкая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Познань), творы, перапіска.

Нацыянальны музей (Кракаў), творы, перапіска

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў), рукапісы твораў і інш.

***Нарбут Тэадор Матэвуш*** (1784, Шаўры, Лідскі пав., Гродзенскае ваяв. — 1864), гісторык.

АР ЦБАН. Ф. 124. 52 адз. зах. за 1586–1864.

***Нарушэвіч Адам*** (1733, Лагішын, Пінскі пав., Брэсцкае ваяв. — 1796), гісторык, грамадска-палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай.

ДАСА. Ф. 386. 1781–1792.

Бібліятэка князёў Чартарыскіх (Кракаў).

***Нямцэвіч Юльян*** (1758, Скокі, Берасцейскі — 1841), пісьменнік, гісторык.

Музей літаратуры імя А. Міцкевіча (Варшава), перапіска.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава), дзённікі, творы, пераклады.

Бібліятэка Рачыньскіх (Познань), творы, карэспандэнцыя.

Бібліятэка князёў Чартарыйскіх (Кракаў), успаміны, нататкі, перапіска.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта (Варшава). № 216 і інш.

***Палікарповіч Канстанцін*** (1891, Белая Дуброва, Магілёўская губ. — 1963), археолаг.

Пагарскі краязнаўчы музей (Бранская вобл.). 115 адз. зах. за 1907–1960.

***Панятоўскі Станіслаў Аўгуст*** (1732, Воўчын, Брэсцкі пав. — 1798), апошні кароль Рэчы Паспалітай.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта (Варшава), карэспандэнцыя і архіў Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў справах касцёла 1775–1779.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў), перапіска з Ю. Панятоўскім. 1776–1797.

ДАСА. Ф. 14. за 1792–1797.

***Парчэўскі Альфонс*** (1849, Вадзерады, Ласкі пав. — 1933), гісторык.

ЛДГА. Ф. 1135 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 16. 1139 адз. зах. за 1493–1939.

***Пачобут Марцін*** (1728, Саломенка, Гродзенскі пав. — 1810), астраном, матэматык.

АР БВУ. Ф. 16. 24 адз. зах. за 1631–1798.

***Петрашкевіч Ануфрый*** (1793, Бурдыкоўшчына, Навагародскі пав., Гродзенская губ. — 1863), паэт, грамадскі дзеяч.

Музей літаратуры імя А. Міцкевіча (Варшава), перапіска.

Бібліятэка Каталіцкага універсітэта ў Любліне, «Архіў філаматаў».

АР БВУ.

***Пічэта Уладзімір*** (1878, Палтава, Украіна — 1947), гісторык.

НДАК НББ. Ф. 2 (Збор матэрыялаў дзеячаў літаратуры і мастацтва). Воп. 1. Адз. зах. 2–5.

Архіў Расійскай акадэміі навук (АРАН) у Маскве. Ф. 1548. 1031 адз. зах. за 1853–1973.

***Плуг Адам*** (Пяткевіч Антоні) (1823, Замосце, Слуцкі пав. — 1903), паэт.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 6023.

***Пташыцкі Станіслаў*** (1853, Кузава, Медынскі пав., Маскоўская губ. — 1933), гісторык, філолаг.

АР ЦБАН Літвы. 20 адз. зах. за 1907–1915.

ЛДГА. Ф. 1135 (Таварыства прыяцеляў навук у Вільні). Воп. 17. 217 адз. зах. за 1494–1932.

***Пушкарэвіч Канстанцін Аляксеевіч*** (1890–1942), філолаг, славяназнаўца. АРАН. Ф. 792, 84 адз. зах. за 1929–1941.

***Пшчолка Антоній*** (1818–1871), святар, член Віленскай археаграфічнай камісіі.

ЛДГА. Ф. 933. 45 адз. зах. за 1845–1879.

***Раманаў Еўдакім*** (1855–1922), этнограф, краязнавец.

ЛДГА. Ф. 996. 40 адз. зах. за 1901–1911.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 21. Воп. 1. Адз. зах. 487–520 за 1890–1897.

АР БВУ. Ф. 51. 77 адз. зах. за 1884–1905.

АР РНБ. Ф. 621. Воп. 1. Адз. зах. 728 за 1888–1892.

АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 42 (фонд М. Грынблата). Воп. 1. Адз. зах. 2110.

ВАКМ. № 7289/31–49, лісты да А. Сапунова.

НДАК НББ. Ф. 2 (Сбор дакументаў дзеячаў навукі і культуры Беларусі). Воп. 1. Адз. зах. 6. і інш.

***Савіч Франц*** (1815, Валяцічы, Пінскі пав., Мінская губ. — 1845), грамадска-палітычны дзеяч.

Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі навук (Кракаў). № 6893, успаміны.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў). № 4509.

***Снежка Аляксандр***, гісторык Віленшчыны.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Польскай акадэміі навук (Гданьск). № 5461–5485.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў). № 13198–13199.

***Снядэцкі Ян*** (1756–1830), астраном, матэматык, рэктар Віленскага універсітэта.

АР БВУ. Ф. 19. 53 адз. зах. за 1759–1830.

***Спрогіс Іван*** (1833, Штокмансгоф, Ліфляндская губ., Латвія — 1918), гісторык.

Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі (Рыга). Ф. 2329. 13 адз. зах. за 1864–1914.

АР БВУ. Ф. 6. 136 адз. зах. за 1868–1928.

ЛДГА. Ф. 596 (Віленская археаграфічная камісія). Воп. 1. Адз. зах. 49, 201, 234, службовыя і навуковыя паперы.

***Сыракомля Уладзіслаў*** (сапр. Л. Кандратовіч, 1823, Смольгава, Бабруйскі пав., Мінская губ. — 1862), паэт.

Архіў літаратуры і мастацтва Літвы. Ф. 96 (сямейны фонд). 454 адз. зах.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў), творы, дакументы па гісторыі літаратуры.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 109. 65 адз. зах. за 1844–1862.

АР БВУ. Ф. 109. 65 адз. зах. за 1840–1862.

АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 23. Воп. 1. Адз. зах. 383–387 за 1857–1897.

Музей літаратуры імя А. Міцкевіча (Варшава), перапіска.

***Сямашка Іосіф*** (1798, Паўлаўка, Ліпавецкі пав., Кіеўская губ. — 1868), мітрапаліт літоўскі і віленскі.

АРАН. Ф. 290. Воп. 1–6. 401 адз. зах.

***Тарыч Юрый*** (1885, Полацк, Віцебская вобл.— 1967), кінарэжысёр.

РДАЛМ. Ф. 2647, дакументы за 1885–1967.

***Татур Генрых*** (1846, Мінск—1907), археолаг.

Цэнтральны дзяржаўны архіў Літвы (ЦДАЛ), рукапісы артыкулаў, праект адкрыцця публічнай бібліятэкі ў Мінску і інш.

***Тышкевіч Канстанцін*** (1806, Лагойск, Мінская губ. — 1868), гісторык, археолаг.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнага музея (Варшава), фрагменты папер і прац, перапіска.

Архіў Музея Войска Польскага (Варшава).

АР ЦБАН Літвы. Ф. 21. (Віленскі Беларускі фонд). Воп. 1. Адз. зах. 613–621.

***Тышкевіч Яўстафій*** (1814, Лагойск, Мінская губ.—1873), археолаг.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 149. 130 адз. зах. за 1484–1872.

***Узембла Люцыян*** (1864, Вільня — 1942), літаратуразнаўца.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 151. 249 адз. зах.

***Федароўскі Міхаіл*** (1853 Косіна, Гродзенская губ. — 1923), этнограф.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта (Варшава). № 347, 428–474 і інш.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава), фрагменты карэспандэнцыі за 1889–1919.

Архіў Польскай акадэміі навук (Варшава). Ф. 131. 1748–1919.

***Хмара Адам Міхал Станіслаў*** (1720–1805), мінскі ваявода.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў). № 5397.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў). № 6611, 6622–6668.

Бібліятэка князёў Чартарыйскіх (Кракаў). № 893.

НГАБ. Ф. 1324. 175 адз. зах. за 1508–1882.

Нацыянальны музей (Кракаў), перапіска за 1749–1790.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнага музея (Варшава), лісты Марыяны Хмары да мужа.

***Чачот Ян*** (1796, Малюшычы, Наваградскі пав., Гродзенская губ. — 1847), пісьменнік, этнограф.

Музей літаратуры імя А. Міцкевіча (Варшава), перапіска, вершы.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 21 (Віленскі беларускі фонд). Воп. 1. Адз. зах. 71.

Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі (Кракаў). № 7819.

ЛДГА. Ф. 567. Воп. 2. Адз. зах. 1317 (матэрыялы следства па справе філаматаў).

***Чапскі Эмерык*** (1828, Станькава, Мінскі пав. — 1896), дзяржаўны дзеяч, калекцыянер, нумізмат.

Бібліятэка Рачыньскіх (Познань). № 2028.

Бібліятэка князёў Чартарыйскіх (Кракаў). № 868–876, 927.

***Шахматаў Аляксей*** (1864, Нарва, Эстонія — 1920), мовазнавец.

АРАН (Санкт-Пецярбург). Ф. 134. 2784 адз. зах. за 1835–1926.

***Шукевіч Вандалін*** (1852, Нача, Воранаўскі пав., Гродзенская губ. — 1919), археолаг.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх (Вроцлаў). № 13199.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). № 2941–2947 за 1839–1920.

***Шэйн Павел*** (1826, Магілёў — 1900), фалькларыст.

АРАН (СПб). Ф. 104. 1289 адз. зах. за 1826–1903.

***Янкоўскі Чэслаў*** (1857, Паляны, Віленская губ. — 1929), пісьменнік.

АР ЦБАН Літвы. Ф. 102. 176 адз. зах. за 1871–1936.

Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава), творы, перапіска.

***Ярашэвіч Язэп*** (1793, Бельск-Падляскі, Падляскае ваяв., Польшча — 1860), гісторык, прафесар Віленскага універсітэта.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. № 229.

# ІМПЕРЫЯ ВІТАЎТА ВЯЛІКАГА

Вітаўт Вялікі (1350–1430) — унікальная постаць палітычнай гісторыі Беларусі. Вынікі яго ўнутранай і знешняй палітыкі надзвычай маштабныя. На пасадзе вялікага князя, якую Вітаўт займаў 38 гадоў, ён значна ўмацаваў цэнтральную ўладу, арганізаваў дзесяткі пераможных вайсковых кампаній, істотна пашырыў межы ВКЛ, адбудваў гарады, наладзіў эфектыўны знешні гандаль. У старадаўніх беларускіх летапісах князь Вітаўт характарызуецца з выключна станоўчага боку, паказваецца як ідэальны манарх[1]. Так, падсумоўваючы аповед пра Вітаўта Вялікага, летапісец адзначаў яго галоўныя вартасці: «Быў Вітаўт надта чуллівы гаспадар, меў вялікі розум і невымерныя заслугі. Ён ведаў меру ў ежы і ў пітве, нічога моцнага не піў, толькі ваду»[2].

Да вывучэння перыяду княжання Вітаўта (1392–1430) і асэнсавання дзейнасці неардынарнай асобы вялікага князя гісторыкі звярталіся неаднаразова[3]. Разам з тым гэты перыяд у палітычнай гісторыі Беларусі недастаткова асветлены, шмат якія аспекты і важныя падзеі засталіся нераскрытымі, асобныя з’явы атрымалі аднабаковыя ацэнкі.

Найважнейшыя *архіўныя крыніцы*, у якіх зафіксаваны розныя праявы дзейнасці вялікага князя Вітаўта, апублікаваны ў аўтарытэтных выданнях[4]. Ключавымі крыніцамі, у якіх адлюстраваны многія значныя падзеі ўнутранай і знешняй палітыкі Вітаўта, з’яўляюцца чатыры летапісныя творы: «Летапіс княжання Вітаўта», «Сказанне пра бітву на Ворскле»[5], «Пахвала вялікаму князю Вітаўту» і «Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага». Некаторыя звесткі аб дачыненнях Вітаўта з Ягайлам змешчаны ў летапіснай «Аповесці пра Ягайлу»[6].

У гэтым даследаванні абраны некалькі *прыярытэтных* аспектаў: паказваецца змаганне Вітаўта за ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім, асвятляюцца крокі, накіраваныя на цэнтралізацыю краіны, раскрываюцца войны з Залатой Ардой, Маскоўскім княствам і нямецкімі крыжакамі, выяўляюцца прычыны і абставіны ўтварэння Праваслаўнай мітраполіі ў 1415 г., вытлумачваюцца матывы Вітаўта каранавацца і яго імкненне ператварыць ВКЛ у каралеўства.

Вітаўт — сын князя Кейстута. Ён нарадзіўся ў 1350 г. ад шлюбу Кейстута з Бірутай. Ужо юнаком ён выявіў схільнасці да вайсковай справы. У 1368 і ў 1372 гг. Вітаўт разам з бацькам удзельнічаў у паходах на землі Маскоўскай Русі.

У 1375 г. Вітаўт атрымаў ад бацькі — князя Кейстута — буйныя зямельныя надзелы: значную частку Троцкага княства з гарадамі — Гародняй, Драгічынам, Мельнікам, Бе-

[1] Гл.: «Аповеды пра княжанне Вітаўта» // Маладосць. 2008. № 5. С. 103–105; Саверчанка І. В. Князь Вітаўт у беларускіх летапісах // Полымя. 2009. № 3. С. 151–153.

[2] «Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага» // Полымя. 2009. № 3. С. 169.

[3] Гл.: Барбашев А. Витовт и его политика до Грюнвальдской битвы (1410). СПб., 1885; Барбашев А. Витовт. Последние двадцать лет княжения: 1410–1430. СПб., 1841. 340 с.; Корчинский И. Витовт Великий: Беглый обзор жизни его и деятельности (1430–1930). Каунас, 1930. 96 с.; Prochaska A. Dzieje Witolda w. Ksiecia Litwy. Wilno, 1914. 420 s.

[4] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею. Т. 1. СПб., 1846; Грамоты великих князей Литовских с 1390 по 1569 год. Собранные и изданные под редакцией Владимира Антоновича и Константина Козловского. М. 1866; Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV–XV вв. М.–Л., 1950. Полоцкие грамоты XIII — нач. XVI вв. М., 1977; Codex epistolaris Vitoldi magni ducis Lithuaniae. Cracoviae, 1882; Zbior prav litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznan, 1841.

[5] «Сказанне пра бітву на Ворскле» // Літаратура і Мастацтва. 29 чэрвеня 2007. С. 6.

[6] «Аповесць пра Ягайлу» // Літаратура і Мастацтва. 21 лістапада 2008. С. 14.

расцем, Камянцом. Яму гэтаксама перайшлі землі на Палессі і на паўночным захадзе Княства з цэнтрам у Мерачы.

Як паўнаўладны гарадзенскі князь, Вітаўт у 1376 г. арганізаваў вайсковую кампанію супраць Польшчы і змагаўся з крыжакамі.

У 1377 г. Вітаўт падтрымаў рашэнне бацькі ўзвесці на трон ВКЛ Ягайлу. Гэта адбылося паводле дамоўленасці з Альгердам, які прасіў, каб пасля яго смерці вялікім князем стаў яго сын Ягайла, пляменнік Кейстута і стрыечны брат Вітаўта.

Напачатку Вітаўт меў з Ягайлам надзвычай прыязныя адносіны, што спрыяла стабільнасці і міру ў дзяржаве. У 1379 г. Вітаўт прысутнічаў пры падпісанні дагавора з немцамі, які з боку ВКЛ падпісалі вялікі князь Ягайла і Кейстут.

Але разлад паміж родзічамі ўнеслі крыжакі і інтрыган Вайдыла. Узаемныя падазрэнні і непаразуменні неўзабаве перараслі ў вайсковы канфлікт. Кейстут і Вітаўт трапілі ў палон да Ягайлы. Пры невысветленых абставінах князь Кейстут у 1382 г. загінуў у вязніцы. Паводле адной з версій яго задушыў *Прокша* — чашнік Ягайлы. Прынамсі, гэтак меркаваў Вітаўт, аб чым ён пазней пісаў у адным з лістоў да крыжакоў.

Вітаўт, якога ўтрымлівалі ў Крэўскім замку, здолеў з дапамогай жонкі і яе служанкі збегчы з палону. Ён спачатку накіраваўся да мазавецкага князя Яна, а адтуль — да прускіх крыжакоў. 21 кастрычніка 1383 г. Вітаўт ахрысціўся паводле каталіцкага абраду. 30 студзеня 1384 г. ён паабяцаў вялікаму магістру Конраду Чолнеру фон Ротэнштэйну ўзамен за вайсковую дапамогу ў змаганні за трон ВКЛ саступіць Жамойцкую зямлю ордэну. 14 чэрвеня 1384 г., падчас асабістай сустрэчы Вітаўта і вялікага магістра ў Марыенвердэры, яны пацвердзілі ўзаемныя абавязкі.

З дапамогай крыжакоў Вітаўт арганізаваў некалькі вайсковых капаній супраць Ягайлы. У выніку каля 1385 г. Ягайла вярнуў Вітаўту яго спадчынныя надзелы — Берасцейскую, Драгічынскую, Мельніцкую, Белзскую, Суражскую, Камянецкую і Ваўкавыскую землі. Неўзабаве ён атрымаў у валоданне Валынь і Падолле.

Канфлікт Вітаўта з Ягайлам не быў, аднак, даастатку вычарпаны. Ён разгарэўся з новай сілай, бо Вітаўт не падтрымаў Крэўскай уніі 1385 г., падпісанай Ягайлам з палякамі.

У 1386 г. Вітаўт, разам з Скіргайлам, разбіў войскі полацкага князя Андрэя Гарбатага і смаленскага князя Святаслава, якія ставілі на мэце вярнуць колішнюю веліч сваіх княстваў, здабыць для іх палітычную самастойнасць.

Пасля перамогі над Андрэем Гарбатым і Святаславам Вітаўт разлічваў на атрыманне ўлады над усім Вялікім Княствам Літоўскім, бо Ягайла ў 1386 г. быў абраны каралём Польшчы і пераехаў туды.

Але Ягайла не задаволіў амбіцый Вітаўта і ў 1377 г. перадаў уладу ў ВКЛ Скіргайлу, з чым Вітаўт катэгарычна не пагадзіўся. Вітаўт распачаў вайну з палітычным супернікам — Скіргайлам, але прайграў яе і мусіў зноў разам з сям'ёй у 1388 г. ад'ехаць да крыжакоў.

Цягам чатырох гадоў Вітаўт арганізоўваў ваенныя кампаніі супраць караля Ягайлы і яго стаўленікаў у ВКЛ. На пачатку 1389 г. ён паспрабаваў хітрасцю авалодаць Вільняй. Вітаўт накіраваў у сталіцу ВКЛ узброеных жаўнераў на санях, замаскаваных пад вясельны картэдж. Але адміністратар Вільні Дзімітрый Карыбут нейкім чынам дазнаўся пра набліжэнне ўзброенага дэсанту і перахапіў яго на подступах да горада.

Восенню 1390 г. Вітаўт з наёмным войскам і нямецкімі рыцарамі паспрабаваў штурмам авалодаць Вільняй. Падчас аблогі горада выкарыстоўваліся адмысловыя вайсковыя прылады — тараны, камнямёты і гарматы. Але горад узяць не ўдалося.

У 1390 г. Вітаўт зрабіў неардынарны крок, ён утварыў альянс з Масквой, выдаўшы сваю дачку Соф'ю замуж за маскоўскага князя Васіля Дзімітравіча. Соф'я ў суправаджэнні Івана Гальшанскага накіравалася да свайго суджанага марскім шля-

хам — праз Балтыйскае мора. Саюз Вітаўта з Масквой істотна ўзмацніў яго пазіцыі ў змаганні за трон ВКЛ.

У снежні 1391 г. Вітаўт нарэшце атрымаў вайсковую перамогу: ён авалодаў Мераччу і вярнуў Гародню. На яго баку выступілі гараджане, якія надта не любілі палякаў, прысланых туды Ягайлам у якасці адміністратараў.

Пад моцным вайсковым ціскам Вітаўта кароль Ягайла быў вымушаны пайсці на саступкі і распачаць дыялог. Плоцкі біскуп Генрых прыехаў да Вітаўта і правёў з ім таемныя перамовы. Ён перадаў яму гатоўнасць Ягайлы да міру і згоду караля саступіць Вітаўту тытул вялікага князя і трон ВКЛ. Вітаўт пагадзіўся. Ён рэзка разарваў адносіны з крыжакамі, забіў шмат нямецкіх рыцараў, абрабаваў крэпасці Юрбург, Бадэнгург і Марыенвердэр, а затым адправіўся ў Вільню, дзе яго ўрачыста сустрэлі месцічы, спадзеючыся на ўсталяванне міру ў ВКЛ.

Улетку 1392 г. Вітаўт прымаў у *Востраве* Ягайлу з жонкай. Там, 5 жніўня 1392 г. яны падпісалі замірэнне, паводле якога Вітаўт станавіўся паўнаўладным гаспадаром ВКЛ. Урачыстая каранацыя вялікага князя адбывалася ў Віленскім замку ў касцёле святога Станіслава ў прысутнасці караля Ягайлы з Ядвігай і шматлікіх гасцей.

Пасля ўзыходу на трон ВКЛ Вітаўт неадкладна распачаў цэнтралізацыю дзяржавы і ўсталяванне адзінаўладнай манархіі. Вялікі князь расправіўся з Альгердавічамі — галоўнымі палітычнымі канкурэнтамі, якія не жадалі прызнаваць яго ўлады і плаціць даніну.

Першым супраць Вітаўта выступіў *Скіргайла*. Ён меў мноства прыхільнікаў сярод праваслаўнага насельніцтва Беларусі, таму мог разлічваць на поспех. На баку Скіргайлы былі і нямецкія рыцары. Але Ягайлу ўдалося прымірыць Вітаўта з Скіргайлам. Вялікі князь пайшоў на значныя саступкі. Скіргайла атрымаў буйныя надзелы і гарады: Старадуб-Северскі, Крамянец-Валынскі і Старыя Трокі. Пазней, у 1395 г. Вітаўт прызначыў Скіргайлу намеснікам у Кіеў.

Значнае супраціўленне Вітаўту аказаў *Дзімітрый Карыбут*, якому належаў Ноўгарад-Северскі. Каля паселішча Недакудава (блізу Ліды) паміж імі адбылася бітва. Вітаўт перамог, а затым пайшоў на Ноўгарад-Северскі, дзе схаваўся Дзімітрый Карыбут з сям'ёй, захапіў горад і ўзяў непакорлівага князя ў палон. Палонныя былі адпраўлены ў вязніцу ў Вільню, дзе сядзелі вельмі працяглы час, ажно пакуль разанскі князь Аляксандр, цесць Дзімітрыя Карыбута, не ўпрасіў Вітаўта адпусціць яго зяця.

Пасля захопу Ноўгарад-Северскага Вітаўт накіраваў войскі на *Бранск* і гэтаксама падпарадкаваў яго сваёй уладзе.

Непакорлівасць Вітаўту выявіў нарэшце князь *Свідрыгайла*, які пачуваўся неверагодна абражаным і пакрыўджаным. Яго маці Ульяна валодала Віцебскам. У 1392 г. яна памерла, а Ягайла прызначыў намеснікам туды Фёдара Вясну. Зняважаны Свідрыгайла, заўсёды асцярожны, не стрымаўся, напаў на Віцебск, захапіў горад і забіў Фёдара Вясну. Вітаўт пайшоў з войскам супраць Свідрыгайлы. Ён узяў Друцк, Оршу, а затым і Віцебск. Свідрыгайла здаўся ў палон і быў адпраўлены ў Кракаў.

Увесну 1395 г. Вітаў пайшоў на *Кіеў* супраць кіеўскага князя Уладзіміра Альгердавіча, які не хацеў падпарадкоўвацца ўладзе вялікага князя. Убачыўшы бессэнсоўнасць супраціўлення, Уладзімір здаў Вітаўту горад. Узамен вялікі князь узнагародзіў яго Копылем з навакольнымі землямі. У Кіеве вялікі князь прызначыў сваім намеснікам Скіргайлу. Але той неўзабаве быў атручаны і на яго месца Вітаўт прыслаў Івана Альгімонтавіча. Такім чынам, з мэтай умацавання цэнтральнай улады Вітаўт ператварыў Кіеўскае княства, якое валодала значнай доляй аўтаноміі, у ваяводства, цалкам падпарадкаванае яго ўладзе.

Буйную кампанію Вітаўт арганізаваў на *Падоллі*, супраць Фёдара Карыятавіча. У бітве каля Камянца Падольскага Вітаўт разграміў войска Фёдара, і той ледзве ўцёк у горад.

Затым вялікі князь падпарадкаваў замкі: Браслаў, Заслаў, Смотрыч, Чырвоны Гарадок, Бякоту, Скалу. Урэшце войскі Вітаўта акружылі Камянец. Абаронцы здаліся на міласць вялікага князя. Фёдар Карыятавіч трапіў у палон і быў адпраўлены ў Вільню, у вязніцу.

Затым Вітаўт падпарадкаваў *Валынь*, паўсюль у замках пакінуў гарнізоны і прызначыў сваіх намеснікаў.

У 1395 г. Вітаўт здзейсніў паход на *Смаленск* супраць Юрыя Святаславіча, які захапіў некалькі мястэчак каля Оршы. Войскі ВКЛ прыйшлі пад Смаленск і імкліва авалодалі горадам. Вітаўт прызначыў у Смаленску сваім намеснікам Васіля Барысавіча.

Буйны вайсковы корпус пад кіраўніцтвам мсціслаўскага ваяводы Сямёна Лынгвенавіча Вітаўт накіраваў супраць разанскага князя Алега (Голшы). Войскі ВКЛ заваявалі Разань і ўсё *Разанскае княства*.

Цэнтралізацыйныя працэсы Вітаўта на ўсходзе Княства, відаць, выклікалі занепакоенасць у маскоўскага князя Васіля Дзімітравіча. Каб зняць напружанне, Вітаўт сустракаўся з зяцем у Смаленску ў 1393 г., а затым і ў 1396 г., дзе яны цалкам паразумеліся.

Не проста складваліся адносіны Вітаўта з *Польскім Каралеўствам*. Фармальна вялікі князь ВКЛ знаходзіўся ў залежнасці ад караля Ягайлы. Амбіцыйная каралева Ядвіга ў 1398 г. прад’явіла Вітаўту абсурднае патрабаванне, каб ВКЛ плаціла даніну ў скарбонку Каралеўства Польскага. Вялікі князь склікаў уплывовых магнатаў і агучыў ім ультыматум Ядвігі, які яна, па ўсім відаць, узгадніла з Ягайлам. Паны і шляхта ВКЛ з абурэннем адкінулі патрабаванні палякаў.

Умацаваўшы ўласныя палітычныя пазіцыі ў ВКЛ, Вітаўт лагічна прыступіў да ажыццяўлення актыўнай *знешнепалітычнай стратэгіі*. Яго позірк быў скіраваны на Залатую Арду. Каб ліквідаваць пагрозы і небяспеку з захаду ад нямецкіх рыцараў, Вітаўт пайшоў на збліжэнне з ордэнам. 12 кастрычніка 1398 г. на востраве Салін адбылася яго сустрэча з вялікім магістрам Конрадам Юнінгенам. Вітаўт прыехаў з жонкай Ганнай у атачэнні вялікай дэлегацыі з уплывовых паноў і князёў, сярод якіх былі пінскі князь Юры, заслаўскі князь Міхаіл, старадубскі князь Аляксандр, гальшанскі князь Іван і друцкі князь Іван. Паміж ВКЛ і ордэнам было дасягнута паразуменне і падпісана мірнае пагадненне.

Такім чынам, у перыяд ад 1392 да 1398 г. Вітаўт сілай скарыў палітычных супернікаў, якія спрабавалі аспрэчыць яго права на тытул вялікага князя. Ён ажыццявіў цэнтралізацыю краіны і ўсталяваў у ВКЛ адзінаўладную манархію.

Вялікі князь атрымаў фактычную незалежнасць ад караля Ягайлы, паразумеўся з маскоўскім валадаром Васілём Дзімітравічам, заключыў мірнае пагадненне з крыжакамі. Вітаўт відавочна падрыхтаваў усе неабходныя перадумовы, каб распачаць знешнюю агрэсію на галоўных ворагаў Княства, паўнаўладных гаспадароў бяскрайніх стэпаў — *татараў*.

Галоўным напрамкам знешняй палітыкі Вітаўт абраў Дзікае Поле — стэпавыя прасторы, дзе качавалі татары. Першая паспяховая вылазка была здзесненая корпусам пад кіраўніцтвам Даўгерда, які разбіў тры татарскія арды і знішчыў каля 56 тысяч татараў.

Акрылены першай удачай Вітаўт пачаў рыхтаваць новую кампанію ў стэп. Перад выступленнем ён сустрэўся ў Смаленску з маскоўскім князем Васілём, які падтрымаў вялікага князя ў змаганні з качэўнікамі.

У 1398 г. войскі Вітаўта рушыла з Кіева ў напрамку Дона. Татары выступілі насустрач. Адбылася бітва, у якой харугвы ВКЛ атрымалі перамогу. Загінула больш за сто тысяч татараў, шмат іх трапіла ў палон. Адну татарскую арду Вітаўт адправіў у Літву і пасадзіў над ракой Вакай, а другую — перадаў Ягайлу.

Нечуваны поспех разгарачыў уладныя амбіцыі Вітаўта, і ён пачаў падрыхтоўку да новай кампаніі супраць Цемір-Ціклуя. У 1399 г. вялікі князь сфармаваў велізарнае войска

і выступіў з Кіева. Разам з Вітаўтам ішла арда Тахтамыша, якога вялікі князь планаваў пасадзіць на царства ў Залатой Ардзе.

5 жніўня 1399 г. войскі сустрэліся на рацэ *Ворскле*. Татарскі хан Цемір-Ціклуй зацягваў пачатак бітвы, вёў перамовы з Вітаўтам, чакаючы падыходу войскаў Едыгея. Бітва пачалася 12 жніўня. Войскі ВКЛ былі зламаныя і раструшчаныя. Вітаўт з невялікай дружынай, разам з Скіргайлам, ледзве выратаваўся ад ганебнага палону. Загінула шмат жаўнераў і князёў ВКЛ.

Землі Княства засталіся безабароннымі і сталіся лёгкай здабычай для татараў. Агрэсіўныя качэўнікі напоўніцу скарысталіся зручным момантам. Татарскія войскі акружылі Кіеў. Жыхары горада, ратуючы ўласныя жыцці, адкупіліся ад іх астранамічнай сумай — трыма тысячамі сярэбраных рублёў. Татары дайшлі ажно да Луцка. Яны няшчадна рабавалі славянскія землі, гналі натоўпы людзей у палон.

Пасля паражэння на Ворскле Вітаўт пачаў шукаць збліжэння з Польшчай. У 1401 г. ён падпісаў *Віленска-Радомскае пагадненне* з Ягайлам-Уладзіславам, якое прадугледжвала ўзаемную падтрымку ад знешняй агрэсіі[7].

Часовае палітычнае аслабленне Вітаўта скарысталі яго праціўнікі ў *Смаленску*. У 1401 г. яны забілі князя Рамана — намесніка Вітаўта, пасеклі ўсіх яго прыхільнікаў. Жыхары Смаленска хацелі абраць князем Юрыя Святаславіча і ўзнавіць самастойнасць Смаленскага княства. Вітаўт з войскам накіраваўся пад Смаленск, чатыры тыдні трымаў горад у аблозе, але не змог авалодаць горадам, падпісаў замірэнне і вярнуўся назад. Вось як летапіс паведамляе пра тагачасныя падзеі ў Смаленску: «Там быў і бранскі князь Раман, пастаўлены Вітаўтам раней у якасці намесніка. Смаляне жорстка распраівіліся з ім. Раманавы дзеці і княгіня былі адпушчаныя. Смаляне злавілі намеснікаў Вітаўта, а таксама баяраў — бранскіх і смаленскіх, — якія не хацелі спадчынніка — князя Юрыя. Усіх іх пасеклі. Тае ж восені князь Вітаўт хадзіў вайной на Смаленск, на князя Юрыя. Шмат дзён Вітаўт трымаў горад у аблозе. Але не ўзяў Смаленска. Падпісаў замірэнне і вярнуўся ў сваю зямлю»[8].

Каб ліквідаваць небяспеку з захаду і актывізаваць усходнюю палітыку, Вітаўт 23 мая 1404 г. падпісаў з ордэнам *Рацянжскі мірны дагавор.*

Адразу ж, у 1404 г., Вітаўт зрабіў чарговую спробу адваяваць Смаленск, але таксама не дасягнуў поспеху. Толькі трэцяя кампанія 1405 г. мела станоўчы вынік. Горад удалося ўзяць штурмам. Вітаўт прызначыў у Смаленску свайго намесніка. Жонка князя Юрыя і яго прыхільнікі былі адпраўлены ў палон у ВКЛ.

Ваявода Лыгвен, выконваючы распараджэнне вялікага князя Вітаўта, у 1403 г. заваяваў *Вязьму*.

Затым Вітаўт скіраваў свой позірк на *Пскоўскае княства*. У 1405 г. ён пайшоў на Пскоўскія землі і захапіў *Каложу*. У 1407 г. Ноўгарад Вялікі прыняў Вітаўтавага намесніка Лыгвена Альгердавіча.

Абураны Васіль Дзімітравіч распачаў ваенную кампанію супраць свайго цесця. У 1408 г. войскі Вітаўта і маскоўскага князя Васіля сустрэліся на рацэ *Угры*, але, нягледзячы на заклікі асобных ваяводаў, ваяваць не сталі. Манархі падпісалі замірэнне, усталяваўшы трывалыя межы паміж дзяржавамі.

З 1409 г. пачаў нарастаць канфлікт паміж Вітаўтам і *ордэнам* з-за Жамойці, які неўзабаве перарос у адкрытыя ваенныя дзеянні.

ВКЛ і Польшча сфармавалі агромністае войска і рушылі на крыжакоў. На ўзбраенні злучэння налічвалася каля 700 гарматаў. У склад войска Вітаўта апрача беларускіх харугваў уваходзілі і татарскія орды.

[7] Гл.: Zbior prav litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznan, 1841 S. 3–7.

[8] «Аповеды пра княжанне Вітаўта» // Маладосць. 2008. № 5. С. 103–105.

Бітва адбылася 15 ліпеня 1410 г. паміж Грунвальдам (Дуброўнай) і Таненбергам. Вітаўт ужыў адмысловую вайсковую тактыку, пачаў запланаванае адступленне, дзякуючы чаму разамкнуў баявыя парадкі крыжакоў, а затым уцягнуў іх у кацёл, шчыльна атачыў і адначасна атакаваў з трох бакоў.

Рыцары на чале з ваяўнічым Ульрыхам Юнгінгенам (магістр з 1407) пацярпелі страшэнную паразу. Звыш 140 тысяч немцаў палеглі на полі бітвы. Загінуў і магістр Ульрых, якога забіў просты драб ударам ашчэпа. Асаблівы ўклад у разгром крыжакоў унеслі тры харугвы — Аршанская, Мсціслаўская і Смаленская.

Беларускі храніст вельмі яскрава і красамоўна перадаў разгортванне падзей на полі бітвы: «Потым ударылі ў котлы (бубны), зайгралі сурмы. Літва з татарамі кінуліся на крыжакоў. Разгарэлася бітва, ажно коні церліся бакамі. Вітаўт сам кіраваў харугвамі, выпраўляў шыхты. Палякі з сваім каралём узялі немцаў на палашы, а потым павялі іх на гарматы. Перад замаскаванымі гарматамі расступіліся па баках і немцы трапілі пад прыцэльны гарматны абстрэл. Іх там адразу палегла некалькі дзесяткаў тысяч. Крыжакі, аднак, не зважалі на страты і ішлі на палякаў і літву, нібы аслеплыя. Бітва доўжылася гадзіны з тры. Пераменлівая Фартуна лётала з аднаго боку на іншы. Нарэшце немцы ўбачылі безліч сваіх трупаў, што валяліся на полі, і пачалі ў паніцы ўцякаць. Палякі, літва і татары гналі крыжакоў некалькі міль — білі іх, секлі, стралялі і калолі. Найбольш знакамітых рыцараў вязалі і бралі ў палон. Прускага магістра Ульрыха забіў просты драб ударам ашчэпа. У той бітве не ўсе нашы біліся, іншыя і шаблі не дасталі, бо на полі было надта цесна. Вітаўт распусціў татарскія і літоўскія загоны па ўсёй Прускай зямлі. Агнём і мячом яны чынілі велізарную шкоду і зло немцам. Падчас той бітвы былі захоплены ўсе нямецкія штандары і ўсе іх гарматы. Пераможцы авалодалі таксама ўсім багатым крыжацкім абозам, забралі ўвесь іхні скарб»[9].

Грунвальдская бітва 1410 г. мела агульнаеўрапейскае значэнне, яна назаўсёды падарвала сілы крыжакоў. Сутыкненне германа-раманскага захаду з славянскім усходам скончылася трыумфальнай перамогай славянаў.

Аб’яднаныя войскі ВКЛ і Польшчы пасля разгрому асноўных сілаў праціўніка разгарнулі наступ на іншыя замкі і гарады ордэна. Падчас ваеннай кампаніі 1410 г. яны зруйнавалі ўсю Прускую зямлю, разбурылі 70 крыжацкіх замкаў, толькі восем гарадоў засталіся не ўзятымі.

Паводле дамовы, падпісанай у 1411 г. з ордэнам, да ВКЛ перайшла Жамойць. Польшчы дасталася Добрынская зямля.

Такім чынам, перыяд ад 1398 да 1410 г. характарызаваўся агрэсіўнай знешняй палітыкай Вітаўта, актыўным пашырэннем межаў і ўплываў ВКЛ. Вялікі князь вёў войны з татарамі, Маскоўскім княствам і канчаткова разграміў нямецкіх крыжакоў.

У 1413 г. урады ВКЛ і Польскага Каралеўства падпісалі *Гарадзельскае пагадненне*, якое мацавала адзінства дзвюх дзяржаў[10]. Шляхта ВКЛ атрымала шырокія правы і вольнасці, якія мелі польскія паны. На ўзор Польшчы ў ВКЛ уводзіліся новыя дзяржаўныя пасады — ваяводы, кашталяны, маршалкі дворныя і земскія, старасты земскія.

Але Вітаўт ад самага пачатку падпісання пагаднення ігнараваў дыскрымінацыйныя палажэнні і артыкулы, накіраваныя на поўнае зліццё дзвюх дзяржаваў.

Каб дасягнуць палітычнай кансалідацыі грамадства ВКЛ, Вітаўт у 1415 г. спрычыніўся да заснавання самастойнай *Праваслаўнай мітраполіі* з цэнтрам у Навагрудку. У 1406 г. памёр мітрапаліт Кіпрыян, а на яго месца з Канстанцінопаля быў прысланы Фоцій. Але з-за прынцыповых разыходжанняў з вялікім князем, які імкнуўся стварыць самастойную ад Масквы царкву, Фоцій у 1414 г. быў пазбаўлены вышэйшай духоўнай пасады.

---

[9] «Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага» // Полымя. 2009. № 3. С. 166.

[10] Гл.: Zbior prav litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznan, 1841. S. 7–24.

15 лістапада 1415 г. на царкоўным саборы епіскапаў ВКЛ адбылося абранне і пасвячэнне ў сан Кіеўскага мітрапаліта Грыгорыя Цамблака[11]. У той жа дзень Вітаўт выдаў пастанову аб аддзяленні Кіеўскай мітраполіі ад Маскоўскай царквы і падтрымаў узвядзенне на вышэйшую духоўную пасаду Грыгорыя Цамблака[12]. У Прывілеі вялікага князя акрэслена місія і духоўныя мэты заснавання асобнай Праваслаўнай мітраполіі ў ВКЛ.

У летапісных аповедах паведамляецца пра тагачасныя падзеі наступнае: «У 1415 годзе вялікі князь Вітаўт, паводле Божай волі і ўласнага жадання, склікаў сабор праваслаўных епіскапаў, якія служылі на абшарах, дзе ён валадарыў. Прыехалі на сабор: полацкі епіскап Феадосій, чарнігаўскі — Ісакій, луцкі — Дзіянісій, уладзімірскі — Харытон, тураўскі — Яўхімій. З тымі епіскапамі Вітаўт паставіў на Кіеўскую мітраполію балгарына Грыгорыя Цамблака»[13].

Важным палітычным мерапрыемствам для Вітаўта сталася хрышчэнне ў 1417 г. Жамойцкай зямлі. Хрысцінізацыя насельніцтва адбывалася пераважна прымусам і гвалтам: разбураліся паганскія капішчы, знішчаліся драўляныя статуі багоў і бажкоў. У якасці дзейснага сродку далучэння да хрысціянскай веры выкарыстоўваліся матэрыяльнае захвочванне і подкуп.

Як адзін з уплывовых актараў еўрапейскай палітыкі, Вітаўт быў улучаны ў справы *Чэхіі*. У 1419 г. чэшскія гусіты, якія змагаліся за нацыянальную незалежнасць і свабоду веры, звярнуліся да Вітаўта з прапановай прыняць карону Чэшскага каралеўства. Вялікі князь паўстаў перад складаным выбарам: ён меў прыязныя адносіны з імператарам Жыгімонтам і не жадаў іх псаваць, а апошні акурат і ваяваў з гусітамі. Вітаўт фармальна адхіліў прапанову гусітаў і іх кіраўніка Пракопа, але накіраваў ім у дапамогу 5-тысячны корпус князя Жыгімонта Карыбута — сына Дзімітрыя Карыбута, забітага ў бітве на Ворскле. 16 мая 1422 г. войскі ВКЛ увайшлі ў Прагу. Беларускія жаўнеры змагаліся поплеч з чэхамі за незалежнасць іх дзяржавы, а Вітаўт увесь час падтрымліваў дачыненні з гусітамі.

У 1420 г. абвастрыліся спрэчкі паміж ВКЛ і Прускім ордэнам з-за Жамойці. Неўзабаве распачаліся вайсковыя дзеянні, якія скончыліся падпісаннем 27 верасня 1422 г. мірнай дамовы на возеры Мельне. Паводле пагаднення, Жамойць канчаткова пераходзіла пад пратэктарат Вітаўта.

У 20-я гг. XV ст. Вітаўт пачаў актыўна займацца *дачыненнямі з татарамі*. Прычынай паслужыла ўварванне на землі ВКЛ у 1420 г. татарскага хана Едыгея і рабаванне ім Кіева. Але Вітаўт у адносінах з Залатой Ардой выкарыстоўваў пераважна дыпламатыю. Ён усяляк падаграваў канфлікты паміж ханамі, выкарыстоўваў супярэчнасці паміж імі ў змаганні за ўладу.

У 1425 г. палітычная вага Вітаўта яшчэ больш павялічылася. У гэты год памёр яго зяць — маскоўскі князь Васіль II. Перад смерцю ён прызначыў акурат Вітаўта апекуном непаўнагадовага Васіля III Васілевіча — спадчынніка трона. Вітаўт далікатна апекаваўся над унукам, але не надта ўмешваўся ў справы ўласна Маскоўскага княства.

Аднак у 1426 г. Вітаўт вырашыў вярнуць пад сваю ўладу *Пскоўскае княства*. Ён склікаў велізарнае войска, пераправіўся праз Дзвіну, захапіў Себеж і Порхаў. Пасля гэтага жыхары Пскова здаліся на міласць вялікага князя. Вітаўт абклаў Пскоўскую зямлю вялікай данінай і прызначыў у Пскоў свайго намесніка — Юрыя Носа.

---

[11] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею. Т. 1. С. 33–35.

[12] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею. Т. 1. С. 35–37.

[13] «Аповеды пра княжанне Вітаўта» // Маладосць. 2008. № 5. С. 103–105.

У 1426 і 1427 гг. Вітаўт падпісаў пагадненні з разанскім і пронскім князямі. 3 жніўня 1427 г. вялікі князь заключыў дагавор з цвярскім князем Барысам Аляксандравічам, які даводзіўся яму ўнукам[14].

Затым Вітаўт з войскам рушыў на *Ноўгарад Вялікі*. Насустрач войскам ВКЛ выехала ноўгарадскае пасольства з прапановай мірнага ўрэгулявання канфлікту. Вольналюбівы горад прызнаў над сабой уладу вялікага князя Вітаўта і перайшоў пад пратэктарат ВКЛ. Вітаўт прызначыў намеснікам у Ноўгарад Вялікі Сямёна Алгімонта Гальшанскага.

Каб не дапусціць злучэння ў адзіную дзяржаву ВКЛ і Польшчы, Вітаўт у канцы 20-х гг. XV ст. распачаў працэс падрыхтоўкі да ўласнай *каранацыі* і ператварэння Вялікага Княства ў каралеўства.

У 1429 г. у Луцку ў рэзідэнцыі Вітаўта адбыўся вялікі з’езд, склікаңы нібыта дзеля ўтварэння антытурэцкай кааліцыі хрысціянскіх дзяржаў. На з’ездзе імператар Жыгімонт публічна звярнуўся да Ягайлы з прапановай падтрымаць каранаванне Вітаўта. Польскія магнаты абурыліся. Асабліва пратэставаў кракаўскі біскуп Збігнеў Алясніцкі. Ён выступіў са з’едлівымі папрокамі на адрас Вітаўта, абвінаваціў яго ў парушэнні дамоваў, невыкананні абяцанняў. Палякі паспешліва пакінулі з’езд у Луцку.

Вітаўт і Жыгімонт накіравалі паслоў да Папы Рымскага Марціна V з просьбай дабраславіць змены ў ВКЛ. Палякі пярэчылі і ўсяляк настройвалі Папу супраць Вітаўта. Але вялікі князь дамогся свайго і схіліў Марціна V на свой бок.

Урачыстую каранацыю Вітаўт прызначыў на 15 жніўня 1430 г. у Троках. У ВКЛ прыехалі вялікія дэлегацыі: польскі кароль Ягайла; вялікі князь маскоўскі Васіль III, унук Вітаўта, разам з маскоўскім мітрапалітам Фоціем; дацкі кароль; прускі гросмайстар, інфлянцкі ландмаршал; гаспадар Валахіі; князь мазавецкі; хан крымска-перакопскі; князь цвярскі; князь разанскі; князь Адоеўскі; пасол ад імператара Візантыі; папскі пасол; паслы з Ноўгарада Вялікага і Пскова. Сем тыдняў доўжыліся прыгатаванні. Але палякі паўсюль на шляхах паставілі засады і не прапусцілі кароны, якую везлі паслы ад імператара Жыгімонта. Вітаўт развітаўся з гасцямі і ад’ехаў у Вільню, куды запрасіў і Ягайлу.

Не ажыццявіўшы апошняй грандыёзнай задумы, надламаны Вітаўт занядужыў і 27 кастрычніка 1430 г. памёр. Цела вялікага князя пахавалі ў Вільні ў Кафедральным саборы.

Такім чынам, Вялікае Княства Літоўскае ў перыяд княжання Вітаўта (1392–1430) дасягнула найбольшай эканамічнай, вайсковай і дзяржаўна-палітычнай магутнасці. Рост краіны, не зважаючы на часовыя паражэнні, адбываўся надзвычай імкліва.

Вітаўт зліквідаваў сістэму ўдзельных княстваў у ВКЛ, пазбавіў мясцовых князёў палітычнай вагі. Ён знішчыў аўтаномію Кіеўскага княства, цалкам падпарадкаваў Кіеў вялікакняжацкай уладзе. Вялікі князь перамог ноўгарад-северскага князя Дзмітрыя Карыбута, аслабіў падольскага князя Фёдара Карыятавіча, скарыў галоўнага палітычнага канкурэнта Свідрыгайлу.

Імкнучыся ўмацаваць духоўную і культурную незалежнасць жыхароў ВКЛ, Вітаўт дапамагаў праваслаўным цэрквам. Ён паспрыяў стварэнню ў 1415 г. самастойнай Праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Навагрудку. Разам з тым вялікі князь праяўляў рэлігійную талерантнасць, дазваляў будаваць каталіцкія касцёлы, з павагай ставіўся да мусульманаў і іудзеяў.

У знешняй палітыцы Вітаўт меў выключныя поспехі. У 1395 г. ён падначаліў Смаленскае княства і прызначыў туды свайго намесніка. Вялікі князь з войскам ВКЛ адыграў вырашальную ролю падчас Грунвальдскай бітвы 1410 г., пасля чаго прускія і лівонскія рыцары асцерагаліся моцы ВКЛ.

---

[14] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею. Т. 1. С. 46–47.

У 1422 г. Вітаўт канчаткова адваяваў у крыжакоў Жамойць і падпарадкаваў яе Княству. Пад пратэктаратам Вітаўта апынуліся Вялікі Ноўгарад з агромністымі тэрыторыямі, а таксама Пскоўскае і Разанскае княствы. Вітаўт актыўна ўплываў на ўнутрыпалітычнае жыццё Залатой Арды. Ён прызначаў ханаў і прыводзіў іх да ўлады ў Ардзе. Чэшскія палітычныя эліты, ведаючы моц Вітаўтавай дзяржавы, запрасілі яго да сябе на гаспадаранне. Ён адгукнуўся на прапанову чэхаў і паслаў да іх намеснікам свайго пляменніка Жыгімонта Карыбута. Венгерскі кароль і германскі імператар Жыгімонт ставіўся з павагай да Вітаўта, імкнуўся да паразумення з ім.

Вітаўт выношваў планы авалодання Маскоўскім княствам і Польскім Каралеўствам, імкнучыся стварыць адзіную славянскую імперыю. Дзеля дасягнення ўласных палітычных мэтаў вялікі князь дзейнічаў рашуча і энергічна, не асабліва зважаючы на сродкі.

Папскі прастол у Рыме з належным шанаваннем адносіўся да Вітаўта і яго дзейнасці. На патрабаванне вялікага князя стаць каранаваным манархам, памазаннікам Божым на зямлі, Ватыкан без пярэчанняў даў згоду і асвяціў карону. Гаспадар ВКЛ праз каранаванне імкнуўся не дапусціць далучэння ВКЛ да Польскай Кароны пасля яго смерці, што прадугледжвалася дамовай з Ягайлам. Вітаўт пажадаў прыняць карону ў прысутнасці высокапастаўленых асобаў з Маскоўскага княства, Прусіі, Рыма і Канстанцінопаля, пакліканых у ВКЛ дзеля ўрачыстай нагоды. Планам Вітаўта, аднак, перашкодзілі польскія магнаты, якія перакрылі шлях дэлегацыі, што накіроўвалася з каронай у ВКЛ.

Дзякуючы намаганням вялікага князя Вітаўта тэрыторыя ВКЛ істотна павялічылася: абшары краіны сягалі Балтыйскага і Чорнага мораў, Берасця і Мажайска. За час яго княжання Вялікае Княства Літоўскае, паводле вайскова-эканамічнага патэнцыялу, ператварылася ў наймагутнейшую ў Еўропе дзяржаву з выразнымі рысамі сярэднявечнай кантынентальнай імперыі.

*Іван САВЕРЧАНКА*

# МІТРАПАЛІТ ІОСІФ ВЕЛЬЯМІН-РУЦКІ І ЯГО ТАСТАМЕНТ

Таму, хто хоць бы аднойчы сутыкаўся са спецыфікай архіўнай працы, добра вядома, што патрэбная інфармацыя можа адшукацца ў фондзе самай нечаканай установы. Ніколі нельга быць упэўненым, што прадуманы і сістэматызаваны пошук дасць стопрацэнтны вынік. Найбольш каштоўныя знаходкі, як правіла, бываюць абсалютна выпадковымі. Непазбежныя хібы вялікага архіва — блытаніна ў паказальніках і каталогах, недакладныя загалоўкі спраў, дакументы адной установы ў фондзе іншай — заўсёды пакідаюць карпатліваму даследчыку шанец на нечаканае адкрыццё. Так, некалькі гадоў таму вядучым палеографам Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Г. М. Брэгерам[1] у справе «Дакументы на пераход і валоданне маёнткам Рутай»[2] з фонда Навагрудскага павятовага суда[3] быў адшуканы фрагмент архіва маёнтка уніяцкіх мітрапалітаў Рута, які лічыўся незваротна страчаным. З масы дакументаў XVI–XVIII стст., на якіх маюцца аўтографы караля Жыгімонта ІІІ Вазы, канцлера Льва Сапегі і іншых прадстаўнікоў вышэйшых колаў Рэчы Паспалітай, вылучаецца сапраўдная пярліна. Гэта ўласнаручны тастамент уніяцкага мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і усёй Русі Іосіфа Вельяміна-Руцкага. Каб ацаніць значнасць знаходкі гэтага дакумента, неабходна пачаць расповед з біяграфіі яго складальніка.

Постаць Іосіфа (у свеце — Івана) Вельяміна-Руцкага займае адно з ключавых месцаў у гісторыі беларуска-літоўскага грамадства першай трэці XVII ст. Уніяцкі мітрапаліт, заснавальнік базыльянскага ордэна, выдатны палеміст і рэфарматар, ён здолеў вывесці ўсходнюю царкву Рэчы Паспалітай з сістэмнага крызісу, які назіраўся ў ёй у другой палове XVI — пачатку XVII ст. Асоба неадназначная, ён знаходзіў сярод насельніцтва грэцкага абраду як гарачых прыхільнікаў сваіх дзеянняў, так і зацятых супернікаў. Менавіта Руцкі распачаў працэс беатыфікацыі[4] забітага ў 1623 г. полацкага архіепіскапа Іясафата Кунцэвіча[5], стаўленне да якога яшчэ і сёння падзяляе гісторыкаў Царквы на два непрымірымыя лагеры. За літаратурнай палемікай Руцкага з полацкім праваслаўным архіепіскапам Мялеціем Сматрыцкім сачыла ўся эліта Рэчы Паспалітай. Яна зрабіла вялікае ўздзеянне на развіццё беларускай культуры і лёсавызначальны ўплыў на міжканфесійныя адносіны ў краіне.

Негледзячы на тое што вывучэнню біяграфіі Руцкага было прысвечана шмат прац[6], многія факты і акалічнасці яго жыцця дагэтуль застаюцца белымі плямамі. Найперш гэта тычыцца паходжання Руцкага.

---

[1] Аўтар выказвае шчырую падзяку *Герману Максімавічу Брэгеру* за дазвол падрыхтаваць першую навуковую публікацыю па матэрыялах яго унікальнай знаходкі.

[2] Загаловак пададзены паводле вопісу, складзенага 11 ліпеня 1940 г. архіўна-тэхнічным работнікам Мінскага абласнога архіва Сухаверкам.

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей НГАБ). Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161.

[4] *Беатыфікацыя* — прылічэнне памерлага да ліку блажэнных. Як правіла, папярэднічае працэсу *кананізацыі* — прылічэння да ліку святых.

[5] Кунцэвіч Іясафат (1580–1623) — полацкі уніяцкі архіепіскап (1618–1623). Забіты праваслаўнымі жыхарамі г. Віцебска ў 1623 г. Беатыфікаваны Рымскім Папам Урбанам VIII у 1643 г., кананізаваны Рымскім Папам Піем IX у 1867 г.

[6] Напрыклад: Жукович П. Н. Жизнеописание митр. Иосифа Вельямина Рутского, составленное митр. Рафаилом Корсаком, и сочинение Рутскаго об улучшении внутренняго строя униатской церкви // Христианское чтение. Август — сентябрь 1909. С. 1089–1108; Турук Ф. Униатский митрополит Рутский // Журнал Министерства народнаго просвещения. Часть LXII. Март 1916. С. 128–166; Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. Мінск, 1994.

Большасць даследчыкаў сыходзіцца на тым, што род Вельямінаў паходзіць з тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы. Дзякуючы недакладнай інтэрпрэтацыі прац сярэднявечных храністаў М. Стрыйкоўскага і А. Гваньіні ў гістарычнай навуцы на доўгі час замацаваўся міф аб тым, што Іосіф Вельямін-Руцкі быў сынам аднаго з двух маскоўскіх ваявод Вельямінавых, узятых у палон у ходзе Лівонскай вайны 20 верасня 1568 г. пад Улай, што на Полаччыне[7]. Пазней гэтае палажэнне было крыху падкарэктаванае. Час з'яўлення Вельямінаў на беларускіх землях быў «адсунуты» на першую палову XVI ст. — нeяк надта ж мала часу прыпадала на іх пераход з праваслаўя ў кальвінізм (у 1570-я гг. яны ўжо былі пратэстантамі). Найбольш аўтарытэтныя на сённяшні момант украінскія даследчыкі Ф. Галюшчынскі, А. Вялікі, П. Підручны выказалі меркаванне, што род Вельямінаў мог пражываць на беларускіх землях нават у XV ст.[8]. Карані роду яны таксама выводзілі з тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы.

Новаадшуканыя дакументы яскрава сведчаць, што Вельяміны (альбо Вельямінавічы) пражывалі на Навагрдчыне ўжо ў канцы XV ст. Апрача ўсяго, архіў маёнтка Рута ўтрымлівае багаты матэрыял па генеалогіі сваіх уладальнікаў. Паколькі аб продках мітрапаліта невядома практычна нічога, разгледзім яго радавод падрабязней.

Большасць біяграфічных нарысаў аб Іосіфе Вельяміне-Руцкім пачынаецца з паведамлення таго факту, што ён быў сынам кальвініста Фелікса Вельяміна-Руцкага і яго жонкі Багумілы Корсак. Ніякай дадатковай інфармацыі — кім былі продкі таго Фелікса — не падаецца.

У выніку апрацоўкі новаадшуканых дакументаў аўтару гэтых радкоў удалося скласці генеалагічнае дрэва мітрапаліта Іосіфа. Яно налічвае пяць пакаленняў і выглядае наступным чынам.




---

7 Гл.: Турук Ф. Униатский митрополит Рутский… С. 131–132.

8 Гл.: Epistolae Metropolitarum Kioviensium / Ed. Theodosius T. Haluščynskyj, Athanasius G. Welykyj. Romae, 1956. Vol. 1. P. IX–XII; Підручний П. Початки Василіанського чину и Берестейська унія // Берестейська унія та внутрішне життя Церкви в XVII столітті. Матеріали Четвертих «Берестейських читань». Львів, 1997. С. 97.

9 У 1578 г. узгадваецца як нябожчык.

Ад родавага маёнтка Рута[10], што знаходзіўся на тэрыторыі Наваградскага павета Вялікага Княства Літоўскага, Вельяміны (альбо Вельямінавічы) паступова пачалі называцца Вельямінамі-Руцкімі. Гэтая з'ява была тыповай для свайго часу. Паступова такія найменні пачалі пераважаць і нават выцясняць першапачатковыя родавыя прозвішчы. Трэба адзначыць, што на пачатку XVI ст. існавалі яшчэ два роды Руцкіх з той самай мясцовасці — Кярстанавічы-Руцкія[11] і Куцэвічы-Руцкія[12].

Аб тым, што маёнтак належаў Вельямінам як мінімум з пачатку XVI ст., гаворыць ліст Фёдара Іванавіча Вельяміна аб продажы свайму брату Багдану Іванавічу часткі маёнтка Рута, які пан Фёдар называе «дзедзічным», гэта значыць спадчынным[13]. Дакумент быў складзены ў г. Наваградку 5 сакавіка 7 індыкта[14]. Шляхам складанага пераводу індыктыённага «візантыйскага» летазлічэння на сучасны каляндар, мы атрымліваем найбольш верагодны год напісання ліста — 1519. У перапісе войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 г. на тэрыторыі Наваградскага павета пазначаны двое прадстаўнікоў роду — браты Багдан і Парфен Вельямінавічы[15]. Прычым у перапісе гаворыцца, што Багдан мае ўласных падданных і павінен выстаўляць са сваіх маёнткаў у войска аднаго вершніка, Парфен жа падданых не мае і мусіць ехаць на вайну сам.

На той час Рута не ўяўляла з сябе нейкага цэласнага маёнтка — яе землі былі падзелены паміж мужчынскімі прадстаўнікамі Вельямінаў, Кярстанавічаў і Куцэвічаў. Значная, а да сярэдзіны XVI ст. большая, частка Руты знаходзілася ва ўладанні шматлікіх татарскіх сем'яў. Вядома, што ў 1531 г. наваградскі ваявода Станіслаў Гаштольд выдаў ліст, які «дазваляў продаж Руты на вечныя часы татарам»[16]. У новаадшуканых дакументах маецца столькі ўзгадка аб разнастайных кавалачках Руты, што цяжка разабрацца каму і калі які лапік зямлі належаў. Але паступова большая частка маёнтка пачала канцэнтравацца ў руках Багдана Іванавіча Вельяміна, прадзеда будучага мітрапаліта. Яму належыць роля збіральніка руцкіх земляў у адзінае ўладанне. Як адзначалася вышэй, у 1519 г. сваю частку маёнтка (коштам у 45 коп[17] літоўскіх грошаў) яму саступіў брат Фёдар, а ў 1537 г. — татары Ібрагім Міткевіч і Махмет Банкевіч (коштам у 220 коп)[18]. Пасля смерці Багдана (каля 1540 г.) маёнтак нядоўгі час быў зноўку падзелены, гэтым разам паміж Багданавымі сынамі Міхнам, Захарыяшам і Алехнам. У 1545 г. яго большая частка чарговым разам канцэнтруецца ў адных руках — у дзеда будучага мітрапаліта, Захарыяша. Паміж 1556 і 1558 гг. Захарыяш памёр, пакінуўшы толькі аднаго нашчадка па мужчынскай лініі — Шчаснага[19], якому застаўся сабраны продкамі маёнтак. Апош-

[10] Сёння — в. Дольная Рута Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. Рэспублікі Беларусь.

[11] НГАБ. Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161. Арк. 650.

[12] Тамсама. Арк. 807.

[13] Тамсама. Арк. 591.

[14] *Індыкт* (*індыктыён*) — перыяд у 15 гадоў, які выкарыстоўваўся ў летазлічэнні беларуска-літоўскіх земляў да канца XVI ст. Пачатак выкарыстання 15-гадовага індыктыёну ў летазлічэнні быў пакладзены рымскім імператарам Канстанцінам Вялікім у 312 г.

[15] Перапіс войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 г. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. Публічных спраў 1 // Падрыхт. А. І. Груша, М. Ф. Спірыдонаў, М. А. Вайтовіч; НАН Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск: Бел. навука, 2003. С. 63, 67.

[16] НГАБ. Ф. 1773. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 925.

[17] *Капа* — адзінка ліку ў ВКЛ. Была роўная 60 штукам.

[18] НГАБ. Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161. Арк. 617–618.

[19] *Вельямін-Руцкі Шчасны* — бацька мітрапаліта. Больш вядомы з выкарыстаннем лацінскага варыянту напісання яго імя — *Фелікс*.

няе значнае ўзбуйненне Руты адбылося пры ім у 1584 г.[20]. Вядома, што ў 1587 г. Шчасны склаў тастамент, змест якога, на жаль, да нас не дайшоў[21]. Але з гэтага можна меркаваць, што на той час яго складальнік быў ужо ў сталым веку альбо, магчыма, цяжка хворы. У верасні 1589 г. Шчасны разам са сваім дзядзькам Алехнам і яго сынамі Мікалаем і Іванам складае рэестр маёнтка Рута, згодна з якім дзве траціны маёнтка застаюцца ў руках Шчаснага, а адна траціна — у руках Алехны і яго сыноў[22]. У 1590 г. Шчасны памёр, пакінуўшы па сабе адзінага сына Івана (нашага галоўнага героя) і дзвюх дачок: Анастассю і Ганну.

У 1600 г. удава Шчаснага Багуміла Корсак, што пабралася другім шлюбам з Марцінам Палонскім, разам з новым мужам выкупае трэцюю частку маёнтка Руты, якая належала Мікалаю Алехнавічу, у сваю ўласнасць[23]. Менавіта Багуміла на працягу ўсяго жыцця матэрыяльна падтрымлівала свайго сына Івана, што рана застаўся без бацькі. Не адпавядаюць сапраўднасці думкі некаторых даследчыкаў, што яна, кальвіністка, дачуўшыся пра сімпатыі Івана да уніяцтва, «пазбавіла яго ўсялякіх сродкаў да існавання»[24]. Прынамсі, калі 28 жніўня 1603 г. Марцін Палонскі вырашыў прадаць увесь маёнтак Івану Вельяміну-Руцкаму, той заплаціў за здзелку 800 коп літоўскіх грошаў[25]. Цяжка ўявіць, што такую вялізную для тых часоў суму мог выкласці чалавек без сродкаў да існавання.

Пералічаныя факты сведчаць аб тым, што Іван (у манастве — Іосіф) Вельямін-Руцкі належаў да шляхецкага роду, прадстаўнікі якога пражывалі на беларускіх землях і мелі тут уладанні як мінімум з канца XV ст.

Пры скрупулёзным вывучэнні тастамента пільны даследчык заўважыць цікавую нестыкоўку з агульнапрынятымі ў біяграфіі мітрапаліта фактамі. Напрыканцы дакумента на кустодыі[26] маецца яго асабістая пячатка. На ёй змешчана выява герба «Букраба» зменены[27]. Аб тым, што гэтая пячатка магла належаць толькі мітрапаліту Іосіфу, сведчаць геральдычная мітрапаліцкая шапка, якая знаходзіцца над полем герба на месцы рыцарскага шлему, і лацінскія ініцыялы «IR» (Iosephus Rucki). Але, як вядома, у гістарыяграфіі XIX–XX стст. замацавалася думка, што Вельяміны карысталіся родавым гербам «Вуж». Цяжка сказаць, хто з гісторыкаў упершыню прыйшоў да такой высновы, але факт застаецца фактам, і гэтая інфармацыя вандруе з кнігі ў кнігу ўжо больш за сто гадоў. Адбылося гэтак таму, што гербам «Вуж» карысталіся прадстаўнікі роду Рудскіх з Валыні. Не маючы перад сваімі вачыма адбіткаў асабістых пячатак Вельямінаў-Руцкіх, гісторыкі прыпісалі герб валынскіх Рудскіх Вельямінам. Гэтае памылковае меркаванне аказалася настолькі жывучым, што на яго не паўплывала нават грунтоўнае выданне эпісталярнай спадчыны Руцкага, здзейсненае ў 1956 г. у Рыме

[20] НГАБ. Ф. 1773. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 926.

[21] Тамсама. Арк. 926.

[22] НГАБ. Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161. Арк. 666.

[23] Тамсама. Арк. 789.

[24] Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. Мінск, 1994. С. 12.

[25] НГАБ. Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161. Арк. 789.

[26] *Кустодыя* — невялікі кавалачак альбо палоска паперы (нярэдка па-мастацку аздобленыя), пад якія заліваўся расплаўлены воск, а наверх ставілася пячатка.

[27] *Букраба* — прыватнаўласніцкі герб. На чырвоным полі залаты паўмесяц рагамі ўверх. Над ім — жоўты кавалерскі крыж. (У Іосіфа Вельяміна-Руцкага — паўмесяц рагамі ўніз, таму герб носіць назву «Букраба» зменены.)

манахамі-базыльянамі Ф. Галюшчынскім і А. Вялікім[28]. У гэтым зборніку на старонцы 386 прыведзена выява асабістай пячаткі мітрапаліта Іосіфа, якую ён паставіў пад лацінамоўнай версіяй свайго тастамента — гэта той жа «Букраба» пад ужо знаёмай нам мітрапаліцкай шапкай.

Праводзячы параўнанне ўласніцкіх пячатак розных Вельямінаў XVI — пачатку XVII ст. на новаадшуканых дакументах, можна прасачыць эвалюцыю выяваў на іх асабістых гербах. Упершыню герб Вельямінаў у выглядзе «Букрабы» зմененага змешчаны на пячатцы стрыечнага дзеда мітрапаліта Іосіфа Алехны Багданавіча пад 9 студзеня 1545 г.[29]. Усе пазнейшыя пячаткі, у тым ліку і пячатка самога мітрапаліта Іосіфа, мелі менавіта такі выгляд. На больш ранніх пячатках прадстаўнікоў роду Вельямінаў адзначаныя крыху іншыя выявы. Пячатка Фёдара Іванавіча на дакуменце 5 сакавіка 1519 г. утрымлівае паўмесяц рагамі ўніз, усярэдзіне якога замест крыжа размешчана фігура ў выглядзе кірылічнай літары «П». На пячатцы яго брата Некраша Іванавіча ад 30 ліпеня 1513 г. маецца такая ж самая выява, але скіраваная не ўніз, а ў правы бок[30]. І, урэшце, на пячатцы таго ж Некраша Іванавіча ад 1520 г. замест крыжа і літары «П» змешчана абсалютна іншая геральдычная фігура, якая нагадвае асноўны элемент гербу «Радван»[31] — харугву ў выглядзе перагорнутай літары «Ш». Справа ў тым, што гербы, на якіх варыюцца выявы паўмесяца з іншымі геральдычнымі элементамі, вельмі характэрныя для шматлікіх татарскіх родаў, якія пражывалі з пачатку XV ст. у ваколіцах Наваградка. Сімвал у выглядзе перагорнутай літары «Ш» з'яўляецца традыцыйнай геральдычнай эмблемай дынастыі Гірэяў і носіць татарскую назву «Тарак-Тамга» (ад татарскага «тарак» — грэбень)[32]. Практычна ў кожным дакуменце першай і другой трэці XVI ст. з адшуканага архіва маёнтка Рута фігуруюць прадстаўнікі татарскіх родаў — Банкевічы, Міткевічы, князі Кілдыяравічы, князі Кянкевічы (у тым ліку джалаірскі[33] харужы Банка Кянкевіч).

З прыведзеных фактаў напрошваецца даволі сенсацыйная выснова — род Вельямінаў мог мець татарскія карані! Тое, што Вельяміны на пачатку XVI ст. з'яўляліся праваслаўнымі, яшчэ ні аб чым не гаворыць. Асіміляцыя татарскага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім ішла даволі паспяхова, і абсалютная большасць татарскіх родаў з цягам часу прыняла хрысціянства. На пачатку XVI ст. нават у многіх прадстаўнікоў джалаірскай харугвы імёны самыя што ні на ёсць хрысціянскія — Багдан, Захарыяш, Якуб, Алехна і інш.[34]. І гэта ў тых, хто застаўся мусульманамі. Што ж ужо гаварыць аб асіміляваных родах! Магчымае татарскае паходжанне Вельямінаў ускосна пацвярджае і сам лёс архіва маёнтка Рута.

---

[28] Epistolae Josephi Velamin Rutskyj, metropolitae Kioviensis catholici (1613–1637) / Collegerunt adnotationibus illustrarunt et introductione auxerunt r. p. Theodosius T. Haluščynskyj — p. Athanasius G. Welykyj, Ordinis S. Basilii Magni. — Romae, 1956. (Аўтар выказвае шчырую падзяку старэйшаму навуковаму супрацоўніку Львоўскага аддзялення Інстытута украінскай археаграфіі і крыніцазнаўства імя М. С. Грушэўскага Нацыянальнай Акадэміі навук Украіны *Ігару Яраслававічу Скачылясу* за прадастаўленыя копіі гэтага выдання.)

[29] НГАБ. Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161. Арк. 627.

[30] Тамсама. Арк. 612.

[31] *Радван* — прыватнаўласніцкі герб. На чырвоным полі залатая царкоўная харугва з трыма канцамі з махрамі. Над ёй залаты кавалерскі крыж.

[32] Думін С. В. Астрынскія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 226.

[33] *Джалаірская харугва* — родаплемянная група татар у ВКЛ. Уяўляла з сябе нашчадкаў мангольскага племені джалаір. Паводле люстрацыі 1631 г., джалаірская харугва складалася з 74 дымоў у Віленскім, Наваградскім і Ашмянскім паветах.

[34] НГАБ. Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161. Арк. 600, 617–618.

Не падлягае сумненню тое, што мітрапаліт Іосіф меў у сваім распараджэнні ўсе аналізаваныя намі дакументы. Прыдбаўшы ў 1603 г. Руту ў адзінаасобнае ўладанне, ён паклапаціўся аб захаванасці архіва, які пацвярджаў яго спадчыннае права на навакольныя землі. Эканамічныя справы, якія Руцкі вёў на працягу ўсяго жыцця, патрабавалі ад яго добрага знаёмства з адзначаным архівам. Апрача ўсяго, гэта азначае, што мітрапаліт выдатна ведаў сваю генеалогію, прынамсі, да 5-га калена (гл. прыведзеную вышэй схему). Тое, што ён (адзін з самых адукаваных у краіне людзей) з лёгкасцю мог прасачыць і дакументальна пацвердзіць свой радавод, не выклікае ніякіх пярэчанняў. Між тым яшчэ пры жыцці мітрапаліта з падачы яго сябра і паплечніка Рафаіла Корсака пайшлі блукаць чуткі аб паходжанні Вельямінаў-Руцкіх ад выхадцаў з Маскоўскай дзяржавы баяр Вельямінавых. Міжволі напрошваецца пытанне: каму гэтыя чуткі былі выгадныя? Адказ можна знайсці, калі ўважліва азнаёміцца з дзейнасцю Іосіфа Вельяміна-Руцкага на пасадзе уніяцкага мітрапаліта. У гэтай дзейнасці вылучаюцца тры асноўныя «праекты»: стварэнне базыльянскага ордэна, місіянерская дзейнасць у Маскве пры двары цара Дзмітрыя І (пазней вядомага як Ілжэдзмітрый), стварэнне асобнай Кіеўскай уніяцкай патрыярхіі. Два апошнія з гэтых праектаў мелі на мэце аб'яднанне праваслаўных і уніяцкіх жыхароў Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы ў складзе новай, кіеўскай, патрыярхіі. Узначаліць новы цэнтр хрысціянства павінен быў ні хто іншы, як сам Іосіф Вельямін-Руцкі. У такой сітуацыі нават калі б не існавала легенды аб нашчадку маскоўскіх баяр, то яе варта было б прыдумаць. На наш погляд, менавіта гэта і зрабіў Рафаіл Корсак з маўклівай згоды свайго старэйшага сябра і патрона. Як вынікае з тэксту публікуванага тастамента, пасля смерці Руцкага на Корсака ўскладаліся паўнамоцтвы па вядзенні эканамічных справаў і па захаванні ўсіх папер мітрапаліцкага архіва. У тэстаменце агаворана, што пры ўзнікненні любых непаразуменняў неабходна звяртацца да епіскапа Корсака, які ведае ўсе падрабязнасці. Такім чынам, Руцкі паклапаціўся, каб дакументы не трапілі ў рукі пабочнага чалавека, а легенда аб маскоўскім паходжанні Вельямінаў не была развеяная, што несумненна пашкодзіла б справе умацавання царкоўнай уніі.

Безумоўна, татарскае паходжанне Вельямінаў — гэта ўсяго толькі праўдападобная гіпотэза. Але самая малая падстава на такое меркаванне, што непазбежна ўзнікла б ў любога чалавека пры знаёмстве з руцкім архівам, несла патэнцыйную небяспеку. Інакш кажучы, для палітычнай і рэлігійнай дзейнасці мітрапаліта Іосіфа змест названых дакументаў быў забойчым кампраматам. У варунках міжканфесійнай барацьбы і вострай літатаратурнай палемікі першай трэці XVII ст., калі апаненты нярэдка пераходзілі на асобы, інфармацыя з руцкага архіва мела б эфект бомбы, якая магла каласальна папсаваць рэпутацыю мітрапаліта Іосіфа. Гэта ж не жартачкі: збіральнік расколатай «рускай»[35] паствы і галоўны апалагет уніі — нашчадак праклятых басурманаў!

Руцкі апынуўся закладнікам родавага архіва: ні знішчыць, ні актыкаваць большую яго частку у судах (як гэта рабіла амаль уся шляхта) ён не мог. Таму і вымушаны быў у многіх выпадках падтрымліваць аўру таямнічасці вакол уласнага імя і паходжання.

[35] Пад *рускім* у тыя часы разумелася ўсё ўсходнеславянскае, і ў першую чаргу тое, што тычылася этнічна беларускіх і ўкраінскіх земляў. *Руская* мова з'яўлялася дзяржаўнай у ВКЛ. Праваслаўе і уніяцтва лічыліся *рускай* верай. Першая друкаваная беларуская кніга насіла назву «Библия руска». З канца XVII ст. у расійскай гістарыяграфіі з ідэалагічнымі мэтамі пачалося атаясамленне тэрміна *рускі* з тэрмінам *расійскі*, што прывяло да прысабечвання Расійскай імперыяй усёй спадчыны рускай культуры. Спекуляцыі на ідэнтычнасці значэнняў леглі ў аснову савецкай ідэалогіі і працягваюць актыўна выкарыстоўвацца многімі сучаснымі расійскімі гісторыкамі.

Да ліку белых плям біяграфіі Іосіфа Вельяміна-Руцкага можна з упэўненасцю аднесці і змест яго тастамента. Справа ў тым, што выказ апошняй волі іерарха такога высокага рангу адыгрываў выключна важную ролю ў царкоўным жыцці. Вядомы прыклады таго, калі наступнікі мітрапалітаў утойвалі той ці іншы фрагмент тастамента, які быў невыгодным асабіста для іх[36]. Да нашага часу захаваліся аналагічныя тастаменты наступнікаў Руцкага, мітрапалітаў Рафаіла Корсака (18 жніўня 1640 г.)[37], Антона Сялявы (4 траўня 1651 г.)[38], Кіпрыяна Жахоўскага (1687 г.)[39]. А вось аб змесце тастамента Руцкага вядома зусім няшмат. У найбольш поўным зборніку рукапіснай спадчыны І. Вельяміна-Руцкага, выдадзеным у 1956 г. у Рыме манахамі-базыльянамі Ф. Галюшчынскім і А. Вялікім[40], апублікаваныя два тастаменты мітрапаліта. Абодва складзены ў Дзерманскім[41] манастыры 28 студзеня 1637 г. за некалькі дзён да смерці Руцкага[42]. Тэкст другога тастамента (апублікаванага ў зборніку пад № 192) з'яўляецца дадаткам да першага і ўтрымлівае даручэнні каад'ютару мітраполіі Рафаілу Корсаку і іншым уніяцкім епіскапам. Першы тастамент (апублікаваны пад № 191) і ёсць той самы «асноўны» тастамент, які ўяўляе для сучасных даследчыкаў найбольшую цікавасць. Праблема палягае ў тым, што тэкст «тастамента № 191» няпоўны. Як адзначылі самі складальнікі, большая яго частка — *corruptus et illegibilis* — сапсаваная і нечытэльная. Да таго ж абодва тастаменты складзеныя на лацінскай мове. А гэтая акалічнасць давала глебу для далёкасяжных высноў.

Першыя радкі «асноўнага» тастамента цытуе ў сваёй працы вядомы беларускі гісторык першай паловы XX ст. Ф. Турук[43]. У патэтычным запале ён укладае лацінскія словы ў вусны канаючага уніяцкага мітрапаліта. Атрымаўся эфектны літаратурны прыём: галоўны уніят, які ўдае сябе захавальнікам «рускай» традыцыі, самы важны дакумент у сваім жыцці складае на лаціне. Гэтую выснову дазвання касуе знойдзены Г. М. Брэгерам архіў маёнтка Рута.

Публікаваны намі тастамент з'яўляецца арыгіналам «тастамента № 191» са зборніку *«Epistolae Josephi Velamin Rutskyj»*. Гэты дакумент захаваўся цалкам (у зборніку Ф. Галюшчынскага і А. Вялікага маецца ўсяго каля 20 % тэксту). Ён напісаны ўласнай рукой мітрапаліта, мае яго подпіс і асабістую пячатку. І, што самае важнае, ён напісаны па-беларуску! Дакумент датуецца 20 кастрычніка 1636 г. Месца складання — родны маёнтак мітрапаліта Іосіфа Рута. Відавочна, 28 студзеня 1637 г. за некалькі дзён да яго

---

36 Пасля смерці мітрапаліта Гаўрыіла Календы ў 1674 г. яго наступнік Кіпрыян Жахоўскі доўгі час хаваў частку тастамента, дзе нябожчык забараняў сваім наступнікам сумяшчаць пасаду мітрапаліта з пасадай протаархімандрыта базыльянскага ордэна (падрабязней гл.: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленскаго учебнаго округа (далей АСДСЗР). Т. XII. Вильна, 1900. С. 182–183).

37 Российский государственный исторический архив. Ф. 823. Оп. 1. Д. 707.

38 Там же. Д. 795.

39 Там же. Д. 1025.

40 Epistolae Josephi Velamin Rutskyj… S. 383–386.

41 Дзерманскі манастыр (сёння — тэрыторыя Украіны) быў уключаны ў склад манастыроў ордэна базыльянаў пастановай 6-й кангрэгацыі ордэна 1 жніўня 1636 г. З'яўляўся фактычна уніяцкім з 6 чэрвеня 1627 г., з моманту патаемнага далучэння да уніі яго архімандрыта Мялецію Сматрыцкага.

42 Гэтая акалічнасць робіць сумнеўным той факт, што цяжка хворы Руцкі пісаў дакумент уласнаручна.

43 Гл.: Турук Ф. Униатский митрополит Рутский // Журнал Министерства народнаго просвещения. Часть LXII. Март 1916. С. 166. Турук спасылаецца на старонку 266 адварот рукапіснага зборніка, прысвечанага Іосіфу Вельяміну-Руцкаму з бібліятэкі Імператарскай Акадэміі Навук, які паступіў на захаванне ў 1902 г. пасля смерці аланецкага епіскапа Паўла Дабрахотава.

смерці манахамі Дзерманскага манастыра была зробленая лацінамоўная копія, якая пазней патрапіла ў мітрапаліцкі архіў у Вільні[44].

У тэстаменце Руцкі падводзіць своеасаблівыя вынікі сваёй дзейнасці. Так, у першых радках ён выказвае паслушэнства Рымскаму Папу Урбану VIII, адзначае, што той, хто не вызнае вяршэнства Папы, не будзе збаўлены. Гэта своеасаблівае пасланне «рускаму» народу Рэчы Паспалітай, зварот да праціўнікаў царкоўнай уніі. Далей Руцкі выказвае падзяку манаству чатырох каталіцкіх ордэнаў, якія здзейснілі найбольшую дапамогу ў рэфармаванні уніяцкай царквы і стварэнні ордэна базыльянаў: езуітам, кармелітам босым, дамініканцам і бернардзінцам. Вялікую частку тастамента, натуральна, займаюць пералічэнні грашовых кампенсацый служкам мітрапаліта, а таксама падрабязнасці маёмасных справаў са сваякамі, суседзямі і «дзелавымі партнёрамі». Сярод гэтых маёмасных справаў цэнтральнае месца займае перадача родавага маёнтка Вельямінаў-Руцкіх, Руты, ва ўладанне уніяцкіх мітрапалітаў. Гэты маёнтак застанецца ў мітрапаліцкіх уладаннях да 40-х гг. XIX ст. і будзе адной з асноўных крыніц дабрабыту наступнікаў Руцкага. Не забыўся Руцкі і на справу выхавання і адукацыі моладзі. Так, ён загадвае ўтрымліваць пры саборнай царкве ў Вільні школу з бясплатным харчаваннем для адукацыі «рускіх клірыкаў», якія б «ꙋчылисѧ ѧзыка латинского и иншыхъ наꙋкъ, але жебы первеи речы рꙋские умели». З гэтага яскрава відаць, што «рускай» навуцы мітрапаліт аддае прыярытэт перад «лацінскай». Ён таксама выказвае занепакоенасць тым, што багатая шляхта амаль ніяк не падтрымлівае «рускую» царкву, забываючыся, што яна такая ж важная, як і «лацінскі» касцёл: «иж справы церкви н(а)шое Рꙋское ѡт станов болшых або жадное помочы не мают, або мало ѧкую, а пред сѧ ѡдна то Божаѧ церков».

Сваім душапрыказчыкам мітрапаліт прызначае Рафаіла Корсака, без прысутнасці якога ён не дазваляе нават пахаваць сваё цела. Корсаку ж даручаецца і ўсё мітрапаліцкае справаводства.

У момант напісання тастамента яго аўтару было 62 гады — вельмі сталы на тыя часы ўзрост. Апошнія гады свайго жыцця Руцкі цяжка хварэў. Аб гэтым лішні раз сведчаць памылкі з адміністрацыйнай прыналежнасцю населеных пунктаў, якія згадваюцца ў тэксце. Такія памылкі ён дапускае двойчы (гл. публікаваны тэкст). Мітрапаліт скардзіцца на слабую памяць — пры ўзгадцы аб сваіх ранейшых тастаментах ён удакладняе: «если добре помню», на кепскі зрок — аб працы з дакументамі кажа, што «самъ през себе з затрудненемъ слабыхъ ѡчу своих перегледалъ».

Публікацыя арыгінальнага тэксту тастамента уніяцкага мітрапаліта Іосіфа Вельяміна-Руцкага, несумненна, з'яўляецца важнай навуковай падзеяй. Яна дазваляе праліць святло на апошнія месяцы жыцця гэтага выдатнага рэлігійнага і культурнага дзеяча беларуска-літоўскіх зямель. Непаўторнасць жывой мовы аднаго з самых адукаваных людзей Вялікага Княства Літоўскага дае магчымасць паглядзець на тагачасны палітычны і рэлігійны расклад у краіне яго вачыма, адчуць сам дух той эпохі.

Знаходка дакумента такой важнасці ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі паказвае, наколькі багатымі і шмат у чым недаацэненымі з'яўляюцца айчынныя архівасховішчы.

*Дзяніс ЛІСЕЙЧЫКАЎ*

[44] НГАБ. Ф. 1773. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 927.

# Тастамент уніяцкага мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і усёй Русі Іосіфа Вельяміна-Руцкага[45]

20.10.1636.

Маёнт. Рута Наваградскага пав.

Старабеларуск. мова.

*Арыгінал.*

Во *и*мꙗ Ѡ*т*ца и С(ы)на и С(вꙗ)то*го* Д(у)ха, С(вꙗ)тое Жывонача*л*ное и Нера*з*делимое Тро*и*цы. |

Иѡсифъ Вельꙗми*н* Ру*т*скии, митрополита Кие*в*ски*и*, Гали*ч*ски*и* и Всеꙗ Руси[46], | симъ ѡста*т*нее воли моее писмо*м* ѡ*з*наимую и*ж* в вѣре С(вꙗ)то*и* Кафтоличе|ско*и*, а в послуше*н*стве вселе*н*ского а*р*хиереꙗ Папы Ры*м*ского Ȣ*р*бана Ѡсмого[47] | и наступниковъ его ȣмираю, и та*к* верȣю и готуючысꙗ пре*д* Страшны*и* Су*д* | Божы*и*, пере*д* всимъ свето*м* вызнаваю и*ж* кто в сполечности це*р*кви ры*м*ское | не е*ст*, то*т* не бȣде*т* збаве*н*. Дȣшу мою в руки Тво*р*ца и Ѡ*д*кȣпителꙗ ее ѡ*т*даю | и ȣпадаючы пре*д* Маеста*м* Его Бо*ж*ски*м* молюсꙗ благоȣсе*р*дию его, дабы | не по множеству гре*х* мои*х*, но по велице*и* свое*и* м(и)л(о) сти, м(и)л(о) стивы*и* бы*л* душы мое*и*. | Ты*х*, которые пры сме*р*ти мое*и* бȣду*т*, пи*л*не прошȣ, жебы сꙗ старали высла*т* | зара*з* до его м(и)*л*(ости) ѡ*т*ца Рафаила Ко*р*сака[48], еп (и) с(ко)па Пи*н*ско*го* и коа*д*ютора митрополии, | до вси*х* и*х* м(и)*л*(остеи) еп(и)с(ко)по*в*, до вси*х* монастыро*в* нашы*х* му*ж*ски*х* и женъски*х*, | до и*н*ны*х* законо*в* набоже*н*ства ры*м*ского, че*ст*ны*х* ѡ*т*цовъ и во*з*любле*н*ное бра*т*и нашое, | а мꙗновите до ты*х*, которые мꙗ прыпȣстили до ȣча*ст*ництва заслу*г* своихъ, | ꙗко то ѡ*т*цо*в* езȣитовъ[49], ѡ*т*цо*в* ка*р*мелито*в* босы*х*[50], ѡ*т*цо*в* доминикано*в*[51] и ѡ*т*цовъ

[45] Пры перадачы тэксту былі вытрыманы сучасныя археаграфічныя правілы. Раскрытыя скарачэнні пададзены ў круглых дужках (), вынасныя літары — *курсівам*. Пачатак новага радка адзначаны вертыкальнай рыскай |, пачатак новага аркуша — дзвюма ||. Лічбы, якія ў арыгінале дакумента пазначаны кірылічнымі літарамі, падаюцца ў выглядзе арабскіх лічбаў. Аўтар выказвае падзяку супрацоўнікам аддзела старажытных актаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі *А. Ф. Аляксандравай, В. У. Бабковай* і *Г. М. Брэгеру* за метадычныя парады пры падрыхтоўцы тастамента да публікацыі.

[46] *Мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і усёй Русі* — афіцыйная назва пасады уніяцкіх мітрапалітаў.

[47] *Урбан VIII* (свецкае імя *Мафеа Барберыні*) (05.04.1568–29.07.1644) — Рымскі Папа (06.08.1623–29.07.1644). Найбольш вядомы дзякуючы таму, што ў гады яго пантыфіката адбыўся працэс над Галілеа Галілеем.

[48] *Корсак Рафаіл* (свецкае імя *Мікалай*) (1595 (?) — 28.08.1640) — уніяцкі царкоўны дзеяч. Архімандрыт манастыроў: Віленскага Св. Тройцы (1625–1637), Ануфрыеўскага (1631), Кобрынскага Спаскага (1632–1633), Жыдзічынскага (1637–1640). Протаархімандрыт базыльянскага ордэна (1626–1636). Пінска-тураўскі епіскап (1632–1637). У 1626 г. прызначаны каад'ютарам (памочнікам) мітрапаліта Іосіфа Руцкага. Апрача іншага, магчыма, з'яўляўся яго сваяком. Дзявочае прозвішча маці Руцкага Багумілы — Корсак.

[49] *Езуіты* (саманазва *Societas Jesu*) — каталіцкі манаскі ордэн, утвораны ў 1534 г. (статут зацверджаны ў 1540 г.). Ордэн езуітаў быў узяты Руцкім за ўзор пры стварэнні базыльянскага ордэна. Члены ордэна езуітаў бралі ўдзел у ранніх кангрэгацыях (пасяджэннях кіраўніцтва) базыльянаў.

[50] *Кармеліты босыя* (саманазва *Ordo Fratrum Carmelitarum Discalceatorum Beatae Mariae Virginis de Monto Carmelo*) — адзін з чатырох жабрацкіх каталіцкіх ордэнаў. Аддзяліўся ад ордэна кармелітаў у XVI ст. (статут зацверджаны ў 1593 г.). Ордэн кармелітаў босых Руцкі лічыў найбольш блізкім і падобным да манаства «рускай» царквы ВКЛ.

[51] *Дамініканцы* (саманазва *Ordo Fratrum Praedicatorum*) — каталіцкі манаскі ордэн, утвораны ў 1214 г. (статут зацверджаны ў 1216 г.).

| бернадынов[52]. А просим их жебы то чынили за душȣ мою, што чынит звыкли за тыхъ, | которых до сполечности заслуг своих прыимуют. Тые ж ѡтцове и братꙗ моꙗ, на тот | часъ пры мне бȣдȣчаꙗ, тожъ ѡзнаимити мает чотыром брацтвам[53], то ест конкгрекга|цыи Преблагословенное Дѣвы Марыи ȣ ѡтцов езȣитов, Рожанца ȣ ѡтцовъ до|миниканов, Паска С(вꙗ)т(ого) Францышка ȣ ѡтцов францышкановъ и бернадыновъ, Шкаплера | ȣ ѡтцов кармелитовъ босых, так же тежъ брацтвом Пречыстое Б(огороди)цы рȣскимъ | в Вилни, Новагородку, в Минску и в Володимирȣ будȣчым и иншым местцомъ и людꙗм | набожным, кому бы розȣмели, нехаи ѡзнаимꙗт и ѡ м(о)л(и)тву за дȣшу мою просꙗт. | Тело мое, скоро прыедет его м(и)л(ост) ѡтец коадютор, жебы без ѡмешканꙗ сховано | было. А нехаи старают жебы по всих церквахъ и костелах служба Божаꙗ за | дȣшу мою ѡтправовала сꙗ так в набоженстве латинскомъ, ꙗко и в грече|ском, ꙗлмужны[54] по всих шпиталꙗх и ȣбогимъ по ȣлицах жебы даваны были, | студентом ȣбогим жебы ѡбед справленыи был и жебы каждому з них што[55] колвек | дано было, а можна ли если достат, кȣпит могȣт, чотки, то ест коронка на каждого | жебы кȣплены были, жебы смотрꙗчы них прыпоминали собе молити сꙗ за мене. | Челꙗди моеи водлуг тестаменту в Холме[56] писаного, которыи, если добре помню, | ѡтданыи ест ѡт мене до рук его м(и)л(ости) ѡтца еп(иск)опа Пинского. А если бы ѡтданыи не был, | ѡпроч того, што на реестре пры том тестаменте рȣкою моею писанымъ зоставъ|лено бȣдет, каждому за полрока пры том, што ȣже заслужыл, заплачоно быт маетъ. || А если бы не прышло до писанꙗ реестрȣ, порȣчаю то баченю его м(и)л(ости) ѡтца еп(ископа) | Пинского, которыи ведает ꙗко хто и ꙗкъ давно служыл, а на того пилне прошу жебы | ѡсобливыи взгляд был, которыи не ѡтрываючысꙗ служыл и ȣже болшъ служыти не | может, жебы в голоде и в нендзы не кончыл жывот свои. |

Стараючы сꙗ ꙗ жебы их м(и)л(о) стꙗм наступником моим митрополитом в едности с(вꙗ)тои с костелом рымским[57] бȣдȣчым прыбыло доходȣ на слушное выховане, потре|бы и выдатки их, которых есми сам досведчылъ, же под час великие и несподе|ваные нападали, записалом на вечност имене мое дедичное Рȣту[58], в повѣте Новго|родском[59] лежачое, з двема фолварками Тȣпалами[60] и Даниславовичами[61] так

---

[52] *Бернардзінцы* — распаўсюджаная ў Каралеўстве Польскім і ВКЛ назва ордэну *францішканцаў-абсервантаў* (саманазва *Ordo Fratrum Minorum de Observantia*) — каталіцкага манаскага ордэна, які вылучыўся ў асобную арганізацыю намаганнямі францішканіна Бернарда Сіенскага (адсюль і назва) у 1415 г.

[53] *Брацтвы* — рэлігійна-дабрачынныя і культурныя аб'яднанні гарадскога насельніцтва. Руцкі пералічвае пяць каталіцкіх брацтваў, якія знаходзіліся пад пратэктаратам розных ордэнаў, а таксама уніяцкае брацтва, якое дзейнічала на той час у чатырох гарадах: Вільні, Менску, Навагрудку і Уладзіміры-Валынскім.

[54] *Ꙗлмужна* (старабеларуск.) — міласціна.

[55] У дакуменце памылкова *шко*.

[56] *Холм* (польск. *Chełm*) — горад у Рускім ваяводстве Каралеўства Польскага, цэнтр уніяцкай Холмска-Бэлзскай епархіі. Сёння — на тэрыторыі Рэспублікі Польшча.

[57] Г. зн. уніяцкім мітрапалітам.

[58] *Рута* — родавы маёнтак Вельямінаў-Руцкіх. Знаходзіўся на тэрыторыі Наваградскага павета ВКЛ. Сёння — в. Дольная Рута Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

[59] *Наваградскі (Навагрудскі) павет* — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе Наваградскага (Навагрудскага) ваяводства Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVIII стст. У яго межах знаходзіліся гарады Наваградак (Навагрудак) (цэнтр), Клецк, Ляхавічы, Нясвіж, Слуцк і прылеглыя да іх тэрыторыі.

[60] *Тупалы* — вёска на тэрыторыі Наваградскага павета ВКЛ. Сёння — в. Вялікія Тупалы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

[61] *Даніслававічы (Бакееўшчына)* — вёска на тэрыторыі Наваградскага павета ВКЛ. Сёння не існуе.

же з ин|шыми прыкуплꙗми и *з* заставами[62], ꙗко то на листахъ купчых и заставныхъ ѡпи|сано е*ст*, которые и*ж* зоставило*м* в во*л*но*м* шафункꙋ[63] свои*м* до сме*р*ти свое*и* не подавшы | ꙋрꙗдовне на митрополию, тое наступни*к* мо*и* по сме*р*ти мое*и* в посъсесию[64] | свою ꙋрꙗдо*в*не бра*ти* мае*т*. А и*ж* тое жъ име*н*е пре*д* два*д*ца*т*ма лет записалъ есми | бы*л* на монасты*р* Виле*н*ски*и* С(вꙗ)*то*(и) Жывона*ч*(алнои) Тро*и*цы[65], не пꙋщаючы ѡ*д*накъ з де*р*жаня | своего, пото*м* и*ж* з бо*л*шы*м* того монастыра пожы*т*комъ виделосꙗ бысмо так мне, | ꙗко и всему згромаже*н*ю зако*н*ному в Фалимичахъ[66], мае*т*ности еп(и)с(ко)пии Луцкое[67], | на ѡ*н* часъ собраному, ꙋступиломъ монастырови помененому в то*т* же часъ | зара*з* фо*л*варо*к* на митрополию здавна фу*н*дованы*и* Свираны[68]. Мае*т*ности их Сви|ра*н*ско*и* ѡб межꙋ прылеглы*и* де*р*жаня и*м* подало*м*, которо*го* аж до си*х* часо*в* | в де*р*жа*н*ю и в споко*и*но*м* ужыва*н*ю маю*т*, а в замену за то*т* фо*л*варо*к* митропо|ли*и* имъ зара*з* поступлены*и* име*н*е тое Рꙋту, которое бы аж по сме*р*ти мое*и* и*м* | належало, взꙗломъ на митрополию, то е*ст* на наступнико*в* мои*х* митрополи|товъ, на што дало*м* ли*ст* замены пра*в*не спра*в*лены и в Трыбунале Виле*н*ско*м*[69] | в рокꙋ 1635 прызналомꙋ, што те*ж* и ко*н*кгрекгацыꙗ зако*н*наꙗ[70], котораꙗ у ко|ро*т*комъ часе пото*м* в Ви*л*ни ѡ*т*правовала сꙗ, зезволе*н*емъ вси*х* згоднымъ утвер|дила и в фундуш так же призна*н*е имъ на Рꙋту, ѡ*т* мене даное, вернены мне е*ст*, | то*л*ко потреба еще буде*т* ѡ*т* них писма пра*в*ного, на врꙗде прызнана*го*, што е*с*ли се | за жывота мое*го* не стане*т* наступни*к* мо*и*, по сме*р*ти мое*и* буде*т* ли розꙋме*ти* быт | того потребу жебы сꙗ| ꙋчынило постарает сꙗ. То те*ж* наступникови мое*му* неха*и* ве|домо буде*т*, и*ж* ꙗ по записа*н*ю Рꙋты на монасты*р*, ꙗко сꙗ поменило прыкꙋпи|ло*м* два фо*л*ва*р*ки звы*ш* речеdebug ные и на митрополию ѡбадва тые фо*л*ва*р*ки фундꙋ|ючы з милости ку сестре свое*и* ро-

[62] *Застава* (старабеларуск.) — закладное ўладанне.

[63] *Шафунок* (старабеларуск.) — кіраванне, распараджэнне.

[64] *Пасесія* — уладанне (тут ужыта ў вузкім сэнсе — часовае ўладанне).

[65] *Віленскі манастыр Св. Тройцы* быў заснаваны ў другой палове XIV ст. жонкай вялікага князя літоўскага Альгерда Ульянай. У 1596–1609 гг. прыналежнасць манастыра з'яўлялася аб'ектам спрэчак паміж праваслаўнай і уніяцкай іерархіяй. З 1609 г. зрабіўся адным з найгалоўнейшых уніяцкіх цэнтраў у ВКЛ. Першым уніяцкім архімандрытам (1609–1613 гг.) з'яўляўся Іосіф Вельямін-Руцкі. Супрацьстаянне уніяцкага манастыра Св. Тройцы і праваслаўнага манастыра Св. Духа (якія і геаграфічна знаходзіліся насупраць адзін аднога) на працягу амаль двух стагоддзяў увасабляла супрацьстаянне уніяцтва і праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім.

[66] *Фалімічы* — маёнтак у Рускім ваяводстве Каралеўства Польскага. Належаў Луцкім праваслаўным (з 1596 г. уніяцкім) епіскапам. Сёння — в. Фалімічы на тэрыторыі Валынскай вобл. Украіны.

[67] *Луцкая, альбо Луцка-Астрожска, епархія* аб'ядноўвала цэрквы Валынскага і часткова Рускага ваяводства Каралеўства Польскага. Негледзячы на тое што луцкі епіскап Кірыла Цярлецкі быў адным з ініцыятараў заключэння Брэсцкай уніі ў 1596 г., за права валодання Луцкай кафедрай праваслаўныя і уніяты змагаліся цэлае стагоддзе. Канчаткова стала уніяцкай у 1702 г.

[68] *Свіраны* — маёнтак на тэрыторыі Віленскага павета ВКЛ. Знаходзіўся ва ўладанні уніяцкіх мітрапалітаў. І. Вельямін-Руцкі перадаў яго ва ўладанне Віленскаму манастыру Св. Тройцы (гл. спасылку ніжэй). Сёння не існуе, на яго месцы — в. Савічуны (Savičiunai) Вільнюскага р-на Літоўскай Рэспублікі.

[69] *Трыбунал Вялікага Княства Літоўскага* — вышэйшы апеляцыйны суд ВКЛ. Створаны ў 1581 г. Сесіі Трыбунала — кадэнцыі — з 1588 г. адбываліся штогод у Вільні і папераменна праз год у Наваградку і Менску.

[70] 6-я кангрэгацыя базыльянскага ордэна адбылася ў Вільні 21 ліпеня — 3 жніўня 1636 г. На 11-й сесіі (1 жніўня) была пацверджаная замена маёнтка Рута, які Руцкі папярэдне адпісаў Віленскаму манастыру Св. Тройцы, на маёнтак Свіраны. З гэтага часу Рута адыходзіла ва ўладанне уніяцкіх мітрапалітаў — наступнікаў Руцкага. Свіраны аддаваліся манастыру.

жонои панеи Ганне Рутскои Мартиновои Тупалскои[71] | внеслом тры тисѧчы золотых полских на тые фолварки, которꙋю тры тисѧчы | золотых тым писмом ѡстатнее воли моее ствержаю и прыхылѧючы сѧ | до тых записов, которые на тые фолварки ꙋчынены сут такъ мети по смерти моеи, иж || наступник мои митрополита, заехавшы маетност Рꙋту и с тыми фолварками | мает помененои сестре взглѧдомъ трох тисѧчеи золотых записаных, по | трыста золотых полских на каждыи рок до смерти ее давати, а по смерти ее сы|нови ее Адамови Мартиновичу Тꙋпалскому[72] то належати будет, а похочет ли ѡнъ | взѧти тую всю сумꙋ п(е)н(ѧ)зеи тры тисѧчы золотых и на большыи ѧкии пожыток | свои ѡбернути, то повинен будет наступник мои митрополита тую всю сумꙋ | до рук его ѡтдати без жадного запозву и затрудненѧ, а то под зарꙋкою тое ж сꙋ|мы трох тисѧчеи золотых ѡ што позвати емꙋ волно будет настꙋпника моего | до ѧкого бы хотел сꙋдꙋ и права, а тот суд на тых фолваркахъ ѡтправу ꙋчынити мает. А поме|ненаѧ сестра моѧ и потомкове ее так до имени дедичного Руты, ѧко и до фолварковъ ку|пленых и прыкупленых, также и до заставныхъ, и нихто инныи жадного прысту|пꙋ не мает и не бꙋдет мочы вечными часы. Кгдыжъ то все ѡт мене на митро|полию надано ест вечными часы, што и тым ѡстатнее воли мое записом потвержаю. | А если бы сестра моѧ, або хто колвек именем ее за волею и ведомостю ее ѧкую | колвек трудност в том роспораженю моемъ чынити хотела або хотелъ, мѧнуючы | же зречене за посагъ ее ꙋчынено не ест, теды тымо самым тратити мает тот цыншъ[73] | дожывотныи по трыста золотых взглѧдомъ трох тисѧчеи помененых, также и сын | ее Адам если бы ѧ до того ж ѧким колвек способом прывезал ѡтпадати маеть ѡт тых | трох тисѧчеи золотыхъ, ему ѡт мене записаных, а митрополита правом ѡборонит|сѧ и волным зостанет, то ест же ее, сестрꙋ мою, дошол зꙋполна посагъ не толко во|длуг тестаментꙋ ѡтца моего, которыи пры иншыхъ справахъ на имене Рꙋты и што | колвек до нее належыт, ест в заведываню ꙋ иконома[74] митрополего ѡтца Евста|хиѧ Пешковского[75], але и добре болшъ того и взглѧдом того посагу, взѧтого ѡт нее, | записано ест еи ѡт малжонка ее п(а)на Мартина Тупалского имене Петрыковичы[76], в повѣте | Минскомъ[77] лежачое, выимуючы в третюю част имен своих, которые тот пан Тꙋпалскии, | муж ее, на розных местцах на ѡн часъ мел, и ѡна, сестра моѧ, тым именемъ Пе|трыковичами диспоновала[78], записавшы правными записами так с(ы)нови, ѧко и | дочкам своим певные сумы п(е)н(ѧ)зеи, внесъшы их на тое жъ имене свое Петрыковичы | и четвертаѧ част Рꙋты, с которое водлуг права еи и другои сестре

[71] *Вельямінаўна-Руцкая Ганна* — родная сястра мітрапаліта Іосіфа. Выйшла замуж за ўладальніка суседняга з Рутай маёнтка Тупалы шляхціца Марціна Тупальскага.

[72] *Тупальскі Адам Марцінавіч* — пляменнік мітрапаліта Іосіфа, сын яго сястры Ганны.

[73] *Цынш (чынш)* (ад лацінск. *census* — перапіс) — грашовая рэнта, адна з асноўных форм феадальнай зямельнай рэнты — аброку.

[74] *Иконом (економ)* — аканом, упраўляючы маёнткам.

[75] Асоба не ідэнтыфікавана.

[76] *Петрыкавічы* — маёнтак на тэрыторыі Наваградскага павета ВКЛ. Сёння — в. Петрыкі Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

[77] *Менскі (Мінскі) павет* — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе Менскага (Мінскага) ваяводства Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVIII стст. У яго межах знаходзіліся г. Менск (Мінск) (цэнтр), мястэчкі Івянец, Ігумен, Койданава, Лагойск, Плешчаніцы, Свіслач і інш. і прылеглыя да іх тэрыторыі. Мітрапаліт дапусціў апіску: Петрыкавічы знаходзіліся на тэрыторыі Наваградскага павета, побач з маёнткам Рута.

[78] *Диспоновать* (старабеларуск.) (ад лацінск. *dispono* расстаўляць, размяшчаць) — распараджацца.

моеи и ее рожонои | п(а)неи Настазыи Рутскои Василевои Юражынои[79] посаг и выправа быти мела не выно|сит так мною, ꙗкъ тые ѡбедве сестры посагу взꙗли, рахуючы Рȣту, ꙗко ее ѡтец | наш держалъ и мне зоставилъ. А прыкупли мои сут до которых жаднаꙗ сестра | права не мает и длꙗ того старшаꙗ сестра, помененаꙗ Настазыꙗ, зречене ȣчынила. | А што тепер тымъ писмом моим ест и с(ы)нови еи записую то не за посагъ, а ни з жа|дное повинности, але з милости своеи кȣ неи и с(ы)нови ее записую. И то так сꙗ розумети мает, || если за жывота своего еи або с(ы)нови ее тое сумы п(е)н(ꙗ)зеи не ѡтдам и квитацы | ѡт него або ѡт нее не ѡдержȣ зараз теды по смерти моеи имене Рȣту и с фолвар|ками также и со всим тымъ, што до нее належыт, заехат мает д(у)ховенство нашое | Новгородское. Если бы его м(и)л(ост)ѡтецъ еп(и)с(ко)пъ Пинскии, коадютор митрополии, при|быти так прудко не моглъ и держати до прыездȣ его, а скоро прыедет, емȣ по|дати мает, чого жебы досмотрел ѡтецъ икономъ звыш реченыи, пильне прошу. | А з возным[80] заехавшы до книгъ[81] зараз же подат. |

В маетностꙗх митрополих за консенсом[82] королꙗ Его М(и)л(ости) ȣчынилом такое спорꙗжене | видꙗчы ꙗ иж именье Шешолы[83] ѡт славное памꙗти кнꙗзꙗ Константина Ива|новича Ѡстрогского[84] на митрополию фундованое за антецессоров[85] моих митро|политовъ, впрод Девочки[86], а потом Рагозы[87] за недозоромъ або незычливости | тых, которым то порȣчено было так в розерванье прышло под покрывкою ро|вного делȣ з иными ȣчастниками того именꙗ, же дробными шматками ми|трополите досталосꙗ, и далеко ѡдин шмат ѡт другого на колконадцат мил и в ро|зных поветех, где подчас болшъ росходȣ было нижъ прыходȣ, боронечы ѡт | жолнеров и правом з суседми чынꙗчы, продалъ есми тые шматки розным | ѡсобом стану шлꙗхецкого, што кому прылегло было на вечност и взꙗл есми | сумму пꙗтдесꙗт тисꙗчеи золотых польских, которȣю всю помененую сумму | далъ есми его м(и)л(о)сти Крыштофови Ходкевичови[88], каштеллꙗнови на | ѡнъ час троцкому на имене его м(и)л(ости) Турец[89] в повѣте Новгородском лежачое певным | контрактомъ, ꙗко то на листех ѡт его

[79] *Вельямінаўна-Руцкая Анастасся* — родная сястра мітрапаліта Іосіфа. Выйшла замуж за шляхціца Васіля Юрагу.

[80] *Возны* — судовы выканаўца.

[81] *Подат до книг* — занесці ў актавыя кнігі земскага альбо гродскага судоў (так званы працэс *актыкацыі* — надання дакументу юрыдычнай сілы). Дадзены тастамент быў актыкаваны 7 красавіка 1637 г. у Наваградскім гродскім судзе. Але арыгіналы актавых кніг Наваградскага гродскага суда за 1637 г. не захаваліся.

[82] *Консенс* (старабеларуск.) (ад лацінск. *consensio* — згода, адзінадумства) — дазвол, згода.

[83] *Шашолы* — маёнтак у Віленскім павеце ВКЛ. У 1522 г. падараванае князем Канстанцінам Астрожскім (гл. спасылку вышэй) праваслаўным кіеўскім мітрапалітам. Сёння — м. Шашолы (Šešuolai) Укмергскага р-на Літоўскай Рэспублікі.

[84] *Астрожскі Канстанцін Іванавіч* (1460–11.09.1530) — князь, брацлаўскі і вінніцкі староста, троцкі ваявода, вялікі літоўскі гетман (1497–1530). Апякун праваслаўнай царквы ў ВКЛ.

[85] *Антецессор* (старабеларуск.) (ад лацінск. *antecedo* ісці наперадзе) — папярэднік.

[86] *Дзявочка Анісіфар* (? — 1592 (1594?) — кіеўскі мітрапаліт (1579–1589). У 1589 г. канстанцінопальскі патрыярх Ерамія ІІ адхіліў яго ад пасады за амаральны лад жыцця.

[87] *Рагоза Міхал* (? — 1599) — кіеўскі мітрапаліт (1589–1599). У 1596 г. падпісаў акт Брэсцкай уніі.

[88] *Хадкевіч Крыштоф* (? — 03.10.1652) — вялікі харужы ВКЛ (1611–1623), канюшы ВКЛ (1623–1633), троцкі (1633–1636) і віленскі (1636–1642) кашталян, віленскі ваявода (1642–1652), гарадзенскі, бабруйскі і крэўскі староста, беліцкі і вішнеўскі дзяржаўца.

[89] *Турэц* — мястэчка ў Наваградскім павеце ВКЛ. Сёння — в. Турэц Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

м(и)л(ости) мне даныхъ и признаныхъ ѡпи|сано е*ст*, за которꙋю суму жебы мае*т*но*ст* ꙗкаꙗ вкупе на митрополию ку|плена была, мети хочу што жебы тымъ лацне*и* до скут-ку прышло еѯекꙋ|то*р*ми[90] тое справы мꙗнную и жебы длꙗ милости Божое того сꙗ не зб|ронꙗли пилне прошу и*х* м(и)л(о)сте*и* п(а)новъ превелебно*го* в Бозе его м(и)л(ост) ѯендза | Ю*р*ꙗ Ти*ш*кевича[91], бискупа Жомо*и*тско*го,* и е*го* м(и)*л*(ост) ѡ*т*ца А*н*тониꙗ Селꙗвꙋ[92], а*р*хие|п(и)с(ко)па Поло*ц*кого, а з стану свецко*го* ве*л*мо*ж*ного его м(и)л(ост) п(а)на Миколаꙗ Трызнꙋ[93], | по*д*ска*р*бего зе*м*ского[94] Ве*л*(икого) Князства Ли*т*(овского), которы*х* и*х* м(и)л(о)сте*и* и повторе ꙋни|жене прошу жебы наступнику моему митрополиту помочными бы*т* ра|чыли ꙗко бы таꙗ сума ѡ*т* его м(и)л(ости) п(а)на (каштеляна) виле*н*ского[95] всꙗ сполна ѡдыскана | была, а за нее способомъ звышъ писанымъ име*не* на митрополию куплено. | А и*ж* фу*н*дато*р*[96] того именꙗ Шешо*л* вложы*л* тежа*р* на митрополиту, жебы | пры це*р*кви собо*р*(нои) Виле*н*ско*и* Пречыстое Б(огороди)цы[97] ховали[98] дву*х* с(вꙗ)ще*н*никовъ и пры ни*х* диꙗкона, ꙗко то шыре*и* в фу*н*дꙋшу та*к* лати*н*скомъ, ꙗко и рꙋско*м,* | которые в монастыры Виле*н*скомъ С(вꙗ)тое Жывона*ч*(алное) Тро*и*цы в схова*н*ю су*т* опи|сано е*ст*, што хотꙗ ж ѡ*т* давны*х* часовъ ховано не было, ѡднак же жебы на | су*м*не*н*ю моимъ то не зоставало наступника моего митрополита пильне прошу || жебы с ты*х* петидесꙗ*ти* тисꙗче*и* золоты*х* то, што ѡт десꙗ*ти* тисꙗче*и* пожы*т*ку | прыходити буде*т* абы зъ име*н*ꙗ купленого доходовъ с пꙗтое части два с(вꙗ)ще*н*|ники, трети*и* диꙗко*н*, ꙋставни*к*[99] и панама*р* пры це*р*кви собо*р*но*и* Виле*н*ско*и* ховани были | та*к* же школа рꙋскаꙗ пры це*р*кви собо*р*но*и* жебы была и страва ѡбмышлена была | на двух клирыковъ руски*х*, которые бы до шко*л* ходи*ли* и ꙋчылисꙗ ꙗзыка лати*н*ского | и и*н*-шыхъ наꙋкъ, але жебы пе*р*ве*и* речы рꙋские умели, то е*ст* речы це*р*ковные, с(вꙗ)тымъ | ѡбовꙗзко*м*, жебы на ста*н* духо*в*ны*и* пос(вꙗ)ти*в*шысꙗ на ме*ст*ца и*н*ны*х* та*к* диꙗконо*в*, ꙗко и | с(вꙗ)щеннико*в* це*р*кви собо*р*ное Виле*н*ское наступова*ли* любо то давны*х*, которы*х* на то*т* часъ | е*ст* чотыры и мают опатренꙗ свои, любо на фундацыю мою теперешнюю. А зычу то*го* | ве*л*це жебы тые с(вꙗ)ще*н*ницы и диꙗко*н*, а поготовю клирыки, которы*х* ꙗ фу*н*дꙋю а мо*ж*|на ли ꙋста*в*ни*к* и панама*р* безже*н*ными были и сто*л* ѡбщы*и* мели, та*к*же и мешъ|ка*не* длꙗ ни*х* жебы збꙋдованое было або ве дворе митрополи*м* пры це*р*кви

[90] *Еѯекутор (экзекутар)* — душапрыказчык.

[91] *Тышкевіч Юры* (? — 1656) — жамойцкі каталіцкі епіскап. З 1649 г. віленскі каталіцкі епіскап.

[92] *Сялява Антоній* (свецкае імя Анастасій) (1583(?)–1655) — уніяцкі царкоўны дзеяч. З 1622 г. архімандрыт манастыроў: Св. Тройцы ў Вільні, у Навагрудку і Жыдзічыне. З 1624 г. полацкі архіепіскап. З 1639 г. генеральны вікарый Кіеўскай мітраполіі. У 1641–1655 гг. мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і усёй Русі. У дакуменце памылкова — *Селявы*.

[93] *Трызна Мікалай Рыгоравіч* (? — 10.10.1640) — з 1608 г. слонімскі падкаморы. У 1623–1635 гг. кухмістр ВКЛ. У 1635–1640 гг. земскі падскарбі ВКЛ.

[94] *Земскі падскарбі* — службовая асоба ў ВКЛ. У абавязкі ўваходзіла вядзенне ўліку крыніц дзяржаўных даходаў, збор і выдаткаванне дзяржаўнага скарбу, эмісія манет, прызначэнне мытнікаў і зборшчыкаў падаткаў, правядзенне рэвізій. З’яўляўся членам Сената Рэчы Паспалітай.

[95] Маецца на ўвазе той жа *Крыштоф Хадкевіч* (гл. спасылку вышэй), які ў 1636 г. з’яўляўся ўжо віленскім кашталянам.

[96] *Фундатар* — асоба, якая ахвяруе маёмасць на карысць установы (як правіла, духоўнай — царквы, манастыра, касцёла і г. д.). Пад фундатарам тут маецца на ўвазе князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі.

[97] *Віленскі сабор Успення Багародзіцы* быў заснаваны паводле фундуша князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага ў 1522 г., які запісаў на яго ўтрыманне маёнтак Шашолы (гл. спасылку вышэй). Пры саборы знаходзіўся двор (рэзідэнцыя) кіеўскіх мітрапалітаў.

[98] Тут у сэнсе — *утрымлівалі*.

[99] *Уставник* (старабеларуск.) — царкоўны служка (дзячок альбо панамар).

С(вѧ)тое Б(огороди)цы | або напротивко церкви и двора на кгрунтахъ церковныхъ заплатившы будованѧ тым, | што сѧ на тых кгрунтах церковных побудовали, до того село Жеремец[100] на тую *ж* церковъ | С(вѧ)тое Пречыстое фундованое а ѡт мене коштом моимъ часовъ недавных ѡдысканое, въ повѣте Ѡршанскомъ[101] лежачое, належати будет также и даток вечныи зъ именьѧ Здете|ли[102], в повѣте Слонимском[103] лежачого, ѡт кн(ѧ)зеи их м(и)л(о)стеи Ѡстрогских[104] фундованаго и знову ѡтнѧ|того, што часовъ недавных правом ѡдыскалом и ѹже ѡт колку лет ѡт держачого того именѧ | тот доход идет, а на тот часъ ѡт мене с(вѧ)щенникови спаскому, которыи пры церкви соборнои | ве дворе митрополим мешкает на диѧка до далшого спорѧженѧ позволеныи ест. Наконец | част именѧ Шешолского фолварок Антакгребосты[105] названыи, где двор митрополи, до кото|рого вси тые частки ѡт мене проданые належали, стоит и пашнѧ дворнаѧ, ѧкую митрополи|та в том именю Шешолском мелъ зъ сеножатми и селцами прылеглыми тому дворови | въ ѡбрубе певном бѹдучыми ѧко то в листе коммисарскомъ ѡписано и ѡграничоно естъ, | а мѧновите селце Серкгутаны, а другое Бернутаны, Милюнишки, Кгалюнишки, Вимонты и Ви|монтеле[106] влок ѡселых и пустых трыдцат семъ, с которых подданых идет цыншу копъ[107] трыд|цат чотыры и гр(ошы) 24, дѧкло[108] жытом, ѡвсом, куры, гуси, ѧица, сено, дрова и робота водлуг | ѹставы ѡт мене даное, што на тот часъ в заставе было ѹ п(а)на Веиштера[109] и ѹ п(а)на Качанов|ского[110], а позволено ест ѡт мене выкупити слузе моему п(а)ну Адамови Козминскому[111], кото|рому если позволене будет на дожывоте ѡт ѡтца с(вѧ)того пры тому дожывотю зостават будет | а по жывоте его сума трохъ тисѧчеи золотых, в которых тот фолварок ѡт мене ѡсобом | помененым заставленыи

---

[100] *Жарамец* — маёнтак у Менскім павеце ВКЛ (сёння на тэрыторыі Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.) Належаў князям Друцкім-Горскім. З 1506 г. — ва ўласнасці кіеўскіх праваслаўных (з 1596 г. уніяцкіх) мітрапалітаў.

[101] *Аршанскі павет* — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе Віцебскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVIII стст. У яго межах знаходзіліся гарады Орша (цэнтр), Магілёў, Барысаў, мястэчкі Быхаў, Бялынічы, Друцк, Дуброўна, Лукомль, Шклоў і інш. і прылеглыя да іх тэрыторыі. Мітрапаліт дапусціў апіску: Жарамец знаходзіўся на тэрыторыі Менскага павета.

[102] *Здзяцел* — мястэчка ў Слонімскім павеце ВКЛ. Сёння — г. Дзятлава, раённы цэнтр Гродзенскай вобл.

[103] *Слонімскі павет* — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе Навагрудскага (Наваградскага) ваяводства Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVIII стст. У яго межах знаходзіліся г. Слонім (цэнтр), мястэчкі Азярніца, Здзяцел, Івацэвічы, Косава, Моўчадзь, Ражаны і інш. і прылеглыя да іх тэрыторыі.

[104] *Астрожскія* — буйны княжацкі род. Апекуны праваслаўнай царквы ў ВКЛ. Найбольш вядомыя прадстаўнікі: Канстанцін Іванавіч (1460–1530), віленскі кашталян з 1511, троцкі ваявода з 1522, ахвяраваў праваслаўнай царкве шматлікія маёнткі, у тым ліку Шашолы і Свіраны (гл. спасылкі вышэй); Канстанцін Канстанцінавіч (1527–1608), заснавальнік Астрожскай праваслаўнай друкарні, праваслаўных школ у Тураве і Слуцку, праціўнік уніяцтва, свецкі патрон і, фактычна, кіраўнік усёй праваслаўнай супольнасці ВКЛ і Каралеўства Польскага.

[105] Сёння гэты населены пункт не існуе. Тэрыторыі, на якіх ён знаходзіўся, уваходзяць у склад Укмергскага р-на Літоўскай Рэспублікі.

[106] Наконт пералічаных населеных пунктаў гл. папярэднюю спасылку.

[107] *Капа* (старабеларуск. *копа*) — адзінка ліку ў Вялікім княстве Літоўскім. Раўнялася 60 штукам.

[108] Прадуктовая рэнта за зямельны надзел.

[109] Асоба не ідэнтыфікавана.

[110] Тое ж самае.

[111] Тое ж самае.

е*ст* с тое *ж* фу*н*дацыи моее теперешнее жоне и дете*м* его ѡ*т*дана | бы*ти* мае*т* и та*к* то*т* фо*л*варо*к* со всими прыналежностꙗми своими пры ты*х* служыте|ле*х* це*р*кви собо*р*ное Виле*н*ское ѡ*т* мене тепе*р* ново фу*н*дованы*х* вечными часы зоста|ва*ти* мае*т,* а жебы то порꙗ*д*не шло дозо*р* и*х* м(и)л(ос)тꙗмъ наступнико*м* мои*м* митрополи|то*м* належати буде*т*. До тое *ж* новое фу*н*дацыи моее належати мае*т* и фундацыꙗ кнꙗ|зе*и* Пи*н*ских сорока куницъ зъ села Вида[112] на церковъ собо*р*ную Виленскую С(вꙗ)тое Б(огороди)цы, ѡ*т* ни*х* || фу*н*дованаꙗ. Которы*и* фу*н*ду*ш* и ко*н*фи*р*мацыꙗ е*го* межы справами митрополими е*ст* | старале*м* сꙗ ꙋ кнꙗжати Збара*ж*ско*го*[113], старосты[114] Пи*н*ского, жебы добрыми способа*ми* | бе*з* права доси*т* ꙋчыни*л*, до чого зда*л* сꙗ бы*т* скло*н*ны*м* и икономъ его, але поме*р*ли ѡни | и ничого сꙗ не стало, потреба буде*т* проси*ти* теперешне*го* п(а)на старосты, хотꙗ *ж* бы и | ꙋпевни*ти* его же до жывота своего зажыва*ти* того буде*т*, ѡ што все их м(и)л(о)сте*и* вы|ше*и* помененых а мои*х* ве*л*це м(и)л(о)стивы*х* п(а)но*в*, которыхъ и милости кꙋ хвале Божо*и* | и ласце ку собе добре*м* е*ст* ведо*м* ꙋнижене прошу жебы за стара*н*емъ и помочъю | и*х* м(и)л(о)сте*и* до скутку прышло ѡ*т* п(а)на Бога в нинешне*м* и в прышло*м* веце певнаꙗ, а | неѡмы*л*наꙗ заплата буде*т*, а ꙋ веко*в* пото*м*ны*х* ве*ч*наꙗ слава, а ты*м* бо*л*шаꙗ, иж спра|вы це*р*кви н(а)шое Рꙋское ѡ*т* стано*в* бо*л*шы*х* або жа*д*ное помочы не мают*,* або мало ꙗкую, | а пред сꙗ ѡ*д*на то Божаꙗ це*р*ков и за тые дꙋшы таꙗ ж на*и*доро*ж*шаꙗ кровъ Х(ристо)ва вы|лꙗна е*ст* и длꙗ то*го* великую заслугꙋ мае*т* ꙋ п(а)на Б(ог)а, которы*и* коло нее працꙋе*т* имъ | бо*л*шъ ѡпꙋщона и занедбана е*ст* мало не ѡ*т* всих*.*

Мае*т*но*ст*, которую продають | и добры*и* з нее пожыто*к* может быт ведома е*ст* его м(и)л(ости) ѡ*т*цу а*р*хиеп(и)с*к*(о)пови По|лоцкому, е*ст* тежъ и такѡи, которы*и* хоче*т* дати гроше*и* иле досыть буде*т* на вечно*ст* | только бы мелъ варꙋно*к* на выде*р*женье тое сумы, только *ж* же таꙗ мае*т*ность | тепе*р* в заставе и мои те*ж* п(е)н(ꙗ) зи до дву*х* ле*т* даны су*т*, то е*ст* до 1638 року его | м(и)л(ости) п(а)ну Виле*н*скому. |

Речы рухомые, кони, возы, золото, серебро, цына[115], медь, грошы если ꙗкие буду*т* ѡбликги[116] | и все тое, што сꙗ рꙋхомою ре*ч*ю названо бы*т* може*т*, все тое икономъ з ста*р*шымъ слугою | наступникови моему довоа*т* и ему ѡ*т*да*т* мае*т*, до *ч*о*го* жаде*н* с кро*в*ны*х* и блискихъ | права жадно*го* не маеть и ме*ти* не може*т*. Кгды ж ꙋсе тое за доходы це*р*ковное спра|вовано е*ст*, сребра, што е*ст* на келихи, на ѡправу Ева*н*гелии и на и*н*шые сосуды це*р*|ковные, та*к*же на рыпиды[117], которы*х* серебрены*х* не*т* тепе*р*, и на кади*л*ницу подоро|жнюю, а все тое в рызницы митрополе*и* до ꙋжыва*н*ꙗ на ме*ст*цꙋ и по дорогахъ | застава*т* мае*т*. Ѡ до*л*га*х* моих ѡте*ц* иконо*м* мо*и* добре ведае*т*, што пи*л*не | прошу жебы впере*д* вси*х* выда*т*ковъ заплачоно было на ꙋвольнене д(у)шы моее и кгды *ж* то до тыхъ же петидесꙗ*т* тисꙗче*и* золотыхъ в дохо*д* вечны*и* митрополито*м* прыло|жоно е*ст* и то если бымъ са*м* за жывота своего того не заплати*л*, ѡ што сꙗ стара*т*. | П(а)ну Миколаю Бокееви[118] сто копъ ѡ*т*дана бы*т* мае*т*, если я ее не ѡ*т*да*м*, хотꙗ*ж* не

---

112 Значэнне выраза і геаграфічная прывязка населенага пункта не ўстаноўлены.

113 *Збаражскі Юры* (? — 1631) — князь, кракаўскі кашталян, пінскі, сакальскі, жарнавецкі і вісліцкі староста. Выначаўся пабожнасцю, рабіў ахвяраванні на многія касцёлы і кляштары. І. Вельямін-Руцкі вёў з ім перамовы аб наданні фундушоў на патрэбы уніяцкай мітраполіі.

114 *Староста* — службовая асоба, якая трымала ў часовым уладанні буйны дзяржаўны маёнтак — староства.

115 *Цына* (старабеларуск.) — волава.

116 *Ѡбликг* (старабеларуск.) — распіска, абавязацельства.

117 *Рыпида (рипида)* — атрыбут набажэнства, у якім бярэ ўдзел архірэй (мітрапаліт, архіепіскап, епіскап). Уяўляе з сябе махала з выявай серафіма. Сімвалізуе анёльскія сілы.

118 *Бакей (Бакей-Данiслававiцкi) Мікалай* — шляхціц, які валодаў суседнім з Рутай маёнткам Даніслававічамі.

розумею жебым ему винен былъ, бомъ и справы продажы его именя его | Даниславовичъ[119] самъ през себе з затрудненемъ слабыхъ ѡчу своих перегледалъ, | сѹседови моему Иванови Куцевичови[120], которого две части именеиица его Куцовичъ[121] | п (а) ну Каспору Керсновскому[122], подсудкови[123] Новгородскому, заставлено было, а за позволенемъ | дедича[124] самого ѡт мене выкуплено ест, также и третее части его некоторые нивки, такъ || в моим держаню яко кѹ подданых моих сут прошу пилно жебы с тежаром д(у)шы моее | не было, кгды ж то ѹже не на моеи дѹшы, але на того, которыи то держати будет, | зостанет то певна иж до ѡсмидесятъ копъ заставы за што ми подданые по ѡсми | копъ на рок давали, прыдалом двадцат копъ, иншое давано ему на листки его, кото|рые сут ѹ ѡтца иконома, але не до всего ѡн знает ся, высадит бы приятеля штомъ | ня хотел, а заплатит ему вечност, а заплатившы пред се дати емѹ вольное на томъ | мешкане, на чом тепер мешкает, до смерти его, а то для того, жебы по ним не влезъ | хто неспокоины выматок тои, с чого бы трудност могла быт. П(а)номъ Ӣнухновичом[125] | прошу жебы дано сто золотых полских взглядом того, же родичы мои ѡт них дер|жали заставою сеножать, которую и я чотыры лета держал, и то на ѹволненье | д(у)шы моее и если то не будет досит чыненемъ, нех будет ялмужною. А ѡгулом взгля|дом маетности если бы ся заставами якими не слушными або яким колвек иншымъ | способом крывда кому стала, вси тые маетности, также грошы, которые побраломъ | за заставы, в досит учынене за то ѡтдалом част на митрополию, а част на монастыр | Виленскии и кѹпилом каменицѹ[126]. А въ ѡстатку нехаи ми пан Бог будет м(и)л(о)стивъ и ближние | мои еслим кого скрывдил або выступил противъ кому, жебы тежъ и имъ пан Богъ был | милостивымъ.

Писано в Рѹте все рѹкою моею властною. До чого пры печати моеи | и рѹку свою подписаломъ, просившы и иншых их м(и)л(о)стеи п(а)новъ приятелъ моихъ | ѡ прыложене печатеи и ѡ подписъ рук, которыхъ имена на подписах мянованы суть. | Лета от нарож(еня) С(ы)на Б(о)жого 1636 м(еся)ца ѡктебра 20 дня. | Іѡсифъ Вельямин Рутскии, митрополита | Киевскии и Всея Рѹси. (…)[127]

*Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.*
*Ф. 531. Воп. 1. Спр. 161. Арк. 955–958 адв.*

---

[119] *Даніслававічы* — родавы маёнтак Бакеяў, якія называліся Бакеямі-Даніслававіцкімі. Пасля набыцця Іосіфам Вельямінам-Руцкім гэтага маёнтка ён зрабіўся фальваркам у складзе маёнтка Рута. Сёння населены пункт з такой назвай не існуе.

[120] *Куцэвіч (Куцэвіч-Руцкі) Іван* — шляхціц, які валодаў суседнім з Рутай маёнткам Куцавічамі.

[121] *Куцовічы* — маёнтак у Навагрудскім павеце Належаў шляхціцам Куцэвічам. Сёння — в. Куцэвічы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

[122] *Кярсноўскі Каспар* (? — 1592) — падсудак Наваградскага земскага суда. Уладальнік маёнтка Гарадзея (?) у Наваградскім павеце.

[123] *Подсудок* (старабеларуск.) — судовая пасада, памочнік суддзі.

[124] *Дедич* (старабеларуск.) — спадчынны ўладальнік.

[125] *Янухновічы (Янухновічы-Руціцкія)* — шляхецкі род з Наваградчыны. Валодалі землямі побач з родавым маёнткам Вельямінаў Рутай (напрыклад, фальваркам Бабнева, які пазней быў таксама далучаны да ўладанняў уніяцкіх мітрапалітаў).

[126] *Каменица (камяніца)* (старабеларуск.) — каменны будынак.

[127] Фрагмент з подпісамі адсутнічае.

# БРАТЫ ЯНУШКЕВІЧЫ І ТАВЯНІЗМ: СКЛАДАНЫЯ ШЛЯХІ ВЯЛІКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

Жыццё і дзейнасць за межамі радзімы ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. усё часцей у апошні час трапляе ў поле ўвагі беларускіх даследчыкаў, і гэта невыпадкова. Практычна забытая ў савецкі час эміграцыя з Беларусі XIX ст. уяўляе практычна бязмежнае поле для даследаванняў, асабліва калі прыняць пад увагу, што ў яе складзе апынуўся самы вядомы польскамоўны паэт усіх часоў — Адам Міцкевіч.

Хваля эміграцыі з зямель былой Рэчы Паспалітай пасля паўстання 1830–1831 гг. не была першай. Кожны з яе падзелаў, затым паражэнне Напалеона I у 1812 г. таксама як вынік выклікалі эміграцыю пэўнай колькасці ўраджэнцаў Беларусі і Літвы. Аднак *пасьлялістападаўская хваля* вылучалася шэрагам паказчыкаў сярод іншых. Па-першае, яна была найбольш шматкольказнай — радзіму пакінула ад 8 да 10 тыс. былых паўстанцаў, з якіх 1500–1700 чал. паходзілі з беларуска-літоўскіх губерняў (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская). Па-другое, яна была вельмі прадстаўнічай — у яе шэрагах апынуліся дэпутаты паўстанцкага Сейма і сябры Нацыянальнага ўрада, прадстаўнікі буйных магнацкіх і заможных шляхецкіх родаў, вядомыя дзеячы культуры, навукі і мастацтва і да т. п. Апрача таго, эмігранты вылучаліся сваёй актыўнасцю — імі былі створаны дзесяткі арганізацый з самымі рознымі мэтамі, выдадзены сотні перыядычных выданняў, літаратурных твораў і навуковых прац. Усё стала падставай для таго, што гісторыкамі гэтая хваля была названая *Вялікай эміграцыяй*.

З самага пачатку эміграцыі сярод былых паўстанцаў адбыўся раскол паводле прыкметы палітычных схільнасцяў. Гэты падзел быў закладзены яшчэ ў час паўстання, але не мог быць канчаткова аформлены з-за неабходнасці сумеснага вядзення барацьбы супраць расійскіх уладаў. У эміграцыі ж нішто не перашкаджала выкрышталізацыі супярэчнасцяў паміж асобамі з рознымі палітычнымі поглядамі. У выніку сярод эмігрантаў утварыліся два вялікія лагеры: дэмакратычны і кансерватыўны (арыстакратычны, манархічны, Атэль Ламбэр). Прадстаўнікі кожнага з іх вінавацілі сваіх апанентаў у паражэнні паўстання, вялі актыўную прапаганду, арганізоўвалі выпуск перыядычнай прэсы з мэтай зрабіць як мага большы ўплыў на сваіх суайчыннікаў і такім чынам павялічыць свой патэнцыял[1]. Але ніводная з эміграцыйных з'яў не выклікала такой вялікай увагі і не была так востра крытыкаваная як тавянізм і яго стваральнік Андрэй Тавянскі.

* * *

Андрэй Тамаш Міхал Караль Тавянскі (21.12.1798 ці 01.01.1799, маёнтак Анташвінец Віленскай губ. (пасля 1921 г. — у Літоўскай дзяржаве) — 13 траўня 1878 г., Швейцарыя), сын Якуба, памешчыка і чыноўніка, пісара Віленскага земскага суда, і Ізабэлы Памарнацкай, у канцы 1830-х гг. распрацаваў уласнае філасофска-сацыяльнае вучэнне ў межах каталіцтва, якое вылучалася містыцызмам і маральнасцю. У агульных рысах вядомы рэлігійны дзеяч Зыгмунт Шчэнсны Фялінскі акрэсліваў яго наступнымі словамі: *«Польшча атрымала высокае прызначэнне ў сям'і хрысціянскіх народаў, але адышла ад яго, страціўшы хрысціянскі дух, з-за чаго сышла з наканаваных ёй Вышэйшай воляй гістарычных дарог. Як кару за нявернасць Бог аддаў яе ў ярмо няволі, якое не скінуць*

[1] Гл.: Kalembka S. Wielka Emigracja. 1831–1863. Wyd. II. Toruń: Wydawnictwo Adam Marszałek, 2003. 434 s.; Gadon L. Emigracja polska. Pierwsze lata po upadku powstania listopadowego. T. 1–3. Kraków, 1901–1902; і інш.

*аніякія яе адчайныя кіданні, пакуль не апаматаецца, не папросіць прабачэння ў Бога і не вернецца на пакінутыя шляхі свайго нацыянальнага прызначэння»*[2].

У 1840 г. Тавянскі пакінуў Літву і праз Познань прыбыў у Парыж. Тут ён пачаў распаўсюджваць свае ідэі сярод эмігрантаў. Адным з першых і самым аўтарытэтным чалавекам, якога яму ўдалося далучыць да сваёй справы, быў А. Міцкевіч. Менавіта дзякуючы гэтаму сярод яго прыхільнікаў у далейшым была вялікая колькасць ураджэнцаў беларуска-літоўскіх зямель — Стэфан Зан (брат Тамаша), Фелікс Уратноўскі, Рамуальд Гедройц, браты Яўстах і Рамуальд Янушкевічы і інш. Свае асноўныя ідэі А. Тавянскі публічна абвясціў 27 верасня 1841 г. на набажэнстве ў саборы Парыжскай Божай Маці, а затым у сваёй брашуры *«Размова»* (пол. *«Biesiada»*).

У 1842 г. са сваіх прыхільнікаў Тавянскі заснаваў у Парыжы Кола Божай Справы. Структурна яно падзялілася на *сямёркі*, на чале кожнай з іх стаяў *вартаўнік* (*stróż*). Усе прыхільнікі тавянізму называлі адзін аднаго *братам* ці *сёстрой* (у залежнасці ад полу) і маглі збірацца як асобнымі сямёркамі, так і ўсе разам. У 1842 г. французскія ўлады выдалі распараджэнне аб выдаленні Тавянскага з тэрыторыі Францыі. Кароткі час ён жыў у Брусэлі, а затым перабраўся ў Швейцарыю, адкуль кіраваў Колам. Яго намеснікам у Парыжы застаўся А. Міцкевіч. З таго часу тавянчыкі пачалі называць Тавянскага *Майстрам*, а яго вучэнне *Справай*. З цягам часу дэспатычны спосаб кіравання Колам пачаў выклікаць у яго сяброў незавальненне. У выніку 21 траўня 1846 г. у ім адбыўся раскол. Група з больш чым дваццаці сяброў на чале з Міцкевічам напісала лісты кожны асобна да Тавянскага, у якіх абвясцілі сваё непадпарадкаванне яму, а 30 лістапада гэтага ж года яны сабраліся ў месцы жыхарства Міцкевіча, дзе падпісалі *Акт заснавання асобнага Кола*. Пераважную большасць гэтай групы складалі ўраджэнцы беларуска-літоўскіх зямель, сярод якіх бясспрэчным аўтарытэтам генія і настаўніка карыстаўся Міцкевіч. Яе апошняе пасяджэнне адбылося ў сярэдзіне снежня 1847 г. Група прыхільнікаў Тавянскага заставалася аддана *Майстру* да канца жыцця, але не мела ўжо ўплыву на эміграцыю і рэзанансу сярод яе[3].

* * *

Янушкевічы (Мерла-Янушкевічы) (Januszkiewicz ці Merło-Januszkiewicz) герба *«Любіч»* — небагатыя шляхецкі род Мінскай губерніі Міхал (нар. 26.01.1772, хр. у Пружанскім касцёле — пам. 14.02.1826, маёнт. Дзягільна Мінскага пав.) — сын Тамаша (нар. 28.02.1733) Янушкевіч служыў генеральным рахункаводам валоданняў князёў Міхала, віленскага ваяводы, і Дамініка, падкаморага літоўскага, Радзівілаў. 14 ліпеня 1794 г. ад Тадэвуша Касцюшкі ён атрымаў патэнт на чын падпалкоўніка войскаў Рэчы Паспалітай. 23 снежня 1802 г. у Віленскім дваранскім дэпутацкім сходзе (далей — ДДС) ён атрымаў прызнанне ў правах расійскага дваранства. На пачатку XIX ст. ён ажаніўся з Тэкляй Сакалоўскай (каля 1788 — 11/23.10.1860), у шлюбе з якой нарадзілася чацвёра сыноў: Адольф Міхал Валерыян (03.04.1804–06.06.1857), Яўстах Напалеон Севярын (ці Станіслаў) (нар. 19.11.1805), Рамуальд Цэзар Міхал (нар. 30.05.1812), Януары-Ян-Фердынанд (нар. 30.01.1816) — і дзве дачкі — Зоф'я, у шлюбе Пясецкая, і Касільда, у шлюбе Канткоўская. 20 жніўня 1820 г. у Віленскім ДДС Міхал дамогся пацверджання ў дваран-

[2] Feliński Z.-S. Pamiętniki / opr. E. Kozłowski. Warszawa: Instytut Wydawnictwa Pax, 2009. S. 229.

[3] Пра дзейнасць і вучэнне А. Тавянскага гл: Szpotański S. Andrzej Towiański: Jego życie i nauka. Warszawa: Wydawnictwo Kasy im. Mianowskiego, 1938. 295 s.; Makowiecka Z. Brat Adam // Kronika życia i twórczości Mickiewicza. Maj 1844 — grudzień 1847. Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1975. 519 s.; Kalembka S. Wielka Emigracja. 1831–1863. Wyd. II. Toruń: Wydawnictwo Adam Marszałek, 2003. S. 271–286; і інш.

стве сваіх сыноў. 26 красавіка 1821 г. у Вільні ён разам з жонкай ад Міхала Залескага, пракуратара Масы княгіні Стэфаніі Радзівіл, атрымаў дакумент на права спадчыннага валодання маёнткам Дзягільна Мінскага павета, а праз некалькі гадоў быў абраны межавым суддзёй Мінскага павета.

20 лістапада 1828 г. Яўстах падаў у Мінскі ДДС дакументы на пацверджанне далучэння да роду сябе і братоў. З іх вынікае, што ў 1828 г. Адольф жыў у Камянец-Падольскай губерніі, дзе быў абраны дэпутатам 2-га дэпартамента Галоўнага суда; Яўстах, скончыўшы Віленскі універсітэт са ступенню кандыдата абодвух правоў, служыў у канцылярыі віленскага грамадзянскага губернатара і там атрымаў чын калежскага сакратара; Рамуальд, скончыўшы Віленскі універсітэт са ступенню актуальнага студэнта абодвух правоў, служыў у 1-м дэпартаменце Галоўнага суда Мінскай губерніі і атрымаў там чын чыноўніка 12-га класа; Януарый, які пачаткова вучыўся ў Слуцкай гімназіі, працягваў вучобу ў Віленскай гімназіі[4]. Практычна ў такім стане браты Янушкевічы сустрэлі паўстанне 1830–1831 гг., якое перавярнула ўсё іх папярэдняе жыццё.

Адольф браў удзел у паўстанні 1830–1831 гг. у якасці сябра камітэта Літоўска-Валынскага легіёна, затым атрымаў чын падпаручніка і служыў у конным легіёне. У адным з баёў ён быў некалькі разоў паранены і трапіў у палон да расійскіх войскаў. Рашэннем ваеннага суда ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання, але паводле канфірмацыі ад 27 лютага 1832 г. яно было замененае на ссылку ў Сібір. З 1832 да 1856 г. ён жыў у розных месцах Сібіры і Сярэдняй Азіі; у 1856 г. атрымаў дазвол і вярнуўся на радзіму, аднак ужо будучы смяротна хворым. Менш чым праз год пасля вяртання ён памер у маёнтку сваёй маці[5].

Януарый з прычыны малых гадоў не ўдзельнічаў у паўстанні. У выніку з усіх братоў ён быў адзіным, хто застаўся пасля паўстання на радзіме. Намаганнямі яго, а таксама маці і сясцёр, маёнтак Дзягільна так і не быў канфіскаваны расійскімі ўладамі і застаўся ў валоданні Янушкевічаў. Яго нашчадкі атрымалі пацверджанне дваранства ў Герольдыі Сената і шырока рассяліліся па Мінскім павеце[6].

Яўстах і Рамуальд пасля паўстання назаўжды пакінулі радзіму.

* * *

Яўстах (Eustachy) Янушкевіч нарадзіўся ў в. Прусы Слуцкага павета Мінскай губерніі Апрача вышэй пададзеных звестак, варта дадаць, што пачаткова ён вучыўся ў дамініканскім вучылішчы ў Нясвіжы, адкуль перавёўся ў Віленскую гімназію. У Віленскім універсітэце ён вывучаў права, слухаючы сярод іншага лекцыі па гісторыі Іаахіма Лялевеля. Пасля яго заканчэння, з 1825 г., распачаў юрыдычную практыку, а з 1829 г. працаваў у Камісіі Радзівілаўскай масы, якая займалася ўпарадкаваннем спадчыны Дамініка Радзівіла. У гэты ж час ён рэдагаваў *«Віленскую Газету»* (*«Dziennik Wileński»*).

Падчас паўстання 1830–1831 гг. ён звязваецца са змоўшчыкамі ў Вільні і з інструкцыямі ад Цэнтральнага Віленскага камітэта быў высланы ў Ашмяны да мясцовых арганізатараў выступлення. Пасля пачатковых удач паўстанцаў і захопу імі Ашмянаў Яўстах быў высланы ў Валынскую губерню з пашпартам на імя Антона Прабоўскага. З-за пагрозы арышту

---

4 Радаводную справу роду Янушкевічаў гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей — НГАБ). Ф. 319. Воп. 2. Спр. 3756.

5 Гл.: Januszkiewicz E., Wrotnowski F. Żywot Adolfa Januszkiewicza i jego listy ze stepów kirgizkich. Berlin; Poznań, 1861.

6 НГАБ. Ф. 319. Воп. 2. Спр. 3756. Пра спробы канфіскацыі гл.: НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 591. Справа аб канфіскацыі часткі маёнтка Дзягільна Мінскага павета памешчыка Янушкевіча за ўдзел у польскім паўстанні 1831 г. 21.08.1837–23.06.1839.

ён вымушаны быў перабрацца ў аўстрыйскую Галіцыю, адкуль яму ўдалося прыбыць у Варшаву. Тут 24 ліпеня 1831 г. ён паступіў падпаручнікам у 2-і полк кракавянаў, затым выконваў абавязкі кіраўніка штаба корпуса генерала Самюэля Ружыцкага. Ратуючыся ад пагрозы поўнага разгрому, гэты корпус 26 верасня 1831 г. перайшоў Галіцыю[7]. З гэтага часу ў жыцці былога чыноўніка пачаўся эміграцыйны перыяд, які расцягнуўся да самай яго смерці. Для самога Я. Янушкевіча развітанне з радзімай азначала таксама расставанне з нявестай — Яўгеніяй Лярыш, з якой ён будзе перапісвацца шмат гадоў[8].

За прыналежнасць да паўстання Яўстах*, «які прымаў актыўны ўдзел у распаўсюджанні бунту і служыў у мяцежніцкім апалчэнні»*, 21 жніўня 1833 г. пастановай Мінскай губернскай следчай камісіі па справах паўстання быў аднесены ў 2-і разрад злачынцаў. Гэта азначала, што ў выпадку з'яўлення ў межах Расійскай імперыі яго павінны былі арыштаваць і аддаць пад суд. Яго маёмасць, якая належала асабіста яму на момант паўстання, а таксама якая магла адысці яму ў спадчыну пасля бацькоў, прысуджалася да канфіскацыі[9].

У Галіцыі Яўстах прабыў нядоўга. Ужо 6 студзеня 1832 г. ён прыбыў у Францыю і пасяліўся ў Парыжы. Гэта ўказвае на яго адносную матэрыяльную забяспечанасць, бо пры пасяленні ў сталіцы французскі ўрад патрабаваў адмовіцца ад грашовай дапамогі з яго боку і ўтрымліваць сябе сваімі сродкамі.

Першай арганізацыяй, у склад якой уступіў Яўстах, стала Таварыства літоўскае і рускіх зямель (ТЛРЗ). Яно было ўтворанае ў Парыжы 10 снежня 1831 г. групай з 10 актыўных удзельнікаў паўстання на ўсходніх частках былой Рэчы Паспалітай, пераважна паходжаннем з Беларусі і Літвы, на чале з Цэзарам Плятэрам, які затым быў абраны яго старшынёй. Яго мэтамі ў статуце называліся, *«па-першае, збор матэрыялаў, якія тычацца паўстання Літвы і Рускіх Зямель, а таксама апісанне гэтага паўстання, па-другое, апісанне гэтых краёў статыстычна ці гістарычна, па-трэцяе, даследаванне іх насельніцтва»*[10]. У далейшым ТЛРЗ расшырыла поле сваёй дзейнасці, уключыўшы ў яго дапамогу *ліцвінам* і *русінам*, якія знаходзіліся ў эміграцыі ў складаным становішчы. Гэта рабілася ў форме дапамогі пры прызнанні вайсковых чыноў французскімі ўладамі, пры залічэнні на вучобу і інш. Рэалізуючы свае мэты, таварыства сабрала найбольшы комплекс мемуарных крыніц па гісторыі паўстання 1830–1831 гг., які апісваў розныя бакі выступлення на Беларусі, Літве і Украіне. На працягу 1830-х гг. яго выданнем займаўся ўраджэнец Троцкага павета Фелікс Уратноўскі[11], некаторыя матэрыялы былі выдадзены ў 1840-х гг. Ксаверыем Бранікоўскім[12].

Пачынаючы з другой паловы 1832 г. дзейнасць таварыства запавольвалася, а яно само ўвайшло ў стадыю крызісу, які быў выкліканы глыбокімі ўнутранымі супярэчнасцямі ў яго складзе. Не знайшоўшы выйсця, ТЛРЗ спыніла свае пасяджэнні — апошняе

---

[7] Гл.: Lewak A. Januszkiewicz Eustachy // Polski słownik biograficzny (далей — PSB). T. 10. Wrocław, etc., 1963. S. 595–597.

[8] Гл.: Januszkiewicz E. Listy do Egenii Larysz (Z epoki emigracyjnej) / wyd. J. Kallenbach // Lamus. № 3. Lwów, 1909. S. 440–470.

[9] НГАБ. Ф. 561. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 155 адв.

[10] Biblioteka Narodowa (далей — BN). Rkps. II.7871. Odpisy dokumentów Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich z lat 1831–1836. K. 9.

[11] Гл.: Wrotnowski F. Pamiętniki o powstaniu Litwy i ziem ruskich w roku 1831. Sposzyty 1–5. Paryż: A. Pinard, 1833; Wrotnowski F. Powstanie na Wołyniu, Podolu i Ukrainie w roku 1831. T. 1–2. Paryż: Księgarnia i Drukarnia Polska, 1837–1838; Zbiór pamiętników o powstaniu Litwy w r. 1831 / Ukł. przez F. Wrotnowskiego. Paryż, 1835. 285 s.

[12] Гл.: Pamiętniki polskie / wyd. K. Bronikowski. T. 1–3. Paryż, 1844–1845.

адбылося 7 ліпеня 1833 г., хоць некаторыя закладзеныя ім традыцыі, напрыклад святкаванне гадавіны паўстання ў *Літве*, працягваліся прыкладна да 1839 г.[13].

Яўстах Янушкевіч уступіў у шэрагі ТЛРЗ крыху больш чым праз 2 тыдні пасля прыбыцця ў Парыж, 22 студзеня 1832 г. і, прысутнічаючы на пасяджэнні ў гэты дзень, падпісаў яго *Статут*. Пратаколы пасяджэнняў ТЛРЗ сведчаць, што Янушкевіч актыўна ўключыўся ў яго дзейнасць. 27 лютага 1832 г. яму было даверанае напісанне статута Літоўскага вайсковага камітэта, створанага пры ТЛРЗ для зацверджання вайсковых чыноў былых паўстанцаў, і 4 сакавіка ён зачытаў свой праект[14]. У траўні 1832 г. ён быў высланы ў калоніі ў гарадах Авіньён і Люнэль з мэтамі, так бы мовіць, палітычнай разведкі настрояў сярод эмігрантаў і высвятлення прычын супярэчнасцяў паміж выхадцамі з Каралеўства Польскага (*караняжамі*) і беларуска-літоўскіх зямель (*ліцвінамі*). Вярнуўшыся, на пасяджэнні 24 траўня 1832 г. ён выказаў меркаванне, што гэтыя супярэчнасці не з'яўляюцца вынікам выключна эміграцыйных спрэчак. Ён бачыў прычыну ў пазіцыі прадстаўнікоў *арыстакратыі*, якая, на яго думку, *«адрозніла інтарэсы Літвы і нават сёння, як здаецца, падтрымлівае гэтую справу»*. З гэтай прычыны Янушкевіч апасаўся, што *ліцвіны* могуць правесці ў эміграцыі больш часу, чым *караняжы*[15]. Як аўтарытэтнай асобе часам яму давяралася вядзенне пратаколаў пасяджэнняў падчас адсутнасці сакратара, як гэта было, напрыклад, 29 траўня 1832 г.[16]. Да канца дзейнасці таварыства ён заставаўся адным з найбольш актыўных яго сяброў, нават калі большая частка заснавальнікаў адышла ад дзейнасці ў яго межах. Аднак не ва ўсіх сяброў ён выклікаў толькі станоўчыя ўражанні. Ураджэнец Украіны Пётр Капчынскі ў сваім дзённіку негатыўна выказваецца пра яго падчас дыскусіі па пытанні сімволікі ТЛРЗ, абвінавачваючы яго ў неаб'ектыўнасці і непавазе[17].

З дзейнасцю ТЛРЗ звязаны адны з першых выдавецкіх праектаў і апублікаваных твораў Яўстаха Янушкевіча ў Францыі. Ён прыняў на сябе абавязак напісання твору пад назвай *«Экспедыцыя Ружыцкага ў Літву»*[18] і часткова рэалізаваў гэты праект — 27 ліпеня 1832 г. выйшла брашура *Мечыслаў I*, выдаўцом якой быў сябра ТЛРЗ Міхал Падчашынскі. Сярод іншага ў ёй быў змешчаны твор *«Урывак з успамінаў ваенных дзеянняў генерала Ружыцкага»*[19]. У ліпені 1833 г. ён выступіў складальнікам брашуры

---

13 Падрабязней пра ТЛРЗ гл.: Матвейчик Д. Створення і діяльність у Франції Товариства литовських і руських земель (1831–1833) // Український історичний збірник (2006). Вип. 10. К.: Інститут історії України НАН України, 2007. С. 79–87; Гарбачова В. Дзейнасць Таварыства літоўскага і рускіх зямель у межах Вялікай эміграцыі ў Францыі // Гістарычны альманах. Гародня – Беласток, 2005. С. 172–188; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich w popularyzacji wiedzy o Litwie i Białorusi na emigracji (1831–1836) // Zeszyty Naukowe Uniwersitetu Łodzkiego. Seria 1. Z. 53. Łodź, 1967. S. 45–67; і інш.

14 BN. Rkps. II.7871. K. 78–79.

15 Ibidem. K. 119.

16 Ibidem. K. 123.

17 Biblioteka Polska w Paryżu (далей — BPP). Rkps. 413. Piotr Kopczyński: Dziennik z lat 1831–1834. T. 3. S. 183.

18 Упершыню праект твора Яўстаха Янушкевіча пра паход Ружыцкага ў Літву адзначаны ў пратаколах ТЛРЗ яшчэ 19 снежня 1831 г. — больш чым за месяц да яго прыняцця ў склад таварыства. Гэта магчыма растлумачыць двума спосабамі: 1) Янушкевіч мог ведаць пра дзейнасць ТЛРЗ і выказаць жаданне падзяляць яго працы яшчэ да прыбыцця ў Парыж; 2) арыгіналы пратаколаў ТЛРЗ не захаваліся, а засталіся толькі ў копіях; тэма твора Я. Янушкевіча ў арыгінале магла быць упісанай пазней, а розніца не адзначанай у копіях.

19 Januszkiewicz E. Wyjątek z pamiętników działań wojennych jenerała Różyckiego // Pamiętnik Emigracji. — 27.07.1832 (Mieczysław I); Potrykowski J. A. Tułactwo polaków we Francji. Dziennik emigranta / wyd. A. Owsińska. T. 1. Kraków, 1974. S. 171–172.

*«Палякі ў Апорта»*, якая была накіраваная супраць планаў генерала Юзафа Бэма па стварэнні легіёна з польскіх эмігрантаў у Партугаліі, праект чаго пачаткова падтрымліваўся французскім урадам[20]. Апрача таго, менавіта Я. Янушкевіч паспрыяў уваходжанню ў склад таварыства А. Міцкевіча пасля яго прыбыцця ў Парыж, падаўшы неабходныя, паводле працэдуры прыняцця, рэкамендацыю і біяграфію паэта на пасяджэнні 30 ліпеня 1832 г. (на наступным пасяджэнні — 6 жніўня — Міцкевіч быў прыняты)[21].

У першы час свайго жыцця ў Парыжы Я. Янушкевіч праявіў сябе як прыхільнік дэмакратычных ідэй: ён далучыўся да створанага І. Лялевелем Польскага нацыянальнага камітэта (ПНК). Інструкцыі камітэта па высвятленні настрояў эмігрантаў былі дадзены яму пры паездцы ў гарады Авіньён і Люнэль. 18 лютага 1832 г. ён быў абраны ў камісію, мэтай якой было правесці аналіз дзейнасці ПНК і падаць справаздачу на агульным сходзе[22]. Пасля роспуску ПНК французскімі ўладамі ў 1833 г. Я. Янушкевіч захаваў кантакты з яго кіраўніком І. Лялевелем, які надоўга пасяліўся ў Брусэлі, а таксама пэўны час падтрымліваў кантакты з вядомым дзеячам дэмакратычнага руху ў эміграцыі Янам Непамуцэнам Яноўскім[23].

З 1832 г. Яўстах Янушкевіч пачаў займацца дзейнасцю, якая ў далейшым стане яго асноўнай у эміграцыі — выдавецтвам. У лістападзе гэтага года ім было заснавана перыядычнае выданне *«Польскі Пілігрым»* (*«Pielgrzym Polski»*) (лістапад 1832 г. — снежань 1833 г.). Выкарыстоўваючы свае шырокія (ужо на той час) кантакты, яму ўдалося прыцягнуць да супрацоўніцтва некаторых вядомых літаратараў: у 1833 г. сярод яго рэдактараў і аўтараў былі А. Міцкевіч і паэт Багдан Янскі[24]. Менавіта ў ім быў апублікаваны шэраг артыкулаў А. Міцкевіча, у якіх ён сярод іншага супрацьпастаўляў вышыню духу паўстанцаў, якія да яго былі грамадзянскімі асобамі, і халоднасць прафесійных вайскоўцаў з рэгулярнага польскага войска[25].

У наступным годзе Я. Янушкевіч працягваў рэалізоўваць свае выдавейцкія праекты. У студзені ці лютым ён заключыў дамову з парыжскім выдаўцом Гектарам Басанжам наконт заснавання першай у Францыі кнігарні для друку польскамоўных твораў пад назвай *«Г. Басанж і Кампанія і Янушкевіч»*. Кнігарня павінна была займацца не толькі друкам твораў, але і дастаўленнем іх на землі былой Рэчы Паспалітай, а таксама ў адваротным напрамку твораў, якія выходзяць *на радзіме* і якія маглі б зацікавіць эміграцыю, гэта значыць яна выконвала функцыі камісійнага дома. Гэтая фірма, а таксама іншыя праекты Я. Янушкевіча патрабавалі ад яго вялікай колькасці часу і намаганняў. 10 лютага ён пісаў: *«...я з'яўляюся кніжным антэрпрэнёрам у самым шырокім значэнні пад назвамі: рэдактара, выдаўца, кіраўніка, кнігара, камісанта — але мне абсалютна няважна, што мяне назавуць, Бог ведае, урэшце, якой назвай, абы б толькі я, якую толькі мог, прыносіў карысць агулу і быў здольны зарабіць для сябе...»*[26].

У 1833 г. яму давялося спыніць на пэўны час свае выдавецкія праекты. 31 ліпеня 1833 г. паводле загаду французскіх уладаў ён быў выдалены з Парыжа ў Бельгію. Прычыны

[20] Гл.: Polacy w Oporto / wyd. E. Januszkiewicz. Paryż, 1833.

[21] BN. Rkps. II.7871. K. 134, 135.

[22] Гл.: Janowski J. N. Notatki autobiograficzne 1803–1853 / wyd. M. Tyrowicz. Wrocław: Ossolineum, 1950. S. 366.

[23] Ibid. S. 469.

[24] Я. Янушкевіч планаваў 1 красавіка прыцягнуць у рэдакцыю А. Міцкевіча і паэта Юзафа Залескага [гл.: Januszkiewicz E. Listy do Egenii Larysz… S. 445].

[25] Гл.: Pielgrzym Polski. Pismo polityce i literaturze narodowej poświęcone. Paryż, 1832–1833.

[26] Januszkiewicz E. Listy do Egenii Larysz… S. 444.

гэтага могуць быць рознымі. Сам Я. Янушкевіч называў іх некалькі: па-першае, выданне ў 14-м нумары *«Пілігрыма»* артыкула А. Міцкевіча супраць міністра ўнутраных спраў Францыі Апалінарыя Антуана д'Аргу; па-другое, выданне брашуры *«Палякі ў Апорта»*[27]. Гісторык Адам Левак выказвае меркаванне, што да выдалення прывяло падпісанне Я. Янушкевічам адозвы Польскага нацыянальнага камітэта *«Да Рускіх»*[28]. Аднак, што б ні было нагодай для выдалення, час да восені 1833 г. ён вымушаны быў правесці ў Бельгіі. Жадаючы як мага хутчэй вярнуцца ў Францыю, Я. Янушкевіч распачаў шматхадовую інтрыгу, мэтай якой было здабыць кампрамітуючы матэрыял на бельгійскага віцэ-адмірала Турнона і з дапамогай яго атрымаць пашпарт у Францыю. Інтрыга ў цэлым скончылася паспяхова, і пад выглядам адваката, сябра Польска-Бельгійскага камітэта Мэрсмана, у кастрычніку вярнуўся ў Парыж. Пасля выхаду А. д'Аргу ў адстаўку з пасады міністра ён атрымаў легальны дазвол на знаходжанне ў Парыжы[29].

Пачаткова пасля вяртання Я. Янушкевіч супрацоўнічаў з выдаўцом, эмігрантам з Віленскай губерніі Юзафам Страшэвічам, бо выдаленне ў Бельгію паклала канец яго суполцы з Г. Басанжам. Аднак 1 ліпеня 1835 г. ён заключыў дамову з эмігранцкім выдаўцом Аляксандрам Елавіцкім і Стэфанам Дэмбоўскім, у выніку чаго была заснаваная фірма *«Польская кнігарня і друкарня А. Елавіцкага і Суполкі»*. Частка Янушкевіча ў ёй складала 7500 франкаў. А. Елавіцкі ва ўспамінах двойчы згадваў гэтую падзею, прычым абодва разы ў светлых тонах: 1) *«...аб'яднаўшыся з Яўстахам Янушкевічам, які працаваў у гэтай жа прафесіі, у 1835 г. мы заснавалі польскую друкарню і кнігарню, дай, Божа, на славу Табе і на карысць нашай Айчыне»*; 2) *«Таму як сумесныя намаганні могуць даць больш, чым паасобныя, у 1835 годзе мы дамовіліся з Яўстахам Янушкевічам, які служыў радзіме на тым жа шляху, і са Стэфанам Дэмбоўскім і заснавалі польскую друкарню і кнігарню ў Парыжы на вуліцы Marais St. Germain Nr. 17 bis. З таго часу павялічыліся магчымасці выдання, павялічыліся нашыя адносіны з эміграцыяй, з радзімай і з пісьменнікамі і з гэтага часу літаратура эміграцыі набыла больш моцны рух»*[30]. Сам жа Я. Янушкевіч падрабязна апісаў стварэнне суполкі і ў сваіх успамінах, і ў лістах да нявесты[31]. Гэта лёгка зразумець, бо менавіта яму як асобе, якая з трох заснавальнікаў мела найбольшыя досвед і здольнасці, было даручана займацца ўсімі бягучымі справамі фірмы. Ён пісаў пра А. Елавіцкага: *«Мы ўзаемна давяраем адзін аднаму — ён даверыў мне усё — на мяне, на мой вопыт і мой розум спадзяецца і ні ўва што не ўмешваецца. ... мая праца шануецца, як і іх грошы»*[32].

З дзейнасцю кнігарні звязаны скандал, які адбыўся ў эміграцыі ў 1835 г. У лістападзе гэтага года ў Я. Янушкевіча з'явіліся супярэчнасці са сваімі працаўнікамі на глебе аплаты працы. Гэтыя звесткі дайшлі да радыкальнай дэмакратычнай арганізацыі эмігрантаў у Англіі *Польскі Народ*. На фірму пасыпаліся абвінавачанні ў прыгнятанні сваіх працаўнікоў і расколе эміграцыі. Каб апраўдацца, Я. Янушкевіч выдаў брашуру *«Некалькі слоў Польскай друкарні»*, дзе паспрабаваў растлумачыць свае дзеянні неабходнасцю зніжэння сабекошту выданняў, што, у сваю чаргу аблегчыла б іх распаўсюджанне ў Еўропе

27 Гл.: Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej w Paryżu przez jej współwłaściciela Eustachego Januszkiewicza spisana // Roczniki Biblioteczne. 1966. Z. 3/4. S. 513, 515.

28 Гл.: Lewak A. Januszkiewicz Eustachy // Polski słownik biograficzny. T. 10. Cz. 3. Wrocław, etc.: Ossolineum, 1963. S. 595–596.

29 Гл.: Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej… S. 515–516.

30 Jełowicki A. Moje wspomnienia. 1807–1831–1838. Lwów: Wydawnictwo Zakładu Narodowego im. Ossolińskich, 1933. S. 315, 370.

31 Гл.: Januszkiewicz E. Listy do Egenii Larysz… S. 454; Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej… S. 518.

32 Januszkiewicz E. Listy do Egenii Larysz… S. 454.

і на радзіме[33]. Падобныя довады не былі прыняты сябрамі Польскага Народу, і 19 лістапада 1835 г. яны выдалі *«Прысуд на Аляксандра Елавіцкага і Яўстаха Янушкевіча»*, дзе ўладальнікі фірмы былі абвешчаны *«ворагамі народаў, а менавіта польскага народу, а таму пазбаўлены ўсялякіх правоў польскага грамадзянства»*[34]. Варта, тым не менш, адзначыць, што ў хуткім часе супярэчнасці былі ўрэгуляваны, а сам скандал не надта паўплываў на рэпутацыю фірмы. У ёй працягвала друкавацца вялікая колькасць вядомых літаратараў. Сам Я. Янушкевіч апісваў гэтую падзею як непаразуменне і неінфармаванасць сябраў Польскага Люду[35]. Суполка займалася продажам кніг, выдадзеных не толькі яе намаганнямі, але і іншых, а таксама медальёнаў і медалёў на памяць пра паўстанне 1830–1831 гг. ці пра вядомых дзеячаў. Напрыклад, менавіта тут у 1835 г. магчыма было набыць памятны медаль пра паўстанне на ўсходніх землях былой Рэчы Паспалітай, адбіты Таварыствам літоўскім[36].

Праіснавала суполка да 1841 г., аднак яшчэ раней — у 1839 г. — з яе выступіў А. Елавіцкі, які ў гэтым годзе паступіў у Версальскую семінарыю, а яго месца заняў эмігрант Юльюш Марыльскі[37]. Да 1841 г. друкарняй былі выпушчаны ў свет 97 твораў і 15 перыядычных выданняў, у тым ліку 29 твораў і 3 перыядычныя выданні за яе кошт. Галоўным чынам выдаваліся літаратурныя творы і гістарычныя працы. У 1841 г. выдавецтва перайшло ў рукі Людвіка Крулікоўскага[38].

Добрая матэрыяльная сітуацыя не пазбаўляла ад складанасцяў маральных, звязаных з жыццём далёка ад радзімы. У лістах да нявесты Я. Янушкевіч некалькі разоў апісвае сваю настальгію. 18 чэрвеня 1834 г. ён пісаў: *«Я маю партрэт маёй мамы, які дайшоў да мяне з Варшавы некалькі дзён таму і з якім я ўвесь дзень пешчуся — раніцай я жадаю яму добрага дня, развітваюся з ім, калі выходжу з дому, і з вяртаннем ізноў вітаюся, і мне так здаецца, што я на радзіме, у Літве…»*. Падобны тон гучыць і ў лісце ад 31 траўня 1835 г.: *«У трыццаць гадоў я — дзіцё! І колькі тут такіх, якія смяюцца з мяне, што я прывез літоўскую зямлю і літоўскія кветкі і поўна вазонаў на акне ў кошыку, на коміне панастаўляў, і калі я ўвечары вяртаюся да сябе, кожны з іх вітаю асобна, і мне лягчэй на сэрцы, бо мне здаецца, што я ў сваёй Айчыне»*[39].

У канцы 1830-х гг. сярод іншых сваіх праектаў Я. Янушкевіч займаўся выпускам перыядычнага выдання пад назвай *«Маладая Польшча»*, рэдактарам і выдаўцом якой быў ён сам. Яе першы нумар выйшаў 8 студзеня 1838 г., і кожны чарговы ў далейшым на працягу трох гадоў з'яўляўся раз на дзесяць дзён. Яе кірунак сучаснікі, а часам і сам выдавец называлі *ультрамантанскім*. У першым нумары сцвярджалася: *«Грамадства засноўвае рэлігія»*. Аднак тэма каталіцтва не была адзінай у газеце. У ёй меліся асобныя раздзелы *«Бібліяграфічныя* (затым — *Літаратурныя*) *навіны»* і *«Навуковыя данясенні»*, а да кожнага нумара выходзіў чатырохстаронкавы дадатак, куды выносілася частка звестак: прамовы, лісты, артыкулы і інш. Існаванне газеты суправаджалася

---

33 Гл.: Januszkiewicz E. Kilka słów Drukarni Polskiej. [Paryż: Księgarnia Polska, 1835]. 8 s.

34 Wyrok na Aleksandra Jełłowickiego i Eustachego Januszkiewicza // Lud Polski. Wybór dokumentów / wyd. H. Temkinowa. Warszawa: Książka i Wiedza, 1957. S. 98–102.

35 Гл.: Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej… S. 520–521.

36 Гл.: Extrait du catalogue de la Librairie Polonaise (1 Septembre 1835) // Jełowicki A. O powstaniu; Chrzanowski W. O wojnie partyzanckie. Paryż: W Księgarni i Drukarni Polskiej, 1835. (у адной брашуры).

37 Яшчэ раней — у 1835 ці 1836 г. — С. Дамбоўскі памёр у Канах ад цяжкай псіхічнай хваробы.

38 Kłossowski A. Księgarstwo polskie na obczyźnie od powstania listopadowego // Księgarz. 1966. № 3. S. 22; Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej… S. 525.

39 Januszkiewicz E. Listy do Egenii Larysz… S. 450, 453.

шматлікімі арганізацыйнымі і фінансавымі складанасцямі, што прыводзіла да таго, што Я. Янушкевіч планаваў спыніць яе выхад. Як ён пісаў 8 сакавіка 1839 г., *«служба мая Касцёлу і Папе, здаецца, скончыцца з 1 ліпеня і Маладая Польшча з апасення, як бы не састарэла, перастане выходзіць. Прысвечаная выключна рэлігійнай справе, каталіцтву, не магла знайсці лёгкага доступу да ўсіх. Той, хто піша газету, хоча перш за ўсё, каб яна чыталася, а тут не адзін пры выглядзе тыяры палохаецца і лае выданне, не чытаючы…»*[40]. Яму ўдалося, аднак, утрымаць газету, якая выходзіла да канца 1840 г., апошні нумар з'явіўся ў свет 31 снежня 1840 г.[41].

Апрача гэтага, Я. Янушкевіч уваходзіў у 1830-я гг. у склад некаторых эміграцыйных арганізацый, адныя з якіх карысталіся пэўным аўтарытэтам, другія часам абмяжоўваліся толькі актам заснавання — Славянскае таварыства (1834 г.), Польскі клуб (з 1836 г.) і інш.

З 1841 г. Я. Янушкевіч супрацоўнічаў з *«Нацыянальнай Газетай»*, якая выходзіла ў Парыжы, і яе выдаўцом Уладзіславам Плятэрам. Уваходзячы ў склад рэдакцыі газеты, ён адначасова кіраваў яе адміністрацыяй[42]. У 1843 г. з выдаленнем з рэдакцыі Фелікса Уратноўскага і наданнем газеце выразна антытавяніcцкага кірунку Янушкевіч не мог не адысці ад працы ў ёй.

Асобнае месца ў жыцці Яўстаха Янушкевіча займаюць яго ўзаемаадносіны з Адама Міцкевічам, да кола блізкіх сяброў якога ён належаў на працягу ўсяго часу эміграцыі. У сваіх лістах-успамінах да сына Міцкевіча, Уладзіслава, сам Я. Янушкевіч падрабязна апісаў шмат кур'ёзных выпадкаў з жыцця яго бацькі, у якіх ён браў удзел. Напрыклад, на вяселлі паэта з-за яго няўважлівасці Я. Янушкевіч быў вымушаны аддаць яму свой фрак і не паехаць у касцёл. Таксама менавіта ад свайго выдаўца А. Міцкевіч у 1830-я гг. не раз атрымоўваў грашовую дапамогу ў моманты складанага матэрыяльнага стану, але пры гэтым Я. Янушкевічу даводзілася ўжываць некаторыя хітрасці, бо прымаць грошы ў выглядзе простай пазыкі паэт адмаўляўся[43]. Прычыну падобных сваіх паводзінаў сам Я. Янушкевіч тлумачыў наступным чынам: *«Мая любоў да яго з'яўляецца практычна фанатызмам. Ён для мяне — нейкая істота, да якой я падступаюся са святым страхам»*[44].

Як асоба аўтарытэтная Я. Янушкевіч часта ладзіў у сябе дома вячэры з той ці іншай нагоды. Як пісаў Ю. Клячка пра яго ролю ў публічным жыцці эміграцыі, ён *«належаў таксама да хатніх, унутраных эміграцыйных урачыстасцяў і святкаванняў, часта ладзіў іх, станавіўся іх душой»*[45]. 25 сакавіка 1835 г. ён ладзіў у сябе прыём з нагоды чарговай гадавіны паўстання ў *Літве*, у 1836 г. на Каляды разам з А. Елавіцкім ладзіў сустрэчу

---

40 Januszkiewicz E. Listy do Egenii Larysz… S. 468.

41 Гл.: Młoda Polska. Wiadomości historyczne i literackie. Paryż, 1838–1840; Szostakowski S. Z kart Wielkiej Emigracji. Prasa obozu arystokratyczno-konserwatywnego w latach 1832–1848. Olsztyn, 1974. S. 130–133; Zienkowicz L. Przegląd polityczny pisarstwa emigracji polskiej. T. 1. Paryż: L. Martinet, 1848. S. 22.

42 Гл.: Szostakowski S. Z kart Wielkiej Emigracji… S. 135, 136.

43 Гл.: Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej… S. 517–518, 525.

44 Mickiewicz W. Żywot Adama Mickiewicza podług zebranych przez siebie materyałów oraz z własnych wspomnień. T. 2. Poznań: W drukarni Dziennika Poznańskiego, 1894. S. 371. Уладзіслаў Міцкевіч у жыццяпісе свайго бацькі спасылаецца на мемуары Я. Янушкевіча, называючы іх *успаміны* (*pamiętnik*) ці *дзённік* (*dziennik*) і адрозніваючы ад ліста Я. Янушкевіча да яго ад 27.07.1874 ці лістоў да Я. Ларыш. Аднак спасылкі на яго месцазнаходжанне ў працы не зроблена. Тым не менш У. Міцкевіч адзначаў, што гэтыя ўспаміны заслугоўваюць веры [Т. 1. S. 13, 43].

45 Zaleski B. Januszkiewicz Eustachy // Rocznik Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. R. 1870–1872. Poznań: Księgarnia Jana Konstantego Żupańskiego, 1872. S. 319.

польскіх паэтаў, што жылі ў Парыжы[46]. 25 снежня 1840 г. у яго праведзена вядомая вячэра, на якой адбылася, так бы мовіць, імправізацыйная дуэль паміж А. Міцкевічам і Юльюшам Славацкім, апісаная ў шматлікіх лістах і мемуарах. З наступнага дня ён пачаў актыўна рыхтаваць у сябе чарговую вячэру, прызначаную на 1 студзеня 1841 г., спадзеючыся на працяг паэтычных заняткаў, аднак паўтарыць поспех не ўдалося[47].

У 1840-я гг. Я. Янушкевіч стаў крэдыторам Міцкевіча ў поўнай ступені. На пачатку 1844 г. ён адкрыў крэдыт спачатку для яго жонкі Цэліны з Шыманоўскіх, а затым і для яго. На 1 чэрвеня 1844 г. сума крэдыту складала 1219,15 франкаў, але пры яго закрыцці 20 снежня 1847 г. сальда рахунку складала 1350,60 франкаў на карысць паэта[48].

Менавіта дзякуючы аўтарытэту Міцкевіча Я. Янушкевіч далучыўся адным з першых да Кола А. Тавянскага. У нататках ён так апісвае 14 верасня 1841 г. гэтую падзею: *«Мінае тыдзень, як прыйшоў да мяне Міцкевіч і сказаў: "я прыношу табе радасную навіну, пакуты нашыя і радзімы хутка скончацца і надыйдзе новае выкупленне свету. Дух пакажа сваю моц над людзьмі і толькі тады мы спазнаем сапраўдную весялосць і шчасце…". Я адразу падумаў, што Адам пакутуе ад новага няшчасця, страціў розум, і я горача заплакаў над яго нядоляй. Але пасля трохгадзіннай размовы я пераканаўся, што ён цалкам здаровы целам і розумам, і больш за тое, як доказ праўды сваіх слоў спасылаецца на Антонія Гарэцкага*[49] *і Ізыдара Сабанскага*[50]*, якія адначасова атрымалі загад распавядаць пра хуткі прыход гэтых дзён весялосці, радзячы ўсім ачышчэнне духу, узаемную любоў, не казаць тое, што чуюць, іншаземцам»*[51].

У Коле Я. Янушкевіч знаходзіўся пад выразным уплывам Міцкевіча (а не Тавянскага). Разам з ім 13 студзеня 1843 г. ён выступае з Польскага клуба[52] — арганізацыі эміграцыйнага арыстакратычнага лагера, праціўнага тавянізму[53]. 4 лютага 1846 г. сумесна з паэтам ён выехаў у Швейцарыю для сустрэчы з Тавянскім. Гэтае падарожжа, якое цягнулася да 8 лютага, стала нагодай для працяглых размоў паміж сябрамі. Іх вынікам стаў запіс Я. Янушкевічам некаторых успамінаў Міцкевіча пра сваё дзяцінства

46 Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 415, 432–433.

47 Mickiewicz W. Żywot Adama Mickiewicza… T. 3. S. 30–34, 43.

48 Makowiecka Z. Brat Adam // Kronika życia i twórczości Mickiewicza. Maj 1844 — grudzień 1847. Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1975. S. 27, 438.

49 Гарэцкі Антоні (Gorecki Antoni) (1787, Вільня — 18.09.1861, Парыж) — паэт, байкапісец. Удзельнічаў у напалеонаўскіх войнах, паўстанні 1830–1831 гг. У эміграцыі жыў у Францыі, дзе выдаў вялікую колькасць паэтычных зборнікаў. Пачаткова з энтузіязмам прыняў вучэнне А. Тавянскага, але вельмі хутка парваў з ім, што, у сваю чаргу, пагоршыла яго адносіны з Міцкевічам [Bielecki R. Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. T. 2. Warszawa, 1996. S. 98; Polski Słownik Biograficzny (далей — PSB). T. 8. Wrocław, etc.: Ossolineum, 1960. S. 306–307]. Разрыў яго з тавянізмам апісаны Валерыянам Халхоўскім у лісце да Ігната Дамейкі ад 15.11.1841 [Muzeum Adama Mickiewicza w Paryżu. Rkps. 1018. Rękopisy z lat 1831–1888. Pisma i listy do Ignacego Domeyki].

50 Сабанскі Ізыдар (Sobański Izydor) (1796–1847) — буйны памешчык з Падолля; у паўстанні служыў падпаручнікам 5-га палка ўланаў, пасля паўстання эміграваў, жыў у Парыжы. У эміграцыі быў адным са знаёмых Міцкевіча, адзін з першых далучыўся да вучэння Тавянскага, але хутка адышоў ад яго [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej / opr. i wstęp Z. Sudolski i in. T. 2. Warszawa: Instatut Wydawniczy Pax, 1984. S. 484].

51 Współudział Adama Mickiewicza w sprawie Andrzeja Towiańskiego. Listy i przemówienia. T. 2. Paryż: Księgarnia Luxemburgska, 1877. S. 165. Цытата ў: Zaleski B. Januszkiewicz Eustachy… S. 323.

52 Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 545.

53 Апрача ўсяго, Міцкевіч лічыў Я. Янушкевіча асобай, карыснай для ўладжвання канфліктаў з паліцыяй [гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 561], што было важным для тавянчыкаў, якім магло пагражаць выдаленне паводле прыкладу іх *Майстра*.

і маладосць пад назвай *«Нататкі, сабраныя ў размове з Адамам Міцкевічам падчас падарожжа з Парыжа ў Цюрых з 4 да 8 лютага 1846 г.»*[54]. 4 красавіка 1846 г. Я. Янушкевіч вярнуўся ў Парыж.

У лістах Я. Янушкевіч апраўдвае паводзіны Міцкевіча як падчас прыняцця і прапаганды вучэння Тавянскага, так і ў разрыве з ім: *«…хоць я і падзяляю шмат праўдаў, прынесеных нам ім* [Тавянскім]*, але кірункам, якім яны чатыры гады прыводзіліся ў жыццё, і плёнам, які прынеслі, я незадаволены; можа гэта віна кожнага з нас, больш за ўсё Адама, але вялікая яго заслуга, што ён прызнае яе і што ранейшай дарогай далей ісці не будзе»*[55]. Пасля разрыву паміж Міцкевічам і Тавянскім ён застаўся на баку паэта і 21 траўня 1846 г. таксама напісаў ліст Тавянскаму, а затым падпісаў *«Акт заснавання асобнага Кола»*. Прыняцце Я. Янушкевічам боку Міцкевіча і прывяло да рэзкага выказвання ў яго адрас з боку брата [гл. ліст ад 21.06.1846].

Аднак кантакты паміж Міцкевічам і Я. Янушкевічам базаваліся не толькі на глебе агульнай прыхільнасці тавянізму. Немалой іх складовай часткай з’яўлялася супрацоўніцтва ў галіне выдання твораў. У канцы кастрычніка 1843 г. паміж імі (Міцкевіча прадстаўляў Аляксандр Ходзька) была заключаная дамова аб выданні поўнага збору твораў паэта за выключэннем курсу лекцый па славянскай літаратуры. Паводле гэтай дамовы, наклад збору павінен быў складаць 1500 тысяч асобнікаў, за што Міцкевічу выплачвалася сума ў 15 тыс. франкаў. У траўні 1844 г. за кошт Я. Янушкевіча выйшаў у свет міцкевічаўскі *«Курс трэцягадовы* (1842–1843) *славянскай літаратуры»*, а ў канцы 1845 г. яго намаганнямі з’явіўся *«IV kurs literatury słowiańskiej (1843–1844)»*[56].

У лістападзе 1846 г. паміж Міцкевічам з аднаго боку і Я. Янушкевічам і былым старшынёй ТЛРЗ Ц. Плятэрам з другога была заключана дамова. Паводле яе Міцкевіч абавязваўся напісаць працу пад назвай *«Гісторыя Польшчы»* узамен за 4000 франкаў і перадаць правы на друк 1500 яе асобнікаў і выключны продаж на працягу 4 гадоў. Прынамсі частку грошай паэт атрымаў у той жа дзень. Для Міцкевіча гэта стала своеасаблівым стымулам для напісання. Ён актыўна ўзяўся за работу, але ў 1848 ці 1849 г. знішчыў рукапіс практычна скончанай працы[57].

Падчас Вясны народаў[58] Я. Янушкевіч, як і шмат іншых эмігрантаў, не застаўся ўбаку ад рэвалюцыйных падзей. У 1848 г. ён супрацоўнічаў з Міцкевічам пры стварэнні Польскага легіёна ў Італіі, аднак гэта ж прынесла ў іх адносіны раней невядомую плынь. Як і шматлікіх блізкіх да Міцкевіча асобаў, Я. Янушкевіча не мінуў разрыў адносінаў са сваім былым сябрам, калегам і кумірам[59]. Непаразуменні на глебе фарміравання легіёна ў Італіі ў 1848 г. сталі падставай для таго, каб у сярэдзіне ліпеня гэтага

---

54 Гл.: Makowiecka Z. Brat Adam… S. 254.

55 Współudział Adama Mickiewicza… S. 247. Цытата ў: Zaleski B. Januszkiewicz Eustachy… S. 323–324.

56 Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 566, 582, 625.

57 Гл.: Makowiecka Z. Brat Adam… S. 330–331; Sudolski Z. Mickiewicz… S. 639.

58 Чарговая хваля рэвалюцыйных падзей у Еўропе ў 1846–1849 гг. характарызавалася шырокім распаўсюджаннем дэмакратычных ідэй і ўзброенымі паўстаннямі ў многіх краінах — Італіі, Францыі, Германіі, Аўстрыйскай імперыі і інш., у тым ліку на землях былой Рэчы Паспалітай — Кракаўскай рэспубліцы, Галіцыі, Княстве Пазнанскім.

59 Напрыклад, у 1851 г. былі разарваны адносіны паміж Міцкевічам і яго даўнім знаёмым і калегам Міхалам Ходзькам. Найбольш актыўным часам іх супрацоўніцтва стала Вясна народаў, калі Міцкевіч намагаўся стварыць у Італіі легіён з эмігрантаў з былой Рэчы Паспалітай, а М. Ходзька выступаў яго даверанай асобай і адным з камандзіраў легіянераў. Прычынай разрыву сталі спрэчкі наконт грашовых сродкаў, выдаткаваных Ходзькам з уласнай кішэні на патрэбы легіёна [гл.: Sudolski Z. Mickiewicz: Opowieść biograficzna. Warszawa: Ancher, 2004. S. 772, 780, 787, 883].

года Міцкевіч выслаў ліст Я. Янушкевічу (які не захаваўся), у якім разрываў з ім усе адносіны і адмаўляў яму ў *«сяброўскай прыхільнасці»*. Я. Янушкевіч адрэагаваў на гэты ліст таксама ў вельмі рэзкіх выразах[60]. Цяжка сказаць, наколькі глыбокім і працяглым было падобнае напружанне адносінаў, аднак ужо ў наступным месяцы Я. Янушкевіч прыкладаў намаганні для здзяйснення чарговага выдання лекцый Міцкевіча пад назвай *«Славяне»* (*«Les Slaves»*)[61]. Дый у далейшым кантакты паміж імі ўсё ж захоўваліся, прычым як прыватнага, так і фінансавага характару. Так, напрыклад, 11 снежня 1850 г. Міцкевіч і Я. Янушкевіч знаходзіліся разам на абедзе ў Францішка Шэмёта, дзе паэт віншаваў выдаўца з атрыманнем згоды на шлюб ад бацькі Я. Лярыш, з сакавіка наступнага года яны абодва ўвайшлі ў склад камісіі па зборы ахвяраванняў на Польскую бібліятэку ў Парыжы, і ў тым жа 1851 г., дзякуючы менавіта Я. Янушкевічу, Міцкевіч заключыў кантракт на 9 тыс. франкаў на выданне сваіх твораў з берлінскай кнігарняй Бертольда Бэра[62]. Апрача таго, карэспандэнцыя паміж імі таксама працягвалася і выразна сведчыць пра далейшыя сталыя і блізкія кантакты[63].

Пасля паражэння Вясны народаў Янушкевіч працягваў жыць у Парыжы. У гэты час у паляпшэнні яго матэрыяльнага стану яму дапамагла яго юрыдычная адукацыя. Праз свае былыя сувязі з часоў працы ў Радзівілаўскай камісіі[64] ён атрымаў вядзенне замежных спраў князя Вітгенштэйна. Для гэтага яму неабходна было бываць у нямецкіх дзяржавах, дзе ён не мог з’явіцца пад уласным прозвішчам. Аднак яму ўдалося атрымаць пашпарт на імя Любіч — назву свайго герба. Гэта дало яму магчымасць бываць таксама ў Галіцыі і сустракацца са сваёй нявестай Я. Лярыш. 9 верасня 1851 г. у Кракаве паміж імі быў заключаны шлюб, а ў 1853 г. нарадзілася іх дачка Марыя[65]. У гэты ж час ён наблізіўся да арыстакратычных колаў эміграцыі і ў 1850 г. уступіў у шэрагі найбольш вядомай іх арганізацыі — Гісторыка-літаратурнага таварыства[66]. Затым дзякуючы свайму аўтарытэту ён увайшоў у склад кіраўнічых органаў Польскай бібліятэкі і Польскай школы ў Бацінёль у Парыжы.

Наконт актыўнасці і сувязяў Я. Янушкевіча паказальная характарыстыка эмігранта Юзафа Зялінскага, дадзеная яму прыкладна ў 1854–1856 гг.: *«З дапамогай уплыву князя Напалеона, спадчынніка трону, шмат палякаў былі памешчыны чыноўнікамі, але кемлівыя заўжды бяруць месцы раней за іншых. Янушкевіч, спрытны Ліцвін, знаходзіцца тут у бюро асветы з добрай аплатай, а ў яго ж хапае сродкаў да жыцця і ад кнігарства, і ад ранейшых віленскіх спраў»*[67].

---

60 Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 699–700.

61 Ibid. S. 707.

62 Ibid. S. 766, 769, 770 і інш.

63 Гл.: Mickiewicz A. Dzieła… T. 16. S. 449, 557, 565.

64 *Камісія па разборы пазык Радзівілаў* (*Вышэйшая Радзівілаўская камісія*, *Радзівілаўская камісія*) створана ў 1814 г. для разбору судовых спраў, звязаных з маёмасцю князя Дамініка Радзівіла (1786–1813 гг.) і падзелу яе паміж спадкаемцамі. Паралельна дзейнічала таксама *Пракураторыя Радзівілаўскай масы*, створаная ў 1816 г. для кіравання маёмасцю Д. Радзівіла. Установы спынілі сваю дзейнасць адпаведна ў 1838 г. і 1839 г. [гл.: Латушкін А. Дакументальныя страты Нясвіжскага архіва Радзівілаў у другой палове XVIII — першай палове XX стагоддзяў // Архівы і справаводства. 2007. № 2 (50). С. 102–107].

65 Гл.: Zaleski B. Januszkiewicz Eustachy… S. 326–327.

66 Гл.: Gadon L. Z życia Polaków we Francji. Rzut oka na 50-letnie koleje Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu 1832–1882. Paryż, 1883. S. 118.

67 Zieliński J. F. Wspomnienia z tułactwa. Warszawa: Instytut Wydawniczy Pax, 1989. S. 583.

У 1850-я гг. Я. Янушкевіч працягваў сваю выдавецкую дзейнасць. 1 лістапада 1856 г. паміж ім, Валерыянам Калінкам і Юльянам Клячкам была заключаная дамова і заснавана *Выдавецкая суполка* пры Гісторыка-літаратурным таварыстве для друку крыніц па гісторыі Польшчы і здзяйснення поўнага выдання твораў А. Міцкевіча. Я. Янушкевічу, паводле дамовы паміж кампаньёнамі, належала ўся матэрыяльная частка прадпрыемства: друк, продаж твораў, вядзенне рахункаў і да т. п. *Суполка* дзейнічала да 1863 г., пакуль новае паўстанне на землях былой Рэчы Паспалітай не паклала канец яе дзейнасці[68].

Падчас паўстання 1863 г. Я. Янушкевіч уваходзіў у якасці сакратара ў склад створанага ў Парыжы Франка-польскага камітэта. Яго мэтай было пачаткова дамагчыся пазыкі ў французскага ўрада для Нацыянальнага ўрада ў Варшаве, а пасля паражэння паўстання — дапамога прадстаўнікам новай хвалі эміграцыі. Вынікам дзейнасці камітэта стала працаўладкаванне вялікай колькасці эмігрантаў[69].

Разам з А. Міцкевічам Я. Янушкевіч на працягу ўсяго жыцця ў Заходняй Еўропе падтрымліваў сталыя кантакты яшчэ з адным вялікім прадстаўніком беларускай і польскай культуры — Іаахімам Лялевелем. Падставай для іх узаемаадносінаў пасля ліквідацыі ПНК сталі навукова-выдавецкія справы. Жывучы ў Брусэлі, Лялевель меў патрэбу ў выдавецтве ў Парыжы для больш шырокага распаўсюджання сваіх твораў. Яго выдаўцом і стаў Я. Янушкевіч. Напрыклад, менавіта ён займаўся выданнем адной з асноўных гістарычных прац Лялевеля ў эміграцыі — *«Гісторыі Літвы і Русі аж да уніі з Польшчай, заключанай у 1569 годзе ў Любліне»*[70]. Можна сказаць, што Я. Янушкевіч з'яўляўся не толькі выдаўцом Лялевеля ў Парыжы, але і дэ-факта яго даверанай асобай. Не раз Лялевель прасіў яго аб выплаце каму-небудзь у Парыжы пэўнай сумы грошай альбо рэкамендаваў каму-небудзь звяртацца да яго ў розных справах, звязаных з кнігамі[71]. Яго вобраз у лістах Лялевеля нязменна станоўчы. Напрыклад, Яўгеніі Лярыш ён пісаў у 1850 г.: *«З яго* [Яўстаха Янушкевіча] *маладых гадоў я быў усім сэрцам для яго, больш нас зблізіла эміграцыйная нядоля. Я не мог патрабаваць ад яго ўзаемнасці. Ён сам атачыў мяне сваёй добразычлівасцю і сяброўствам, якой няма другой. Стокроць мой суцяшальнік»*[72].

Пасля смерці гісторыка Я. Янушкевіч у Познані выдае невялікую брашуру *«Апошнія хвіліны Іаахіма Лялевеля»*, аўтарам якой ён з'яўляўся сумесна з Севярынам Галянзоўскім. У ёй апісаны некалькі апошніх дзён (за 22 да 29 траўня 1861 г.) яго жыцця, сведкам якіх Я. Янушкевіч з'яўляўся асабіста, а таксама надрукаваны прамовы некалькіх чалавек на яго пахаванні[73].

Заключны перыяд жыцця стаў для Я. Янушкевіча часам стварэння ўласнага пісьменніцкага здабытку. У 1861 г. сумесна з ураджэнцам Троцкага павета і вядомым эміграцыйным выдаўцом Феліксам Уратноўскім ім было падрыхтаванае *«Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў»*[74]. Герой кнігі — родны брат Я. Янушкевіча.

---

68 Гл.: Zaleski B. Januszkiewicz Eustachy… S. 327–328; Kłossowski A. Księgarstwo polskie na obczyźnie od powstania listopadowego // Księgarz. 1966. № 3. S. 23.

69 Гл.: Zaleski B. Januszkiewicz Eustachy… S. 328–329.

70 Lelewel J. Historia Litwy i Rusi aż do unii z Polską w Lublinie w r. 1569 zawartej. Paryż: Drukarnia i Księgarnia Polska, 1838. 325 s.

71 Гл.: Lelewel J. Listy emigracyjne / wyd. H. Więckowska. T. 1–5. Kraków, 1948–1956.

72 Ibid. T. 5. S. 207.

73 Гл.: Januszkiewicz E. Ostatnie chwile Joachima Lelewela. Poznań, 1861. 20 s.

74 Januszkiewicz E., Wrotnowski F. Żywot Adolfa Januszkiewicza i jego listy ze stepów kirgizkich. Berlin; Poznań, 1861.

Яго падрабязны жыццяпіс на 240 старонак дапаўняецца лістамі Адольфа да сям'і, у першую чаргу да маці, у якіх апісваюцца перыпетыі жыцця на чужыне.

Супрацоўніцтва Я. Янушкевіча з Ф. Уратноўскім працягвалася і далей. У 1866 г. імі быў выпушчаны, відавочна, для патрэбаў пакалення дзяцей прадстаўнікоў новай хвалі эміграцыі з зямель былой Рэчы Паспалітай *«Кароткі выклад польскай гісторыі і геаграфіі»*[75]. У ім на 70 старонках у форме пытанняў і адказаў падавалася ўся гісторыя Польшчы і ВКЛ да сярэдзіны XIX ст. у антымаскоўскім кірунку.

У апошні перыяд свайго жыцця Я. Янушкевіч супрацоўнічаў таксама з кракаўскай газетай *«Час»* (*«Czas»*), вынікам чаго сталі некалькі яго артыкулаў. Напрыклад, у артыкуле *«Пярэдадзень куцці ў Парыжы 1834 года»* ён найбольшую ўвагу сканцэнтраваў на прамове А. Міцкевіча ў адрас Ю. Урсын Нямцэвіча, сказанай у вельмі арыгінальнай форме — нібыта на яго пахаванні[76].

Да пісьменніцкай спадчыны Я. Янушкевіча належаць таксама некалькі яго мемуарных твораў, напісаных у 70-я гг. У 1871 г. у кракаўскім перыядычным выданні *«Польскі агляд»* выйшлі ў свет яго мемуары пра падзеі франка-прускай вайны пад назвай *«Успаміны з часу аблогі Парыжа (Урыўкі з дзённіка, пісанага бацькам для сваёй дачкі)»*[77]. У іх звесткі пададзены не ў форме падзённых запісаў, а падзеленыя паводле тэматычнага прынцыпу на асобныя раздзелы: *«Узбраенне Парыжа»*, *«Бітва пад Шаційён»*, *«Відовішчы і забавы»* і г. д. Асобна Я. Янушкевіч вылучыў раздзел *«Польская эміграцыя»*, дзе апісаў яе ўклад у змаганне супраць немцаў, а ў *«Эпілогу»* выказаўся негатыўна ў адносінах да Парыжскай Камуны. У 1874 г., усяго за некалькі месяцаў да сваёй смерці, Я. Янушкевіч напісаў успаміны пра сваю дзейнасць у *Польскай кнігарні і друкарні*. Зроблена гэта было ў выглядзе аб'ёмнага ліста да сына А. Міцкевіча Уладзіслава, які валодаў у Парыжы на працягу 9 гадоў *Люксембургскай кнігарняй*. Разам з апісаннем сваіх выдавецкіх справаў у ліст былі ўключаны і ягоныя ўспаміны пра супрацоўніцтва з А. Міцкевічам, што было зроблена, відавочна, паводле жадання У. Міцкевіча, які займаўся збіраннем усіх магчымых звестак пра свайго бацьку для напісання яго жыццяпісу[78].

Памёр Я. Янушкевіч 27 верасня 1874 г. у Парыжы на руках жонкі, якая прыехала з Кракава. Перад смерцю яго спавядаў яго былы кампаньён па выдавецкай фірме А. Елавіцкі. Пахаваны ён на могілках у Мантмарэнсі[79].

* * *

У адрозненне ад брата Рамуальд Янушкевіч не пакінуў у гісторыі эміграцыі такога вялікага следу. Гэта тычыцца як удзелу ў грамадскім і палітычным жыцці, так і напісання публіцыстычных ці літаратурных твораў. Гэта ж паўплывала на колькасць звестак пра яго жыццё — яна нашмат меншая, чым пра Яўстаха.

Рамуальд нарадзіўся ў в. Усава Слуцкага павета Вучоба ў Нясвіжскай школе дамініканцаў, Слуцкай гімназіі і Віленскім універсітэце выхавала ў ім патрыятычны і рэлігійны

---

[75] Januszkiewicz E., Wrotnowski F. Krótki wykład historii i jeografii polskiej. Paryż: Drukarnia E. Martinet, 1866. 70 s. + mapa.

[76] Гл.: Januszkiewicz E. Wilia Wilii w Paryżu w 1834 r. // Czas. № 294. 24.12.1871.

[77] Januszkiewicz E. Wspomnienia z czasu obłężenia Paryża (Wyjątki z dziennika spisywanego przez ojca dla swej córki) // Przegląd Polski. R. 5. Z. 10. Kraków: W Drukarni Uniwersytetu Jagiełłońskiego, 1871. S. 240–275.

[78] Гл.: Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej… S. 509.

[79] Гл.: Zaleski B. Januszkiewicz Eustachy… S. 330–331.

дух, які моцна паўплываў на яго далейшае жыццё. У паўстанні ён у сакавіку 1831 г. далучыўся да літоўскіх апалчэнцаў, пасля злучэння з польскімі рэгулярнымі войскамі 13 чэрвеня 1831 г. атрымаў чын паручніка ў штабе корпуса генерала Антонія Гелгуда, служыў таксама ад'ютантам палкоўніка Коса. 13 ліпеня 1831 г. з усім корпусам ён перайшоў у Прусію[80]. Мінская губернская следчая камісія практычна нічога не ведала пра яго ўдзел у паўстанні, апрача таго, што ён знаходзіўся ў *невядомай адлучцы*, а таму да якога-небудзь разраду злачынцаў яго не адносіла, але прысудзіла яго маёмасць да канфіскацыі[81].

З Прусіі Рамуальд у студзені 1832 г. прыбыў у Францыю, дзе, аднак, не змог адразу замацавацца ў Парыжы. Пачаткова ён быў паселены ў калоніі эмігрантаў у г. Авіньён, але ўжо ў красавіку з прычыны перанаселення горада быў пераведзены ў недалёкі г. Люнэль. Адсюль у жніўні ён падаваў да французскіх уладаў прашэнне аб дазволе на пасяленне ў Парыжы нібыта для працягу навучання і, відавочна, атрымаў яго. Ужо з лістапада 1832 г. (і да канца яго актыўнай арганізацыі — 4 ліпеня 1833 г.) пратаколы ТЛРЗ фіксуюць прысутнасць Рамуальда на яго пасяджэннях[82]. Аднак яго сяброўства было больш намінальным — у тых жа пратаколах не зафіксаваны яго актыўны ўдзел у якім-небудзь значным мерапрыемстве.

Пра яго жыццё ў 1830-я гг. вядома дастаткова мала. Падчас вяртання свайго брата ў Парыж з Брусэля ў 1833 г. ён дапамагаў таму ўладкавацца ў першы час. Варта зазначыць, што ў эміграцыі браты Янушкевічы знаходзіліся, прынамсі ў першы яе час, у добрым матэрыяльным стане, і ў гэтым з'яўляліся выключэннем з агульнага стану эмігрантаў. Яўстах у 1874 г. успамінаў: *«Нам хапала грошай, бо ў 1832, [183]3, [183]4 [гадах] мы мелі з дому ад маці па 5000 фр[анкаў] штогод. Продаж у Вільні маёй мэблі, а была дастаткова дарагая, бо я павінен быў прадстаўляць Паўнамоцнага Радзівілаўскай Масы — більярд, бронза, верхавы конь коштам 400 руб[лёў] і да т. п. — прынес 1500 рублёў»*[83].

Пасля свайго ўступлення ў Кола Рамуальд увайшоў у склад чацвёртай сямёркі, на чале якой стаяў А. Міцкевіч[84]. Ён адразу стаў адным з найбольш адданых тавянчыкаў, які не раз спрабаваў загітаваць іншых да ўступлення ў яго склад. У шматлікіх лістах і мемуарах запісаны выпадак, калі 24 снежня 1842 г., на Каляды, ён намагаўся прыцягнуць да тавянізму князя Адама Чартарыйскага. Валерыян Халхоўскі так апісаў гэтую падзею: *«Марна Ромушак с неналежнымі жэстамі і ўказваючы на алтар, ручаўся, што ён проста ад Госпада*[85] *мае місію да князя, князь ухіляўся і, каб пазбегнуць скандалу, стараўся выйсці з кола тавянчыкаў, якое абкружала яго. А Ромушак стаў на калені на дарозе князя паміж крэслаў і, выказаўшы пераконванне, уручыў ліст, у якім напісаў усё тое, што яму загадаў Госпад»*[86].

---

[80] Гл.: Bielecki R. Słownik biograficzny… T. 2. S. 198–199.

[81] НГАБ. Ф. 561. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 155 адв.

[82] Гл.: Bielecki R. Słownik biograficzny… T. 2. S. 98; BN. Rkps. II.7871. K. 167–214.

[83] Цыт. паводле: Kłossowski A. Historia księgarni Polskiej… S. 516.

[84] Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 546.

[85] Тэрмін *«Госпад»* з'яўляецца варыянтам перакладу ўжытага ў польскамоўным арыгінале тэрміна *«Pan»*, варыянтаў інтэрпрэтацыі якой магчымы два: 1) *Pan Bóg — Гасподзь Бог*; 2) Pan i Mistrz — *Гаспадар і Майстар*, у сэнсе — А. Тавянскі. На гэтую варыянтнасць інтэрпэтацыі ўжо звяртаў увагу К. Руткоўскі [гл. наступную спасылку]. Аднак, калі меркаваць паводле *«Дзённіка»* С. Гашчынскага, тут маецца на ўвазе першы варыянт — *Гасподзь Бог* [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… S. 46–48].

[86] Ліст Валерыяна Халхоўскага да Ігната Дамейкі ад 09.05.1843 // Muzeum Adama Mickiewicza w Paryżu (MAM). Rkps. 1018. Апісанне ўсяго выпадку як прыкладу дэспатычных адносінаў кіраўніцтва Кола ў адносінах да сваіх сябраў з цытатай з ліста В. Халхоўскага гл.: Rutkowski K. Braterswo albo śmierć: Zabijanie Mickiewicza w Kole Sprawy Bożej. Gdańsk: Słowo/Obraz Terytoria, 1999. S. 67–70. З цытатай з уручанага дакумента апісвае падзею З. Судольскі [Sudolski Z. Mickiewicz… S. 543].

На наступны дзень на пасяджэнні ў Аляксандра Ходзькі Рамуальд быў асуджаны Колам за самавольныя паводзіны напярэдадні і неатрыманне дазволу на падобную *службу* ад яго[87].

1844-ы год з'яўляўся часам вядзення Р. Янушкевічам вельмі актыўнай агітацыі. У самым канцы вясны ці самым пачатку лета ён намагаўся распаўсюдзіць вучэнне Тавянскага сярод французаў, выкарыстоўваючы пры гэтым вобраз Напалеона. С. Гашчынскі пісаў пра гэта ў сваім дзённіку: *«З генералам Пёці, які ў Фантэнблё атрымаў апошні пацалунак Напалеона, Рамуальд Янушкевіч зрабіў у апошніх днях вельмі важную службу… Старац быў увесь у слязах, расчуленыя інваліды кідаліся Рамуальду на шыю»*[88]. Улетку разам з Янам Скаваццы ён прапагандаваў тавянізм у кантоне Вале ў Швейцарыі[89].

У верасні гэтага ж года разам з Янам Андрэем (да хрышчэння — Гершанам) Рамам ён вёў агітацыю ў г. Валянсьен, дзе 12 жніўня кампаньёны атрымалі распараджэнне Міцкевіча накіравацца для прапаганды ў Сользуар дэп. Нор. Пры гэтым Рамуальду загадвалася падпарадкоўвацца Раму і адначасова весці дзённік *службы*. Аднак ужо 15 верасня абодва знаходзіліся ў Парыжы[90]. Такая актыўная дзейнасць, якая магла патэнцыяльна прывесці да дадатковай напружанасці ў грамадстве, выклікала ўвагу да Р. Янушкевіча з боку французскіх уладаў. 15 верасня яны выдалі распараджэнне аб выдаленні з Францыі Р. Янушкевіча і Я. А. Рама[91]. 18 верасня яны пакінулі Парыж і накіраваліся ў Швейцарыю, дзе жыў іх *Майстар*[92].

Знаходзячыся ў Швейцарыі ў Базылі, дзе жыў Тавянскі, Р. Янушкевіч працягваў займацца прапагандай *Справы*. Увосень 1844 г. Р. Янушкевіч займаўся аднаўленнем помніка Тадэвушу Касцюшку ў г. Цюхвіль у Швейцарыі, паралельна займаючыся прапагандай тавянізму сярод швейцарцаў. У канцы 1844 ці пачатку 1845 г. ён з тавянчыкам Янам Скаваццы наведваў кантон Вале, выкарыстоўваючы для агітацыі партрэты Напалеона і курс славянскай літаратуры А. Міцкевіча[93]. Пра сваю дзейнасць ён пісаў: *«Я пачынаю жыць усё мацней, шмат працую і ажыўляю сябе падарожжамі, разносячы Слова Божае па наваколлі Базыля, што для мяне вялікае дабрадзейства, бо я б памёр, седзячы без заняткаў у гэтым горадзе»*[94]. Крыху пазней — у ліпені—кастрычніку 1845 г. — ён прапагандаваў тавянізм у Лазане і яе наваколлі[95]. Таксама ён навязаў кантакты з групай лазанскіх камуністаў з мэтай далучыць іх да *Справы*, што яму не ўдалося[96].

Апрача гэтага, Р. Янушкевіч на працягу ўсяго часу сваёй прыналежнасці да тавянізму выконваў сярод *братоў* функцыю, так бы мовіць, аракула. *«Дзённік»* С. Гашчынскага

---

87 Гл.: Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 47–48. К. Руткоўскі выказаў меркаванне, што Р. Янушкевіч дзейнічаў не самавольна, а з маўклівага ці гучнага дазволу Кола ці яго кіраўніцтва, а яго асуджэнне было выклікана не самавольствам, а тым фактам, што *акцыя проста не ўдалася* [Rutkowski K. Braterswo albo śmierć… S. 70].

88 Goszczyński S. Listy (1823–1875) / wyd. S. Pigoń. Kraków: Księgarni Debethnera i Wolfa, 1937. S. 179.

89 Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 586.

90 Гл.: Mickiewicz A. Dzieła / pod. red. J. Krzyżanowskiego. T. 15. Listy, cz. 2. Warszawa, 1955. S. 646–648; Makowiecka Z. Brat Adam… S. 56; Sudolski Z. Mickiewicz… S. 590.

91 С. Гашчынскі памылкова сцвярджаў, што загад тычыўся абодвух братоў Янушкевічаў [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 197].

92 Гл.: Makowiecka Z. Brat Adam… S. 56–63; Goszczyński S. Listy… S. 196.

93 Гл.: Makowiecka Z. Brat Adam … S. 101; Begey A. Action et souvenirs de quelques serviteur de l'Oeuvre de Dieu. Cahier 1: Romuald Januszkiewicz. Turin, 1913. S. 1–4.

94 Begey A. Action et souvenirs… P. 4.

95 Ibid. S. 14–37; Sudolski Z. Mickiewicz… S. 612.

96 Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 616.

шматразова фіксуе, што Рамуальд нібыта сніў сны, напоўненыя сэнсам, і перадаваў іх затым іншым тавянчыкам. У гэтых снах ён нібыта ад Бога атрымоўваў папярэджанні пра магчымыя перашкоды і небяспекі для *Справы*, неабходнасць той ці іншай *службы* і г. д.[97].

Жывучы ў Швейцарыі, Р. Янушкевіч падтрымліваў да расколу кантакты з А. Міцкевічам, які кіраваў парыжскімі *братамі*. Пры гэтым у адрозненне ад лістоў паэта да Я. Янушкевіча, якія ўяўляюць з сябе кароткія нататкі, пераважна пра выдавецкія справы, лісты да яго брата значна большыя і інфармацыйныя паводле свайго аб'ёму і зместу[98].

Падчас расколу ў Коле Р. Янушкевіч жыў у Базылі пры Тавянскім і, несумненна, знаходзіўся пад моцным яго ўплывам. У выніку гэтага ён не пайшоў за А. Міцкевічам, як яго брат, а застаўся адданым *Майстру*[99]. Аднак ім таксама прыкладаліся пэўныя намаганні па ўз'яднанні Кола — яго подпіс маецца на лісце прыхільнікаў Тавянскага да жонкі А. Міцкевіча Цэліны, які з'яўляўся спробай прымірэння дзвюх частак Кола з дапамогай жонкі паэта[100].

Калі меркаваць паводле эмацыянальнасці яго ліста да Яўстаха [гл. ніжэй], разрыў ён перажываў вельмі цяжка. Тым не менш немагчыма сказаць, як доўга захоўвалася напружанасць паміж братамі, але вядома, аднак, што ў 1852 г. іх адносіны былі нармалізаваныя: пасля вяртання са Швейцарыі Рамуальд жыў у брата Яўстаха[101]. Нават больш — на думку С. Гашчынскага, у канцы 1850-х гг. Яўстах трымаў у *няволі* Рамуальда[102].

Пра ролю Р. Янушкевіча ў Базылі ў якасці агітатара тавянізму цікавыя падрабязнасці пакінуў ва ўспамінах былы ўдзельнік паўстання 1830–1831 гг. Юзаф Камяроўскі. Сваю сустрэчу з Тавянскім ён апісвае наступным чынам: *«Прыбыўшы ў Базыль я са здзіўленнем даведаўся, што да Тавянскага нельга ўваходзіць, а трэба дапрашвацца пра гэта праз інстанцыі. Гэты род афіцыйнай арыстакратыі зрабіў на мяне дрэннае ўражанне, аднак я прасіў [Даменіка] Іваноўскага і Р[амуальда] Янушкевіча, каб дамагліся паслухання для мяне, якога я чакаў тры дні. На працягу гэтага часу Іваноўскі і Р. Янушкевіч стараліся абкружыць Тавянскага асаблівай чароўнасцю, прадстаўляючы яго як Бога. Урэшце [...] Тавянскі прыняў нас у пакоі без аздоб. Ён распачаў размову з павагай, гаварыў ясна, з заўзятасцю, з запалам, але толькі ў агульных словах. На пытанні даваў такія адказы, як, напрыклад, што Бог ёсць добры, што ён паўсюль і г. д. [...] Пад час усяе размовы Р[амуальд] Янушкевіч і Іваноўскі запісвалі словы Майстра, мармычучы і плачучы ад расчуленасці, каб такім спосабам стварыць на мяне ўражанне»*[103]. Як відаць з гэтага апісання, Тавянскім была распрацаваная цэлая сістэма псіхалагічнага ўплыву на чалавека з удзелам набліжаных да яго асобаў і самога *Майстра*, якая павінна была заканчвацца яго далучэннем да Кола. Прычым

[97] Гл.: Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1–2.

[98] Гл.: Mickiewicz A. Dzieła / pod. red. J. Krzyżanowskiego. T. 16. Listy, cz. 3. Warszawa, 1955. S. 49–51, 54–56.

[99] Прыклад братоў Янушкевічаў не быў адзіным, калі раскол Кола праходзіў праз блізкіх сваякоў. На баку Тавянскага застаўся *брат-правадыр* Караль Ружыцкі, а сярод прыхільнікаў Міцкевіча быў яго родны сын Станіслаў [Rutkowski K. Braterswo albo śmierć… S. 364].

[100] Гл.: Sudolski Z. Mickiewicz… S. 639.

[101] Гл.: Goszczyński S. Listy… S. 336.

[102] Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 636.

[103] Komierowski J. Moje stosunki z Towiańskim i Towiańczykami. Paryż: W Drukarni L. Martinet, 1856. S. 8–9.

і ў далейшых сустрэчах Р. Янушкевіч працягваў выстаўляць Тавянскага ў нейкім магічным святле, сцвярджаючы, што *«толькі ён адзін ведае ўсё і бачыць усё»*[104].

У 1849 г., пасля перамогі чарговай рэвалюцыі ў Францыі і абвяшчэння рэспублікі, Р. Янушкевіч вярнуўся ў Парыж. Тут ён жыў, з рэдкімі выездамі ў Швейцарыю, да восені 1857 г. Яго заняткі ў гэты час вядомы фрагментарна. 30 жніўня 1854 г. у яго адбыўся вечар з нагоды развітання з Я. А. Рамам, які праз дзень выязджаў у Новую Гранаду. 18 снежня 1855 г. ён удзельнічаў у сходзе эмігрантаў, якія займаліся зборам грошай для дзяцей А. Міцкевіча[105]. Выданне ў 1856 г. амністыі ўсім палітычным зняволеным і эмігрантам у Расійскай імперыі выклікала ў прыхільніка Тавянскага негатыўную рэакцыю, і з ліпеня гэтага ж года яны пачалі рыхтаваць ліст у адказ. У выніку быў падрыхтаваны твор назвай *«Прычыны, з якіх амністыя не можа быць прынятая. Прадстаўленыя часткай польскай эміграцыі Яго Імператарскай Вялікасці Аляксандру II»*. Сярод іншых братоў яго падпісаў і Р. Янушкевіч[106].

У першай палове 1857 г. Р. Янушкевіч ажаніўся з Марыяй Летрон — даўняй і адданай прыхільніцай Тавянскага. Пры гэтым шлюб адбыўся з дазволу *Майстра*, якому яны абодва пісалі ў Швейцарыю, просячы благаславення. 3 жніўня 1858 г. у іх нарадзілася дачка Караліна, а яшчэ праз 2 гады — сын Эдвард (пам. 02.11.1861)[107]. У гэты ж час матэрыяльная сітуацыя сям'і палепшылася, прычым дзякуючы Яўстаху. На працягу некалькіх гадоў ён ужо займаўся фінансавымі справамі польскіх магнатаў у Еўропе і на пачатку 1857 г. прыцягнуў да гэтага свайго малодшага брата. У лісце да *Майстра* Р. Янушкевіч сцвярджаў, што гэтая праца прынясе яму каля 2000 франкаў штогод[108]. Аднак праца патрабавала ад яго ўсяго часу. У 1859 г. ён некалькі разоў скардзіўся сябру С. Гашчынскаму на сваю вялікую занятасць[109].

У кастрычніку ці лістападзе 1857 г. Р. Янушкевіч пераехаў разам з жонкай у недалёкі ад Парыжа гарадок Нантэр. Тут частым госцем у яго бываў С. Гашчынскі, які так апісваў свае візіты да сям'і Янушкевічаў: *«Наша таварыства звычайнае: Рамуальд Янушкевіч, яго жонка і я. …Мы разам ядзім абед, пасля абеда Марыя грае нам на фартэпіяна. …Марыя грае з незвычайнай бегласцю: яна нават лічылася вядомай салоннай артысткай. У Справе яна праславілася глыбокім адчуваннем музыкі, а таму яе музыка прыносіць нам сапраўдную карысць і нашыя музычныя вечары не раз з'яўляюцца для нас малітвай»*[110].

Жыццё ў Нантэр не было, аднак, бязвыезным. Чацвер, пятніцу і суботу кожнага тыдня сям'я планавала праводзіць у Парыжы *«дзеля больш блізкіх стасункаў з братамі»*[111]. Увесну 1858 г. Р. Янушкевіч ездзіў у Швейцарыю для сустрэчы з Майстрам і 8 траўня вярнуўся ў Нантэр. Падобнае падарожжа было здзейсненае ў наступным годзе — 15 траўня 1859 г. Р. Янушкевіч ізноў выехаў у Швецарыю, але ў гэтым жа годзе вярнуўся[112].

[104] Ibid. S. 10.

[105] Гл.: Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 502, 542.

[106] Гл.: Powody dla których amnestia przyjętą być nie może. Przedstawione przez część emigracji polskiej Jego Cesarskiej Mości Aleksandrowi II. Paryż, 1857. Гл. таксама: Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 578, 584; Begey A. Action et souvenirs… P. 67–68.

[107] Гл.: Begey A. Action et souvenirs… P. 71–73; Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 611.

[108] Гл.: Begey A. Action et souvenirs… P. 70.

[109] BN. Rkps. 2955. Korespondencja Seweryna Goszczyńskiego z lat 1833–1875. K. 42–43.

[110] Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 586–587.

[111] Ibid. S. 587.

[112] BN. Rkps. 2955. K. 42–43.

Паляпшэнне матэрыяльнага стану дало Р. Янушкевічу магчымасць падтрымліваць у некаторай ступені сваіх сяброў. 30 лістапада 1858 г. ён запрасіў пажыць у сваім жытле ў Нантэр С. Гашчынскага *«на некалькі тыдняў»*, а 15 студзеня 1859 г. пазычыў яму 80 франкаў. Аднак пры гэтым паміж сябрамі здарылася сутычка. 28 лютага Р. Янушкевіч папрасіў Гашчынскага вызваліць яго памяшканне, якое той займаў ужо амаль 3 месяцы, што паэт і зрабіў, але 14 сакавіка ён быў абвінавачаны ў няўдзячнасці, бо не падаў *«фармальнай падзякі за гасціннасць»* Р. Янушкевічу. У выніку славеснай перапалкі, якая адбылася затым паміж *братамі*, Гашчынскі зрабіў для сябе выснову *«з гэтага часу не прымаць ад яго ніякай міласці»* і на наступны дзень доўга абдумваў гэты выпадак. Відавочна, пакрыўджанасць прывяла да таго, што ў сваім *«Дзённіку»* ён дае некалькі негатыўных характарыстык Р. Янушкевічу: *«Учынак [Рамуальда] Янушкевіча, нізкі нават з зямнога пункту гледжання, з'яўляецца нехрысціянскім з пункту гледжання Божай Справы. [...] Янушкевіч не спыняецца пры ўнутранай узнагародзе, за добрыя ўчынкі патрабуе бачнай, матэрыяльнай аплаты ад тых, якім робіць дабро; толькі пазычае і тое пад працэнты»*[113]. І крыху ніжэй: *«У Рамуальда [Янушкевіча] рогі шляхціца вылазяць, як шыла з мяшка, кожны раз, як гаворыць пра сваю сям'ю, напрыклад маці, брата Адольфа і г. д. Марыю [Янушкевіч] трымае манія настаўлення, жаданне кіравання людзьмі і рэчамі прабіваецца часам спосабам смешным, калі б не быў хутчэй абуральным»*[114].

У 1859 г. Р. Янушкевіч з жонкай падтрымлівалі маральна Стэфана Зана ў апошнія месяцы яго жыцця, нягледзячы на незаўжды прыхільныя адносіны таго да гэтай сям'і. Яны прысутнічалі таксама пры смерці брата вядомага філамата 3 красавіка 1859 г. у Нантэр[115].

Апошнія гады жыцця Р. Янушкевіча прайшлі ў адносным спакоі. Ён працягваў жыць разам з сям'ёй у Нантэр, часта прымаючы ў сябе землякоў, пераважна аднадумцаў-тавянчыкаў. 22 снежня 1861 г. сям'я выехала праз Цюрых у г. Турын у Італіі, але ўжо ў наступным месяцы яны вярнуліся і распавядалі землякам пра падарожжа[116]. Звестак пра іншыя значныя падзеі яго жыцця не захавалася. Памёр Рамуальд нашмат раней за свайго старэйшага брата — 31 сакавіка 1865 г. у Нантэр.

* * *

Публікаваны ніжэй ліст Рамуальда Янушкевіча да брата Яўстаха быў напісаны праз месяц пасля расколу ў Коле — 21 чэрвеня 1846 г. Эмацыянальная насычанасць сведчыць пра глыбокае перажыванне яго аўтарам разрыву паміж аднадумцамі і пра напісанне ў хвіліну душэўнага парыву, а не спакойнага халоднага разважання. Насычаны тэрміналогіяй тавянізму, ён складаны для разумення без ведання гісторыі Кола і ўзаемаадносінаў паміж братамі. Тым не менш ён паказвае напружанасць сітуацыі ў момант распаду, калі сваяцкія сувязі ставіліся ніжэй за ідэалагічныя дактрыны і маральна-этычныя перакананні.

Ліст не з'яўляецца невядомым для гістарыяграфіі. Яго згадвала і на яго спасылалася (з кароткай цытатай) у сваім даследаванні Зоф'я Макавецка[117]. Аднак невядома ніводная публікацыя гэтага ліста ні на мове арыгінала, ні ў перакладзе на якую-небудзь мову, у тым ліку сярод апублікаваных фрагментаў карэспандэнцыі Р. Янушкевіча[118].

*Дзмітрый МАТВЕЙЧЫК*

---

113 Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 630–632.

114 Ibid. S.

115 Ibid. S. 624, 629, 631–634.

116 Гл.: Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 2. S. 121, 124.

117 Гл.: Makowiecka Z. Brat Adam… S. 292–294.

118 Гл.: Begey A. Action et souvenirs…; Begey A. André Towiański et Israël. Actes et documents 1842–1864 avec une lettre de Ladislas Mickiewicz à l'auteur. Rome, 1912.

*Апошні ліст, пісаны да Брата Яўстаха — Базыль дня 21 чэрвеня 1846 [года]*[119]

*Твая смерць не ўразіла б мяне так, як смерць Твайго Духу. Я не перашкаджаў Твайму высяванню, але калі Ты ўжо падаў поўныя вынікі, сёння я маю права як Хрысціянін, як Брат*[120] *думаць пра іх і казаць.*

*Ахвяры Уладара і мае растаптаныя, самыя Святыя абавязкі Слугі Справы Хрыста Табой першым былі падраныя. Твае апошнія словы пісаліся ўжо не Тваёй рукой, само пекла служыла Табе, а Ты ў сваім асляпленні толькі хлусню выліваў у напісаным мне лісце.*

*Тое, што сёння я пішу Табе, я пішу пры жывым Богу і пры крыніцы майго Уладара — з гэтым я стану перад Судом Найвышэйшэга, гэтым я Цябе заклікаю і гэтым вінаваціць Цябе буду, бо я на ўласныя вочы бачыў, як Ты грэшна выказваўся, якую Ты меў удзячнасць да Сясцёр, якія выцягвалі Цябе з заняпаду, ратавалі, каб Ты не апаганьваў месца святога. Не фальшамі і дактрынамі яны пераўтваралі нашыя сэрцы, як Ты выказваешся ў сваім лісце, але ахвярамі нашага Духу кармілі абодвух нас, выдзяралі Цябе некалькі разоў з путаў злога. Ты быў ля іх стоп і ахвяроўваў ім вечную ўдзячнасць. У хвілінах нядолі і Твайго заняпаду Ты называў іх Анёламі-Вартаўнікамі, а цяпер кім іх лічыш у Тваёй душы? Толькі фальшывую ролю Ты граў перад імі. Людзей магчыма ашукаць, але ці зможаш Ты ашукаць Бога? Ліст, напісаны да сястры Ганны*[121]*, будзе калі-небудзь доказам, бо ні яна, ні я пачуццяў у Цябе не выдзяралі. Ты страціў памяць пра ўсю мінуўшчыну і ўчынкі, я адчуваю сваім абавязкам прынесці Табе памяць пра іх.*

*Калі б Ты меў сапраўдную веру ва Уладара, то Ты б адчуваў, што нічога нячыстага ў Яго доме ўтрымацца не магло б. Я на хвілінку саграшыў у Бадэне, уласным сумленнем я адразу быў адкінуты ад крыніцы Ласкі і Міласэрнасці. [Калі б] Уладар, што бачыць таямніцы кожнага з нас, даў бы ашукаць сябе нагаворам ці плёткам, як Ты мяркуеш, альбо слухаў бы іх ад каго б гэта ні было, то не быў бы пакутнікам Божым. Для яго не важныя фамільныя і сваяцкія сувязі. Мы мелі шматлікія прыклады гэтага. Сваім плёнам, Браце, Ты сцвярджаеш, што калісьці сам казаў Уладару, «што калі б не адчуваў і не меў таго пераканання, што Ты, Уладару, бачыш і чуеш усе таямніцы нашых сэрцаў, я б не лічыў Цябе Майстрам», як жа пагадзіць адно з другім? Трэба і на зямлі быць паслядоўным.*

*Ты парываеш мяне прыгадаць нашую мінуўшчыну, нашыя дзіцячыя гады — Нясвіж і сшыткі. Я ўсё гэта памятаю добра. Але Ты забыўся пра бліжэйшыя хвіліны, святыя хвіліны нашага сапраўднага шчасця, сапраўднай невінаватасці нашага духу, пра абяцанні Богу і Уладару, дадзеныя ў Нантэр, пра хвіліны, калі найсвяцейшая надзея асвяціла нас, нягодных, калі Уладар у Цюрыху 19 лютага*[122] *блаславіў нашае Братэрскае злучэнне, калі мы разам узнялі голас на Урад, што няволіў наш Дух*[123]*. Ці гэта не хвіліны, што*

[119] Падкрэслена ў арыгінале.

[120] Ва ўсім лісце магчымая дваістая інтэрпрэтацыя тэрміна *«Брат»*: 1) як роднага брата, звязанага сваяцкімі сувязямі; 2) як брата духоўнага, прасякнутага вучэннем А. Тавянскага. На карысць другой версіі ўказвае напісанне тэрміна з вялікай літары, што было характэрна для карэспандэнцыі паміж тавянчыкамі.

[121] Гут, нар. Макса, Ганна (? — пам. 1878) — жонка Фердынанда Гута, паходзіла з сям'і віленскага рамесніка, сястра Караліны Тавянскай, жонкі Андрэя, актыўная тавянка [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 2. S. 432].

[122] Верагодна, 1846 г., калі Я. Янушкевіч разам з Міцкевічам прыбыў у Цюрых.

[123] Маецца на ўвазе падпісанне прыхільнікамі Тавянскага падпісанне акта пратэсту ад 7 жніўня 1842 г. супраць яго выдалення з Францыі французскімі ўладамі.

*патрабуюць больш годнай увагі? Такога нізкага тону я не чакаў. Пра гэта Ты павінен быў памятаць лепей, чым пра дробязі нашага дзіцячага веку.*

*Гаворыш мне, каб я ў хвіліну халоднага Суду агледзеўся, што робіцца вакол мяне, але прасякніся, і Бог дасць Табе ўбачыць, што за чатыры гады Справа ні на крок не зварухнулася, і чаму? Ці Уладар вінаваты ў гэтым? Ці Сёстры? Мы невінаватыя. Страшны Суд Ты выдаў у Тваім духу. Цяпер я пытаю Цябе, што Ты за 4 гады зрабіў для Справы? Трыманы і мацаваны толькі духам Уладара, што Ты зрабіў са святлом, чарпаемым з крыніцы Ласкі і Міласэрнасці? У сённяшніх выніках Ты паказваеш свае 4-гадовыя працы.*

*Ах, Браце Яўстаху! Ці такім плёнам Ты плаціш свайму Уладару? Гэта нікчэмна і подла з Твайго боку. Бачыш, Браце, што мы не можам з Табой ісці па адной дарозе. Разрыў нашага Братэрскага ланцуга не мне, але, хутчэй, Табе прыпішы. Я прагну збаўлення Твайго Духу, але майго Бога і Уладара, дзеля супраціўлення і дрэннай волі Брата, які ўступіў у саюз з шатанам, я не стамляю. Не магу быць з Табой разам, бо клапачуся пра збаўленне свайго духу.*

*У міласці да Твайго Духу нагадваю Табе апошнія словы Уладара, сказаныя Табе, што калі не будзеш аддány свайму Духу, калі адрачэшся ад Тваёй місіі, калі пасля зробленага Каралеўствам*[124]*, не пойдзеш па дарозе, указанай Табе ў дадзеным Табе лісце, надыдзе хвіліна, калі як апошні валацуга будзеш валяцца па канавах парыжскіх вуліц.*

*Гэта моцна прыцісне Твой дух. Памятай, Браце, што ўсё пройдзе, але Слова Уладара не пройдзе. Ты меў шматлікія прыклады гэтага. Ратуйся, пакуль ёсць час, заклікаю і заклінаю яшчэ раз — не губі свой дух.*

*(Здрады любяць, але здраднікамі пагарджаюць.)*

*Сёння я адчуваю сябе вольным перад Богам і перад Табой самім, і вер, што Бог дасць мне сілу і што тваё зло не абапрэцца на мяне, не знойдзе ў мяне падтрымкі ні тут, ні пасля смерці. Я прагну служыць Табе на дарозе Хрыста, але на Тваіх ілжывых шляхах з Табой не яднаюся, і Братам быць не хачу. Грошы*[125] *з пашпартам адсылаю.*

*Рамуальд*

[124] Верагодна, маецца на ўвазе паўстанне 1830–1831 гг., якое пачалося ў Каралеўстве Польскім 29 лістапада 1830 г.

[125] Наконт гэтых грошай С. Гашчынскі пісаў у лісце да Людвіка Набэляка: *«Брат Рамуальд Янушкевіч уласнаму брату адаслаў грошы, хоць мае ў іх вялікую патрэбу, — а гэта таму, што, на няшчасце, Яўстах далёка сышоў са шляху Справы»* [Goszczyński S. Listy… S. 210].

# БУДРЫС В ТВЕРИ

В 1829 г. в журнале «Сынъ Отечества и Северный Архивъ» (1829, т. V, с. 113–115) был анонимно опубликован подстрочный прозаический перевод баллады великого польского поэта Адама Мицкевича «Trzech Budrysów (Ballada litewska)». Перевод был выполнен, скорее всего, одним из соредакторов журнала — белорусским шляхтичем Тадеушем Булгариным (тем самым Фаддеем Венедиктовичем), для которого польский язык, как известно, был первым литературным языком. Опубликованный текст, по нашему мнению, спровоцировал другого гения — А. С. Пушкина — вступить с Мицкевичем в творческое состязание и опубликовать поэтический перевод баллады в журнале «Библіотека для чтенія» (1834, т. II, с. 96–97)[1]. Но сейчас нас интересует не история творческого диалога Мицкевича и Пушкина при посредничестве Булгарина, а судьба человека, которому де-факто была посвящена баллада Мицкевича и который в это время — и в 1829 г., и в 1834 г. — жил и работал непосредственно в Твери и Тверской губернии. Скорее всего, никто из тверичей, даже читавших упомянутые нами журналы, не подозревал, что скромный учитель математики тверской гимназии Викентий Антонович Будревич — и есть тот самый Будрыс, которому таким образом передавал свой поэтический привет сосланный одновременно с ним вглубь России, но сумевший покинуть ее и достичь литературного бессмертия Адам Мицкевич[2].

Винценты Будревич родился в 1795 г., в Минской губернии. Учился в Виленском университете, после его окончания работал в Ковно, где пропагандировал идеи Общества лучистых («променистых»), членом которого он стал еще в годы студенчества. Вместе с другими членами тайного молодежного общества филоматов и филаретов по императорскому указу он был выслан в Россию после длительного и предвзятого следствия сенатора Н. Н. Новосильцова[3]. Всем высланным было строжайше запрещено возвращаться на родину без высочайшего соизволения. Впрочем, первоначально — до польского восстания 1830–1831 гг. — судьба была достаточно благосклонна к некоторым филоматам. В частности, им разрешалось сдать экзамены в столичных университетах на кандидатскую степень с тем, чтобы позже служить в учебных заведениях России. Те же, кто уже имел степень кандидата (а Будревич закончил Виленский университет со степенью кандидата философии), были откомандированы в распоряжение попечителей учебных округов и другие государственные учреждения высокого уровня.

Винценты Будревич воспользовался этой возможностью. Вначале он попал в Москву. Один из его близких друзей, любимый ученик выдающегося историка Иоахима Лелевеля, Циприан Дашкевич, обосновавшийся в Москве и служивший секретарем банка, сообщал учителю: «Будревич и Петрашкевич в университете за кандидатскую степень по

---

[1] См. об этом: Федута А. И. Три «Будрыса»: авторский текст — подстрочник — поэтический перевод // Respectus Philologicus (Вильнюс). 2004. № 5 (10). С. 112–120.

[2] Впрочем, А. С. Пушкин, похоже, с Будревичем знаком был. Л. А. Черейский, автор справочников «Пушкин и его окружение» и «Пушкин и Тверской край», утверждает, что Будревич «встречался с Пушкиным в Москве в обществе Мицкевича», и приводит следующую цитату из М. А. Максимовича: «возвращенный из ссылки Пушкин познакомился с польским своим собратом (Мицкевичем. — *Л. Ч.*). Они часто виделись. Будревич, учитель математики в тверской гимназии, помнил, как раз Пушкин зазвал сбитенщика и как вся компания пила сбитень, а Пушкин, шутя, говорил: *"На что нам чай? Вот наш национальный напиток"*» — см.: Черейский Л. А. Пушкин и Тверской край. Калинин, 1985. С. 85–86.

[3] См. об этом, в частности, в воспоминаниях профессоров Виленского университета И. Лелевеля и И. Н. Лобойко: Вильна 1823–1824. Перекрестки памяти: И. Лелевель. Новосильцов в Вильне. И. Н. Лобойко. Мои воспоминания / сост. Федута А. И.; вступ. статьи и комментарии Лавринец П. М., Рейтблат А. И., Федута А. И. Минск, 2008.

300 руб. асс. на год получают»[4]. Служивший в это же время при канцелярии московского генерал-губернатора Адам Мицкевич писал президенту общества филоматов Томашу Зану, сосланному в Оренбург: «Знакомств никаких, кроме собственной компании, у нас нет. Выделяется г-н Онуфрий (Петрашкевич — *Т. И., А. Ф.*), который является синдиком здешней епархии; потому его часто приглашают на крестины, помолвки и похороны; поддерживает знакомства с ксендзами, акушерками, секретарями и секретаршами, всегда сильно занят, деловит и спешит все время, как если бы имел где-то rendez-vous (свидание. — *Т. И., А. Ф.*); Будрыс в точности негатив Онуфрия, всегда impassible (невозможен. — *Т. И., А. Ф.*), целый день курит трубку и вечерами смотрит на свечи; всегда пробуждается к шахматам, иногда заглядывает в математику»[5].

Флегматичный, задумчивый, сосредоточенный на собственных мыслях Будревич, впрочем, недолго остается в Москве. «Все мы здоровы и кое-как живем; но, похоже, придется расстаться, потому что Нуфр (Онуфрий Петрашкевич. — *Т. И., А. Ф.*) и Будревич должны ехать учительствовать», — пишет Мицкевич в Казань будущему ректору Казанского университета Юзефу Ковалевскому[6]. Киприан Дашкевич, ставший неформальным центром московского кружка бывших виленских филоматов, несколько позже уточняет (правда, с ошибкой!) И. Лелевелю маршрут своих коллег: «Петрашкевич и Будревич после двухлетнего сидения в Москве получили назначения, первый в тамбовскую, второй в костромскую гимназию, преподавать латынь и оба математику; не знаю, как начнут с этой своей несчастной латынью»[7].

Кострома была к Москве ближе, однако служба в тамошней гимназии пришлась Будревичу явно не по вкусу — причем даже неизвестно, приступил ли он к ней вообще. Известно зато, что он попросился в Тверь, название которой и он сам, и его друзья, и товарищи по несчастью долго не могли выучить. Тверичам, однако, не стоит обижаться за это на виленских ссыльных. Дашкевичу едва ли не лучше других давался русский язык (отчего он, собственно, и занял достаточно хлебный пост в банке), но даже «банкир», как прозывали его товарищи, первоначально писал словосочетание «Тверская губерния» как «Taurskaja gubernia», отчего известнейший современный исследователь и публикатор филоматских документов Збигнев Судольский прочитал в его письме этот адрес как «Таврическая губерния». Да и Адам Мицкевич вместо «Twer» в нескольких письмах пишет «Cwir» — причем именно в связи с Будревичем. Последнее написание вполне объяснимо: Мицкевич, уроженец Гродненской губернии (фольварок Заосье Новогрудского уезда), воспринимает его на слух вполне по-белорусски: «Цьвер».

Тверь Будревич, судя по всему, как мы уже отметили выше, выбрал как место будущей службы самостоятельно. Во всяком случае, именно об этом говорит Дашкевич: «До 23 апреля пребывало нас в Москве 6-ро. В это время Будревич по собственному согласию был выслан в тверскую гимназию учителем математики и физики. Учеников у него 34, и во всех классах начал он от начал арифметики, а оригинальностью поведения и жизни стал он предметом удивления»[8].

---

[4] Киприан Дашкевич Иоахиму Лелевелю, 30 августа / 11 сентября 1826 г. LzZ, t. 1, Warszawa, 1997. S. 317.

[5] Адам Мицкевич Томашу Зану, Москва, 9/21 июня 1826 г. AM, Dzieła, t. XIV, Warszawa, 1855. S. 291.

[6] Адам Мицкевич Юзефу Ковалевскому, Москва, конец декабря 1826 г. AM, Dzieła, t. XIV, Warszawa, 1855. S. 308.

[7] Киприан Дашкевич Иоахиму Лелевелю, Москва, 7/19 января 1827 г. LzZ, t. 1, Warszawa, 1997. S. 321.

[8] Киприан Дашкевич Иоахиму Лелевелю, 6/18 июля 1827 г. LzZ, t. 1, Warszawa, 1997. Str. 328.

Последнее было, очевидно, вызвано тем, что Будревич слыл, по крайней мере первое время, нелюдимым. Оказавшись в чужом городе, с далеко не лучшим знанием русского языка, да еще в статусе ссыльного, он еще больше замкнулся в себе[9]. И это несмотря на то, что в первое время его пребывания в Твери дела обстояли у него вполне благополучно. Во всяком случае, Мицкевич пишет Циприану Дашкевичу из Торжка (куда он попал проездом из Петербурга в Москву): «Мы здоровы за Тверью. Достучался до Будрыса и отдал передачу (вероятнее всего, речь идет о книгах. — *Т. И., А. Ф.*). Будрыс хорошо живет и хорошо выглядит»[10]. Вместе с тем студенческая юность долго еще «аукалась» Будревичу: за участие в кружках филоматов и филаретов из его жалованья вычитались деньги в «возмещение казне издержек, вызванных следствием о нем, которое производило Литовско-Виленское Правление»[11].

Здесь нужно остановиться на сути деятельности того тайного общества, за принадлежность к которому были высланы из Вильно молодые люди, в том чісле и Винценты Будревич. Общество филоматов ставило своей целью, среди прочего, самообразование и самоусовершенствование. В частности, один из лидеров движения Юзеф Ежовский на заседании правления Общества от 3/15 декабря 1819 г. декларировал: «…новая наша цель: *"*создать условия для основательного просвещения и черпать из него все, что только к пользе страны употреблено быть может*"*, — если мы возьмем ее во внимание, то сделаем вывод, что она слагается из двух частей, или, вернее, цель та двояка: одна — *самопросвещение*, другая — *использование просвещения* для извлечения пользы…»[12]. Филоматы готовили друг друга, в том числе, и к повседневной педагогической деятельности — во имя той Польши, в возрождение которой они искренне верили — и чему, собственно говоря, учили их университетские педагоги. Во время заседаний общества его члены выступали с рефератами-сообщениями, в которых освещали различные проблемы познания по всем отраслям науки, со своими поэтическими произведениями и рецензировали сообщения друг друга. Будревич, судя по сохранившимся и опубликованным протоколам научных заседаний, активно выступал с рефератами по математике, физике, химии[13].

Теперь, в ссылке, Будревич, как и многие другие его коллеги по обществу, получили возможность продемонстрировать глубину своих знаний и апробировать свои педагогические способности на практике, однако в принципиально иных условиях, среди других людей, на чужом для себя языке. Удалось ли ему это — мы не знаем; до нас дошли считанные письма Будревича из Твери, причем о своей профессиональной деятельности

---

[9] Показательно, что Будревич в тверской период полностью отошел от активного участия в культурно-литературной жизни — вероятно, опасаясь повторения виленского прошлого. Во время работы Будревича в гимназии ее директорами были И. И. Лажечников (в 1831–1837 гг.), Н. М. Коншин (в 1837–1849 гг.), довольно известные в литературе люди, знакомые с А. С. Пушкиным, причем они принимали активное участие в культурной жизни Твери. Так, Лажечников именно в Твери написал свой лучший роман «Ледяной дом», отрывки из которого читал в доме Пассеков, а позже устраивал общественные читки «Опричника» в гимназии. Коншин занимался краеведческими историческими исследованиями. Проживал в Твери и Ф. Н. Глинка, собиравший в своем доме литераторов, историков, музыкантов. Никаких следов сопричастности к этим делам В. А. Будревича обнаружить не удалось.

[10] Адам Мицкевич Циприану Дашкевичу, Торжок, 2/14 декабря 1827 г. AM, Dzieła, t. XIV, Warszawa, 1855. S. 364.

[11] Крылов Д. Столетие Тверской мужской гимназии: (1804 — 2 февраля 1904 г.): Историческая записка. Тверь, 1904. С. 96.

[12] Цит. по: Wybór pism filomatów: Konspiracje studenckie w Wilnie 1817–1823. Wrocław, 2005. S. 85. Выделено Ю. Ежовским — *Т. И., А. Ф.*

[13] См.: Spis prac filomatów czytanych na posiedzeniach naukowych // Wybór pism filomatów: Konspiracje studenckie w Wilnie 1817–1823. Wrocław, 2005. S. 409–423.

Викентий Антонович в них умалчивает. Лишь из самого раннего сохранившегося до наших дней письма Будрыса к Нуфру (Онуфрию Петрашкевичу) можно понять, как служится учителю тверской гимназии Викентию Будревичу: «Видно из твоих намерений, желаний и побуждений […] что, лежа четыре года кверху пузом, обрел ты сил, а с ними, думаю, и отваги и выдержки, чтобы пуститься в глубины математических пропастей. И хорошо поступаешь — только старайся всеми силами добиться этого места. В том, наверное, Адам (Мицкевич. — *Т. И., А. Ф.*) может тебе помочь. Сначала у тебя будут некоторые трудности в проведении занятий, так как учебники, которых придерживаются согласно предписаниям Училищного Правления, ничего не стоят — отсюда тяжело будет непосвященному черпать математические сведения. Труды, предписанные начальством, суть «Геометрия и алгебра» Фусса, тригонометрия также, статика и геометрия неизвестных авторов, которых в нашей гимназии ни следа нет, и были ли вообще [неизвестно]. Я в отношении тригонометрии тем временем придерживаюсь труда Полиньского (речь о книге М. Пельки-Полиньского — профессора все того же Виленского университета, разумеется, не переведенной на русский язык. — *Т. И., А. Ф.*) — что касается статики и практической геометрии, не знаю, по какому автору буду преподавать. Еще мои ученики не в состоянии понять практическую геометрию, а тем паче статику. Несмотря на это, после праздников начну статику и практическую геометрию, потому что алгебру и теоретическую геометрию закончу во всех классах. Директор просил, чтобы [я] поспешал, будут знать или нет, но чтобы курс закончил согласно предписаний Главного Училищного Правления, как рекомендовано. Тверь до моего приезда не слышала ни тригонометрии, ни толидометрии, ни статики, ни решения уравнений второго уровня.

Правду говоря, я не придерживаюсь ни одного из предписанных авторов. Не умею читать по-русски, отчего даже не купил ни одного из них. Только придя в класс, брошу взглядом на фигуру или алгебраическую формулу в книжке учеников и двигаюсь к таблице, а там пусть ученики берут, что смогут. Директор, видя, что того в книге нет, что на доске в систематическом виде развито, указал ученикам, чтобы записывали то, о чем говорится на лекциях. Для облегчения в первом классе написал 4 первоначальные раздела, и теперь мне Директор постоянно докучает, чтобы физику и алгебру написал, а мне это в моих математических размышлениях неимоверно мешает, потому что вынужден приспосабливаться по большей части к работам, предписанным правительством»[14]. Вместе с тем Будревич искренне старается обеспечить своих учеников новейшей литературой; например, просит Петрашкевича приобрести у книготорговца Готье 22 экземпляра второго издания логарифмических таблиц известного французского астронома и математика Жозефа-Жерома де Лаланда[15].

Процитированное выше письмо В. Будревича отправлено в апреле 1829 г., через два года после его прибытия в Тверь. Но уже через год дискомфорт, который он чувствовал от своего пребывания в Твери, достиг такого уровня, что Будрыс вынужден прибегнуть к связям чрезвычайно популярного в московском и петербургском свете Мицкевича. Тот, через свою будущую тёщу, известную пианистку Марию Шимановскую, влиятельную в силу своего положения при императорском дворе (у нее статус придворной пианистки), добивается у ректора Виленского университета В. В. Пеликана согласия на смену места пребывания некоторых выпускников университета (Пеликан продолжал выступать консультантом правительства в данном вопросе) и пишет Циприану Дашкевичу: «Пусть Будрыс подумает, о чем будет просить; какое именно место; я тотчас непременно напишу

[14] Винценты Будревич Онуфрию Петрашкевичу, Тверь, 30 марта / 11 апреля 1829 г. LzZ, t. 1, Warszawa, 1997. S. 249.

[15] См. письмо от 13/25 сентября 1830 г., Тверь. LzZ, t. 1, Warszawa, 1997. S. 256.

княгине (З. А. Волконской, которая должна повлиять уже на министра просвещения. — *Т. И., А. Ф.*)»[16]. Ностальгия Будрыса была настолько сильна, что Мицкевич даже приводит его в качестве примера Дашкевичу, всерьез намеревавшемуся бежать от несчастной любви к Каролине Яниш (будущей известной поэтессе К. К. Павловой) на Кавказ или в Сибирь: «Эй, Дашкусь, не гневи небо! […] Какое шило подгоняет тебя в Сибирь или на тот Кавказ? Поверь мне, через год будешь проклинать и мир, и себя. Ничтожный чин, который получишь при переезде, не развлечет тебя в долгих одиноких днях и тоскливых вечерах. Не научил тебя пример Будрыса? Будрыс, так мало, казалось бы, нуждающийся в человеческом обществе, удержаться не может в Твери»[17].

Почему же Будревич, сам выбравший Тверь в качестве места ссылки, вдруг затосковал теперь и мечтает бежать? Выбор был вполне понятен: Тверь, расположенная на пути между старой и новой столицами Российской империи, а потому удобная для встреч с товарищами по несчастью, вынужденными, подобно, например, А. Мицкевичу и Ф. Малевскому, курсировать между ними. Это не Крым, не Харьков, не Оренбург, в которых встречи с дорогими тебе людьми ждать попросту не приходится.

Удержаться же в Твери, стать полностью своим для тверского общества «литовский медведь» Будревич попросту не смог. Сказались и особенности его характера. Вот как вспоминал о нем его приятель, главный редактор официальной газеты Царства Польского «Тыгодник Петерсбургский», тоже выпускник Виленского университета и позже тверской помещик Юзеф Эмманюэль Пшецлавский (известный в истории русской литературы как Осип Антонович Пржецлавский)[18]: «Это был такой оригинал, что даже и в отечестве оригиналов, Англии, обратил бы на себя внимание, с тою разницею, что англичане иногда обдумывают свои выходки, а мой Будрис был оригиналом, сам этого не подозревая, как мольеровский Bourgeois gentilhomme не знал, что речь его есть проза»[19].

Что же приводит Пшецлавский в качестве доказательства «оригинальности» — вернее, чудачеств — Будрыса? В частности, следующий анекдот:

«Однажды рано утром, когда я еще не вставал, входит Будревич, весь расстроенный и сердитый. Я спрашиваю, какая неприятность с ним случилась?

— Неприятность! Тебе надо непременно и подобрать техническое название! — восклицает Будревич. — Это не то, а просто лишние хлопоты.

— Что же такое, говори наконец!

— А вот что; ни с того ни с сего, не спрашивай меня, прибавили жалованье!

— Так это-то тебя сердит?

— И опять техника! Не то что сердит, а все-таки расстройство.

— Не понимаю.

— Как можно не понимать! Я несколько уже лет рассчитал мой бюджет до копейки и распределил его так, что приход с расходом в конце года прекрасно сходились. Теперь придется или всю таблицу переделывать, да и к чему, когда дохода было довольно, или в счетах будет у меня торчать излишек. Если бы были родные, я бы им его отдал, а то

[16] Адам Мицкевич Циприану Дашкевичу, Петербург, 30 июля / 11 августа 1828 г. AM, Dzieła, t. XIV, Warszawa, 1855. S. 412.

[17] Адам Мицкевич Циприану Дашкевичу, Петербург, около 15/27 августа 1828 г. AM, Dzieła, t. XIV, Warszawa, 1855. S. 414.

[18] См. о нем, в частности: Федута А. И. Слово «белорус» в воспоминаниях Осипа Пржецлавского // Поэтика и лингвистика. Материалы научной конференции, посвященной 100-летию со дня рождения Р. Р. Гельгардта. 16–19 октября 2006 г. Тверь: ТГУ, 2006. С. 42–44.

[19] Пржецлавский О. А. Калейдоскоп воспоминаний. Гл. II. Адам Мицкевич // Русский архив. 1872. Стлб. 1946.

інфантэрыі — гэта прыблізна генерал-палкоўнік у сучасным войску. Вышэйшае званне ў расійскай арміі — фельдмаршал, але ў той час амаль на працягу 50 гадоў гэтае званне не прысвойвалася, і, фактычна, годнасць генерала ад інфантэрыі (ад артылерыі, ад кавалерыі — «поўныя генералы») была найвышэйшай у войску. Поўныя генералы насілі генеральскія пагоны без зорак з кантам колеру, залежным ад роду войскаў, генералы ад інфантэрыі — з чырвоным кантам. У 1913 г. у расійскай арміі было 177 поўных генералаў, пры гэтым толькі трохі больш за палову з іх мела вышэйшую адукацыю пры сярэднім узросце — 66,5 гадоў. Самым маладым (ва ўзросце 54 гады) з іх, нават праз 3 гады пасля атрымання чына, быў генерал ад інфантэрыі Кандратовіч.[35]

1 студзеня 1910 г. генерал Кандратовіч прызначаецца камандзірам 1-га Каўказскага армейскага корпуса і адначасова памочнікам генерал-губернатара ў Тыфлісе[36]. І менавіта тут ва ўзросце 51 года Кіпрыян Антонавіч пабраўся шлюбам з Адай фон Рыхтар (1879(?) — 1954). Ада Гвідаўна фон Рыхтар (Ada von Richter) — дачка расійскага генерала фон Рыхтара, нарадзілася ў Рызе, выпускніца Смольнага інстытута ў Санкт-Пецярбургу. У 1912 г. у Тыфлісе нарадзілася дачка Вера. Бацька Ады — генерал-лейтэнант Гвіда Казіміравіч Рыхтар[37], саслужывец Кіпрыяна Антонавіча па Туркестане[38].

18 лютага 1910 г. у газеце «Новое время» адзін з уплывовых вайсковых аглядальнікаў «патрыятычнага» кірунку М. А. Меншыкаў у артыкуле «Ці можа Расія ваяваць», ацэньваючы перспектывы будучай сусветнай вайны, пісаў: «*У нашых заходніх суседзяў толькі нешматлікія камандзіры карпусоў нюхалі порах, у нас жа 10 000 начальнікаў розных ступеняў ваявалі. Генералы Самсонаў…* ***Кандратовіч****… складаюць цэлую плеяду. Усё яны дасведчаныя ільвы ў мундзірах*».

15 жніўня 1913 г., у прадчуванні вайны, Кандратовіч прызначаецца камандзірам 23-га армейскага корпуса 2-й арміі. Камандуючым 2-й арміі за тры тыдні да пачатку вайны прызначылі генерала ад кавалерыі Самсонава[39]. Самсонаў, кавалерыйскі камандзір велізарнай асабістай мужнасці, займаў адказныя штабныя (у тым ліку і ў Варшаўскай акрузе) і адміністрацыйныя пасады, але не камандаваў нават корпусам[40].

Для Кандратовіча гэтае прызначэнне азначала вяртанне дамоў.

---

35 Независимое военное обозрение 2005–08–12 // Колпаков Ф. Н. Уровень, далекий от благополучного. Состояние российского генералитета на пороге Первой мировой войны. http://nvo.ng.ru/history/2005-08-12/5_general.html.

36 Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С. 105.

37 Рыхтар Гвіда Казіміравіч (нар. 25.06.1855), генерал ад інфантэрыі. Закончыў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага Штаба (1881 г.). Быў начальнікам штаба Туркестанскай ваеннай акругі. З 01.05.1910 да 31.01.1915 — камандзір 16-й пяхотнай дывізіі. Загінуў 17 сакавіка 1919 г. — закатаваны бальшавікамі. У Брусэлі ў праваслаўным храме расійскіх пакутнікаў сярод іншых знаходзіцца персанальная мемарыяльная дошка пад № 46: «фон РЫХТАР Гвіда Казіміравіч (1855–1919)…». Сын генерала — Рыхтар Уладзімір Гвідавіч (1886–1968). Закончыў Пажскі корпус (1907), Мікалаеўскую кавалерыйскую вучэльню (1908). Штаб-ротмістр 4-га ўланскага палка. Палкоўнік. У чэрвені 1919 г. пастурае ў Польскае войска. Камандуе эскадронам у Татарскім палку імя Ахматовіча, а затым у 13-м уланскім Віленскім палку. Пры абароне Плоцка ў жніўні 1920 г. быў паранены і ўзнагароджаны медалём. У 1921 г. выйшаў у адстаўку. Потым эміграцыя — у Іспаніі, Францыі, Марока, Італіі. У 1936 г. вяртаецца ў Польшчу. Памёр у Варшаве. Аўтар некалькіх кніг па ваеннай гісторыі. Супрацоўнік Нумізматычнага аддзела Брытанскага музея і карэспандэнт Медальнага кабінета Парыжскай нацыянальнай бібліятэкі.

38 Общий список Офицерским чинам Русской императорской армии. СПб., 1909. С. 105.

39 Гл.: Залесский К. А. Первая мировая война: биографический энциклопедический словарь. М., 2000. С. 423.

40 Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

## *Першая сусветная вайна*

1 жніўня 1914 г. у 17.00 Германія аб’явіла вайну Расіі.

Згодна з планамі расейскага камандавання вайна павінна была пачацца з дзеяннях расійскай арміі супраць Усходняй Прусіі: 1-я расійская армія генерала Рененкампфа наступае з усходу, з раёна Вільні, адначасова з ёй 2-я армія генерала Самсонава наступае з поўдня, з раёна Варшавы. Аднак яшчэ ў красавіку 1914 г. на камандна-штабной гульні ў Кіеве, якую праводзіў вайсковы міністр Сухамлінаў і ў якой бралі ўдзел усе камандзіры карпусоў і армій, у тым ліку і Кандратовіч, стала зразумела, што 2-я армія абавязкова спозніцца з-за адсутнасці дарог ў зоне яе высоўвання. Гэта дасць магчымасць манеўру немцам і прывядзе да разгрому. Як быць? Вышэйшае вайсковае кіраўніцтва знаходзіць «бліскучае» выйсце. Даецца ўводная, што ў Францыі саюзнікі перамагаюць, немцы вось-вось атрымаюць паразу і нічога не робяць на ўсходзе дзеля выратавання. Наогул, было вырашана, што колькасць расійскіх войскаў будзе настолькі значнай, што немцы будуць разбітыя без вялікіх перашкод[41].

У жыцці было ўсё наадварот. Каб ўратаваць ад поўнага разгрому французаў з англічанамі, наступаць давялося на 15-ы дзень ад пачатку мабілізацыі. Да гэтага тэрміну сканцэнтравалася толькі 30 % планаваных сілаў. Для падыходу наступных 30 % неабходна было яшчэ 8 дзён, але немцы былі ўжо пад Парыжам, і, каб не застацца з ворагам сам-насам, раніцай 17 жніўня 1-я расійская армія перайшла мяжу[42]. Усходне-Прускай аперацыі прысвечана шмат кніг. Гэта адна з найбольш цяжкіх і павучальных бітваў Першай сусветнай вайны. Але наша мэта — расказаць аб удзеле ў ёй нашага земляка, генерала ад інфантэрыі К. А. Кандратовіча.

23-і корпус пасля заканчэння мабілізацыі быў адразу разабраны на часткі. 3-я гвардзейская дывізія (генерал-лейтэнанта Сірэліўса) была адпраўленая ў Саколку, у рэзерв Паўночна-заходняга фронту, штаб якога ў гэты час знаходзіўся ў Лідзе. 2-я пяхотная дывізія (генерал-лейтэнанта Мінгіна) засталася ў цвердзі Новагеоргіеўск (цяпер Модлін) і была падпарадкаваная каменданту цвердзі. Кавалерыя корпуса (гвардзейская кавалерыйская брыгада) адпраўлена на Паўднёва-заходні фронт супраць аўстрыйцаў, мартырны дывізіён прыдадзены ў 2-і армейскі корпус, сапёрны батальён — у цвердзь Гародня. Потым дывізію Мінгіна зноў перадалі Кандратовічу, і яна даганяла карпусы, якія наступалі. У камандзіра застаўся толькі штаб корпуса. Аднак у загадах і дырэктывах корпус лічыўся так, як быццам ён дзейнічаў у поўным складзе[43].

17 жніўня 2-я армія пачала высоўвацца да дзяржаўнай мяжы. Стаяла спякота. Корпусы наступалі несупынна па сыпучых пясках, без тылавога суправаджэння, па некалькі дзён нават без хлеба. Дывізія Мінгіна, наогул, не мела абозаў, і ёй было загадана харчавацца з абозаў 15-га корпуса[44]. Ішлі без перапынкаў удзень. Адолеўшы за трое сутак 80 км, армія Самсонава 20 жніўня перайшла дзяржаўную мяжу[45]. 2-я армія складалася з 1, 2, 6, 13, 15 і 23-га армейскіх карпусоў. Гэтаксама ў яе склад уваходзілі 4-я, 6-я і 15-я кавалерыйскія дывізіі, усяго 150 000 чалавек, 702 гарматы, прыкладна такую самую моц мела і 1-я армія Раненкампфа[46].

---

[41] Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. М.,1999. С. 20.

[42] Гл.: Восточно-Прусская операция: сборник документов. М., 1939. С. 9.

[43] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[44] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

[45] Гл.: История первой мировой войны 1914–1918 гг. М:, 1975. С. 161.

[46] Гл.: Восточно-Прусская операция. С. 12.

14 жніўня ў Беластоку Кандратовіч выдае загад па войсках корпуса № 7: *«Вярнуўшыся з камандзіроўкі 13 жніўня, прыступіў да камандавання корпусам… 18 жніўня да 6 гадзін вечара корпусу сканцэнтравацца каля Новагеоргіеўска…»*[47].

Аднак тэлеграма Галоўнакамандуючага фронтам ад 14 жніўня № 3 загадвала 3-й гвардзейскай дывізіі заставацца ў Саколцы. 16 жніўня дывізія была перасунутая ў Беласток, а 17 жніўня дывізіі загадана рухацца ў бок фронту, на Дэмброва[48]. Ад такога кіравання штабам акругі дывізіямі корпуса Кандратовіча войскі пераблыталіся, і генерал прыкладна да 27 жніўня збіраў свае дывізіі.

Ад пачатку наступлення ў баях удзельнічала толькі 2-я пяхотная дывізія, наступаючы паміж 1-м і 15-м карпусамі. 24 жніўня гэтая дывізія была падпарадкаваная камандзіру 15-га корпуса генералу Мартасу. 3-я гвардзейская дывізія, даганяючы войскі, падыходзіла ў гэты дзень да Млавы, 1-я стралковая брыгада была яшчэ ў Новагеоргіеўску. Такім чынам, пры выхадзе 23-га корпуса на лінію наступлення 2-й арміі 2-я пяхотная дывізія была ў 15-м корпусе, 3-я гвардзейская дывізія ўваходзіла ў бой часткамі, пры чым яе Кексгольмскі полк быў перададзены 2-й дывізіі[49]. Больш заблытаць працу штаба 23-га корпуса не змаглі б нават немцы!

Амаль што да канца жніўня 2-я армія наступала без значных сутыкненняў з супраціўнікам і прайшла палову адлегласці ад расійскай мяжы да Балтыкі. Войскі смяротна стаміліся, адсутнічалі палявыя пякарні, сілкаваліся толькі сухарамі і тым, што адбіралі ў нямецкага насельніцтва. Штаб арміі не меў сувязі са штабамі корпусаў, штабы корпусаў — з дывізіямі. Ужывалася радыёсувязь, але ж да пачатку вайны штабы не распрацавалі нават кодаў, і загады войскам ішлі адкрытым тэкстам. У гэта цяжка паверыць, але не была арганізаваная нават выведка, і ніхто ні ў штабе фронту, ні ў штабах армій і корпусаў не ведаў, дзе немцы! Кавалерыя не рабіла рэйдаў па тылах супраціўніка, а ішла за пяхотай. Авіяцыя дастаўляла пакеты паміж штабамі, а расійскія жаўнеры, якія ніколі не бачылі самалётаў, абстрэльвалі сваіх, мяркуючы, што такую хітрую машыну маглі мець толькі немцы[50].

У германскіх штабах не маглі паверыць, што рускія адкрытым тэкстам па радыё кіруюць сваімі войскамі. Але дакладная выведка з паветра красамоўна сведчыла, што радыёперахопам можна верыць. Гэтаксама працавала і нямецкая тэлефонная сувязь: аб кожным кроку расійцаў тутэйшае насельніцтва інфармавала па тэлефоне германскі штаб!

Немецкія генералы ўмелі ваяваць і ваявалі надзвычай добра. Атрымаўшы паразу ад Рененкампфа пад Гумбіенам (20 жніўня), нямецкія карпусы адарваліся ад расійцаў, для аховы Кенігсберга пакінуўшы толькі нязначныя часткі ландверу (апалчэнцаў). Выкарыстоўваючы шчыльную сетку чыгунак, нямецкія войскі былі перавезены на левы і правы флангі арміі Самсонава. У гэты час раскіданыя па фронце на адлегласці ў 120 вёрст войскі генерала Самсонава ішлі насустрач свайму лёсу, нічога не ведаючы аб праціўніку. Дадаўшы да сваіх сілаў на ўсходзе два пяхотныя корпусы з французкага фронту (так расійская параза выратавала Парыж), **26 жніўня** немцы выцялі ў флангі, адразаючы расійцаў ад сваіх баз. Камандзір 6-га корпуса Благавешчанскі пакінуў свае войскі і збег. У гэты дзень у 7.25 Кандратовіч дасылае Самсонаву тэлеграму: «*...немцы перайшлі ў энергічны наступ супраць 1-га корпуса з захаду. ...жадана супраць…*

[47] Восточно-Прусская операция. С. 172.

[48] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[49] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[50] Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. С. 306–358.

*наступаючых высунуць… 2-ю пяхотную дывізію… загадаў адной брыгадзе 6-й кав. дывізіі пераснуцца на правы фланг…»*[51].

**27 жніўня** 1-ы корпус пасля жорсткага бою адышоў да Сольдаў, камандзір гэтага корпуса генерал Артамонаў ўзяў вінтоўку і пайшоў кіраваць ротамі, кінуўшы камандаванне корпусам. *«1-ы армейскі стаіць як скала!»* — далажыў ён Самсонаву і праз гадзіну аддаў загад адступаць. Артамонаў быў неадкладна зняты з пасады. У гэты ж дзень 2-я пяхотная дывізія з корпуса Кандратовіча, падпарадкаваная штабу 15-га корпуса, была разгромленая каля Грос-Гардзіена[52]. Самсонаў абедаў разам з англійскім ваенным аташэ Ноксам, недалёка ад фронту ў Найдэнбургу, калі жаўнеры разбітай 2-й дывізіі з'явіліся на вуліцах горада. Людзі былі *«жахліва стомленыя, тры дні не бачылі хлеба, на працягу двух дзён жаўнеры не атрымлівалі аніякай ежы, ніводзін з абозаў не падышоў…»* — апавядаў Ноксу адзін з палкавых камандзіраў[53]. У 23.00 Самсонаў даклаў камандуючаму фронтам аб разгроме 2-й дывізіі: *«2-я дывізія панесла цяжкія страты… Рэвельскі полк амаль што знішчаны, засталіся сцяг і адзін звяз… Эстляндскі полк у вялікай мітусні адышоў да Найдэнбурга, дзе па маім загадзе застаўся…»*[54]. Раніцай 27 жніўня Кандратовіч знаходзіўся ў Млаве, калі атрымаў загад прыбыць у Найдэнбург, каб кіраваць 2-й дывізіяй. Каля 8-й гадзіны раніцы генерал разам са штабам на трох аўтамабілях выехаў з Млавы. На дарозе ён затрымаў адступаўшыя часткі 2-й артылерыйскай брыгады і загадаў ім заняць абарону. Да аддзелаў 2-й дывізіі Кандратовіч прыбыў каля 3-й гадзіны дня. Камандзір генерал Мінгін даклаў аб вялікіх стратах і цяжкім стане 2-й дывізіі. Увечары Кандратовіч разам са сваім штабам накіраваўся ў Найдэнбург да Самсонава. У асабістай размове Самсонаў выказаў незадаволенасць Мінгіным і даў пісьмовы загад прыняць агульнае кіраванне над тым, што засталося ад 2-й дывізіі, каб абараніць Найдэнбург і Франкенаў.

Зраніцы **28 жніўня** генерал Кандратовіч кіраваў абаронай: затрымаў і вярнуў на пазіцыі напрамкі Эстляндскі полк, які зноў быў кінуўся на ўцёкі, даваў указанні пяхоце і артылерыі, указваў напрамкі атакі кавалерыі і г. д. Да вечара становішча дывізіі стала невыносным і генерал, каб пазбегнуць акружэння, дазволіў Мінгіну пачаць адыход. На прапанову Кандратовіча кіраваць адыходам, генерал Мінгін папрасіў яго не турбавацца, бо ён за апошнія дні настолькі вывучыў справу манеўравання падчас бою, што можа сам выканаць гэты манеўр. Пасля гэтай размовы Кандратовіч пакінуў штаб Мінгіна і больш не вяртаўся[55].

У гэты ж дзень Самсонаў сам, *«страціўшы галаву»,* з'ехаў са штаба арміі. Перад гэтым ён у 7.05 раніцы даслаў тэлеграму ў штаб фронту: *«1-ы корпус… учора ўвечары адступіў… зараз пераязджаю ў штаб 15-га корпуса… апарат Юза здымаю, часова буду без сувязі з вамі»*[56]. Такім чынам, было цалкам дэзарганізаванае кіраванне арміяй. «З гэтага моманту армія перастала існаваць як цэльны арганізм: Самсонаў яе сакрушыў, і Гіндэнбургу засталося яе толькі дабіць», — пісаў вядомы расійскі вайсковы гісторык А. А. Кярсноўскі[57].

---

[51] Восточно-Прусская операция. С. 286.

[52] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

[53] Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. С. 306–358.

[54] Восточно-Прусская операция. С. 293.

[55] Гл.: Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[56] Восточно-Прусская операция. С. 297.

[57] Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

У дакладзе ўрадавай камісіі, якая даследавала гэтую катастрофу, вядома, пахвілінна распісана, што рабіў Кандратовіч 28 жніўня. І таму абсалютна не зразумела, чаму А. Салжаніцын такую пісаў лухту: *«И генерал **Кондратович**, которому — счастье выпало? — что его корпус раздёргали, и, будто бы собирая его, можно было долго кататься поездами между Варшавой и Вильной… Кондратович примчался в Найденбург и, не имея тут никого выше себя чином, распорядился: командиру Эстляндского полка взять шесть рот и пулемётную команду и с ними уходить на восток, по шоссе, сопровождая и охраняя его, генерала Кондратовича. Он, очевидно, так расчёл, что одна растрёпанная дивизия его несобранного корпуса всё равно уже подчинена Мартосу, Кексгольмский полк занял позиции и сам продержится, остальные гвардейские полки сюда вовсе не дойдут, — и ему, корпусному, делать нечего, а безопаснее отойти за русскую границу и там ждать, чем кончится»*[58]. Гэта пра тых самых панічна напужаных жаўнераў Эстляндскага палка, якія ўжо некалькі дзён уцякалі з усіх пазіцый, пра якія пісаў Нокс. Гэтых жаўнераў, згодна з высновамі ўрадавай камісіі, расследаваўшай катастрофу ва Усходняй Прусіі, якраз 28 жніўня Кандратовіч асабіста вяртаў на пазіцыі: *«Тым часам конніца немцаў пачала прасоўвацца на поўдзень, у кірунку на Найдэнбург… Генерал **Кандратовіч** выправіўся ў Найдэнбург, каб хутка зарганізаваць там абарону. Прыбыўшы ў Найдэнбург, ён знайшоў там толькі 1 000 чалавек эстляндцаў, сабраных камандуючым дзеля адпачынку. Эстляндцам, пры якіх было 2 штаб-афіцэры, было загадана заняць вышыні на захад ад горада… пасля чаго генерал Кандратовіч зноў выехаў з Найдэнбурга на поўнач, да астатніх частак свайго корпуса. Аднак, праехаўшы 2–3 вярсты, даведаўся аб адыходзе эстляндцаў… зноў вярнуўся… і асабіста, разам з чынамі штаба, давёў частку эстляндцаў да тых вышынь, якія яны павінны былі ўтрымліваць… Устанавіўшы на пазіцыі эстляндцаў, генерал **Кандратовіч** зноў выправіўся да аддзела Мінгіна на крайні правы фланг»*[59]. Толькі ўвечары, каля 19-й гадзіны, пасля гарачай размовы з генералам Мінгіным, падчас якой Мінгін практычна адмовіўся падпарадкавацца (не вядома, як складаліся адносіны гэтых генералаў да вайны, у расійскім войску бывала ўсялякае, напрыклад, паміж двума камандуючымі арміямі — Самонавым і Рэненкампфам падчас Руска-японскай вайны была дуэль, гэта лёсавызначальным чынам адгукнулася ў 1914 г.), Кандратовіч пакінуў аддзелы Мінгіна[60]. Прычыны гэтага ўчынку незразумелыя, і тут маглі б дапамагчы мемуары абодвух генералаў, але, на жаль, мы не маем іх.

Верагодна, што Салжаніцын кіраваўся кнігай Яўсеева «Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г.»[61], якая была выдадзена ў 1936 г., калі Кандратовіч для Масквы быў ворагам — нацдэмам. Яўсееў сцвярджае, што генерал Кандратовіч з'ехаў з фронту яшчэ ў 12 гадзін на чале аддзела з шасці рот 8-га Эсляндскага палка і кулямётнай каманды лейб-гвардзейскага Петраградскага палка. Апісанне дзеянняў генерала ў «Чырвоным коле» Салжаніцына літаральна супадае з тым, што напісана ў гэтай кнізе. Але на карысць Кандратовіча кажа неверагодны факт, які выкладае ў сваёй працы афіцэр — эмігрант Багдановіч П. Н.[62]. Ён цытуе ўспаміны камандзіра нямецкага корпуса генерала Франсуа аб тым, што а 15-й гадзіне каля ягонага штаба праехаў аўтамабіль з незнаёмымі афіцэрамі. Франсуа лічыў, што гэта быў камандзір 23-га корпуса. Аўтамабіль немцы

[58] Солженицын А. И. Август Четырнадцатого. Глава 36. [http://koleso.by.ru]

[59] Доклад правительственной комиссии: 23-й армейский корпус // Восточно-Прусская операция. С. 587–593.

[60] Гл.: Восточно-Прусская операция. С. 293.

[61] Евсеев Н. Ф. Августовское сражение в Восточной Пруссии 1914 г. М., 1936.

[62] Богданович П. Н. Вторжение в Восточную Пруссию в августе 1914 г.; Воспоминания офицера генерального штаба армии генерала Самсонова. Буэнос-Айрес, 1964. С. 199–200.

нават не абстралялі! Вось так у дзень пагрому расійскага войска Кандратовіч перамяшчаючыся сярод сваіх напалову акружаных войскаў, ледзь сам не трапіў у палон…

Як прайшла ноч невядома, але ж назаўтра ўсё было скончана.

У ноч з 28 на 29 жніўня Самсонаў аддае загад аб агульным адступленні войскаў 2-й арміі[63].

**29 жніўня** пачалася агонія. Сакрушальны удар немцаў па тылах прывёў да разгрому расійскіх войскаў. Генерал Самсонаў застрэліўся. Штаб 15-га корпуса абстраляны з кулямётаў, і камандзір корпуса генерал Мартас узяты ў палон. Камандзір 13-га корпуса Клюеў здаўся ў палон разам з вялікім аддзелам сваіх войскаў. Два дні з месца разгрому не было ніякай інфармацыі.

**30 жніўня** Кандратовіч дасылае тэлеграму ў штаб акругі, у якой дае інфармацыю аб стане войскаў і знікненні камандуючага арміяй. У той жа дзень штаб фронту загадвае: *«ген. **Кандратовічу** сабраць усе… сілы каля Харжэле, адтуль дзейнічаць па абставінах…»*[64]. Некалькі дзён генерал з малымі сіламі прыкрываў шлях на Варшаву.

* * *

Усходне-Пруская аперацыя 1914 г., якая пачыналася з перамог расійскага войска, праз некалькі тыдняў скончылася поўным разгромам і ўцёкамі дзвюх расійскіх армій. Перамогу над 2-й арміяй Самсонава, у якую ўваходзіў 23-і корпус Кандратовіча, немцы назвалі бітвай пад Таненбергам (Грунвальдам) і лічылі гістарычным рэваншам за паразу 1410 г. Пасля разгрому 2-й арміі толькі палоннымі было ўзята 92 000 чалавек, немцам спатрэбілася 60 цягнікоў, каб вывезці трафейную вайсковую маёмасць. Практычна перасталі існаваць 15-ы і 13-ы карпусы, ад іх засталося 50 афіцэраў і 2 000 салдатаў. У 6-м і 1-м корпусах засталося па адной дывізіі, у 23-м — каля брыгады. Два камандзіры корпусаў былі ўзяты ў палон, усе астатнія адхілены ад сваіх пасад. Айцец Георг Шавельскі, які на гэты час стаў протапрасвітэрам усяго расійскага войска, піша, што ён спрабаваў заступіцца за Кандратовіча, свайго былога камандзіра, перад галоўнакамандуючым, але гэта не дапагло[65]…

Поўную паразу атрымала і 1-я армія Раненкампфа. Сам генерал Раненкампф, кінуўшы армію, збег на аўтамабілі.

З верасня 1914 г. да 1917 г. дакладнай інфармацыі пра генерала К. А. Кандратовіча ў расійскім войску няма. Верагодна, што прозвішча «генерал Кандратовіч», якое час ад часу з’яўляецца ў дакументах, як, напрыклад, пра Нарачанскую аперацыю расейскіх войскаў 1916 г., адносіцца да генерал-маёра Лукі Лукіча Кандратовіча, украінца, які, дарэчы, таксама перайшоў на бок украінскага нацыянальнага руху. Найверагодней, што даследчык гісторыі расійскага войска А. А. Кярсноўскі[66] памылкова лічыў, што ўжо ўвосень К. А. Кандратовіч быў начальнікам штаба 2-й арміі.

Генерал К. А. Кандратович 30 жніўня 1914 г. быў звольнены ў адстаўку[67]. Верагодна, што пасля адстаўкі генерал з сям’ёй жыў ва ўласным маёнтку, у Гародна, бо паводле інфармацыі ўнука генерала, сям’і прыйшлося пакінуць свой дом у 1915 г. пры

[63] Гл.: Такман Барбара. Первый блицкриг. С. 306–358.

[64] Восточно-Прусская операция: Сборник документов. М., 1939. С. 310.

[65] Гл.: О. Гергий Шавельский. Воспоминания Последнего Протопресвитера русской армии и флота. Т. I. Нью-Йорк: Издательство им. Чехова, 1954. С. 155.

[66] Гл.: Керсновский А. А. История Русской армии. Т. III. С. 172–200.

[67] Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С. 105.

набліжэнні нямецкага войска (другі і апошні раз удава генерала Ада Кандратовіч спешна пакінула Гародна ў верасні 1939 г.). Дзе пасля гэтага жыў генерал з сям'ёй, невядома, але з 25 лістапада 1915 г. знаходзіўся ў рэзерве чыноў пры штабе Менскай вайсковай акругі, а значыць, жыў на Беларусі.

Менавіта ў гэты час генерал зблізіўся з беларускай інтэлігенцыяй і дзеячамі беларускага адраджэння, ён атрымаў вольны час, што і дало падставы па-новаму паглядзець на гісторыю сваёй радзімы і падумаць аб сваім месцы ў ёй.

### *Беларускае войска*

З 8 траўня 1917 г. Кандратовіч прыняў на сябе камандаванне 75-й пяхотнай дывізіяй[68]. У 1914 г. гэтая дывізія была створаная на базе 38-й і ўваходзіла ў склад Варшаўскай вайсковай акругі. Яна брала ўдзел у бітве пад Варшавай, а ў 1917 г. дыслакавалася ў Беларусі. Травень 1917 г. — не лепшы час для таго, каб генералу ад інфантэрыі ва ўзросце 59 гадоў аднаўляць сваю вайсковую кар'еру. Расійская армія развальвалася, генералаў здымалі з пасад. На 1 траўня 1917 г. былі адхіленыя ад сваіх пасад 3 з 5 галоўнакамандуючых войскамі фронту (60 %), 7 з 14 камандуючых арміямі (50 %), 39 з 77 камандзіраў корпусаў (50,5 %), каля трацiны начальнікаў дывізій (75 з 240), такім чынам, больш запалову вышэйшага каманднага складу былі выкінутыя з войска. У траўні 1917 г. зафіксаваны першыя забойствы генералаў на фронце. 17 траўня група салдат арыштавала і забіла камандзіра 177-й пяхотнай дывізіі генерала Я. Я. Любіцкага. Тады ж загінуў ад рук сваіх салдатаў камандзір 184-й пяхотнай дывізіі генерал П. А. Шкарпэтак. А хваляванні ў 75-й дывізіі пачаліся з сакавіка. Захавалася аператыўная перапіска за вясну 1917 г. штаба корпуса, якому падпарадкоўвалася 75-я дывізія. Адна з спраў штаба — «Аб розных здарэннях у сувязі з уводзінамі новага ладу» — на 115 лістах уяўляе з сябе карціну распаду войска — арышты старэйшых камандзіраў прапаршчыкамі, непадпарадкаванне загадам цэлых палкоў 75-й дывізіі, масавае дэзертырства, бездапаможнасць вышэйшага камандавання, жудасны стан перадавых частак, крывавы шлях страявых афіцэраў; два дзесяткі лістоў гэтых тэчак апісваюць хваляванні ў красавіку 1917 г. у 75-й дывізіі. За адзін месяц у дывізіі змянілася тры камандзіры: генералы Штэгельман (паспяхова камандаваў дывізіяй з 1914 г.,), Снесарыў (быў камандзірам 2 тыдна ў красавіку), Баркоўскі[69]. У траўні гэтую дывізію прымае Кандратовіч.

Можна выказаць здагадку, што вяртанне Кандратовіча ў войска было выклікана перспектывай беларусізацыі войска і ўдзелам у гэтым генерала. Тым больш, што 15 траўня 1917 г. у Мінску ўзнікла Беларуская вайсковая арганізацыя, якая згуртавала вайскоўцаў, што знаходзіліся ў Мінску[70].

Але ж ў канцы верасня 1917 г. Часовы ўрад чамусьці запланаваў 75-ю дывізію, якая дыслакавалася ў Беларусі і мела камандзіра-беларуса, падвергнуць «мусульманізацыі». Паводле планаў 75-я пяхотная дывізія павінна была камплектавацца татарамі з Казані[71]. Пры такім раскладзе Кандратовіч не меў сэнсу заставацца камандзірам дывізіі. Верагодна, са спробы беларусізацыі 75-й дывізіі пачалася праца генерала па стварэнні беларускага войска.

---

68 Наша слова. 2004. № 10(645).

69 Гл.: Белоголовый Б. Г. Доклад на «Снесаревских чтениях» — 2003 в ВАГШ. http://belogolovy.narod.ru/2003/S4-2003-1.html.

70 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. Вільня, 2009. С. 40.

71 Гл.: Шевяков Т. «Национализация» Российской армии в 1917 году. http://www.rustrana.ru/article.php? nid=14157.

На з’ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту ён быў абраны ў Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). 15–24 кастрычніка 1917 г. у Менску адбылася другая сесія Цэнтральнай рады беларускіх арганізацыяў і партый (ЦРБАіП), падчас якой гэты орган быў ператвораны ў Вялікую беларускую раду (ВБР), якая павінна была стаць зародкам будучага органа дзяржаўнай улады[72]. Як сведчыць фотаздымак гэтага мерапрыемства, генерал узяў у гэтым удзел[73].

Пасля стварэння рады пачалася канкрэтная праца па арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Утворанае ў гэты час бюро па арганізацыі беларускага войска ўзначаліў генерал К. Кандратовіч, ветэран балканскай, японскай і Першай сусветнай войнаў, аўтар тэарэтычных прац у вайсковай галіне, які ўваходзіў у той час у Беларускі выканкам Заходняга фронту. Ягонымі памочнікамі былі генерал-маёр Пажарскі, палкоўнік Камароўскі і паручнік К. Езавітаў. Кандратовіч распрацаваў адпаведны план і атрымаў дазвол на стварэнне беларускага палка ў Мінску, а пасля — беларускага корпуса на Заходнім фронце[74].

У канцы кастрычніка 1917 г. дэлегацыя воінаў-беларусаў Заходняга фронту ў складзе старшыні выканкаму ЦБВР С. Рака-Міхайлоўскага, К. Кандратовіча, М. Ярушэвіча і І. Шчэрбы выехала ў Стаўку ВГК дзеля перамоваў з Вярхоўным галоўнакамандуючым генералам М. Духоніным аб арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Гэта быў час, калі нацыянальныя рухі Расійскай імперыі карысталіся з дэмакратыі, здабытай пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі. Генерал М. Духонін[75] першапачаткова нічога канкрэтнага не адказаў, але праз некалькі дзён прыслаў тэлеграму, якая дазваляла фармаванне беларускіх аддзелаў праз папаўненне беларусамі выбраных адзінак расійскага войска. К. Кандратовіч распрацаваў адпаведны план і атрымаў дазвол на стварэнне беларускага палка ў Менску, а потым і беларускага корпуса на Заходнім фронце. У час, калі генерал К. Кандратовіч чакаў выканаўчых распараджэнняў Стаўкі, М. Духоніна паглынаў нарастаючы канфлікт з бальшавіцкімі ўладамі. 9 лістапада генерал М. Духонін быў зняты з пасады галоўнакамандуючага. На яго месца бальшавікі прызначылі паручніка Мікалая Крыленку. М. Духонін не падпарадкаваўся гэтаму загаду і застаўся ў Стаўцы. Бальшавікам удалося на той момант зняць з пасады галоўнакамандуючага Заходнім фронтам генерала П. Балуева[76].

ЦБВР і ВБР на той час негалосна прызналі бальшавіцкую цэнтральную ўладу і не згаджаліся толькі з узурпацыяй мясцовай улады[77]. А генерал К. Кандратовіч, трымаючыся прысягі, чакаў распараджэнняў ад законнага вышэйшага кіраўніцтва. Пазіцыя старога ваякі складалася ў тым, што патрэбна палітычнае рашэнне, пасля якога прафесійныя вайскоўцы выканаюць свой абавязак. Але Часовага ўраду, ад імя якога Духонін дазволіў стварэнне беларускага войска, ужо не было, а да прыняцця палітычнай дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі заставалася яшчэ 3 месяцы, па мерках рэвалюцыйнага часу — цэлая эпоха. Не з’яўляючыся палітыкам, як, напрыклад, Пілсудскі, фармаваць войска, якое будзе служыць невядома каму, генерал не мог. І таму ягоны намеснік, палкоўнік

[72] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 40.

[73] Гл.: Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1. С. 63. Фотаздымак з подпісам «Дэлегаты з’езда беларусаў-воінаў Заходняга фронту…» і Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 71. Фотаздымак з подпісам «Сябры ВБР і Беларускай цэнтральнай вайсковай рады…» (Кандратовіч сядзіць у першым радзе).

[74] Гл.: Jatyszonek O. Biaioruskie formacje wojskowe 1917–1923. Bialystok, 1995. S. 56.

[75] Гл.: Савіцкі В. Беларускае войска: ад ідэі да спроб рэалізацыі (1917 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1994. № 4. С. 60–61.

[76] Гл.: Jatyszonek O. Biaioruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 55–56.

[77] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 47.

Камароўскі, стрымліваў маладых калег ад «неабдуманых крокаў». Такім чынам, па-за межамі Менска арганізацыйную працу па стварэнні беларускіх вайсковых фармавання генерал аддаў на волю лёсу. Між тым дзякуючы ініцыятыве франтавых рад, якія рэалізоўвалі пастановы сваіх з'ездаў, праца па фармаванні беларускіх аддзелаў павольна прасоўвалася наперад[78]. Утвораныя на розных франтах беларускія арганізацыі і вайсковыя фармацыі спрабавалі наладзіць кантакт з генералам Кандратовічам, але, на жаль, безвынікова. Загады па тэлеграфе і інструкцыі сыходзілі толькі ад малодшых афіцэраў ЦБВР і кіраўніцтва яе палітычнага аддзела. Не маючы над сабой палітычнага кіраўніцтва, Кандратовіч чакаў. Дайшло да таго, што ён парваў прапанаваны яму для падпісання дакумент. Малодшыя афіцэры давялі Прэзыдыуму ЦБВР, што пакінуць вайсковы аддзел, калі генерал застанецца яго кіраўніком. Выканаўчы камітэт ЦБВР адхіліў генерала К. Кандратовіча ад кіраўніцтва аддзелам і перадаў паўнамоцтвы паручніку К. Езавітаву, які быў да гэтага часу адным з намеснікаў[79].

Тым часам галоўнакамандуючы М. Крыленка выдаў загад на стрыманне «нацыяналізацыі» войскаў і забараніў скліканне народных з'ездаў у прыфрантавых зонах. Суровыя загады, скіраваныя супраць украінцаў і палякаў, камандуючы Заходнім фронтам А. Мяснікоў выкарыстаў супраць беларусаў і загадаў 8 снежня далучыць салдат 1-га Беларускага палка ў Мінску да размешчанага ў гэтым горадзе 289-га запаснога палка пяхоты. Гэта была ліквідацыя беларускага палка. У ноч з 31 студзеня на 1 лютага 1918 г. бальшавікі арыштавалі чальцоў БЦВР[80].

18 лютага немцы занялі Маладзечна і пачалі наступ на Мінск. Бальшавікі спешна пакідалі горад. 19 лютага беларускія вайскоўцы вырашылі ўзяць на сябе ахову парадку ў горадзе. Камендантам Мінска стаў К. Езавітаў. Спехам арганізаваныя групы беларускіх вайскоўцаў і чальцоў прафсаюзаў каля 21.00 пачалі займаць горад. Аперацыю па захваце горада пачалі таксама і польскія вайскоўцы. 20 лютага беларускія атрады былі аб'яднаныя ў 1-ы Мінскі полк. 23 лютага ў 11-й гадзіне раніцы ў Мінск увайшлі нямецкія войскі. 25 лютага немцы раззброілі беларускія часткі[81].

На пачатку красавіка немцы забаранілі дзейнасць Народнага Сакратарыяту БНР. Шукаючы выйсця з такога становішча, Рада БНР дакааптавала ў свой склад кіраўнікоў беларускіх правых з утворанага ў лютым 1918 г., Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва. Вядучымі палітыкамі правых былі Р. Скірмунт, П. Алексіюк, генерал К. Кандратовіч, ксёндз В. Гадлеўскі, генерал А. Багдановіч, протаіерэй А. Кульчыцкі, А. Уласаў, В. Чавусаў. Віленская газета «Гоман» перадрукавала артыкул з «Беларускага шляху» № 20 ад 16.04.1918 г., у якім гэтай падзеі давалася такая ацэнка: «У Раду Рэспублікі адразу ўвайшоў моцны *"цэнтр"*, і цяпер праца над адбудаваннем Беларускай Народнай Рэспублікі пойдзе моцнымі крокамі… Рада пры яе чыста сацыялістычным складзе мела многа крытыкаў добраахвотных і злых… цяпер — пры новым складзе з беларускім моцным цэнтрам і левым крылом мае магчымасць быць працаздольнай… Мы дачакаліся вялікай хвілі, калі беларусы зрабілі **адзіны нацыянальны фронт**»[82]. Дзякуючы сваёй кампетэнтнасці дзеячы Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва мелі большую павагу ў немцаў, чым сацыялісты ў складзе Рады БНР. 25 красавіка Рада БНР па ініцыятыве Р. Скірмунта паслала тэлеграму з падзякай нямецкаму кайзеру Вільгельму II і прасіла аб дзяржаўнай незалежнасці ў звязе з немцамі. Тэлеграму

[78] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 48.

[79] Гл.: Jatyszonek O. Biaioruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 64.

[80] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 57.

[81] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 59–61.

[82] Гоман. 1818. 26 крас. № 34 (230). Незалежная Беларусь. Адзіны нацыянальны фронт. С. 1.

падпісалі: кіраўнік Рады БНР І. Серада, кіраўнік Народнага Сакратарыята Я. Варонка, Р. Скірмунт і іншыя. Кандратовіча сярод іх не было[83].

Тэлеграма нямецкаму кайзеру Вільгельму II выклікала востры крызіс у беларускім руху. Распаўся Народны Сакратарыят, з якога ў знак пратэсту выйшлі некалькі міністраў. На пачатку траўня на яго месцы была створаная Рада міністраў пад кіраўніцтвам Р. Скірмунта. **Міністрам вайсковых спраў у гэтай радзе быў прызначаны генерал К. Кандратовіч**, замежных спраў — А. Аляксюк, сельскай гаспадаркі — Р. Астроўскі[84]. Аб утварэнні новай рады ў нумары ад 22 траўня паведаміла віленская газета «Гоман»[85].

Пасля 25 сакавіка 1918 г. стварэнне Беларускага войска было працягнутае.

Галоўныя праблемы, якія прыходзілася вырашаць міністру абароны, — гэта грошы і кадры, бо прафесійнае і баяздольнае войска на энтузіязме не ствараецца. І таму толькі 9 лістапада беларускі ўрад выдаў яшчэ адну пастанову аб фармаванні войска. 11 лістапада генералу К. Кандратовічу, палкоўніку К. Езавітаву даручана стварэнне штаба 1-га Беларускага палка. К. Кандратовіч, як сябар Рады БНР, прапанаваў праект арганізацыі 200-тысячнага войска і паведаміў, што віленскія банкіры і грамадзяне ў падтрымку гэтай ідэі гатовы выдаткаваць значныя фінансавыя сродкі. Адзінай перашкодай, паводле генерала К. Кандратовіча, была неабходнасць згоды немцаў і пастаўка праз іх зброі[86].

Напрыканцы нямецкай акупацыі Беларусі кіраўніцтва Обэр-Ост (у Коўне) выказала згоду на фармаванне агульнай для ўсіх нацыянальнасцяў міліцыі пад кіраўніцтвам генерала К. Кандратовіча, з чым, аднак, не былі згодныя палякі, якія ўтваралі аддзелы самаабароны зямлі мінскай, лідскай і інш. Таму ў часе сустрэчы генерала Кандратовіча з польскім камандуючым генералам Уладыславам Вейкам было вырашана, што кожная народнасць будзе мець уласныя аддзелы самаахòвы на прынцыпах аўтаноміі, і толькі ў выпадку агульнай пагрозы будзе падпарадкоўвацца агульнаму кіраўніцтву. У хуткім часе ў Менску адбылася супольная нарада, на якой генерал К. Кандратовіч прапанаваў месца начальніка штаба паляку — палкоўніку Фабіяну Каборду. Аднак да ўтварэння агульнага фронту супраць бальшавікоў не дайшло, і абодва бакі стваралі асобныя вайсковыя сілы[87].

У сувязі з магчымай акупацыяй Мінска на пачатку снежня 1918 г. частка беларускіх дзеячаў з А. Луцкевічам на чале падалася ўслед за адыходзячымі нямецкімі войскамі ў Вільню. Разам з А. Луцкевічам былі генерал К. Кандратовіч і палкоўнік К. Езавітаў з групай афіцэраў-добраахвотнікаў[88].

10 снежня бальшавікі занялі Менск і рушылі далей на захад.

Звяртае ўвагу невялікая лічба прафесійных афіцэраў у беларускім вайсковым руху. Гэта было вынікам апалітычнасці кадравых афіцэраў і стомленасці. І нават тыя нямногія вышэйшыя афіцэры, якія, як К. Кандратовіч, добраахвотна вызначыліся на беларускім баку, часта сустракалі абвінавачванні ў кан’юнктурызме і клопаце выключна пра асабістую выгаду. Так, напрыклад, левыя папракалі Кандратовіча ў наяўнасці маёнтка Гародна ў Лідскім павеце[89].

83 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 62.

84 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 63.

85 Гоман. 1818. 22 мая. № 41 (237). С. 2.

86 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 66.

87 Гл.: Jatyszonek O. Biaioruskie formacje wojskowe 1917–1923. S. 86–87.

88 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 67.

89 Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 69.

Генерал К. Кандратовіч згодна з дамовай паміж урадамі БНР і Летувы з лістапада 1918 г. камандаваў беларускім войскам, адступіўшым з Беларусі ў Летуву. Лістападаўскія пагадненні мелі на ўвазе таксама ўтварэнне беларускіх вайсковых адзінак, падначаленых літоўскаму галоўнаму кіраўніцтву. Войска літоўскае ў тым часе знаходзілася ў зародкавым стане. Першы полк гэтага войска налічваў каля 30 афіцэраў і каля 200 салдат, а другі — толькі некалькі афіцэраў і некалькі салдат. Такім чынам, утварэнне беларускіх адзінак магло быць для літоўскага войска важным узмацненнем. Літоўскаму войску бракавала кадравых афіцэраў. З гэтай прычыны генерал Кіпрыян Кандратовіч на кароткі тэрмін быў прызначаны **віцэ-міністрам народнай абароны ва ўрадзе Літвы**, але фактычным кіраўнікам вайсковага міністэрства быў прем'ер А. Вальдэмарас[90]. Свой урад Вальдемарас будаваў не па партыйным прынцыпе, у яго кабінеце былі прадстаўлены дзеячы самых разнастайных поглядаў, а таксама самых розных нацыянальнасцяў, напрыклад, намеснікам на пасту міністра замежных справаў быў Сямён Разенбаўм (яўрэй).

Будучы на гэтай пасадзе, генерал арганізоўваў літоўскае войска на Ковеншчыне. Маёр беларускага войска А. Ружанцаў пісаў у мемуарах: «…віцэ-міністрам быў вельмі непапулярны сярод літоўцаў генерал расійскай службы К. А. Кандратовіч. Фармаванне войска пачалося ў Вільне, адразу былі заложаны штабы 1 і 2 беларускіх палкоў… у хуткім часе генерал Кандратовіч падаўся ў дымісію (адстаўку)»[91].

1 студзеня 1919 г. у сувязі з бальшавіцкім наступам літоўскі ўрад пакінуў Вільню, кіруючыся ў Коўна, большасць беларускіх дзеячоў яшчэ 27 снежня 1918 г. пераехала ў Гродна. Туды ж накіраваліся і беларускія вайскоўцы.

Немцы яшчэ раней, у Вільні, паведамілі генералу К. Кандратовічу, што не могуць дапусціць стварэнне літоўска-беларускага войска, аднак пасля паразы ў Першай сусветнай вайне іх рэальны ўплыў на сітуацыю скончыўся. На пачатку студзеня 1919 г. генерал К. Кандратовіч і Я. Варонка атрымалі паведамленне аб тым, што Антанта прыняла пастанову аб дапамозе літоўцам і беларусам грашыма і зброяй ў арганізацыі войска для барацьбы з бальшавікамі.

Прыканцы 1918 г. у Гародні Кандратовіч бярэ ўдзел у фармаванні 1-га Беларускага палка. Ад пачатку снежня 1918 г. да канца красавіка 1919 г. полк месціўся ў Аляксандраўскіх казармах і складаўся з пяці рот і аднаго эскадрона[92].

Урад БНР дамогся правоў на ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі, і на пачатку 1919 г. генерал Кандратовіч разам з дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расіі Азнабішыным[93] выязджае ў Парыж. На нейкі час генерал спыніўся ў Берліне. Ён прыехаў у нямецкую сталіцу яшчэ ў лютым 1919 г. як сябра дэлегацыі БНР на Парыжскую мірную міжнародную канферэнцыю. Разам з першым афіцыйным пасланнікам БНР у Нямеччыне капітанам Антонам Борыкам генерал Кіпрыян Кандратовіч нейкі час вядзе беларускую працу сярод палонных вайскоўцаў-суайчыннікаў у Германіі. У нямецкіх лагерах для ваеннапалонных знаходзілася каля 60 000 беларусаў. З іх беларускі ўрад спадзяваўся сфармаваць вайсковыя аддзелы, якія пазней маглі б скласці ядро нацыянальнага войска.У красавіку 1919 г. беларуская дэлегацыя на Парыжскую мірную канферэнцыю па-

[90] Гл.: Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 74.

[91] Ружанцаў А. Беларускія войскі ў Літве (1918–1920) // Спадчына. 1993. № 4. С. 23.

[92] Спадчына. 1995. № 5. С. 26.

[93] Азнабішын Аляксей Аляксандравіч (1869–1929), уладальнік маёнтка Масты, гродзенскі віцэ-губернатар, а затым — дэпутат IV Дзяржаўнай Думы, застаўся ў эміграцыі ў Парыжы. Аўтар кнігі «Успаміны члена IV Дзяржаўнай думы» (Ознобишин А. А. Воспоминания члена IV Государственной думы. Париж, 1937. 264 с.)

дае амбасадарам Францыі, Англіі і ЗША ў Берліне мемарандум ад імя Рады міністраў БНР з просьбаю прызнаць беларускую дзяржаву[94].

Цікава, што «Беларуская Энцыклапедыя» піша, быццам К. А. Кандратовіч застаўся жыць у Парыжы і яго далейшы лёс невядомы[95]. Такую самую інфармацыю дае і літоўская гістарычная энцыклапедыя, выдадзеная ў Бостане[96].

Верагодна, гэтыя звесткі грунтуюцца на тым, што ў 1920 ці 1921 гг. у генерала нарадзіўся сын Уладзімір, які гадаваўся і жыў у Парыжы. Пакуль што я валодаю мінімумам інфармацыі аб сыне генерала — Кандратовічу Уладзіміру Кіпрыянавічу. Але відочна, што ён нарадзіўся не ад шлюбу з Адай фон Рыхтар. Адзінае згадванне аб ім знайшлося ў кнізе А. А. Угрымава «З Масквы ў Маскву праз Парыж і Варкуту»[97].

### *Гародна*

Апошнія гады свайго жыцця беларускі генерал правёў на радзіме.

Перад Першай сусветнай вайной, пасля пераводу ў Варшаўскую акругу, сям'я генерала купіла маёнтак Гародна (500 га зямлі і лес) у Лідскім павеце, дзе генерал пасяліўся разам з дачкой Верай і жонкай Адай[98].

Маёнтак Гародна мае вялікую і слынную гісторыю.

Гародна ў першай палове XVIII ст. было спадчыннай уласнасцю княгіні Саламеі Радзівіл з Сапегаў. У 1762 г. яна падаравала яго стрыечнаму ўнуку Людвіку Скумін-Тышкевічу (памёр у 1809 г.), жанатаму з княгіняй Канстанцыяй Панятоўскай (1759–1830). Кароль Станіслаў Аўгуст у Літве вырашыў абаперціся на Тышкевічаў. Адну з сваіх пляменніц, дачку князя Казіміра Панятоўскага, кароннага падкаморыя, выдаў замуж за Людвіка Тышкевіча, для другой, Тарэзы, дачкі Андрэя Панятоўскага, аўстрыйскага

---

[94] Гл.: Сакалоўскі Уладзімір. Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне (1919–1925) // Arhe. 2009. № 3. С. 7–328.

[95] БЭ. Т. 7. С. 578.

[96] Lietuviu enciklopedija. Boston. T. 12. S. 318–319.

[97] Угримов А. А. Из Москвы в Москву через Париж и Воркуту / сост., предисл. и коммент. Т. А. Угримовой. М.: Изд-во «RA», 2004. С. 299. («Судьба этого человека типична для нашего времени. Сын генерала Кондратовича, он был младороссом в юношеской "спортгруппе". Красивый, статный, веселый был малый. В 1939 году пошел добровольцем во французскую армию и служил в драгунском полку — моторизованной кавалерии. Провоевал всю кампанию 1939–1940 годов и насмотрелся "чудес" о "drole de guerre" (странной войне): мосты не взрывались, минные поля разминировались, оружие не поступало и прочее, и прочее. Был взят в плен вместе с Данзасом, тоже младороссом, который в 1941 году пошел к немцам, а Кондратович отказался и вернулся во Францию только после войны. В общей волне стремления вернуться в Россию и разочарованный Францией, репатриировался в конце 1947 года. Скитался по Советскому Союзу в надежде найти подходящую работу в сельском хозяйстве. Выселен из Крыма, где, было, зацепился. Пытался меня найти в Саратове, когда я был уже арестован. Был сам посажен и осужден ОСО на принудительные работы на Воркуте. Был ранен при "беспорядках" на 29-й, но остался после освобождения, чтобы заработать деньги на устройство жизни с женой, которая приехала к нему на Воркуту после невероятно тяжелых лет, пока он "сидел". Позже начал работать на кожевенной фабрике в Осташкове и нашел меня по учебнику французского языка моей дочери. Заболел раком пищевода. Я ездил к нему в Осташков и сделал, что мог, так как домашние условия у него были совершенно неподходящими. Его, при моем участии, поместили в 62 онкологическую больницу в Петрово-Дальнем в почти безнадежном состоянии. Он сознавал, что болен раком и умирает. Он умер у меня на руках вследствие кровоизлияния после облучения.

Кондратович был жертвой того патриотического психоза, который нас охватил после победоносной войны, победы и веры, что теперь Россия расцветет! Торжественное отпевание Владимира было устроено А. Л. Казем-Беком в церкви Петра и Павла в Лефортове».)

[98] Гл.: Roman Aftanaz. Dzieje rezydencji. T. 4. S. 122–139.

фельдмаршала, выбраў Вінцэнта Тышкевіча, літоўскага ардынарыя. Людвік Тышкевіч, паслядоўна займаючы пасады віленскага цівуна, пісара вялікага літоўскага, гетмана польнага літоўскага, падскарбія вялікага літоўскага, а пасля падзелу краіны губернскага маршалка, «действительного статского советника», паступова пашыраў свае ўладанні вакол Гародна, набыўшы Перавозы і Забалаць з фальваркамі. Таксама былі пажалаваны яму каралём староства Эйшыскае, Васілішскае, Каняўскае, Радунскае і інш. Цэнтрам сваёй рэзідэнцыі ён выбраў Гародна. Ягоная зямельная маёмасць, падзеленая на дзве вялікія зоны, складалася з 65 вёсак. Добры гаспадар, ён трымаў свае маёнткі на высокім гаспадарчым узроўні.

Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча ўвесь гэты вялікі маёнтак атрымала ў спадчыну ягоная адзіная дачка Ганна (1779–1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дуніным-Вансоўскім. Тастамантам ад 1867г. перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812–1879), пасля смерці якога ўсё перайшло ў спадчыну ў 1880 г. графу Аўгусту Патоцкаму. Уладальніца Гародна, графіня Ганна Патоцкая напісала найцікавейшыя мемуары аб часе Напалеона, сваіх шматлікіх сустрэчах з ім (мемуары былі выдадзены ў XIX ст. на французскай мове і у той жа час перакладзены на рускую, у 2005 г. перавыдадзены)[99].

Напрыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнацьева, ад яго — да генерала Кандратовіча. У той час маёнтак складаўся з 23 200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку з Гароднам.

Людвік Тышкевіч, жанаты з княжной Канстанцыяй Панятоўскай, дачкой князя Казіміра, подкаморага вялікага кароннага, роднага брата караля Станіслава Аўгуста, у 1775 г. чакаў прыезду караля і, як кажа мясцовае паданне, на працягу аднаго года пабудаваў хоць драўляны, але вельмі прыгожы двор у класічным стылі. Сядзіба пабудаваная архітэктарам Ф. Эйсенам. Дом звонку не вылучаўся нічым асаблівым, але ўсярэдзіне быў бліскуча і з добрым густам аздоблены. На ўпрыгожванне сядзібы Тышкевіч выдаткаваў вялікія сумы, запрашаючы мастакоў-дэкаратараў і майстроў, а таксама выпісваючы матэрыялы наўпрост з Парыжа. Кароль Станіслаў Панятоўскі ў Гародна так і не прыехаў, аднак двор быў закончаны і, нягледзячы на гульню лёсу, дастаяў да Другой сусветнай вайны.

Патоцкія ў Гародна бывалі эпізадычна, і таму з-за недахопу гаспадарчага нагляду і надта паспешнай будоўлі сцены паступова пачалі нахіляцца, што запатрабавала рамонту. Ад зруйнавання сядзібу выратаваў М. Патоцкі, які аддаў загад адрамантаваць дом і ашаляваць сцены дошкамі. Гэта не ўпрыгожыла дом, але забяспечыла яму доўгае жыццё. Таксама ўсярэдзіне былі праведзены работы па кансервацыі інтэр'еру.

Сядзібны ансамбль у Гародна стваралі тры будынкі: жылы палац, дом прыслугі, што стаяў насупраць, а з правага боку — мураваная капліца.

Цэнтр кампазіцыі — драўляны на высокім мураваным цокалі 1-павярховы прамавугольны сядзібны дом у стылі класіцызму (1780 г., архітэктар Ш. Цуг). Прасторны аднапавярховы сядзібны дом меў франтальна выцягнутыя фасады, па цэнтры якіх вылучаліся рызаліты з чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі, пад галоўны з якіх па шырокіх бакавых пандусах уязджалі карэты. Трохвугольныя франтоны порцікаў запаўнялі пластычныя картушы. Усярэдзіне дом меў парадную анфіладу апартаментаў з вялізнай бальнай залай у цэнтры. У падвале, у які вялі тарцовыя лесвіцы, знаходзіліся гаспадарчыя памяшканні і жыллё прыслугі. Строгі і аскетычны знешні выгляд будынка кантраставаў з багаццем і пышнасцю інтэр'еру дома, афармленага з выкарыстаннем палатняных шпалер, тукавых панэляў, пазалочаных барэльефаў, медальёнаў, гірлянд,

---

[99] Гл.: Графиня Анна Патоцкая. Мемуары. 1794–1820. М., 2005.

зяця М. Парфіяновіча. Магчыма, прычынай таму было не столькі жаданне злучыцца радзінна, колькі развязаць нейкія моцныя праблемы.

У Белгарадзе С. Неканда-Трэпка адпрацаваў год. Вярнуўся ў Мінск на выбарную пасаду дырэктара ўспомненага ўжо тут Банка ўзаемакрэдытаў. На гэтай працы быў да самай ліквідацыі банка ў 1920 г. У час Першай сусветнай вайны заставаўся ў Мінску, заклаў і ўзначальваў Таварства апекі над помнікамі старажытнасці. У 1920 г. назаўсёды пакінуў Мінск. Спачатку жыў у Варшаве ў доме сына Уладыслава, а ў 1921 г. пераехаў у Наваградак да дачкі Ядзвігі і зяця Мар'яна Парфіяновічаў. Там быў абраны дырэктарам Кааператыўнага народнага банка. Паводле ўспамінаў дачкі Ванды, быў добра знаёмы і супрацоўнічаў з рэлігійным і культурна-грамадскім дзеячам, удзельнікам беларускага хрысціянскага руху біскупам Зыгмунтам Лазінскім[10]. Незадоўга да яго смерці З. Лазінскі хрысціў С. Неканда-Трэпку па каталіцкім абрадзе. Памёр 15 снежня 1922 г. і пахаваны ў Наваградку на каталіцкіх могілках. Побач магіла яго жонкі Стэфаніі, якая спачыла ў 1931 г. у Вільні.

Род маці Антона Неканда-Трэпкі належыў да аднаго з старэйшых у г. Мінску. Неслухоўскія жылі тут праз усё XIX ст. Яго дзед Люцыян Юр'евіч Неслухоўскі быў сакратаром Мінскай палаты цывільнага суда, меў свой уласны дом па Юр'еўскай, 23. Акрамя гэтага, быў павераным князёў Радзівілаў у атрыманні выкупных пазык за маёнткі і трымаў у доўгатэрміновай арэндзе адзін з радзівілаўскіх маёнткаў у Жацераве каля Стоўбцаў. Дом Л. Неслухоўскага ў Мінску быў культурным асяродкам, дзе збіралася інтэлігенцыя, дзе абменьваліся навінамі, грамадскімі і культурнымі, дзе лунала вальнадумства і дзе адкрыта падтрымлівалі, а многія і непасрэдна ўдзельнічалі, выступленні 1863 г. Таму і ўстанавілі ў 1864 г. за Люцыянам Неслухоўскім паліцэйскі нагляд. Маці будучага нацыянальнага дзеяча нарадзілася 12 чэрвеня 1855 г. і была на чатыры гады маладзейшая за свайго брата Яся — Івана Люцыянавіча Неслухоўскага, больш вядомага як беларускі паэт Янка Лучына[11]. Са сваім абраннікам Станіславам Неканда-Трэпкам сустрэлася і пазнаёмілася ў сваім жа доме. Станіслаў па прыездзе ў Мінск у 1873 г., паводле ўспамінаў дачкі Ванды Дзяржынскай, стаў здымаць у доме Неслухоўскіх адзін з «кавалерскіх пакояў»[12]. У хуткім часе пасябраваў са старэйшым з братоў Неслухоўскіх Янам і закахаўся ў юную Антаніну. У 1875 ці 1876 г. Станіслаў і Антаніна вянчаліся, а ў 1877 г. нарадзілася іх дачка Ванда. Прыблізна ў гэты ж час маладая сям'я набыла свой уласны дом на Садовай, дом, які павінен быў стаць родавым гняздом Трэпкаў і культурным асяродкам польскай інтэлігенцыі ў Мінску. На пачатку 1879 г. шчаслівыя чакалі нараджэння другога дзіцяці. Можна меркаваць, што цяжарнасць і роды праходзілі з нейкімі ўскладненнямі, і ніхто з мінскіх дактароў не змог выратаваць маладую маці. Памерла Антаніна 15 лютага 1879 г. праз некалькі тыдняў пасля нараджэння сына. У памяць маці сына назвалі Антонам. Станіслаў Неканда-Трэпка ў 1880 г. узяў шлюб з Стэфаніяй Азямблоўскай, якая стала добрай маці для яго дзяцей. У новай сям'і Станіслава нарадзілася яшчэ чацвёра дзяцей: Уладыслаў, Яніна, Ядзвіга і Казімір.

Дзяцінства і юнацтва Антона Неканда-Трэпкі, як ужо адзначалася, было звязанае з маёнткам Жацерава, што на Стаўбцоўшчыне, дзе кожнае лета збіралася шматлікая радня Неслухоўскіх. Маленькіх Ванду і Антона абавязкова бралі на выхаванне. Яны падрасталі

---

[10] Зыгмунт Лазінскі (1870–1932) — каталіцкі святар заходняга абраду, біскуп мінскі, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч.

[11] Янка Лучына (Іван Люцыянавіч Неслухоўскі) (1851–1897) — беларускі паэт. Пісаў на беларускай, польскай, рускай мовах. Родны дзядзька Антона Неканда-Трэпкі.

[12] БДАМЛМ. Ф. № 473 (не апрацаваны). З ліста В. Дзяржынскай да кузэна В. Неслухоўскага.

ў атачэнні любячых людзей, сярод раскошы беларускай прыроды, у гульнях з вясковай дзятвой. Усё гэта фарміравала іх характары і светапогляды. І ўсё ж толькі Антон з усёй вялікай сям'і Станіслава Неканда-Трэпкі стаў на шлях беларускага адраджэння. Ва ўспамінах Ванда Дзяржынская выказвае вялікае шкадаванне з гэтай нагоды і вінаваціць ва ўсім братоў Луцкевічаў. Яна піша: «Што ж з'явілася такім моцным імпульсам, каб такі крыж узваліць на сябе? Якая сіла процiпастаўлялася родаваму і сямейнаму агменю, які ўвесь час гарэў нацыянальным пачуццём. Была ёй пачуццё братэрства да чалавека з народа, які гаварыў на беларускай мове. Раздутае фанатыкамі, прыняло яно выгляд намоўленага патрыятызму. Стрыжнем працы дзеля гэтай справы былі рэмінісцэнцыі часоў Ягайлы, калі беларуская мова ўжывалася пры двары. Дзяржаўныя дакументы, што захаваліся ў архівах, і Біблія на гэтай мове служылі Беларусі рэчавым доказам бел[арускай] культуры. Параўнанне таго кароткачасовага бляску і значэння Беларусі з заняпадам яе значэння цяпер, а таксама беднасцю культуры, ахапіла розумы фанатыкаў фікцыяй вялікай несправядлівасці, якая звалілася на гэты народ. Двое інтэлігентных маладых людзей, палякі, мяшчане, адзін з якіх быў сябрам Тоні, лічылі сябе беларусамі і шукалі, каго б у сваю веру павярнуць. Ахвярай іх поглядаў стаў Тоня. Зайграць на пачуццях Тоні не было складана. Крыўда, эксплуатацыя ніколі не пакідалі яго раўнадушным. У хуткім часе паверыў у сапраўднасць крыўды, горача пратэставаў. Заклік: *"беларусаў крыўдзяць"* поўнасцю яго ўзброіў. Спрашчала гэты сімбіёз з беларушчынай веданне мовы. Чуў яе кожны з нас ад самага дзяцінства. Паглыблялі мы гэтае знаёмства кожны раз, як прыязджалі ў вёску. Яе гучанне, гумарыстычнае для нашых вушэй, у той самай ступені было любым. Мы з прыемнасцю слухалі лапідарныя выразы і цэлыя сказы на гэтым прастарым дыялекце. Асепленаму энтузіясту гэтага руху не цяжка было нас пераканаць, што гэтая народная гаворка, амаль не другая наша родная мова. Гэтае спачуванне лёсу беларусаў наступіла яшчэ на школьнай лаве, здаецца ў апошні год вучобы ў гімназіі. Віноўнымі *"паваpоту"* ў гэтую чужую веру былі браты Луцкевічы»[13]. Але ці так гэта на самай справе? Сапраўды, браты Луцкевічы былі ў Мінску амаль суседзямі Неканда-Трэпкаў. Але прыехалі яны сюды толькі ў 1897 г. і тады наўрад ці змаглі нават пазнаёміцца. Іх знаёмства адбылося, магчыма, у Санкт-Пецярбургу. Большую рацыю мела Марыя Неканда-Трэпка[14], калі напісала, што захапленне беларускім рухам Антона ішло ад роднага дзядзькі Яна Неслухоўскага[15]. Трэба думаць, што пасля таго як Янка Лучына вярнуўся назаўсёды ў Мінск, менавіта ён стаў адным з шчырых выхавацеляў свайго пляменніка. Уважлівае знаёмства з біяграфіяй Антона Неканда-Трэпкі дае падставу сцвярджаць, што яго шлях у многім быў прадвызначаны аўтарытэтам і жыццёвай пазіцыяй яго выдатнага сваяка. А браты Луцкевіча сталі яго паплечнікамі ў справе адраджэння, калі ён ужо сам цвёрда стаяў на гэтых пазіцыях.

Пачатковую адукацыю А. Неканда-Трэпка атрымаў дома. Сястра Ванда ўспаміналa: «Найважнейшым лічылася веданне расійскай мовы. Але перш чым мы вымушаны былі яе вучыць, да нас была скіраваная з Лібавы адна нямецкая бона, а пазней чарговая, якая прывівала нам дух свайго Фатэрлянда шляхам азнаямлення нас з гутарковай нямецкай мовай. Пазней мы з Тонем хадзілі на лекцыі французскай і нямецкай моў да жыхаркі нашага прадмесця, якая займала пакой у маленькім аднапавярховым каменным доме

[13] Ванда Дзяржынская. Успаміны // …Пачуць як лёсу валяцца муры: Памяці Генадзя Кісялёва. Мінск, 2009. С. 390–391.

[14] Марыя Неканда-Трэпка (нар. 1922) — польская даследчыца-гісторык. Нявестка брата Антона Неканда-Трэпкі Уладыслава. Жыве ў Бяла-Падлясцы. Захоўвала архіў сям'і, які ў 2008 г. перадала ў БДАМЛМ.

[15] БДАМЛМ. Ф. № 473 (не апрацаваны). З біяграфіі А. Неканда-Трэпкі, напісанай Марыяй Неканда-Трэпка.

Корбута. Адразу насупраць канца Садовай. Гэта была пані Мазаракі, добрая дама ва ўзросце. Польскай мове і арыфметыцы вучыла нас мама[16]. Урэшце прыехала настаўніца панна Мар'я»[17].

Дакладна невядома, калі Антон Неканда-Трэпка паступіў у Мінскую гімназію. Быў гэта прыблізна 1888 год. Гімназію скончыў недзе ў 1896 г. Як і дзядзька Янка Лучына, вырашыў працягваць вучобу ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, які закончыў з адзнакай. Дыплом з адзнакай і выдатнае валоданне французскай мовай далі магчымасць А. Неканда-Трэпку павышаць кваліфікацыю інжынера-электрыка ў знакамітым Валонскім універсітэце ў г. Льеж, у якім у свой час вучыліся яго дзед і бацька. Дыплом аб заканчэнні універсітэта атрымаў у 1904 г. і ў гэтым жа годзе вярнуўся ў Санкт-Пецярбург, дзе былі яго сябры і таварышы па беларускім руху, у які ён уключыўся яшчэ падчас вучобы ў Тэхналагічным інстытуце. Менавіта з яго падачы і пры фінансавай падтрымцы сям'і яго сябры ў 1903 г. выдалі ў Санкт-Пецярбургу пасмяротны зборнік Я. Лучыны «Вязанка». У Санкт-Пецярбургу Антон Неканда-Трэпка ўладкаваўся ў прадстаўніцтва амерыканскай фірмы «Westinghouse», якая займалася пастаўкамі электраабсталявання. На гэты ж час прыпадае і пачатак яго актыўнай палітычнай дзейнасці. Антон Неканда-Трэпка становіцца актыўным удзельнікам Беларускай сацыялістычнай грамады, разам з братамі А. і І. Луцкевічамі працуе над яе праграмай. У 1906 г. Антон Неканда-Трэпка пабраўся з Юліяй Яноўскай, дачкой знакамітага мінскага ўрача Рычарда Яноўскага. У 1907 г. нарадзіўся іх адзіны сын Казімір[18]. У хуткім часе Антон Неканда-Трэпка разам з жонкай Юліяй паставяць свае подпісы, у шэрагу выдатных беларускіх дзеячаў Б. І. Эпімах-Шыпілы, В. Іваноўскага, А. Грыневіча і інш., на дакументах аб заснаванні выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», значэнне якой у гісторыі беларускага адраджэння немагчыма перабольшыць.

Дакладна невядома, у якім годзе сям'я Антона пакінула Пецярбург і пераехала ў Маскву. І што паслужыла прычынай? Калі 30 красавіка 1909 г. падпісвалася дамова «о продолжении существования» выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», Антон Неканда-Трэпка і яго жонка Юлія ўжо жылі ў Маскве на Старабасманнай, 2. Працаваў, як і ў Санкт-Пецярбургу, у прадстаўніцтве «Westinghouse»[19]. У лісце Рускага электрычнага таварыства «Westinghouse» ў Варшаўскае аддзяленне ад 13.02.1912 Антона Неканда-Трэпку называюць прадстаўніком толькі што адчыненага Варшаўскага аддзялення «Westinghouse». Значыць, недзе ў канцы 1911 г. ці на пачатку 1912 г. Антон Неканда-Трэпка з сям'ёй пераехаў у Варшаву. Сястра Ванда ўспамінала, што калі яны ў 1920 г. пасля бежанства ў Курск вярнуліся ў Польшчу, сям'я брата жыла ў Варшаве. Магчыма, што А. Неканда-Трэпка ўсю вайну перабыў у Варшаве, дзе жылі сваякі па бацькавай лініі. Дакладна вядома, што з восені 1918 г. ён жыў ужо ў Мінску, выкладаў у польскай гімназіі, а пасля ў Мінскім настаўніцкім інстытуце. На пачатку 1919 г. быў абраны членам калегіі Наркамасветы БССР. 17 сакавіка 1919 г. Антона Неканда-Трэпку арыштавалі як «польскага шпіёна» і выслалі ў Смаленск. З пачаткам польска-савецкай вайны вызвалены. У лістападзе 1919 г. вярнуўся ў Мінск, дзе зноў уключыўся ў грамадска-палітычную дзейнасць. 10 сакавіка 1920 г. увайшоў у новы склад прэзідыума Часовага беларускага нацыянальнага камітэта, які быў створаны ва ўмовах польскай акупацыі. 1 сакавіка 1920 г. быў прызначаны дырэктарам Мінскага беларускага педагагічнага інстытута. Антон Неканда-Трэпка быў актыўным змагаром за арганізацыю беларуска-

[16] Маецца на ўвазе другая жонка Станіслава Неканда-Трэпкі Стэфанія з Азямблоўскіх (1855?–1931).

[17] Ванда Дзяржынская. Успаміны. С. 380.

[18] Юлія Неканда-Трэпка (1887–[1958]), Казімір Неканда-Трэпка (1907–[1970-я]).

[19] БДАМЛМ. Ф. № 3. Воп. 1. Адз. зах. 281. С. 9–10.

га школьніцтва, стварэнне нацыянальных таварыстваў і культурна-асветных установаў, правядзенне беларусізацыі навучальных установаў. З прыходам у ліпені 1920 г. у Мінск Чырвонай Арміі Антон Неканда-Трэпка, ужо маючы горкі жыццёвы досвед, прымае рашэнне пакінуць родны горад і выехаць у Варшаву.

Яго клікала беларуская нацыянальная справа, а значыць, клікала Вільня. 7 мая 1921 г. «інжынер-тэхналёг Антон-Люц'ян Неканда-Трэпка», як адзін з актыўных арганізатараў і стваральнікаў, падпісаў у Вільні Статут Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны[20]. З гэтага часу пачнецца адзін з самых яркіх і плённых перыядаў Антона Неканда-Трэпкі ў беларускім нацыянальным руху. Восенню 1921 г. ён становіцца выкладчыкам Віленскай беларускай гімназіі, а ў 1922 г. — яе дырэктарам. У красавіку 1923 г. Антон Неканда-Трэпка бярэ актыўны ўдзел у падрыхтоўцы з'езда педагогаў беларускіх гімназій, а падчас яго правядзення становіцца членам прэзідыума і старшынёй арганізацыйнай секцыі (структура беларускіх гімназій і фінансы), працуе над рэзалюцыяй «Аб арганізацыі беларускіх сярэдніх школ». На з'ездзе прагучалі тры яго даклады «Аб выкладанні матэматыкі», «Аб выкладанні фізікі», «Аб узгадаванні моладзі». Выступіў ён і як дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, абмаляваўшы яе становішча, па яго прапазіцыі з'езд «ушаноўвае памяць нябожчыка Івана Луцкевіча, аднаго з закладчыкаў Віленскай беларускай гімназіі, і складае прывітанне прысутнаму на з'ездзе п. Кахановічу[21], другому закладчыку і першаму дырэктару»[22]. У якасці дырэктара, а пасля выкладчыка фізікі і матэматыкі Антон Неканда-Трэпка працаваў да 1932 г. У 1932 г. гімназія стала дзяржаўнай, што пазбавіла яе незалежнасці, паколькі яна стала філіялам польскай гімназіі імя Ю. Славацкага. Узмацніўся палітычны кантроль, адбыўся перагляд кадраў. Многія выкладчыкі вымушаны былі пакінуць гімназію, а А. Неканда-Трэпку, А. Луцкевіча і яшчэ некалькіх звольнілі. Такім горкім быў вынік дзесяцігадовай самаадданай працы. Антон Неканда-Трэпка пачынаючы з 1924 г. адначасова выкладаў электратэхніку ў Віленскай дзяржаўнай тэхнічнай школе імя Ю. Пілсудскага. Пасля звальнення з гімназіі перайшоў працаваць у школу настала, узначаліўшы яе «электрычны аддзел». На гэтай працы праслужыў да сумных падзей 1939 г.

Цягам амаль двух дзесяцігоддзяў жыцця і дзейнасці ў Вільні Антон Неканда-Трэпка ўдзельнічаў у многіх грамадскіх беларускіх справах: быў актыўным сябрам Беларускага навуковага таварыства, Таварыства беларускай школы, уваходзіў у раду па кіраўніцтве Беларускім музеем імя І. Луцкевіча, дзе выконваў абавязкі казначэя. Зразумела, што ў верасні 1939 г. актыўная нацыянальная дзейнасць Антона Неканда-Трэпкі была належным чынам «ацэнена». Як успамінае сястра Ванда, «Тоня арыштаваны 26 кастрычніка 1939 года ноччу. Двое людзей, што прыйшлі, нічым не выдавалі, што азначае гэты арышт. Толькі адзін сказаў, што заўтрашні дзень вельмі важны, што ўжо скіроўвала нас на самыя жахлівыя думкі.

Вялікія намаганні, каб нешта даведацца, заставаліся цэлы год без вынікаў. Толькі праз год, у пачатку зімы, братава атрымала ліст з Сібіры са станцыі Яя, напісаны на абгортачнай паперы, у парваным канверце»[23].

У час Другой сусветнай вайны, пасля амністыі па ўмове дагавора паміж Савецкім урадам і польскім эміграцыйным урадам У. Сікорскага, А. Неканда-Трэпка выехаў са станцыі Яя да брата Уладыслава, які быў таксама высланы і з сям'ёй жыў у Алтайскім краі. У дарозе цяжка хварэў, галадаў. У канцы 1941 г. разам з братам, пляменнікам

[20] БДАМЛМ. Ф. № 3. Воп. 1. Адз. зах. 125. С. 13–20.

[21] Кахановіч Міхаіл Сілуянавіч (1882–1934) — беларускі палітычны дзеяч і педагог.

[22] БДАМЛМ. Ф. № 3. Воп. 1. Адз. зах. 20. С. 11.

[23] БДАМЛМ. Ф. № 473 (не апісаны). З дзённікавых запісаў В. Дзяржынскай.

Янушам і іншымі выправіўся да месца фарміравання Арміі Андэрса ў м. Бузулук Арэнбургскай вобласці. У дарозе былі разлучаны. Хворы Антон застаўся ў вёсцы Чорная Рэчка пад Барнаулам, дзе памёр, паводле недакладных звестак, на пачатку 1942 г. Месца пахавання невядома. З тых горкіх гадоў захаваліся ўсяго два лісты да жонкі Юліі, перапісаныя сястрой Вандай у свой сшытак. Гэтымі некалькімі старонкамі-сведкамі гераічнага і горкага лёсу дазвольце завяршыць аповед пра А. Неканда-Трэпку, пакідаючы намеры на будучае даследаваць і далучыць да яго жыццяпісу новыя і больш дакладныя факты.

№ 6. Яя[24]

Начинаю это письмо раньше срока его высылки чтобы ответить Тебе, моя Единая, на все твои вопросы и не забыть Тебе сообщить то, что необходимо. И так, прежде всего, я не получил письма открытого от Казика[25]. Да и это невозможно. Юзя так само не будет иметь возможности прислать мне посылки. Твое письмо № 8 не дошло до меня. В Твоем письме не могу сообразить получила ли Ты мое первое письмо с 10 ноября. На сколько мне помниться, я в нем просил выслать мне «Большевика»[26] и не повторял этой просьбы в других. […] дня я получил 12 Большевиков и открыток. Я не пропускаю ни одного дозволенного срока и если Ты его не получаешь, то вини в этом почту. Не безпокойся за меня. Ты сообщаешь, моя Юля, что Ты мне выслала в декабре 40 р., в январе 25, а 27 я получил перевод на 50. Итак о 40 р. я получил сообщение, а 6-го мне выдали 20 р. О 25 р. Не знаю получили [ли] в финн отделе, так как сообщения я не получил. 50 р. записаны на мой кредит. Прошу самым решительным образом денег мне не высылать, разве сам обращусь с просьбой. Здесь мне некуда их израсходовать. […], что я очень и очень благодарен за посылку, получил всё в порядке, кроме флакона резного с вином, что конфисковано, т. к. алкоголь не разрешается в лагерях. Буду благодарен за следующую посылку, т. к. присланные уже на исходе. Я получил 3 посылки: от Стефана, от Владка из Ошмяны и от Дубовика из Куренца[27]. Сейчас у меня во рту конфетка от Стефана. Состав посылки на 2 месяца желательно такой: 2 до 2.50 кило жиров (солонина, бочек, или топленое сало — шмалец, 0,5 кило сахару или конфектов, 400 до 500 грамов (табаку) махорки или табаку «Охотничого» 300 гр., а махорки 200, и 2–3 кило ржаных сухарей. Не присылай мне никаких круп, так как нет ни места ни времени их варить. Я их получил от Дубовика, но они бесполезны. Обедаем и ужинаем в столовой. Кисета я не получил. Как Ты его выслала? Кисет, подаренный мне сыном, остался в Вилейке. За светр наперёд благодарю Тебя, моя дорогая, он будет говорить мне о неусыпной памяти Твоей о мне.

Твои с большой благодарностью я должен получить, но неужели все мои снимки пропали? Принес ли Ленько[28] тебе. В февральском письме я писал тебе, чтобы прервать высылку бандеролью, т. к. это теперь запрещено. Когда увидишь Геню, дочь моего покойного дяди[29], передай ей мое сердечное соболезнование. Тоже самое, если встретишь жену или

---

[24] Як вынікае са зместу лістоў А. Неканда-Трэпкі, ён і яго жонка Юлія, каб кантраляваць дасылку лістоў поштай, іх нумаравалі. Лісты напісаны на рускай мове, з ужываннем яшчэ дарэвалюцыйных «яць» і «юс». Рускай пісьмовай мовай, трэба адзначыць, А. Неканда-Трэпка валодаў не зусім дасканала.

[25] Гаворка ідзе пра сына А. Неканда-Трэпкі.

[26] «Бальшавік» — тэарэтычны і палітычны орган ЦК КПЗБ, выдаваўся з 1924 да 1936 г. у Вільні нелегальна, пазней у Мінску. Пісаў пра палітычнае і эканамічнае становішча ў БССР і СССР. Нумары 1–40 выйшлі як газеты, з 41 — часопіс.

[27] Асобаў устанавіць не ўдалося.

[28] Асобу ўстанавіць не ўдалося.

[29] Гаворка ідзе пра Генрыха Неслухоўскага, роднага брата маці А. Неканда-Трэпкі.

сына его. Что слышно об Екат.[ерине] Вячеславовне[30]. Отчего Ты мне о ней не пишешь. Не забудь передать самый сердечный привет Ольге Давыдовне[31] и её супругу, это очень хорошие люди. Напиши как они живут. Дай сделать отпечаток моих маленьких снимков, твой и детей и пришли. А так как я хотел бы видеть как ты выглядишь, то сделай свою карточку у уличного фотографа, дай увеличить и пришли.

Юля моя дорогая, я Тебя не понимаю. Сама Ты просишь, чтобы я Тебе писал все о себе, а между тем пишешь о себе очень мало. Не нужно мне уверять как меня все интересует. Я хотел бы знать, как Ты устроилась при капиталистической Литве и после, когда наступил переворот. Что произошло с мебелью, с книгами, с цветами. Принесли ли Тебе мое жалованые за октябрь? Пиши мне обо всём этом.

Теперь о себе скажу. За шесть месяцев пребывания в лагере я много переменил работ, но все мало имели общего с моей специальностью. Только одна последняя работа была по моей специальности — на электрической станции, но длилась всего 7 дней. Завтра принимаюсь за работу, состоящую в составлении смет на постройки. Эта работа сидячая и спокойная. На физических работах я не мог исполнять норм, потому меня переводили с одной на другую. Я чувствую себя хорошо, хотя я, как и Ты, постарел и потерял силы. Читаю тут мало. Все свободное время посвящаю сну. Погода здесь очень странная. Мороз 35° без никакого предупреждения сменяется 5°. Сегодня утром было 21°, а по полудни совершенно теплое солнце грело. Чувствуется уже приближение весны. Снег белый ослепляет. С товарищами я живу хорошо. На себя, Юля дорогая, ты возводишь обвинения. Ты была идеальным товарищем моей жизни: другом, опекуном, опорой. Ты не можешь представить себе как мне недостаёт твоей помощи. Хотел бы еще написать многое о наших с Тобой отношениях но … (Stronica dozwolona sij konczy)[32]. Целую Тебя очень, очень крепко. Всем, всем посылаю привет, поцелуи, что кому следует. Твой и только Твой Тонюк.

№ 7. 19 апреля 1941 г.

Юля, жонка моя милая, дорогая. Достал я твои письма, включая 10 № . Знаешь, пришел и 8 № , только с двухмесячным опозданием. Очень и очень благодарю Тебя за частые письма, которые мне так дороги. Я, к сожалению, не могу чаще писать Тебе. Стараюсь в каждом письме дать вести о своей жизни. И теперь за этот истекший от последнего моего письма месяц много произошло перемен в моей жизни. Я писал тебе о работах, о центральной электрической станции, но эта работа была временная и окончилась в течении 7 дней. Я пошел на работу по уборке снега, но здесь не долго побыл, т. к. меня командировали в строительное отделение. Здесь имею много работы, но она сидячая, спокойная и почти по моей специальности. По крайней мере справляюсь уже довольно хорошо с ней. За её я получаю лучше стол и 12 р. 40 к. в месяц. Работаю уже ¾ месяца и доволен. Ночной работы нет, но зато всё воскресенье провожу за ней. И так я весь день с 9 часов утра до 10 вечера провел за начислениями в день Пасхи. Но мы не забыли и выразили друг другу пожелания. Нашлось и яйцо, которым мы поделились. Понятно, первая моя мысль была о Тебе и о всех своих. Мои мысли пошли в первую очередь к Вам, [перелетая] эти тысячи верст, которые нас отделяют. Как Вы провели этот день. Верно Ты после пошла к Марианам и там вместе с Владками поделились яйцом и принесла за себя, за Казиков и за меня от них пожелания. Был ли у них стол? Что делала Ты потом. Имела ли Ты работу в этот день? Где работает Анеля?[33] Вообще, относительно Твоих писем должен заметить, что они [не] содержат того, о чем Тебя спрашивал,

---

[30] Асобу ўстанавіць не ўдалося.

[31] Асобу ўстанавіць не ўдалося.

[32] Тут: дазволеную колькасць старонак выкарыстаў.

[33] Хатняя работніца Неканда-Трэпкаў у Вільні.

а именно какие № № писем Ты получила, получила ли № 1. Затем, в каждом письме я задавал Тебе целый ряд вопросов. Ответа почти не имею на них. Есть ли у Тебя мои? Думаю если нет, то можно получить через нашего зубодера[34].

Юля моя. Пишу, а не посылаю Тебе пожелания. Ты знаешь, как я тоскую по Тебе, как я связан с Тобой, единой моей опорой, [моей] надеждой и любовью, как хотел бы я быть с Тобой. Все мои желания устремлены к тому, чтобы сохранить здоровье и конец жизни с Тобой провести. Тебе, милая, я желаю того же: сохранить силы и здоровье до момента нашей встречи уже без разлуки до гробовой доски!

Юля, это будет момент может быть самый счастливый в нашей жизни, после всех невообразимых душевных переживаний, которые мы проходили!

Вот Ты не описала мне как Ты провела ночь после разлуки. А ведь это меня интересует! Что сделала Ты с деньгами? Получила ли 625 р. в школе? Что Ты сделала с мебелью? Что взяла с собой? Сохранились ли картины наши? И портреты? Технические книги можно бы было передать в школу. Как идет школа? По старым ли программам и жив ли Белецкий. Не заходил ли к Тебе? Попроси Стефана чтобы повидал Адольфа Малевского[35] (Школьная 78) и поклонившись от Франца, отца Виси, проси его написать Францу[36]. Здесь много женщин с Белоруси и Польши. У нас оттепель. Днем болото, а ночью подмерзает. Чернозем, а потому болото как в Токмаке[37]. Счастье мое, что не работаю на открытом воздухе. И так ноги всё время мокрые, но это не влияет плохо на мое здоровье. Я здоров и теперь хорошо чувствую себя.

Ты [указала], я запустил бороду. Стригу её у парикмахера для…[38] Посмотрел я как-то в довольно большое зеркало и нашел большое сходство с покойным Отцом. Что до одежды, то Ты права, что интересуешься им. Носим ватные штаны и ватное полупальто. На ногах резиновые лапти, которые к сожалению, не хранят от болота. Хлеба получаю больше 800 гр., не голоден. Но жиров мало, если нет рыбы. Несколько дней сряду мы получали кету, рыбу похожую на…[39] Была очень хороша. Теперь дают малые селедки, очень жирные и вкусные. Я сыт.!!! Обедаю в 6 часов, ужинаю в 10 вечера, утром завтракаю в столовой супом или кашей, второй раз завтракаю в 12 часов. Работаю в канцелярии. Скажи Владиславе Фроник[40], что сестра её жива и здорова, кланяется и просит писать, т. к. она не отвечает на письма. Должен идти на работу и поэтому кончаю. Моцна, крепко, целую Тебя, моя Ты единая дорогая. Твой Тонюк.

*Ганна ЗАПАРТЫКА*

---

[34] Так у тэксце.

[35] Асобу ўстанавіць не ўдалося.

[36] Асобу ўстанавіць не ўдалося.

[37] Магчыма, адно з месцаў высылкі А. Неканда-Трэпкі.

[38] Радок не дапісаны.

[39] Радок не дапісаны.

[40] Асобу ўстанавіць не ўдалося.

# ЛЯЛЯ І ТАРАС
## Да гісторыі аднаго кахання

Янка Брыль колькі разоў вяртаўся да аднаго і таго ж сюжэту: як ён хацеў запісаць успаміны Уладзіславы Луцэвіч, але Купаліха кожны раз адмахвалася і казала: «Сама напішу». Так і панесла з сабою тое, пра што ніхто, апроч яе, не ведаў. Яшчэ адна ўдава, Леаніла Гарэцкая, таксама не пакінула ўспамінаў пра мужа, апрача хіба згадкі пра тое, як складалася кніжка народных песень, але захавала лісты і творы свайго мужа. Нешта не помню я, каб сустракаў успаміны іншых удоваў нашых пісьменьнікаў і палітыкаў: Ганны Бабарэкі, Ванды Лёсік, Алесі Смоліч… Гэта можна патлумачыць хіба няўпэўненасцю ўдоваў у тым, што іхнія мемуары будуць калі-небудзь запатрабаваныя. Ці няўпэўненасцю ў тым, што бальшавікі не пачнуць тэрор нанова.

У гэтым сэнсе пашанцавала Івану Луцкевічу. Гэта наагул унікальны (прынамсі ў нас, беларусаў) выпадак, калі ўспаміны пра свайго жаніха напісала ягоная нявеста, якой было наканавана выйсці замуж за іншага чалавека, а потым амаль 30 гадоў жыць удавою. Праўда, сваю ролю ў тым, што ўспаміны былі напісаныя, адыгралі зацікаўленыя асобы: пляменніца Івана Луцкевіча, Яніна Каханоўская ды паэтка Наталля Арсеннева. Гэта яны, апынуўшыся ў Нямеччыне і сустрэўшы там Юліяну Мэнке (у замустве Вітан-Дубейкаўская), угаварылі яе сесці за пісьмовы стол. Напісанае Яніна Каханоўская друкавала на машынцы. Яна ж на пачатку 1990-х даслала машынапіс[1] у Вільню свайму стрыечнаму брату Лявону Луцкевічу, сыну Антона і пляменніку Івана. Так у 1994 г. ўбачыла свет кніжка Юліяны Вітан-Дубейкаўскай «Мае ўспаміны». Паводле гэтае кнігі артыстка Галіна Дзягілева паставіла ў тэатры аднаго актора «Зніч» спектакль.

Мусіць, прыклад Галіны Дзягілевай натхніў гісторыка Віталя Скалабана і пісьменніцу Людмілу Рублеўскую, і яны напісалі п’есу «Людвіка і Фабіян» — аб каханні Людвікі Сівіцкай (Зоські Верас) і пісьменніка, палітыка, беларускага камуніста Фабіяна Шантыра, расстралянага таварышамі па партыі ў 1920 г.

Калі зірнуць у каляндар, дык выявіцца, што ўсе шчаслівыя і нешчаслівыя любоўныя гісторыі, пра якія я тут згадаў, адбываліся ў час Першае сусветнае вайны і рэвалюцыйных падзей у Еўропе. У 1915-м пачаўся раман Івана Луцкевіча і Юліяны Мэнке, у 1916-м вянчаўся Янка Купала, у 1917-м — Аркадзь Смоліч, у 1919-м — Максім Гарэцкі, у канцы 1919-га ці на пачатку 1920-га — Антон Луцкевіч; у той неспакойны час пачаўся і «раман» Язэпа Лёсіка з Вандай Лявіцкай.

У той трывожны час адбылася і наша гісторыя.

Пра Яго мы ведаем нямала, пра Яе — менш. Таму спачатку пра Яе.

### ЯНА

Эмілія Люцыя Мэнке (Moenke), пятая дачка і восьмае дзіця ў сям’і віленскага купца II гільдыі Карла Мэнке і ягонай жонкі Аўгустыны Аміліі[2], нарадзілася ў 1896 г., вучылася ў гімназіі Веры Прозаравай; акрамя таго, яе навучаннем займалася нямецкая бона; удасканальваць веданне французскай дапамагала madame, якая прыходзіла на дом. Самой сабой, жывучы ў Вільні, панне Эміліі нельга было не ведаць польскае і «простае» моваў.

[1] Рукапіс успамінаў Ю. Вітан-Дубейкаўскай захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане. З ім яшчэ ў савецкі час пазнаёміўся Адам Мальдзіс

[2] З другім імем пані Мэнке (у дзявоцтве Кітц) ёсць праблема. У кнізе яно зафіксавана як Амілія, але гэта, хутчэй за ўсё, імя Эмілія, якое было дадзенае меншай дачцэ. Усяго ў пані і пана Мэнке было адзінаццаць дзяцей: шэсць дачок і пяць сыноў. З іх да сталага веку не дажылі дзве дачкі (памерлі ў 12 і 13 гадоў).

Як пісаў Антон Луцкевіч, характар панны Эміліі быў мілы. З фотаздымкаў, якія змешчаны ў кнізе Юліяны Вітан-Дубейкаўскай, на нас пазірае мілавідная дзяўчына. Мусіць, таму дома і сярод сяброў панну Эмілію Люцыю звалі Ляляй.

Невядома, па якой сцежцы пайшла б «маладая, поўная сіл, жыццярадасная Ляля» (словы А. Луцкевіча), калі б не Першая сусветная вайна. Мажліва, беручы прыклад з сястры Юліяны, пайшла б на Вышэйшыя жаночыя курсы, здала б іспыты за курс імператарскага універсітэта ў Пецярбургу і занялася б навукай. Мажліва, пайшла б вучыцца на акторку.

У яе былі акторскія здольнасці. «Ляля добра грала й пяяла, мела мілы галасок», — сведчыла сястра. Пра тое, што ў панны Мэнке «невялікі, але вельмі мілы голас», пісаў і Антон Луцкевіч.

На сцэне яна дэбютавала на другі дзень Калядаў 1916 г. Францішак Аляхновіч ставіў сваю п’есу «На Антокалі».

Першая і бясспрэчна ўдалая «проба пяра» пана Аляхновіча — так ацэньваў п’есу рэцэнзент Антон Луцкевіч. «Камедыя Аляхновіча ‟На Антокалі” была тады проста шлягер. (…) ‟На Антокалі” ставілі даволі часта. Трэба зазначыць, што Аляхновіч патрапіў падабраць адпаведных аматараў і ансамбль гэтай п’есы быў выняткова добры. Ляля іграла Зоську, і міла звінеў яе галасок», — згадвала Юліяна Вітан-Дубейкаўская. «Добрай партнёркай Язэпа ў ролі Зоські была п. Ляля Мэнке. Яе ігра адзначывалася поўнай свабодай і натуральнасцю… Дуэты, адспяваныя ёю разам з п. Бароўскім, публіка нагр011дзіла доўгімі оплескамі. Шкада толькі, што ў часе спеву трудна было дачуцца слоў, каторыя становяць часць акцыі», — пісаў рэцэнзент. Праз няпоўныя 23 гады ён згадваў: «…яна выступіла перадусім у камедыі-аперэтцы Аляхновіча ‟На Антокалі”, іграючы вельмі ўдала ролю Зоські». І дадаваў: «Далей пайшлі іншыя п’есы, у якіх Ляля Мэнке выступала з вялікім поспехам, здбываючы агульную сімпатыю».

Было б дзіўна, калі б у такой паненкі не з’явіліся адаратары. Вайна вайною, а жыццё брала сваё. Як пісаў паэт, «маладыя гады, маладыя жадання». У асысце Лялі Мэнке мы сустракаем нямецкіх афіцэраў — лейтэнанта Пэтэра Р. і лейтэнанта Л. (шкада, што не названыя іх прозвішчы)… А потым яе «ад’ютантамі» сталі маладыя аўстрыйскія афіцэры-ўкраінцы, якія трапілі на службу ў Вільню ды хадзілі ў вольны час на беларускія спектаклі.

## ЁН

Сялянскі сын з засценка Мацюлішкі пад Вільняю, ён быў старэйшы за яе на чатыры гады: нарадзіўся 20 студзеня 1892 г. Пасвіў быдла і хадзіў у народнае вучылішча ў Лаварышкі. Хутка слава пра яго здольнасці дайшла да пані Гелены Стамброўскай, і яна забрала хлопца ў свой дом і падрыхтавала да паступлення ў III клас гімназіі. З аднаго боку, бацьку быў гонар, што ягоны сын стаў гімназістам, з другога — вялікі клопат, але з пятага класа сын пачаў вучыцца сваім коштам, бо зарабляў на вучобу і жыццё рэпетытарствам. Паколькі вучань ён быў здольны і выхаваны, гімназічныя настаўнікі рэкамендавалі яго ў лепшыя дамы Вільні. Значыць, і заробкі ў яго былі больш-менш прыстойныя.

Апынуўшыся ў II Віленскай мужчынскай гімназіі ў асяроддзі пераважна панскіх ды чыноўніцкіх сыноў, юны Бронюсь Тарашкевіч хутка стаў там «сваім». Яго палюбілі за шчырасць і добразычлівасць, кемлівасць і дасціпнасць, начытанасць і кампанейскасць.

Панічам, мусіць, імпанавалі арыстакратычныя манеры гэтага мужыцкага сына[3].

[3] Ва ўспамінах Юліяны Вітан-Дубейкаўскай чытаем: «Вось, — казала я, — Тарас сын селяніна, а з выгляду і манераў — арыстакрат». У жыццяпісе «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» Аляксандра Бэргман паведамляла: «…людзі, успамінаючы Тарашкевіча праз дзесяткі гадоў, пачыналі з такой заўвагі: ‟Ці ведаеце вы, што Тарашкевіч быў вельмі элегантны і меў манеры свецкага чалавека?”».

Аляксандра Бэргман, спасылаючыся на ўспаміны Вацлава Бітнэра[4] ды Яна Рубля[5], паведамляе, што за кучаравую галаву, блакітныя вочы, белы колер скуры і ружовасць твару аднакашнікі празвалі Бранюся Агнусам. Разам з Вацлавам Бітнэрам, Мечыславам Недзялкоўскім[6], Клаўдзіем Дуж-Душэўскім ды іншымі Бронюсь уваходзіў у польскую вучнёўскую арганізацыю «Wyzwolenie». Хлопцы вельмі ж налягалі на старажытнагрэцкую мову, і таму атрымалі мянушку Эліны.

І ў той жа час сябры палякі ведалі, што Бронюсь — беларус.

Усё пачалося з беларускае газеты і з беларускіх адозваў, якія бацька прывозіў дадому з Вільні. Стаўшы гімназістам, ён апынуўся пад уздзеяннем братоў Луцкевічаў. У VII класе, калі яму было 17–18 гадоў, свядома далучыўся да беларускага руху і стаў сябрам Сацыялістычнай Грамады. У беларускіх колах ён атрымаў мянушку Тарас.

Гімназію Браніслаў Тарашкевіч закончыў у 19 гадоў са срэбным медалём і паступіў у Імператарскі універсітэт у Пецярбургу.

Тут спынімся. І працытуем, што пісаў пра маладога Браніслава Тарашкевіча ягоны амаль равеснік Ян Станкевіч: «Скончыўшы гімназію, ён [Тарашкевіч] пад націскам кіраўнікоў беларускага руху (галоўна братоў Луцкевічаў) паступіў на гістарычна-філялагічны факультэт унівэрсытэту, замест, як хацеў і да чаго гадзіўся сваім характарам і здольнасцямі, выбраць мэдыцыну»[7].

Цікавая дэталь, ці няпраўда? Ва ўсякім разе біёграфам Браніслава Тарашкевіча ёсць, што абмеркаваць.

Студэнт Браніслаў Тарашкевіч звяртае на сябе ўвагу акадэміка Аляксея Шахматава, становіцца старастам Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў С.-Пецярбургскага універсітэта. Яго пакідаюць ва універсітэце «з мэтай працягу заняткаў і атрымання вучонай ступені».

Аляксандра Бэргман, даследуючы жыццёвы шлях Браніслава Тарашкевіча, пісала: «Цяжка паверыць, каб малады, сімпатычны, кампанейскі, пераважна вясёлы і дасціпны студэнт не карыстаўся ўвагай дзяўчат». І знайшла імёны дзяўчат, якія кахалі Браніслава. Гэта Ганна Галубянка, якая разам з Браніславам хадзіла ў народнае вучылішча, і яе (мабыць, стрыечная) сястра Мар'я Галубянка.

І яшчэ адно сведчанне. Антон Луцкевіч быў заўсёды дзелавы ў сваіх лістах да дзеячаў беларускага руху: нічога асабістага! І раптам у ягоным лісце Браніславу Тарашкевічу ад 13 лютага 1920 г. чытаю такое: «Бывай здароў і кінь зводзіць дзяўчат!». Цікавы штрых да партрэта Тараса.

Як бачым, і ў Лялі Мэнке, і ў Браніслава Тарашкевіча былі адаратары і адаратаркі, але крыніцы не паведамляюць нам, што Яна ці Ён самі былі па вушы закаханыя ў кагосьці.

## НА ВІЛЕНСКІМ БРУКУ

Яны сустрэліся ў 1918 г. у Вільні. Няма ніякіх сумненняў, што іх пазнаёмілі браты Луцкевічы. Калі ў верасні 1915 г. у Вільню прыйшлі немцы, сёстры Юліяна і Эмілія Мэнке актыўна ўключыліся ў беларускае жыццё, у працу Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны, які стаў прыкрыццём для нелегальнага Беларускага народнага

4 Бітнэр Вацлаў (1893–1981), вучыўся разам з Б. Тарашкевічам, юрыст, грамадскі дзеяч, хрысціянскі дэмакрат, пасол на Сойм Польскае Рэспублікі ў 1922–1935 гг.

5 Рубель Ян, вучыўся разам з Б. Тарашкевічам, вайсковы суддзя.

6 Недзялкоўскі Мечыслаў (1893–1940), вучыўся разам з Б. Тарашкевічам, дзеяч і тэарэтык Польскай сацыялістычнай партыі (ППС), пасол на Устаноўчы Сойм, пасол на Сойм Польскае Рэспублікі ў 1922–1935 гг., прадстаўнік ППС у Сацыялістычным Рабочым Інтэрнацыянале.

7 Станкевіч Я. На бакох успамінаў В. Рагулі // Бацькаўшчына. 1958. 11 траўня.

камітэта. Яны сталі пасярэдніцамі паміж акупантамі і беларускімі дзеячамі. Юліяна Мэнке была запрошаная ў рэдакцыю «Zeitung der 10. Armee», а Эмілія дапамагала нямецкаму публіцысту Вальтэру Егеру з «Zeitung der 10. Armee» і Антону Луцкевічу рыхтаваць да друку кнігу «Weissruthenien. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung» — першую значную беларусазнаўчую працу ў Нямеччыне. Не менш важным было тое, што сёстры Мэнке перакладалі на нямецкую лісты, звароты і мемарандумы арганізаванай беларускай грамадскасці, адрасаваныя нямецкім уладам у Вільні і ў Берліне. У кнізе Антона Луцкевіча «Барацьба за вызваленне» (2009) змешчаны не адзін такі дакумент.

26-гадовы кандыдат С.-Пецярбургскага універсітэта Браніслаў Тарашкевіч перажываў у 1918 г. свой першы зорны час. У 1918 г. у Вільню прыехаў аўтар класічнай працы «Беларуская граматыка для школ». Тут, у роднай Вільні, ён надрукаваў сваю працу. Можна сказаць, што ўлетку 1918 г. Браніслаў Тарашкевіч ужо ўвекавечыў сябе (праўда, у той час мала хто здагадваўся пра гэта).

Пішучы ўспаміны, Юліяна Мэнке занатавала тое, якое ўражанне пакінуў Браніслаў, тое, што ў яе і ў Браніслава былі супольныя настаўнікі, і тое, што Браніслаў спадзяваўся на Юліяніну дапамогу ў вывучэнні гоцкае мовы, праз якую ён хацеў зразумець пэўныя тонкасці мовы старaславянскай. Пра што размаўлялі ў 1918 г. Эмілія і Браніслаў, дзе яны бывалі — пра гэта гісторык не напіша: брак канкрэтных звестак. Юліяна пра гэта змаўчала. Таму белетрысты маюць шырокае поле для фантазіі. Яны смела могуць пісаць, што «мілы, выхаваны, з добрымі манерамі малады хлопец, цікавы суразмоўца, культурны, мяккага характару» Браніслаў (так яго характарызавала Юліяна) не мог не спадабацца і Эміліі. Мала таго, Эмілія закахалася ў Браніслава.

Сведчанні гэтае закаханасці пацвярджаюцца лістамі, пісанымі ў 1919 г. А ў 1918-м Браніслаў, дачакаўшыся выхаду сваёй граматыкі[8], выедзе з Вільні. Якраз аб той пары, у верасні 1918-га, з эвакуацыі на радзіму вяртаўся Менскі настаўніцкі інстытут. Ужо ў Яраслаўлі інстытут паступова пачаў ператварацца ў вышэйшую навучальную ўстанову: у навучальны план былі ўключаныя германскія і французская мовы, палітычная эканомія, філасофія, сацыялогія. Па вяртанні ў Менск[9] інстытут да канца 1918 г. быў пераўтвораны ў Беларускі педагагічны інстытут — першую вышэйшую навучальную ўстанову Беларусі XX ст. У інстытуце збіраўся нацыянальны выкладчыцкі корпус: Мікалай Байкоў, Усевалад Ігнатоўскі, Вацлаў Іваноўскі, Яўхім Карскі, Антон Неканда-Трэпка… Да іх далучаўся і Браніслаў Тарашкевіч. Ён стаў выкладчыкам беларускае і — ягоная ж мянушка Элін! — старажытнагрэцкае моваў[10].

## НЯГОДЫ

Ад восені да 1918-га да лета 1919-га і Ляля, і Браніслаў нямала перажылі.

1 лістапада 1918 г. памерла пані Аўгустына Амілія Мэнке. А 1 студзеня 1919 г. у Вільню ўвайшлі аддзелы Чырвонай Арміі. Пакуль у Вільні і ў Віленскім краі арганізоўвалася бальшавіцкая ўлада, беларусы на чале з Іванам Луцкевічам і сёстры Мэнке заснавалі Віленскую беларускую гімназію. Само сабой, пры новай уладзе сям'я купца II гільдыі,

[8] 10 верасня 1918 г. у «Гомане» з'явіўся ананімны артыкул «Рэформа правапісу». Яго аўтар (бясспрэчна, Антон Луцкевіч) анансаваў выхад у свет кнігі Браніслава Тарашкевіча і, у прыватнасці, пісаў: «Разумеючы, якую вагу мае аднароднасць правапісу ў беларускіх выданнях, мы з гэтага нумару ўводзім у "Гомане" сістэму п. Тарашкевіча і прызываем усіх выдаўцоў і працаўнікоў на літаратурнай ніве дзяржацца гэтага ж правапісу».

[9] У Менску інстытут узялі на сваё ўтрыманне ўрад БНР і нямецкая ўлада.

[10] Цікава, ці ёсць хоць адзін знаўца старажытнагрэцкае мовы ў цяперашнім Педагагічным універсітэце імя Максіма Танка?

да таго ж немца, не магла пачувацца спакойна. Не мог пачувацца спакойна і «стары» сацыяліст Іван Луцкевіч. Бальшавікі двойчы завіталі да яго на кватэру: першы раз па беларускія архівы, другі — па яго самога. Толькі смяротная хвароба ўратавала Івана Луцкевіча ад арышту.

Якою ж радасцю для віленчукоў і нават для віленскіх беларусаў быў прыход у горад 19 красавіка 1919 г. Войска Польскага!

Беларускія сацыялісты (бадай усе) былі рамантыкамі. Многія з іх успрымалі бальшавікоў як адну з сацыялістычных партый і кіраваліся ў дачыненні да іх прынцыпам сацыялістычнай салідарнасці. Яны, падобна на тое, і думкі не дапускалі, што адна сацыялістычная партыя можа пачаць знішчэнне іншых. Перад прыходам бальшавікоў 10 снежня 1918 г. у Менск практычна ўсе выкладчыкі настаўніцкага інстытута і нават Старшыня Рады БНР Язэп Лёсік ды былы Старшыня Рады і Народнага Сакратарыяту Іван Серада засталіся ў горадзе. Праўда, і бальшавікі яшчэ не дарэшты азвярэлі. І ўсё ж у 1919-м Вацлава Іваноўскага, Антона Неканду-Трэпку і Браніслава Тарашкевіча яны арыштавалі.

Калі Вацлава Іваноўскага ды Антона Неканду-Трэпку бальшавікі пратрымалі ў Смаленску да верасня, дык Браніславу Тарашкевічу ўдалося вылузацца з іх рук раней. Ужо ў чэрвені мы зноў бачым яго ў Вільні (9–10 чэрвеня 1919 г. тут праходзіў Беларускі з'езд Віленшчыны і Гарадзеншчыны). Але ўжо неўзабаве пасля з'езду (12 чэрвеня) паўнамоцны прадстаўнік БНР у Варшаве Аркадзь Смоліч накіраваў Браніславу Тарашкевічу ліст, у якім прасіў яго ўзяць на сябе абавязкі сябра Беларускай дыпламатычнай місіі ў польскай сталіцы[11]. 15 чэрвеня Аркадзь Смоліч паведамляў Часоваму прадстаўніку Урада БНР у Варшаве Лявону Дубейкаўскаму, што Браніслаў Тарашкевіч прызначаны ў склад дыпламатычнай місіі ў Варшаве[12].

Прысутнасць Тарашкевіча ў Варшаве спатрэбілася, каб узмацніць місію. Сацыялдэмакрат Лявон Дубейкаўскі быў добра вядомы ў польскіх колах, але, бадай, шырэйшае кола асабістых знаёмстваў меў у Варшаве сацыял-дэмакрат Браніслаў Тарашкевіч. Думаю, што яго прызначэнне, як і прызначэнне віцэ-прэм'ера БНР Аркадзя Смоліча, у польскую сталіцу было ініцыяванае Антонам Луцкевічам, які ў той час ад'язджаў з Берліна ў Парыж — на мірную канферэнцыю.

## ЛІСТЫ З ЗАКАПАНЭ

У тыя чэрвеньскія дні 1919 г. Іван Луцкевіч нарэшце паддаўся на ўгаворы сяброў і паплечнікаў і вырашыў ехаць у санаторый у Закапанэ.

Што Іван Луцкевіч быў безнадзейна хворы і што ён мог не вярнуцца з Закапанэ, — пра тое ведалі бадай усе, хто знаў яго асабіста.

У найбліжэйшым атачэнні вырашалася пытанне, хто будзе суправаджаць слабога і проста безпаможнага Івана. Было вырашана, што ад віленскіх беларусаў з ім паедзе Іван Чарапук (Янка Змагар). Іван Луцкевіч хацеў, каб у Закапанэ паехала і Юліяна, але яна была занятая ў гімназіі. Таму вырашылі адправіць у Закапанэ Лялю.

Я, здаецца, забыў сказаць, што мілавідная і надзеленая мілым галаском Ляля таксама мела праблемы са здароўем. Яна ўжо двойчы хварэла на плеўрыт, у яе быў выяўлены туберкулёзны працэс. Бальшавіцкая акупацыя, звязаныя з ёю трывогі і недаяданне не дадалі Лялі здароўя.

19-га ці то 20 чэрвеня 1919 г. яны ўчатырох — Іван Луцкевіч, Ляля, Іван Чарапук і Уладак — выехалі з Вільні.

---

[11] БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 227. Арк. 42.

[12] БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 236. Арк. 5.

Пра тое, як яны прыехалі ў Варшаву, як начавалі ў гасцініцы Соркіна на Налеўках, як з Варшавы дабраліся да Закапанэ, як жылі ў гатэлі, а потым у санаторыі, як да іх у жніўні (роўна за тыдзень да смерці Івана Луцкевіча) прыехала Юліяна, — пра ўсё тое Ляля напісала ва ўспамінах «Яго апошнія дні». Гэтыя ўспаміны былі надрукаваныя ў зборніку «Памяці Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі смерці Яго. (20.VIII.1919–20.VIII.1920)» (Вільня, 1920) і з каментарамі перадрукаваныя ў кніжцы «Пра Івана Луцкевіча: Успаміны, сведчанні» (Менск, 2007).

Прыехаўшы у Закапанэ, Юліяна назаўтра ж напісала ліст Браніславу Тарашкевічу ў Варшаву:

Дорогой наш пан Тарас!

Если бы пан Антон не мог теперь приехать в Варшаву по делам общественным, то все же я Вас очень прошу ему пространной телеграммой сообщить, чтобы выезжал немедленно, если еще хочет повидаться с братом. Бедный наш Иван совсем плох, последние 2 недели его состояние до того ухудшилось (главное, сердце очень аслабело), что доктора находят, что его агония может протянуться maximum недели 2–3, а вообще каждый день можно ждать конца. Я, конечно, не могу теперь оставить Ивана и мою бедную Лялю, которая так боится покойников, одну, она тут от волнения и стараха расхворается и не будет знать, что делать. Если Антон приедет, то выправляйте его немедленно к нам; он может пробыть тут день (…) и опять вернуться к своим делам в Варшаву, потеряет он на это 2 1/2 суток. Иван, бедняга, неимоверно обрадовался моему приезду, Вас очень благодарит за письмо, которое я должна была ему прочесть. Бачыце[13], так слаб наш бедный Иван… (…)

Да, если Антон приедет, то пусть с собой привезет 4 ф [унта] белого хлеба (длинные булки)[14], немного чаю и какао, а для Ляли шоколад и фрукты. Антону особо я не пишу, передайте, когда приедет, ему это письмо[15].

У той час, як Юліяна клікала ў Закапанэ Антона Луцкевіча, Ляля Мэнке сумавала там без Тараса. Яе лістоў да Браніслава Тарашкевіча засталося ўсяго некалькі. Дзяўчына таго часу, бадай, не магла напісаць у лісце да маладога чалавека адкрыта пра свае пачуцці. Затое ў яе быў прэтэкст, каб паклікаць Тараса ў Закапанэ:

…Приезжайте… если хотите Ивана видеть живым, и то не теряйте ни минуты, он умирающий и доктор сказал, что он *искусственно* постарается его поддержать до приезда Антона[16].

Гэты ліст датаваны 19-м жніўня. А 20 жніўня Іван Луцкевіч памёр.

Браніслаў Тарашкевіч, мабыць, быў адзіны беларускі дзеяч, які адведаў Івана Луцкевіча ў Варшаве на Налеўках. Ён быў адзіны дзеяч, які прыехаў да Івана ў Закапанэ. Прыехаў са спазненнем. Але не адно да Івана ехаў ён.

Пра што размаўлялі Ляля і Тарас у Закапанэ, дзе яны хадзілі — пра тое няхай піша раманіст. Ці гісторык у хаўрусе з раманістам. Тут хачу звярнуць увагу на адну недакладнасць. Юліяна Вітан-Дубейкаўская пісала, што яна заставалася з сястрою ў Закапанэ да 30 жніўня. Але вось мы чытаем ліст Лялі Мэнке з гэтага гарадка, датаваны 1 верасня 1919 г.:

---

13 Гэтак у тэксце ліста.

14 Над гэтымі словамі надписана: «с хлебом тут недостаток».

15 БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 227. Арк. 170–171.

16 Тамсама. Арк. 169.

Вы, негодный Тарасик, уехали и погоду с собой увезли. Вот уже второй день дождь и мгла. Тоска невыносимая…

Без каго тужыла, па кім сумавала Ляля Мэнке — можна здагадацца.

## ЯШЧЭ АДЗІН ЛІСТ

Такім чынам, мы не ведаем, калі дакладна сёстры Мэнке пакінулі Закапанэ. Затое мы дакладна ведаем, што на пачатку кастрычніка 1919 г. яны былі ў Вільні. На пачатку кастрычніка ў Вільню з Варшавы прыехаў Антон Луцкевіч. Шостага дня ў касцёле Святога Яна мела адбыцца жалобная імша за душу Івана Луцкевіча. А напярэдадні ў Цэнтральнай Беларускай Радзе Віленшчыны і Гарадзеншчыны быў наладжаны прыём у гонар Антона Луцкевіча. У той жа вечар Ляля напісала ліст Тарасу.

Тарасик, милый! добрый вечер!

…сегодня устроили в раде прием Антону. Понятно, как полагается, энное количество речей, и никто, никто из них даже намеком не вспомнил Ивана покойного. Я чувствовала, Тарасик, ясно чувствовала, как это больно[17] Антону, и мне было обидно и за него, и за Ивана. И я не ошиблась. Антон стал говорить, и голос его дрогнул, когда он словно вскользь вспомнил брата покойного. Мне так больно стало, и невольные слезы выступили на глаза. Знаешь, Тарасик, раньше я не понимала, насколько они мне близки, но когда над ними такая беда стряслась, тогда я только почувствовала, насколько они мне близки и дороги. И только потом за ужином Горецкий исправил общую оплошность и, подговоренный мною, улучив удобный момент, вспомнил Ивана и вообще всех умерших деятелей белорусских. Он говорил просто, но мило и от всего сердца.

Далей Ляля прызнавалася Тарасу, што адчувае сябе чужою ў тагачасным (восень 1919-га) беларускім грамадстве, бо гэтыя беларусы глядзелі на сёстраў Мэнке і нібыта пыталіся: чаго яны тут? «И только присутствие Антона, тень Ивана и мысль о Тебе является единственным связывающим элементом. Да еще милое соседство Горецких сглаживало это неприятное впечатление»[18].

## СПРОБА ЭПІЛОГУ

Думаю, ліст Лялі Мэнке ад 5 кастрычніка 1919 г. не патрабуе лішніх каментараў. Слова «милый», тое, што Яна звярталася да Яго на «ты», і даверлівасць даюць дастатковае ўяўленне пра адносіны паміж Ёю і Ім. Можа, трохі больш святла на характар гэтых адносінаў пралівае і ліст Юліяны Мэнке да Тараса ад 15 лістапада 1919 г. З яго мы даведваемся, што ў польскай сталіцы Браніслаў Тарашкевіч быў прыхварэў, і Юліяна запрашала яго ў Вільню: «Тут поухаживаем за Вами и Антоном, присылайте его к нам»[19]. З іншага ліста, напісанага Антонам Луцкевічам і датаванага 26-м студзеня 1920 г., мы даведваемся, што аб гэтай пары Браніслаў Тарашкевіч быў ужо ў Гедымінавай сталіцы. Антон Луцкевіч меў намер неўзабаве зноў выехаць у Парыж, таму прасіў свайго Тараса: «Пакланіся ад мяне пп. Мэнке і дапытайся, якія яны ўжываюць парфумы і якія нумары носяць рукавічак!»

Аляксандра Бэргман, якая ў манаграфіі «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» ўпершыню звярнула ўвагу, што ў 1918–1920 гг. яе герой «наладзіў шчырыя адносіны з Ляляй

[17] Далей закрэслены словы «и обидно».

[18] БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 227. Арк. 173–174.

[19] Тамсама. Арк. 177.

носна яе так званай палітычнай справы і думаў, гэта ўся справа ня важная сяньня. Ёй як матцы, ратуючай сына, многа чаго прашчаецца, і я асабіста згадзіўся, каб маё прозьвішча яна ўжывала як сьведку ў гэтай справе. Яе сын прыгожа гутарыць па-беларуску, і спадарыня Ніна ўлажыла шмат працы выгадаваць яго беларусам. Я зьвяртаюся да беларускіх Арганізацыяў у Амэрыцы памагчы Спадарыні Якубовіч праз выстаўленьне патрэбнага афідавіту[11] прыехаць у Амэрыку. Яна і яе сын Юрка памножаць беларускую сям'ю ў Амэрыцы двума актыўнымі сябрамі. Калі будуць цяжкасьці з фармальнага боку (справа палітычная), я абяцаю даць помач. Яе адрас: Nina Jakubowitsch, Byelorussian Home, 52 Penn Road, London, N. 7, England[12].

У Marian House, Holden Avenue, London, N. 12 я сустрэў трох паважаных Айцоў Марыянаў: Льва Гарошку[13], А. Надсона[14] і Язэпа Гэрмановіча[15]. Прыемна ўпершыню было пазнаць Айцоў Гэрмановіча і Надсона і ўзноў сустрэць Айца Гарошку. Прыемна было ўбачыць прыгожы Marian House з табліцай перад уваходам, дзе залатымі літарамі па-ангельску напісана: Byelorussian Catholic Chapel of SS. Peter & Paul (Byzantine Slavonic Rite).У доме знаходзіцца багатая бібліятэка, дзе некаторыя гістарычныя акты

[11] Affidavit (анг.) — пісьмовая заява пад прысягаю. Дакумэнт, неабходны ў той час для атрыманьня амэрыканскай візы, — забавязак жыхара ЗША перад уладамі, што новым эмігрантам заапякуюцца.

[12] Пра Н. Якубовіч ведама надта мала. Барыс Данілюк у адмыслова напісаных для гэтай публікацыі ўспамінах згадвае: «Якубовічышкаў пры немцах было дзьве сястры: старэйшая Ніна й малодшая Валянтына. З першай я быў знаёмы бліжэй, бо з паўгоду працавалі ў той самай установе, а з малодшай было толькі, як кажуць, шапачная знаёмства. Былі яны родам, здаецца, з паўдзённа-заходняе Слонімшчыны, але адкуль дакладна, ня ведаю. Абедзьве былі адукаваныя; Ніна нават вучылася крыху ў Вільні, малодшая мабыць не пасьпела пайсьці вышэй сямігодцы. Да майго знаёмства з Нінай дайшло так: у канцы 1941 ці пачатку 1942 гадоў у Слонім прыехаў доктар Ермачэнка зь ягонай сакратаркаю Нінай Войтанка, і з гэтае прычыны быў скліканы сход, на жаль, невялікага слонімскага беларускага актыву, на якім госьць абвесьціў, што немцы дазволілі стварыць беларускую дапамогавую арганізацыю «Weissruthenische Selbsthilfe», і што ён прыехаў, каб неадкладна арганізаваць круговую і раённую ўправы ў Слоніме. Адразу-ж адбыліся выбары ў абедзьве ўправы, і на сакратарку акруговае была выбраная Ніна Якубовіч. У раённай управе я, пакінуўшы месца сакратара, стаў скарбнікам, Аўген Кіслы — сакратаром. На старшыню акруговае ўправы Ермачэнка паставіў прывезенага з сабою адукаванага ў Пазнані інжэнэра Рыгора Зыбайлу. Ён быў родам з-пад Косава, у 1939 г. лучыў у нямецкі палон, зь якога яго выпусьцілі заняць месца старшыні беларускага камітэту ў Белай Падляскай. На ейную першую гасподу Самапомач атрымала шыкарны як на тагачасныя ўмовы і даволі вялікі дом выселенага жыдоўскага аптэкара Градзенскага на Магістрацкай вуліцы, дзе пасяліўся і Зыбайла, прыехалы з Гародні сакратар Аляксей Васіленя й Ніна Якубовіч (гэта апошняе магло быць толькі маім уражаньнем ад ейнае, як мне здавалася, бесперапыннае прысутнасьці ў будынку). Крыху пазьней нас перасялілі ў больш сьціплы будынак плябані касьцёлу Сьв. Андрэя на Замосьці, а пад лета Ніна заявіла, што едзе на працу ў Нямеччыну, што неўзабаве й зрабіла. Перад ейным выездам, аднак, паказалася, што яна цяжарная, і нам было незразумела, як у такім стане немцы ўзялі яе на работу. Там у яе нарадзіўся сын. Узноў сустрэў я яе ажно ў пачатку 1946 г. ужо студэнткаю Ўнівэрсытэту UNRRA ў Мюнхэне. Яна не была вялікай актывісткаю ў Беларускім Студэнцкім Згуртаваньні, а пасьля закрыцьця ўнівэрсытэту неяк хутка паехала на працу ў Англію. Іна Якубовіч расказвала маёй жонцы, што ейнага сына немцы пасьля нараджэньня забралі ў прытулак ці аддалі на адаптацыю, адкуль Ніна пазьней яго нейкім чынам выкрала. Якія палітычныя першакоды маглі быць у ейным прыезьдзе ў Амэрыку, не магу ўявіць, бо ня думаю, каб хто мог быць нагэтулькі неасьцярожны, каб дапусьціць яе да палітыкі ці ўзяць у якікольвечы вывед. Здаецца, яна памёрла даволі молада. Чуў, што й сын памёр маладым». Застаецца дадаць да ўспамінаў Б. Данілюка, што сын Н. Якубовіч Юрка быў пазьней выкінуты з Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі «за дзейнасьць, шкодную для арганізацыі».

[13] Леў Гарошка (26.02.1911, в. Трашчычы Наваградскага пав. Менскай губ. — 28.07.1977 г., Парыж), архімандрыт, рэлігійны, грамадзка-культурны дзеяч, пісьменьнік.

[14] Аляксандар Надсон (да эміграцыі — Бочка) (нар. 08.08.1926 г., Гарадзея), апостальскі візітатар для беларусаў-каталікаў усходняга абраду ў эміграцыі.

[15] Язэп Германовіч (20.02.1890 г, Гальшаны Ашмянскага пав. Віленскай губ. — 26.12.1978 г., Лёндан), сьвятар, рэлігійны й грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, рэдактар часапісу «Божым Шляхам».

аб усходняй царкве ёсьць адзінымі экзэмплярамі ў сьвеце. Зь яе карыстаюцца студэнты тэалёгіі ангельскіх унівэрсытэтаў. Бяз сумніву, нашы Айцы Марыяне ў Лёндане ня толькі прапаведуюць Слова Божае, але й папулярызуюць вельмі эфэктыўна слова аб Беларусі і яе гісторыі. На жаль, я ня мог пазнаць Яго Эксцэленцыі Біскупа Часлава Сіповіча[16], які пасьля ягонай хіратоніі на Эўхарыстычным Кангрэсе ў Мюнхэне быў у той час на візыце ў Сьвятога Айца ў Рыме. Гэта гістарычная падзея ў жыцьці Беларусаў каталікоў ня можа ня радаваць і Беларусаў праваслаўных, як гэта было са мной. Айцы Гарошка, Надсон і Гэрмановіч перасылаюць таксама іхныя шчырыя прывітаньні іх знаёмым і сябром Беларусам у Амэрыцы.

*Апошні тыдзень у жнівені я правёў у Галяндыі. Справы службовыя не дазволілі мне наведаць Лювэн і Айца Робэрта*[17] *і Айца Смаршчка*[18]*. Аднак я меў доўгую тэлефанічную гутарку із Айцом Смаршчком, у галоўным па лініі ССФ*[19] *на Паўночную Амэрыку. Айцец Аўген перасылае прывітаньні ягоным сябром-Лювэнцам у Амэрыцы.*

*З такой колькасьцяй навасьцей я сеў на Pan American jet*[20] *і за 7 гадзін быў зь Лёндану ў Дэтройце. Думаю, што некаторых з Вас сустрэну хутка і тады падзелімся думкай больш. Магчыма, штосьці падасца ў прэсу, як час будзе зрэлы на гэта. Цяпер прашу ўсе гэтыя весткі прыняць як прыватныя інфармацыі і не ссылацца на іх у ніякіх афіцыйных інфармацыях у беларускай прэсе.*

*Дай Божа, каб наступны год быў плённы ў нашым прыватным і грамадзкім жыцьці!*[21].

Аўтарам ліста быў Аўген Вярбіцкі.

Доктар Аўген Вярбіцкі.

## Частка І
## ЖЫЦЬЦЯПІС СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА: З АДНОЎЛЕНАГА

З часоў Казіміра Семяновіча, які апублікаваў у Амстэрдаме ў 1650 г. сваю кнігу «*Artis Magna Artilleriae Pars Prima*» ў лацінскай мове, пазьней перакладзеную ў мовы ангельскую, францускую, нямецкую, дасягненьні эмігрантаў-ліцьвіноў у тэхніцы, навуцы праходзілі неяк незаўважнымі. Хоць нібыта ёсьць хрыбет Чэрскага, мінэрал Дамэйкіт, але іхныя імёны ня зьвязваліся з Беларусьсю. Пра паходжаньне або не згадвалася зусім, або яно прыпісвалася іншым народам. У самой Беларусі эміграцыя не вывучалася, а пагатоў не гаварылася аб нейкіх дасягненьнях у навуцы. Ды й сама эміграцыя, трэба прызнаць, гэтаму не надавала вялікай увагі: свая сваіх не пазнаша.

А пісаць пра каго было, нават калі браць толькі паваенны час: важныя патэнты ў радыёкамунікацыі меў Анатоль Комар; Аўген Ярашэвіч быў адным з вядучых інжынэраў у распрацоўцы нью-ёркаўскае сэткі мэтро; на атамных станцыях працаваў

[16] Часлаў Сіповіч (25.11.1914, в. Дзедзінка Браслаўскага пав. Віленскай губ. — 04.10.1981, Лёндан), біскуп, навуковец, ініцыятар і заснавальнік Беларускага дома айцоў марыянаў у Лёндане й Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны і музея пры ёй (травень 1971).

[17] Робэрт ван Каўэлярт дэ Уілс — флямандзец з паходжаньня, быў вялікім прыяцелем беларускіх студэнтаў. Менавіта шмат у чым дзякуючы яму, маладыя эмігранты зь Беларусі атрымалі магчымасьць студыяваць у Лювэне. Пра яго піша Барыс Рагуля ў сваёй кнізе «Беларускае студэнцтва на чужыне».

[18] Аўген Смаршчок (25.09.1914, Зэльва Гарадзенскага пав. — 25.09.1984, пад Лювэнам), сьвятар БАПЦ.

[19] Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд.

[20] Самалёт (*анг.*).

[21] Захоўваецца ў архіве БІНІМ.

Аляксандар Жогла; Васіль Русак і Лявон Касоўскі мелі патэнты ў турбіннай тэхніцы, а Аляксей Арэшка — у хіміі. Янка Жучка доўгія гады быў рэдактарам часапісу «*Сталь*». У даведнікі 1950–1960-х гг. па хіміка-крысталаграфіі ўкладзена ладна працы Зоры Кіпель. У NASA працавала Ната Каракулька. Вітаўт Кіпель ад 1982 да 1985 г. рэдагаваў месячнік «*Новыя тэхнічныя кнігі*» (выдаваўся ад 1915 г.). Шырэй ведамы грамадзтву ўклад у навуку Барыса Кіта. Але асягненьні Аўгена Вярбіцкага вылучаюцца нават на гэткім зусім нешэраговым фоне.

Згадкі пра яго, нячастыя й подбегавыя, у нашым друку абмяжоўваюцца збольшага слушнымі, але агульнымі мейсцамі:

«У галіне біяхіміі ў Амэрыцы быў ведамы д-р Аўген Вярбіцкі, адзін з сусьветных лідараў у дасьледаваньні ірадыяцыі»[22]; «У галіне біяхіміі стаў шырака вядомы Я. Вярбіцкі, які нарадзіўся на Міншчыне, у мястэчку Краснае, у 1922 г. Сапраўдны член Нацыянальнай акадэміі Навук ЗША, ён выканаў прыярытэтныя дасьледаваньні па ірадыяцыі, распрацаваў мэтады радыяцыйнага кантролю прадуктаў харчаваньня»[23]; «Пасьля абароны дактарату Аўген Вярбіцкі пераехаў у штат Аёву і пачаў спэцыялізавацца на хіміі мясной прадукцыі. Пазьней атрымаў пасаду галоўнага навукоўца ў ваеннай лябараторыі дасьледаваньняў ежы ў ЗША. Ён — адзін з выдатных навукоўцаў, вынікі працы якога былі выкарыстаныя ў касьмічных палётах амэрыканскіх астранаўтаў. Выдатнасьць навукоўца-беларуса была адзначаная, калі амэрыканскія астранаўты вярнуліся зь Месяца і прывезьлі адтуль месяцавую пароду — кавалачак яе быў уручаны таксама і др. А. Вярбіцкаму»[24]; «спэцыяліст у захаваньні ежы, які быў адказны за харчаваньне першай амэрыканскай экспэдыцыі на Месяц»[25].

Хоць ведама пра жыцьцё А. Вярбіцкага на Беларусі мала, у тым ліку і ягонай сям'і — удаве, сыну й дачцэ (пад час адной з нашых тэлефонных размоваў дачка Вярбіцкага наракала на шматлікія пераезды з аднаго штату ў другі, калі яны мусілі пакідаць за сабой дакумэнты, паперы, што-б сёньня маглі распавесьці пра бацьку, ягонае жыцьцё й працу; з пытаньняў да яе зрабіла выснаў: ведама мне пра А. Вярбіцкага больш, як сям'і), — асобныя факты льга аднавіць.

Аўген Вярбіцкі нарадзіўся 4 студзеня 1922 году недалёка ад Маладэчна. У нэкралёгу малой бацькаўшчынаю называецца вёска Краснае[26]; сам-жа ён, запаўняючы анкету ў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (БІНІМ), пазначыў месцам нараджэньня Таршчыну — іншую вёсачку, што таксама каля Маладэчна.

Бацька Аўгена, Максыміліян, быў старастам у вёсцы, і на разуменьне суседзяў сям'я была заможнаю. У памяці-ж Аўгенавых дзяцей, Вольгі і Аляксандра, з аповядаў пра даэміграцыйнае мінулае (нешматслоўных і заўсёды неахвотных) засталася земляная падлога ў хаце, вялікая печ пасярэдзіне, на якую забіраліся ўсёй сям'ёй, каб сагрэцца. Меліся ў гаспадарцы парсюкі й каровы.

Гэтага, відаць, было дастаткова, каб зьвінаваціць Максыміліяна ў кулацтве й прысудзіць да 8-і гадоў у лягерох Сыбіры. Забягаючы наперад, скажу, што адбыў ён толькі тры гады з усяго тэрміну, бо быў вывезены на фронт, дзе яго сьпехам абучылі вайсковай прафэсіі міннага тральшчыка.

---

[22] Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993. С. 305.

[23] Гапоненка Вольга. Навуковая эліта беларускай дыяспары: адметныя рысы і асаблівасці вывучэння // Беларуская Дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый. Беларусіка Albaruthenica. 2001. № 17. С. 9.

[24] Камінскі Ю. Беларусіка ў Ратгерскім унівэрсытэце // Беларус. № 491, сьнежань 2003.

[25] Арлоў Уладзімер. Імёны Свабоды. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2007. С. 410.

[26] Беларус. № 329, красавік–жнівень. 1986. С. 7.

У Татаршчыне засталася маці, Аўдоцьця-Ганна з дому Ганецкіх, з Аўгенам, ягоным старэйшым братам Пятром і наймалодшаю Вольгаю.

Аўген хадзіў у школку — да яе было два кілямэтры прз лес, магчыма, менавіта ў Краснае, а ў часе вайны студыяваў у адміністрацыйна-гандлёвай школе ў Маладэчна, зарганізаванай Барысам Кітом у 1943 г.[27].

Пётр-жа запісаўся ў маладэчанскую паліцыю. Не ўпаляваўшы яго, партызаны, помсьцячы, забілі маці — звычайная на той час справа. Валянцін Тарас у сваіх успамінах згадвае: «[...] за плячыма быў партызанскі атрад, дзе бачыў я і бяссудныя расстрэлы, самаўпраўства й жорсткасьць асобых аддзелаў, бязьлітаснасьць ня толькі да старастаў і паліцаяў, але і да іх сем'яў, да іхніх малых дзяцей»[28]. Напэўна, менавіта пасьля гэтага забойства дзеці Вярбіцкіх прымусова былі вывезеныя ў Нямеччыну й раскіданыя па розных гарадах.

Па вайне Вярбіцкі апынуўся ў францускай акупацыйнай зоне ў Равэнсбургу ў польскім лягеры DP[29], дзе жыло нямала беларусаў, у тым ліку Барыс Кіт, Юры Сабалеўскі, Павал Сьвірыд, Эмануіл Ясюк, Віктар Войтанка. Прабыў ён там, відаць, зусім нядоўга, бо прыкладна ўжо ў 1945 г. прыехаў з купкай моладзі (разам з Аляксеем Арэшкам, Васілём Русаком, Галінай Родзькай, Аўгенам Кудасавым, Надзяй Юрэвіч ды іншымі) у Мюнхэн, дзе акурат у той час быў заснаваны Ўнівэрсытэт УНРРА. Унівэрсытэт быў унікальнаю інстытуцыяй: яго стварылі самі DP — для DP[30].

Амаль адразу тут было зарганізавана Студэнцкае Згуртаваньне[31] (паводле афіцыйнае статыстыкі ва Ўнівэрсытэце вучылася 120 беларусаў, але ў Згуртаваньні сябрамі было толькі 60), пачаў выходзіць часапіс «*Крывіцкі Сьветач*».

На сёньня пра навучаньне й побыт паваеннай беларускай моладзі ў Эўропе ведама параўнальна няшмат; зацікаўленых можна адаслаць да кнігі Барыса Рагулі «*Беларускае студэнцтва на Чужыне*»[32], у якой колькі старонак прысьвечана й Мюнхэну, а таксама да ўспамінаў Янкі Запрудніка пра Дванаццатку[33].

Тым каштоўней новая інфармацыя, якой ёсьць успаміны аднаго з былых сакурсьнікаў Вярбіцкага, Барыса Данілюка, напісаныя для гэтага артыкулу: «*Што да атмасфэры ў Мюнхэнскім Беларускім Студэнцкім Згуртаваньні, дык 1946 г. быў уздымам у патрыятычным настроі й дзейнасьці згуртаваньня ды аптымістычным поглядзе студэнтаў на іхнюю будучыню. У дзейнасьці Згуртаваньня гэта пазначылася пасьля выбару на студзеньскім ці лютаўскім сходзе на старшыню замест Барыса Семянкевіча Міхася Тулейку. Зарганізаваўся хор пад кіраўніцтвам Расьціслава Разджэсьцьвенскага, палепшыў выгляд "Крывіцкага Сьветача" ў новай вокладцы, было зладжанае годнае й людное сьвяткаваньне 25 Сакавіка. У красавіку беларусы з Рэгенсбургу бралі ўдзел у зладжаным міжнароднай арганізацыяй студэнтаў Унівэрсытэту*

[27] Адзінец Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. Мінск, 2007. С. 610.

[28] Тарас Валянцін. На выспе ўспамінаў. Вільня: Інстытут Беларусістыкі, 2007. С. 115.

[29] DP — Displaced Persons, лягеры для перамешчаных асобаў.

[30] Holian Anna. Displacement and the Post-war Reconstruction of Education; Displaced Persons at the UNRRA University of Munich, 1945–1948. Contemporary European History. Cambridge: May 2008. Vol. 17. Iss. 2.

[31] Гл. падрабязьней: Вініцкі Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Частка III. Арганізацыі. Лос Анжэлес, 1968. С. 58–75.

[32] Рагуля Барыс. Беларускае студэнцтва на Чужыне. Мінск, 2006. 188 с.

[33] Запруднік Янка. Дванаццатка: дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бельгіі, 1946–1954 гг. Нью Ёрк, 2002. 510 с.

*УНРРА вялікім канцэрце; адбыліся экскурсіі ў горы й на возера Аммэрсее, быў заснаваны Беларуска-Ўкраінскі Міжстудэнцкі Камітэт Супрацоўніцтва й выдадзены 16-старонкавы бюлетэнь. У кастрычніку*[34] *на зьезьдзе ў Мюнхэне была закладзена Цэнтраля Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (ЦБСА)*».

Перарвем тут успаміны, каб сказаць колькі словаў пра арганізацыю, да якой Вярбіцкі меў самае непасрэднае дачыненьне.

1–2 лістапада 1947 г. у Марбургу адбыўся Агульны Студэнцкі Зьезд дэлегатаў ад усіх беларускіх студэнцкіх арганізацый на выгнаньні. Гэты зьезд распрацаваў статут Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду (ССФ) пры ЦБСА. Мэта ССФ — фінансавая дапамога студэнтам у іхным навучаньні па-за межамі Беларусі, на ежу, набыцьцё абутку, апраткі, кнігаў; не падарунак — пазыка, якую сябры арганізацыі мелі вярнуць (і вярталі), як толькі станавіліся на ногі, каб маглі студыяваць іншыя.

Кіраўніцтва ССФ выдала адозву: «*Грамадзяне! Калі мы хочам, каб праваднікамі нашага грамадзтва ў будучыні былі сьветлыя людзі з хрысьціянскім заходня-эўрапэйскім сьветапоглядам, калі мы хочам, каб наш народ стаяў на культурным узроўні зь іншымі эўрапэйскімі народамі і прыймаў актыўны ўдзел у тварэньні сучаснай культуры й цывілізацыі, то ня даймы й заняпасьці нашаму студэнцтву!*»[35].

Адозва мела посьпех. Дастаткова сказаць, што ўжо на 31.10.1947 г. у касе ССФ было больш за 17 тысячаў марак.

У кіраўніцтва ССФ у розныя часы ўваходзілі Ўл. Цьвірка, Ул. Набагез, Б. Рагуля, а. А. Смаршчок, Я. Запруднік, К. Калоша, А. Протас, А. Арэшка. Але ад самага заснаваньня Фонду ў ім працаваў Аўген Вярбіцкі — спачатку як шэраговы сябра, а пазьней як скарбнік й старшыня філіі ССФ на Паўночную Амэрыку. Са сьмерцю Вярбіцкага Фонд спыніў сваё існаваньне.

Дамо зноў слова Б. Данілюку: «*Увесь гэты ўздым і аптымізм зламаўся, калі ў канцы 1946 ці пачатку 1947 г. стала ведама, што Ўнівэрсытэт зачыніцца з канцом веснавога сэместру 1947 г. Не далі рады спыніць гэтую бяду ні шматлюдныя дэманстрацыі студэнтаў, ні намаганьні шчырадбайнае апякункі Ўнівэрсытэту УНРРАўскае працаўніцы амэрыканкі Галіны Гашынскае; удалося толькі прадоўжыць існаваньне навучальнае ўстановы на адзін сэместар.*

*Зразумелая рэч, што сярод студэнтаў гэта выклікала паніку, большасьць пачала шукаць магчымасьці для далейшае адукацыі ў нямецкім інстытуце ў Марбургу ці ўкраінскіх унівэрсытэтах у самім Мюнхэне ды Рэгензбургу, але нямецкі браў надта неахвотна, а дыплём украінскага бадай нічога не даваў для далейшага навучаньня. Меншасьць пачала рыхтавацца да выезду ў іншыя краіны*».

Аўгену Вярбіцкаму пашанацавала скончыць навучаньне ў мюнхэнскім Тэхналягічным унівэрсытэце ў 1948 г. і тамсама, у 1949 г., здабыць навуковую ступень. Далося гэта няпроста; каб пражыць, ён мусіў гандляваць на чорным рынку алеем, цыгарэтамі, мылам, гарэлкаю, чакалядам. Рабіў ён гэта весела, натхнёна, і не губляўся нават у небясьпечных сваймі наступствамі сустрэчах з МР[36].

Аўген прыехаў у ЗША ў 1949 г. жанатым чалавекам: 22 красавіка таго самага году пабраўся шлюбам з мясцовай дзяўчынаю — Эльзай Г. Мамбаўэр, якая, як пісала газэта

---

[34] 16 кастрычніка 1946 г.

[35] Гл. таксама: Паведамленьне. Стыпэндыі ССФ. // Бацькаўшчына. № 10(13). 1948. 4 крас. С. 4; Паведамленьне Ўправы Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду. // Бацькаўшчына. № 26(29). 1948. 5 вер. С. 4.; Беларускія патрыёты! // Бацькаўшчына. № 12(55). 1949. 18 трав. С. 4; Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд. //Бацькаўшчына. № 14(244). 1955. 3 крас. С. 4.

[36] Military Police — ваенная паліцыя.

«*Беларус*» з нагоды выставы ейных твораў у беларускіх асяродках, «нарадзілася й студыявала ў Нямеччыне, а з 1955 году сталася амэрыканскаю грамадзянкай. У дадатку да мастацтва, ейная вышэйшая асьвета ўлучае сфэрыкальную трыганамэтрыю, мэдыцыну й камэрцыю. Мастацкія веды здабывала яна ў Нямеччыне й Швайцарыі, а таксама ў ЗША»[37]. Жанімства з грамадзянкаю Нямеччыны й дало эмігранту правы скончыць студыі ў гэтай краіне.

Амэрыканскае жыцьцё маладой сям'і пачалося ў «беларускіх» гарадох — Саўт-Рывэр, затым Нью Браўнсьвік, дзе Вярбіцкі працаваў на мэблявай фабрыцы. І невядома, як бы склаўся лёс здольнага эмігранта, каб ён, дзякуючы доктару Фрэду Дэтэрэйджу, не атрымаў тады стыпэндыі ад Унівэрсытэту ў Агаё.

Далейшая навуковая біяграфія Вярбіцкага, як яна пададзеная ў адным з тамоў «*Who Was Who in America. With World Notables*» (том 13, 1998–2000 гг. New Providence, NJ: Marquis Who's Who)[38]: пасьля здабыцьця навуковых ступеняў інжынэра агранамічных навук (1948) і доктара агранамічных навук (1949) у Нямеччыне, у Агаеўскім Унівэрсытэце абараніў другую доктарскую дысэртацыю — па біяхіміі (1953) і тамсама працягваў свае студыі — да 1956 г.

У 1956 г. узначаліў дасьледніцкі аддзел Rath Packing Co. у штаце Аёва — кампаніі, заснавай у 1891 г., што спэцыялізавалася ў пытаньнях захаваньня мясных вырабаў, у прыватнасьці шынкі й вэнджанай грудзінкі. Тут Вярбіцкі вынайшаў новыя мэтады кансэрвацыі шынкі, пры якой яна не губляе сваёй сакавітасьці, ды садзейнічаў у распрацоўцы frankfurter — сёньня гэтак папулярнага хот-дога.

Менавіта пад час працы ў гэтай кампаніі, якую, як сьведчаць карыкатуры мясцовых газэтаў, падазравалі ў дзейнасьці ня толькі навуковай, але й выведніцкай, Вярбіцкі й зьдзейсьніў падарожжа ў СССР, пра якое яшчэ будзе гаворка.

Тыя гады былі надта спрыяльнымі для Вярбіцкага: ягоныя навуковыя зацікаўленьні й патрэбы краіны супалі. Шэраг кангрэсмэнаў выказваўся пра вайну з СССР як пра *непазьбежнае заўтра*. Чорна-жоўтыя знакі на будынках — пазнакі сховішчаў на выпадак ядзернай атакі — нагадвалі аб савецкай пагрозе; пра тое-ж сьведчыла зьбіцьцё саветамі ў 1960 г. амэрыканскага самалёта-разьведчыка[39]. Артыкулы ў часапісе «*Life*» распавядалі, як сям'я з пяці чалавек можа выжыць у пакоі $3 \times 4$ метры з тэлевізарам і прыладамі для заняткаў спортам. Калі вайны-ж ня будзе, пісалася ў тых рэклямных артыкулах, дзеці могуць выкарыстоўваць бомбасховішчы для гульняў, тата — для сяброўскага покеру, а маці як пакой для прыняцьця гасьцей. Людзьмі авалодвала «бункерная мэнтальнасьць».

Бацькі, каб забясьпечыць больш-менш прыстойны ўзровень жыцьця, мусілі шукаць падпрацоўкі. Даход сярэдняй сям'і ў 1960 г. складаў 5.620 даляраў, у 1966 г. ён вырас да 7.436. Мінімальны заробак у гадзіну ў 1960 г. быў 1 даляр — гэта прыкладна чатыры з паловаю даляраў у грашох на 1990 г. Есьці па-за хатаю, перакусваць па дарозе з аднаго месца працы да другога зрабілася мусам. Рэй Крок ведаў, што ён робіць, калі пачаў раз-

[37] Беларус. 1970. № 157. С. 4.

[38] Гэта далёка не адзінае выданьне падобнага кшталту, дзе занатавана імя А. Вярбіцкага. Да прыкладу назаву яшчэ: American Men & Women of Science. A biographical directory of today's leaders in physical, biological, and related sciences. Physical & Biological Sciences. New York, R. R. Bowker. Выданьні 12 (1971–1973), 13 (1976), 14 (1979), 15 (1982), 16 (1986); Who's Who in the East. Wilmette, IL: Marquis Who's Who, выданьні 14 (1974–1975), 15 (1975–1976), 16 (1977–1978), 18 (1981–1982), 19 (1983–1984), 20 (1985–1986), 21 (1986); Biography and Genealogy Master Index. Farmington Hills, Mich.: Gale, Cengage Learning, 1980–2008.

[39] Гэта здарылася 1 траўня 1960 г.

гортваць ланцуг МкДональдсаў спачатку ў бізнэсовай частцы гарадоў, а пасьля і ва ўсіх астатніх раёнах. У 1960 г. іх было ўжо болей за 100[40].

Натуральна, спэцыялісты фаху Вярбіцкага былі на часе.

Наладзіўшы прафэсійнае жыцьцё, Аўген кінуўся ў росшукі сваякоў. Бацьку ён выпадова знайшоў праз польскую газэту, і ў 1958 г. той прыехаў у ЗША разам з сваёю другою жонкаю, палячкаю Чэславаю. Брат Пётра пазьбег выдачы саветам, запісаўшыся ў францускі замежны легіён. Ваяваў у Марока, потым у Індакітаі. На запросіны Аўгена ў Амэрыку прыехаў у 1956 г. (ён загіне ў 1961 г. у аўтамабільнай катастрофе). Вольга знайшлася ў Польшчы, дзе вывучылася на настаўніцу, выйшла замуж за мясцовага пекара, Антона Броша. Яны эміґравалі ў ЗША ў 1962 г. і пасяліліся ў Чыкага.

Прапрацаваўшы ў Rath Packing Co. да 1962 г., Вярбіцкі атрымаў прапанову ўзначаліць дасьледніцкі аддзел ваеннай лябараторыі ў адным з прыгарадаў Бостану, у Націку, штат Масачусэтс (афіцыйны назоў — U. S. Army Natick Laboratories).

Гісторыя гэтай лябараторыі сягае ажно ў 1775 г., калі Другі Кантынентальны Кангрэс прыняў рэзалюцыю, згодна якой упершыню вызначалася пасада генерала-інтэнтандта. У 1912 г. з асобных інтэнданцкіх аддзелаў быў створаны асобны корпус, які адыграў немалую ролю ў падтрымцы рэгулярных амэрыканскіх войскаў у Францыі ў часы Першай Сусьветнай вайны. Разам з тым з пачаткам Другой Сусьветнай вайны сталася відавочным, што праца па забесьпячэньні войска ўсім неабходным ва ўмовах джунгляў ці пустыняў толькі распачынаецца; асабліва тое датычылася харчаваньня, якое імгненна псавалася пры адсутнасьці лядоўняў у паходных умовах. І па заканчэньні Другой Сусьветнай было прынятае рашэньне аб стварэньні адмысловай лябараторыі, якая-б занялася вырашэньнем гэтае праблемы. Месцам стварэньня былі абраныя ваколіцы Бостана як багатага на навуковыя ўстановы, унівэрсытэты, а значыць, і спэцыялістаў, і таму, што яны былі кліматычна разнастайнымі.

Першы камень у фундамэнт будучай лябараторыі заклалі 30 траўня 1953 г.

Вярбіцкі працаваў над праблемай ірадыяцыі, г. зн. выкарыстаньня атамнае энэргіі заміж ахалоджваньня для перахоўваньня харчовых прадуктаў. Ягоныя вынаходніцтвы дапамаглі ўвесці ў рацыён жаўнераў мяса, якое пасьля ірадыяцыі не патрабавала лядоўняў.

Нават болей, NASA[41] таксама далучылася да гэтае праграмы, і мяса, апрацаванае па рэцэптах А. Вярбіцкага, было сэрверавана амэрыканскім і савецкім астранаўтам, удзельнікам першага міжнароднага касьмічнага палёту *Апалон-Саюз* у ліпені 1975 г., а таксама ўдзельнікам *Апалон 12* (лістапад 1969 г.) і *Апалон 17* (сьнежань 1972 г.).

У знак прызнаньня навуковага даробку вучонага Вярбіцкі быў запрошаны прысутнічаць пры старце Апалона з мысу Канавэрал. Пасьля палёту ён атрымаў амэрыканскі сьцяг разам са здымкам усіх астранаўтаў і касманаўтаў і іхнымі аўтаграфамі ды дробненькім кавалачкам месяца.

У 1981 г. ірадыяцыйная праграма была пераведзеная ў падначаленьне Дэпартамэнту Сельскай Гаспадаркі ЗША і перамешчаная ў Філядэльфію, штат Пэнсыльванія. З усіх

[40] Аўтары кнігі «Eating in America» пісалі пра сытуацыю ў 1960-я: «Americans are consuming, along with anheard-of amounts of valuable proteins in their meats and cereals, and along with vast quantities of fruits and vegetables full of good nutrients and vitamins, tens of billions of dollars worth of packaging, additives, and advertising, as part of their total estimated two hundred and fifty billion dollar contribution to the food industry, agribusiness, and the conglomerate corporations that decide what we will be allowed to eat». Waverly Lewis Root and Richard de Rochemont. Eating in America: A History. New York, Morrow, 1976. P. 443.

[41] The National Aeronautics and Space Administration — дзяржаўная інстытуцыя ЗША, адказная за нацыянальную касьмічную праграму.

супрацоўнікаў лябараторыі адно Вярбіцкі атрымаў прапанову пераехаць на новае месца працы, што ён і зрабіў. Там і працаваў да самай сваёй заўчаснай сьмерці.

Як паведамляў «*Беларус*», «*кангрэсмэн Уільям Ўайтгрэт із штату Вірджынія моцна рэкамэндаваў у афіцыйным выданьні Кангрэсу ЗША “Конгрэшэнал Рэкорд” (Кангрэсовыя Запісы)*[42] *за 30 верасьня 1983 г., б. Е 4693) знаёміцца з навуковымі артыкуламі др. Аўгена Вярбіцкага аб вартасьці ірадыяцыі ежы як спосабе ейнага перахоўваньня. Тэксты гэтых артыкулаў кангрэсмэн Ўайтгрэт зьмясьціў у “Кангрэсовых Запісах” за 24 сакавіка й 12 ліпеня 1983 г. (пачынаюцца яны адпаведна на б.б. Е 1329 і Е 3413).*

*Кангрэсмэн Ўайтгрэт бачыць іронію ў тым, што распрацаваная амэрыканскімі вучонымі тэхналёгія ірадыяцыі ежы, якая дазваляе перахоўваць прадукты без засольваньня або рэфрыджырацыі на працягу месяцаў, шырока ўжываецца ў Індыі, Кітаі ды іншых краінах, але мала пашыраная ў Злучаных Штатах.*

[...] *Др. А. Вярбіцкі — адзін з навукоўцаў-піянераў у галіне ірадыяцыі ежы. Цяпер у амэрыканскіх сродках інфармацыі шмат гаворыцца аб тым, што неўзабаве — у сувязі з праблемамі забруджанасьці прыроднага навакольля — ірадыяваныя прадукты зьявяцца ў шырокім продажы ў Амэрыцы.*

*У газэце “Вашынгтон Пост“ за 25 студзеня 1984 г. паданае выказваньне др. А. Вярбіцкага як навуковага аўтарытэту пра бясьпечнасьць ірадыяванае ежы*»[43].

Вярбіцкі вёў насычанае й напружанае жыцьцё. Ён багата вандраваў — ад Нямеччыны й Румыніі да Тайлянду і Японіі, браў удзел у міжнародных канферэнцыях і сам выступаў з дакладамі. Супрацоўнічаў з часапісам «*Chemical Abstracts*», распісваючы для яго савецкія навуковыя выданьні; быў заступнікам рэдактара прафэсійнага часапісу харчовай прамысловасьці «*Food Research*». У 1970 г. быў абраны сябрам Нью-ёркаўскай Акадэміі Навук. Сябра Амэрыканскага Хімічнага Таварыства, Амэрыканскага Інстытуту Тэхналёгіі Ежы, Амэрыканскага Таварыства Мясное Прамысловасьці, ганаровы сябра Амэрыканскага Таварыства для Прагрэсу Навукі.

У лістах да Вітаўта Тумаша Вярбіцкі часта наракаў на сваю занятасьць «па фаху» ды перапрашаў за малы ўдзел у дзейнасьці БІНІМу. Зрэшты, акрамя працы ў ССФ, Вярбіцкі быў актыўным у Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні, з’яўляўся намесьнікам старшыні Галоўнай Управы БАЗА, старшынём беларускага камітэту Рэспубліканскай партыі ад штату Масачусэтс. Аматар п’есаў Ф. Аляхновіча ад часоў удзелу ў школьных спектаклях, ён быў ініцыятарам БІНІМаўскага праэкту — праўда, не рэалізаванага — выданьня збору твораў пісьменьніка; друкаваўся ў газэце «*Бацькаўшчына*» і «*Запісах БІНІМ*» — пераважна пад псэўдонімам *др. А. Дунін*, бо праз своесаблівасьць свае працы й працадаўцаў не хацеў надта засьвечвацца ў палітычных выданьнях[44].

Гэта ў лісьце да Тумаша, зь якім Вярбіцкага зьвязвалі даўнія сяброўскія адносіны, ён тлумачыў падставы свайго выхаду з Рады БНР:

---

[42] «The Congressional Record» — афіцыйнае выданьне Кангрэсу ЗША, выдаецца з 1873 г.

[43] Пра др. А. Вярбіцкага ў «Кангрэсавых Запісах» // Беларус. № 316. Люты 1984. С. 5.

[44] Дунін А., др. Да пытаньня Whiteruthenia ці Byelorussia // Запісы БІНІМ. 1954. № 1 (5). С. 44–48; Дунін А., др. Аб патрэбе інфармацыі. Пытаньне нашай нацыянальнай назвы // Бацькаўшчына. № 42 (121). 19 каст. 1952. С. 6; № 43 (122). 26 каст. 1952. С. 2, 4; № 44 (123). 2 ліст. 1952. С. 34; № 45–46 (124–125). 16 ліст. 1952. С. 5; Дунін А. Аб заданьнях беларускага студэнцтва // Бацькаўшчына. № 46 (228). 12 сьнеж. 1954. С. 2–3; № 47–48 (229–230), Каталіцкія Каляды 1954. С. 6; № 1–2 (231–232). 7 студз. 1955. С. 7–8; Вярбіцкі А. «Спадчына» годна рэпрэзэнтуе Беларусь // Бацькаўшчына. № 6–7 (288–289). 11 лют. 1956. С. 5–6; Вярбіцкі А., др. З майго падарожжа ў Эўропу // Бацькаўшчына. № 28–29 (310–311). 15 ліп. 1956. С. 2; № 30 (312). 22 ліп. 1956. С. 3; № 31 (313). 29 ліп. 1956. С. 4; № 32 (314). 5 жнів. 1956. С. 4; № 33 (315). 12 жнів. 1956. С. 3–4.

«*Вельмі паважаны Др. Тумаш!*

*23-га г. месяца я паведаміў Вас як Старшыню Рады БНР*[45] *аб тым, што я прымаю Амэрыканскае грамадзянства і такім чынам выходжу з праўнае юрысдыкцыі Прэзыдэнта і Ўраду БНР на эміграцыі. Сяньня, прыватнай дарогай, хачу даць некалькі асабістых выясьненьняў. Думаю, што сярод Радных ёсьць асобы, што маюць Амэрыканскае грамадзянства й надалей лічацца правамоцнымі сябрамі Рады. Я гэтай дарогай ня мог пайсьці, па-першае, дзеля праўнага прынцыпу й пашаны да законаў як ЗША, так і Рады, а па-другое, што ў маім асабістым палажэньні я не магу замаўчаць майго дачыненьня да Рады, так як часта прыходзіцца мне даваць персанальныя данныя аб маіх дачыненьнях да грамадзкіх, палітычных чы культурных арганізацыяў.*

*Тады аставаўся толькі адзін выхад — гэта аставацца надалей без Амэрыканскага подданства. Аднак гэта было-бы ня толькі мне асабіста не на карысьць, але не на карысьць нашаму Беларускаму эміграцыйнаму грамадзтву. Я ў першую чаргу ня ёсьць палітыкам, а ў галоўным імкнуся быць навукоўцам, і таму калі змагу зрабіць на карысьць Беларусі, то толькі па навуковай дарозе. Аднак каб быць навукоўцам, трэба надалей здабываць фаховыя веды й вырабляць сабе папулярнасьць праз публікацыі й здабываньне адпаведнага становішча на ўнівэрсытэце чы ў індустрыяльных навукова-дасьледчых інстытутах. На гэта мне абавязкова патрэбна мець праўнае заплечча як Амэрыканскі грамадзянін. Вось-жа гэта ёсьць адна з галоўных прычынаў, якія мяне склалі выслаць Вам ліст за 23-га г. м.*

*У будучыні, калі Рада і Прэзыдэнт будуць адчуваць, што я ім магу быць памоцным у якой-колечы справе, калі трэба будзе матэрыяльная падтрымка чы штось іншае, я з ахвотай буду ім памоцным, хіба што (хоць гэта не праўдападобна) мой пачын будзе ня ў згодзе з законамі ЗША. Таксама я буду рад і буду чуцца вельмі ганарова ўзнагароджаны, калі буду паінфармаваны аб працы й клопатах Рады, таму што я хачу быць у курсе Беларускага Вызвольнага Руху. Свой вольны час буду ў будучыні ў галоўным аддаваць навуковае працы аб Беларусі, а таксама для росту БАЗА*»[46].

Аўген Вярбіцкі памёр ад сардэчнага прыступу 29 чэрвеня 1986 г. у Філядэльфіі.

Газэта «*New Solidarity*» за 22 жніўня ў нэкралёгу назвала яго «надзвычайна свабодным чалавекам»: «*Вярбіцкі казаў пра сябе як пра тройчы вызваленага. У 1939 г., любіў паўтараць ён, я быў вызвалены з-пад Польскага ярма, і ў выніку таго вызваленьня мой бацька быў сасланы ў Сібір. У чэрвені 1941 г. нямецкія нацысты вызвалілі мяне ад Рускага ярма. У выніку гэтага вызваленьня я быў арыштаваны ў верасьні 1943 г. як зьвязаны з партызанамі й прымусова высланы ў Нямеччыну, у Потсдам. У лютым 1945 г., калі рускія занадта блізка падыйшлі да мяне, я, хоць і быў мусам высланы сюды, памятаючы пра забойства маёй маці, канфіскацыю ўсёй нашай маёмасьці, не хацеў свайго вяртаньня ў СССР і таму рушыў далей, у Аўстрыю, Баварыю, дзе быў вызвалены трэці раз — француска-мараканскім войскам. І цяпер я кажу сваім дзецям: я вельмі вольны чалавек, я быў вызвалены тройчы*».

У 1998 г. сям’я Вярбіцкіх была запрошаная ў Лябараторыю ў Націку на адмысловую цырымонію занясеньня ягонага імя ў Залю Славы. Цяпер там вісіць партрэт Аўгена Вярбіцкага й плітка з такімі словамі:

---

[45] Вярбіцкі памыляецца: Тумаш ніколі ня быў Старшынём Рады.

[46] Ліст ад 30.01.1955 г. захоўваецца ў архіве БІНІМ.

*CUM SCIENTIA DEFENDIMUS*
*In Memoriam*
*Dr. Eugen Wierbicki*
*is inducted into the U. S. Army Soldier Systems Center Hall of Fame*
*this sixth day of November 1998, for his scientific accomplishments while serving*
*as Chief of Irradiation Food Development, from 1962 through 1981,*
*at the U. S. Army Natick Laboratories.*

*Under Dr. Wierbicki's leadership, the U. S. Army pioneered the research and development of high dose radappertized foods and for three decades has been recognized as the world leader and authority on this advanced method of preserving food This process offers tremendous potential for improving the quality and safety of operational rations.*

## Частка II
## BACK IN THE USSR: ЛЕТА 1960 г.

А цяпер, пазнаёміўшыся з героем, вернемся да падарожжа з Каляднага віншаваньня.

Пра яго Аўген Вярбіцкі мусіў скласьці справаздачу — «*Official United States Food Industry Research Team to the USSR. June 27 — July 27, 1960. A Partial Trip Report*», адну з копіяў якога даслаў дырэктару БІНІМ Вітаўту Тумашу з наступным суправаджальным лістом:

«*Паважаны Спадар Тумаш! Перасылаю Вам на перахоў копію майго рэпорту аб Савецкім Саюзе. Гэты рэпорт адрасую ў архіў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.*

Гэты рэпорт можаце выдаваць для чытаньня для сяброў Інстытуту, якія змогуць захаваць наступныя прадумовы:

1. *Рэпорт ня можа стацца публічным дакумэнтам.*
2. *У ніякіх артыкулах або прамовах будуць падаваны якія-колечы інфармацыі і ссылкі на рэпорт і маё прозьвішча, хаця матар'ял можа быць выкарыстоўваны для карыснай працы.*
3. *Жадная частка рэпорту ня можа быць апублікаваная ў прэсе ангельскай, беларускай чы другой*»[47].

Сёньня, калі А. Вярбіцкі больш як дваццаць гадоў таму пайшоў з жыцьця, можна зазірнуць у той сакрэтны рапарт і распавесьці пра яго бяз боязі зрабіць нейкую прыкрасьць аўтару ці спрычыніцца да новае эскаляцыі халоднае вайны.

Афіцыйная дэлегацыя ад ураду ЗША складалася з сямі чалавек, кіраўнікоў розных кампаній амэрыканскай харчовай прамысловасьці. Уваходзіў у яе й Фрэд Дэтэрэйдж, мэнтар і апякун Вярбіцкага; можна дапусьціць, што менавіта ён параіў адказным урадоўцам здольнага эмігранта ня толькі як адмыслоўца ў сваёй галіне, але і як перакладчыка і знаўцу савецкіх рэалій.

Трэба адзначыць, што Вярбіцкі згадзіўся на прапанову ўвайсьці ў склад дэлегацыі — прапанову ганаровую ды шматабяцальную што да будучай кар'еры (і тое засьведчыла прызначэньне ў лябараторыю ў Націку) — не без ваганьняў і страху: вярнуцца ў СССР, нават часова, нават грамадзянінам ЗША, было страшна. Вярбіцкі расказваў аб прапанове лічаным сябрам — Вітаўту Тумашу, Янку Запрудніку, раіўся зь імі, бо баяўся магчымых правакацыяў, але тут-жа на прамілы Бог прасіў нікому з беларускай грамады не распавядаць пра гэта.

Справаздача Вярбіцкага дае падставы выказаць здагадку адносна магчымых прычынаў падобнай сакрэтнасьці.

---

47 Ліст ад 15.03.1961 г. захоўваецца ў архіве БІНІМ.

140-старонкавы машынапісны тэкст складаецца з дзьвюх частак. Першая — «*Мясная індустрыя ў СССР. Крытычны аналіз мясной індустрыі ў Савецкім Саюзе*» — цікавая сёньня бадай хіба толькі адмыслоўцам, а вось разьдзел «*Разнастайныя ўражаньні пра паездку ў СССР*» прымушае дапусьціць, што задачы перад удзельнікамі дэлегацыі (кожнаму — асобныя!) былі пастаўленыя ня толькі навуковыя: нездарма-ж Вярбіцкі не абмяжоўваецца адно выкладам уражаньняў, далёкіх ад пытаньняў харчовай прамысловасьці, але й наўпрост выказвае парады што да ідэалягічнай палітыкі ЗША ў дачыненьні да СССР агулам (Вярбіцкі часта замест *СССР* піша проста — *Расея*) і нацыянальных рэспублік у прыватнасьці. Напэўна, перабольшаньнем было-б назваць місію Вярбіцкага «шпіёнскаю», але намер ягоных начальнікаў з кіраўніцтва арміі ЗША скарыстаць веды й вопыт былога савецкага грамадзяніна несумненныя.

І сапраўды, апавядаючы пра пабачанае, Вярбіцкі часта зьвяртаўся да ўласнага вопыту — свайго мінулага: «*Савецкі Ўрад сьцьвярджае, што ў Савецкім Саюзе няма непісьменнасьці й што ўсе савецкія грамадзяне ўмеюць чытаць і пісаць. Гэта праўда, што непісьменнасьць бадай ліквідаваная ў Расеі, разам з тым вялікая колькасьць савецкіх грамадзянаў, што працуюць у калгасах і саўгасах, могуць толькі напісаць сваё імя й прачытаць надпісы на крамах, калі стаяць у чарзе па хлеб, цукар або прамтавары, якія дзяржава завезла ў іхныя вясковыя “магазыны”*[48]*. У вёсцы, дзе я нарадзіўся, толькі 3 з 20 сямей магла выправіць сваіх дзяцей у сямігадовую школу, а пераважная болшасьць абмяжоўвала сваю адукацыю трыма клясамі пачатковай школы. Як я спазнаў у Маскве, сытуацыя не нашмат зьмянілася ў параўнаньні з 1941 годам*» (с. 76).

«*У 1940–1941 г. я наведваў “Педтэхнікум” у Маладэчна, бо мой бацька быў сасланы ў Сыбір, і праз гэта я ня мог наведваць звычайную школу. Пасьля заканчэньня “Педтэхнікуму” я мог выкладаць у 3–4 гадовай школе ў адной з беларускіх вёсак за 300–400 рублёў у месяц.*

[…] *Мой сябра, Алесь Е., атрымаў прафесыю школьнага настаўніка пад час нямецкай акупацыі ў Беларускай Настаўніцкай Сэмінарыі ў Вільні ў1943–1944 гг. За гэта ён адседзіў 4 гады ў расейскім канцэнтрацыйным лягеры (зьвінавачаны ў беларускім нацыяналізьме), а пасьля гэтага меў дазвол выкладаць толькі арытмэтыку й фізкультуру, бо выкладаньне астатніх прадмэтаў патрабуе “сацыялістычнага сьветапогляду”, а ён рахаваўся “ненадзейным элемэнтам”. Ягоны сёньняшні заробак як настаўніка ў сямігадовай школе каля Менску складае 300 рублёў ($30) у месяц. Ён хварэе на сухоты — насьледак канцэнтрацыйнага лягеру — але ня ў стане заплаціць за санаторый. Гэта яшчэ адзін аспэкт жыцьця настаўнікаў у Савецкім Саюзе, маласведамы на Захадзе, і які ўсяляк адмаўляецца Савецкімі чыноўнікамі*» (с. 78).

Прыдалося і веданьне Вярбіцкім расейскае мовы: «*Нашым пастаянным перакладчыкам у СССР была міс Эльвіна Владзіміраўна Уколава, кабета прыкладна 35 гадовага веку, супрацоўнік Міністэрства Замежных Спраў. Яна валодае ангельскаю моваю даволі добра, але ня ведае тэхнічных і навуковых тэрмінаў. Яна добра падрыхтаваная ў камуністычнай фразэалёгіі і ня раз спрабавала ўжываць гэта пры перакладах. Яна нават насьмельвалася самастойна адказваць на пытаньні, скіраваныя да расейскіх навукоўцаў, тлумачачы, што ведае адказ і сама. Пасьля назіраньняў за ёю цягам двух дзён у Маскве, я адклікаў яе ўбок і сказаў, што для нас яна проста перакладчык, які мае перакладаць слова ў слова нашыя пытаньні і адказы нам. Я таксама сказаў, што абмяркую з кіраўніком дэлегацыі варыянт замены яе на іншага перакладчыка, а яна страціць магчымасьць тры тыдні вандраваць па СССР. Яна не пратэставала, а толькі паабяцала больш адказна ставіцца да сваёй працы*» (с. 84).

---

48 У справаздачы А. Вярбіцкі часта ўжываў у двукосьсі беларускія й рускія словы.

«[...] *У заключэньне на гэтую тэму скажу, што перакладчыкі, прымацаваныя да замежных дэлегацый, адбіраюцца з палітычна надзейных служкаў расейскага камуністычнага рэжыму, і іхныя пераклады часта зьначваюцца на карысьць камуністычнага ўклада жыцьця. Таму наступныя амэрыканскія дэлегацыі ў Расею мусяць мець у сваім складзе чалавека, які гаворыць і разумее расейскую мову добра. Пэўныя веды пра расейскія звычаі, гісторыю, псыхалёгію й нацыянальныя характарыстыкі нерасейскіх грамадзянаў Савецкага Саюзу кімсьці з удзельнікаў дэлегацыі таксама вельмі пажадана, асабліва калі асобныя аспэкты савецкага жыцьця будуць цікавыя для амэрыканскага ўраду*» (с. 85).

Афіцыйная справаздача А. Вярбіцкага, напісаная на мяжы з травэлёгам, а дзе-нідзе і ўспамінамі, вартая ўвагі з розных аспэктаў: побытавымі дэталямі СССР улетку 1960 году, паглядам эмігранта, былога грамадзяніна гэтай краіны, — поглядам збоку; адзначэньнем тых аспэктаў жыцьця, якія могуць быць цікавымі, як піша аўтар, амэрыканскаму ўраду, ды ўрэшце й зьменамі ў псыхалёгіі самога аўтара. Асобныя фрагмэнты з гэтае працы й прапануюцца ўвазе шаноўнага чытача. Урыўкі даюцца ў перакладзе з ангельскае мовы, зьмяшчаюцца без пазначэньня старонак, але з пазнакаю пропускаў.

Аўген Вярбіцкі. Разнастайныя ўражаньні пра паездку ў СССР

«Інтурыст» — дзяржаўная турыстычная агэнцыя Савецкага Саюзу. Арганізацыя нібыта мусіць дапамагаць замежным турыстам з замаўленьнем гатэляў, самалётных квіткоў, прадастаўляць перакладчыкаў і быць памагатымі тым наведвальнікам, хто прыехаў з шчырым жаданьнем спазнаць, што такое Савецкі Саюз і хто такія ягоныя грамадзяне. [...]

Трэба адзначыць, што эксурсаводы Інтурысту пераважна прывабныя, інтэлігентныя, з добраю моваю маладыя юнакі й дзяўчаты, шчыра адданыя расейскай камуністычнай прапагандзе, і яны не задумваючыся падманваюць і прапагандуюць марксізм, калі на гэта вядуцца замежныя турысты. Паколькі ўсё гэта зроблена ў імя турызму, расейскі Інтурыст — гэта ганьба сусьветнага міжнароднага турызму. Экскурсаводы Інтурысту віжуюць за заходнімі турыстамі й даюць справаздачы сваім начальнікам. Магчыма, яны кіруюць вобыскамі ў рэчах турыстаў, што спыняюцца ў гатэлях Інтурысту, і запісваюць іхныя тэлефонныя размовы.

Каб атрымаць ад экскурсаводаў як мага больш карысьці, заходнія турысты мусяць ведаць загадзе, што яны хочуць пабачыць і што наведаць. Інакш яны будуць завезеныя ў месцы, дзе камуністычны лад жыцьця будзе паказаны ў найбольш прывабным насьвятленьні. […]

Праз увесь час знаходжаньня ў Савецкім Саюзе мы былі пад несупынным наглядам. З-за напружанага раскладу мы амаль ня мелі часу быць самім. Кожны дзень, пачынаючы ад 9 ранку, мы былі ў розных прадстаўнікоў харчоваў прамысловасьці СССР. Міс Эльвіна й таварышч Дзегцяроў трымалі нас пад сваім пільным наглядам праз увесь час спатканьняў і наведваньняў. Калі-ж мы былі вольнымі, звычайна да 9 ранку, за намі наглядалі супрацоўнікі гатэляў.

Найбольш шчыльнае віжаваньне доктар Дэтэрэйдж і аўтар гэтага рапарту адчулі ў Адэсе. Я папрасіў др. Дэтэрэйджа пайсьці са мной на спэктакль Беларускага Дзяржаўнага Тэатру імя Янкі Купалы, які выступаў на сцэне Ўкраінскага Тэатру ў Адэсе, 7 ліпеня 1960 г. Др. Дэтэрэйдж ласкава згадзіўся пайсьці са мной, хоць ні слова не разумеў па-беларуску.

Пад час нашага знаходжаньня ў тэатры, за намі ўвесь час хадзіў чалавек, трымаўся ён на адлегласьці некалькіх крокаў. Ён-жа ішоў за намі да самага гатэлю. Мы пачуваліся надта няўтульна, бо былі ўжо прыцемкі, а вакол ня было ніводнага таксі. […]

Праз увесь час знаходжаньня ў Савецкім саюзе мы былі цалкам ізаляваныя ад зьнешняга сьвету. Адзіныя весткі, якія мы маглі атрымаць з Захаду, былі ад амэрыканскай амбасады ў Маскве. Па-за гэтым, ніякіх зьвестак пра Амэрыку — толькі тыя, што друкаваліся ў расейскіх газэтах. У нас было два прымача (др. Дэтэрэйджа й др. Левіта), але трансьляцыя заходніх перадачаў пастаянна перарывалася.

Расейскія газэты, уключна з «Правдой» і «Известиями», надта невялікія (4 або максымум 6 старонак), і зьмяшчаюць толькі кароткія, адным абзацам, паведамленьні пра падзеі ў сьвеце. Звычайна расейскія газэты прапануюць чытачам прапагандовы матар’ял двух напрамкаў: 1. Кіруючая роля Камуністычнай расейскай сыстэмы ў сьвеце, змаганьні за мір, у навуцы, спорце й культуры. 2. Кампанія «Ненавідзім Амэрыку». […]

Добры прапагандовы матар’ял для расейскіх камуністаў даецца і амэрыканскімі грамадзянамі, якія ведамыя як культурніцкія ці прамысловыя лідэры ў ЗША й хто купіўся на расейскую вэрсію «мірнага суіснаваньня». Таму ня дзіва, што расейская «Правда» ад 3 ліпеня 1960 г. прысьвяціла нямала месца кліўлендзкаму індустрыялісту містэру К. Ітану, зьмясьціўшы нават ягоны здымак. Артыкул прысьвечаны наданьню Ітану Ленінскай Прэміі Міру. Для расейскай прапаганды такія «Ітаны» вельмі патрэбныя, каб пераканаць чытачоў у слушнасьці камуністычнай справы.

Актыўнасьць расейскіх перакладчыкаў і экскурсаводаў «Інтурысту», расейскіх газэтаў, радыё й тэлебачаньня сьведчыць пра зарганізаваную працу расейскіх камуністаў у змаганьні за сусьветную ўладу. Гэта Трэцяя Сусьветная вайна, да якой расейцы ставяцца вельмі сур’ёзна, а мы таго ня хочам бачыць. Каб перамагчы ў гэтай вайне, расейцы маюць тысячы адмысловых школаў, дзе навучаюцца будучыя прафесіянальныя прапагандысты. Прыкладна каля 200 тысячаў студэнтаў навучаецца там. Вялікая колькасьць тых прапагандыстаў будзе працаваць сярод расейцаў, але тыя, хто вучыцца найлепш, хто добра вывучыць замежныя мовы, будуць пасланыя за мяжу ў якасьці дыпляматаў, сакрэтных агентаў, бізнэсмэнаў.

Ведаючы расейскіх камуністаў зь дзяцінства, я перакананы, што калі расейскія камуністы былі-б упэўненыя ў ваеннай перамозе, яны-б распачалі Трэцюю Сусьветную вайну адразу. Паколькі расейскія камуністы ведаюць, што ЗША й астатні вольны сьвет мацнейшы за іх, яны не пачынаюць глябальнай вайны. Таму ЗША ў лепшых умовах для стварэньня лякальных праблемаў для расейскіх камуністаў. […]

Што сярэдні ўзровень жыцьця ў савецкіх грамадзянаў ніжэйшы за аналягічны ў Амэрыцы, вядома, але невядома, наколькі ніжэйшы.

Пасьля азнаямленьня з травэлёгамі амэрыканскіх турыстаў у Расею, што часта друкуюцца на старонках розных амэрыканскіх часапісаў, я мушу зрабіць наступную заяву: жыцьцё расейцаў звычайна падаецца ў значна лепшым насьвятленьні, чым ёсьць на самой справе. Адна з прычынаў — знаёмства апавядальнікаў з жыцьцём у гарадах, а таксама з «выпадковымі» сустрэчамі з расейскімі грамадзянамі, падрыхтаванымі экскурсаводамі «Інтурыста», якія маюць «памагчы» амэрыканцам.

Я веру, што такія сустрэчы з навуковымі супрацоўнікамі, як у нашае дэлегацыі, вельмі карысныя ў размовах твар-у-твар. І хоць яны ня могуць адкрыта выказвацца супраць расейскіх камуністаў, у будучым яны змогуць аказваць нейкі ўплыў на савецкі ўрад, калі будуць ведаць жыцьцё й прафэсійную дзейнасьць іхніх калегаў у ЗША. […]

Багата амэрыканскіх грамадзянаў, што прыехалі ў ЗША з тэрыторыяў, цяпер падуладных Савецкаму Саюзу, асабліва з Заходняй Украіны й Заходняй Беларусі, ведаюць пра нішчымніцу ў месцах, дзе яны нарадзіліся. Шмат хто атрымоўвае лісты, у якіх просьбы аб дапамозе, пераважна абутку і вопраткі. Я ведаю некалькіх чалавек, што паслалі пачакі праз амэрыканскі паштовы сэрвіс у Чыкага, Нью Ёрку ды іншых гарадох ЗША.

і развіваў ініцыятыву, у ім самім была закладзеная сістэма ўдасканалення майстэрства. Менавіта таму Жалтоўскі здабыў такую шырокую папулярнасць і любоў як выхавацель і настаўнік. Многія працавалі разам з ім і вучыліся на яго пабудовах. Але яшчэ большая колькасць людзей, некалькі генерацый архітэктараў, атрымалі веды і досвед, ўдасканальвалі майстэрства пад яго кіраўніцтвам ужо за савецкім часам.

Ужо да 1917 г. Жалтоўскі стаў адным з найбольш запатрабаваных дойлідаў, які будаваў дамы для самых багатых людзей Расіі. Але не толькі асабнякі. Менавіта яго запрасілі браты Рабушынскія, каб узвесці паселішча для работнікаў арганізаванага ў 1916 г. маскоўскага завода АМО. Унікальнасць асобы Жалтоўскага ўжо ў царскі час была прыкметнаю: у 1909 г. «за известность на художественном поприще» дойліду было прысвоенае званне акадэміка архітэктуры. На пачатку ХХ ст. прыйшло і прызнанне заслуг дойліда ў педагагічнай і асветніцкай дзейнасці. Доказам варта прывесці тое, што ў «Архитектурно-художественном еженедельнике Императорского Общества Архитекторов-художников» за 1914 г. пісалі: «Мастак-архітэктар І. В. Жалтоўскі шмат гадоў ужо з вялікай любоўю дзеліцца сваімі шырокімі ведамі ў гэтай галіне з кожным, хто цікавіцца, таварышам, і цяпер ужо знойдзецца нямала такіх, якія многім ў сваім мастацкім развіцці абавязаныя яму».

Мала каму ведама, што славутая званіца кафедральнага пінскага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшае Панны Марыі зробленая паводле ягонага праекту. Ніжняя частка званіцы была пабудаваная ў сярэдзіне XIX ст. у духу ампіру. Але пасля пажару Жалтоўскі склаў новы праект яе рэканструкцыі і надбудовы, у выніку чаго яна стала ўдвая вышэйшаю і цалкам змяніла сваё аблічча, нагэтулькі гарманічна ўвайшоўшы ў барочны ансамбль былога кляштара францішканаў, што пра гэта ўжо мала хто задумваецца. Праект званіцы быў зацверджаны ў 1912 г., але з-за вайны і рэвалюцыі рэалізаваны толькі ў 1923–1924 гг. Славуты ўжо тады маскоўскі архітэктар Жалтоўскі акурат у тыя гады, да 1926 г., фактычна жыў у Італіі, спадчыну якой ён проста багоміў. Можна прыпусціць, што ён у тыя гады бываў і ў Пінску, мог пільнаваць будаўніцтва гэтае званіцы, наведваць бацькоўскую магілу…

Лёс абсалютнае большасці архітэктараў, якія атрымоўвалі адукацыю да рэвалюцыі, склаўся ў БССР драматычна. Напрыклад, у 1930-я гг. былі расстраляныя галоўныя архітэктары Мінска, Гомеля, Віцебска — Гайдукевіч, Шабунеўскі, Коршыкаў.

Але лёс Жалтоўскага стаў проста цудам. Ён спакваля пераўтварыўся ў найбуйнейшага мэтра, які прадвызначыў шляхі савецкае архітэктуры сярэдзіны ХХ ст. Менавіта да Жалтоўскага, руплівага і паслядоўнага захавальніка класічных традыцый, прыслухоўваліся і ўлады. Ведама, што пасля рэвалюцыі ён добрахвотна ўключыўся ў працу па стварэнні новага свету бальшавікоў — Масквы. Прычым пратэкцыю яму склаў сам наркам асветы А. В. Луначарскі, які ў 1919 г. пісаў Леніну: *«Горача рэкамендую Вам ледзь не самага выдатнага рускага архітэктара, які набыў усерасійскае і еўрапейскае імя — грамадзяніна Жалтоўскага».* Неўзабаве Жалтоўскі быў асабіста прадстаўлены правадыру. Вядома, што ў ліпені 1919 г. У. І. Ленін насамрэч гутарыў з дойлідам у будынку былое Маскоўскае гарадское думы пра распрацоўку першага бальшавісцкага плана рэканструкцыі Масквы. Пазней Жалтоўскі, які стаў і аўтарам мемуараў пра сустрэчы з Леніным пісаў: *«Падчас размовы Уладзімір Ільіч аддаў вялікую ўвагу пытанням азелянення горада. <…> Слухаючы Леніна, я выразна ўяўляў, якім цудоўным горадам павінна стаць будучая Масква».* Натуральна, што галоўным архітэктарам і аўтарам праекта стаў сам Іван Уладзіслававіч Жалтоўскі. У першыя ж паслярэвалюцыйныя гады дойлід удзельнічаў у перапланіроўцы Масквы.

Ім жа быў распрацаваны праект Усерасійскае сельскагаспадарчае выставы (пазней ВДНГ). Менавіта ў гэтыя гады пад кіраўніцтвам Жалтоўскага ўзводзяцца будынкі Маскоўскай ГЭС, Дзяржбанка на Няглінная, кінатэатры «Слава» і «Буревестник».

Да эрудыта і эстэта Жалтоўскага цягнулася моладзь, якая нядаўна была адданая ідэям фукцыяналізму і канструктывізму. Але мэтр перавыхоўваў іх у духу класікі, што, як тады здавалася, адкрывала новыя далягляды абнаўлення і высокага гуманізма. Пад уплывам Жалтоўскга яны штудыявалі найлепшыя дасягненні еўрапейскае спадчыны. Ён на занятках настойліва даводзіў вучням, што архітэктура — гэта не папяровая творчасць, а сапраўднае мастацтва. Ён рэкамендаваў ім унурвацца ва ўсе дэталі будаўнічае справы, вывучаць працу майстроў муроўкі і тынкоўкі, альфрэйную і цяслярскую справы, як некалі гэта рабіў і ён. У 1933 г. «для практычнага выканання велічэзных архітэктурных работ, прадугледжаных планам рэканструкцыі Масквы», былі створаны архітэктурныя майстэрні Массавета — 10 праектных і 10 планіровачных. На чале трох першых майстэрняў былі пастаўленыя адпаведна найбуйнейшыя архітэктары, якія пачалі сваю творчую дзейнасць яшчэ ў дарэвалюцыйнай Расіі: акадэмікі І. У. Жалтоўскі, І. А. Фамін і А. В. Шчусеў. На працягу перадваеннага дзесяцігоддзя архітэктурная майстэрня № 1 Массавета, кіраваная выбітным дойлідам, праектавала і будавала на ўсёй тэрыторыі СССР, і ў Беларусі таксама. Так паступова складваўся калектыў маладых архітэктараў-аднадумцаў, які пасля перарасце ў майстэрню-школу І. У. Жалтоўскага.

Схільнасць Жалтоўскага да рэтраспекцыі дазволіла яму з асаблівым бляскам прадэманстраваць глыбокае разуменне прыроды архітэктуры, філігранную тэхніку аналізу і сінтэзу яе мастацкай формы. Але толькі яму і, можа быць, мала каму з таленавітых яго паслядоўнікаў. У першыя ж гады пасля рэвалюцыі Іван Уладзіслававіч рыхтаваў маладых дойлідаў ва «Вхутемасе» і «Вхутеине», дзе вакол яго збіраліся выдатныя творцы, якія сталі пасля славутымі архітэктарамі: Г. Гольц, М. Паруснікаў, І. Собалеў, С. Кожын, В. Какорын, а таксама скульптары І. Шадр, С. Канёнкаў, С. Меркурый. А на пачатку 1930-х гг. у зноў арганізаванай Першай майстэрні Массавета пад яго кіраўніцтвам працавалі А. Уласаў, М. Баршч, М. Сіняўскі, Г. Зундблат, Я. Ёхэлес, К. Афанасьеў, В. Калона, П. Равякін, Н. Рыпінскі. Усе яны ў той ці іншай ступені могуць лічыцца вучнямі Івана Уладзіслававіча. А многія тыя гады, калі лютавалі рэпрэсіі, не перажылі…

Менавіта лінія Жалтоўскага ў вялікай меры вызначыла той шлях, па якім пайшло асваенне класічнай спадчыны ў савецкай архітэктуры ў гады культу асобы і што ўжо ў канцы 1950-х гг. прывёў да новага канфлікту паміж архітэктурнымі формамі і грамадскімі патрэбамі. Паводле іроніі лёсу менавіта гуманістычны і культурніцкі пафас Жалтоўскага сталі самымі яскравымі сімваламі эпохі культу асобы.

Ва ўзаемадачыненнях Сталіна і слыннага дойліда не ўсё было адназначна. Іван Жалтоўскі не раз выступаў у абарону помнікаў старасвеччыны. Часам ягоны аўтарытэт спрацоўваў. А часам ён патрапляў у пастку. Сярод іншых дакументаў захаваўся ліст Сталіна ў адказ на зварот дзеячаў культуры с просьбаю не руйнаваць славутую Сухараву вежу — адзін з сімвалаў старасвецкае Масквы: *«Тт. Щусеву, Эфрос, Жолтовскому и другим. Письмо с предложением — не разрушать Сухареву башню получил. Решение о разрушении башни было принято в свое время Правительством. Лично считаю это решение правильным, полагая, что советские люди сумеют создать более величественные и достопамятные образцы архитектурного творчества, чем Сухарева башня. Жалею, что, несмотря на все мое уважение к вам, не имею возможности в данном случае оказать вам услугу. Уважающий вас И. Сталин. 22. IV. 34 г.»*. То бок катэгарычна адмаўляючы ў захаванні унікальнага помніка, ён заахвочвае дойлідаў пераўзысці ўсё,

што было створанае да ягонай эпохі. І Жалтоўскі ўзяўся за пастаўленую правадыром народаў задачу. Ён стаў творцам маштабу, адпаведнага культу асобы.

У 1932 г. Жалтоўскаму было прысвоенае званне заслужанага дзеяча навукі і мастацтва РСФСР. Трыццатыя гады былі вельмі плённымі для дойліда. Ён шмат будуе ў Сочы, Грозным, Дом Саветаў у Махачкале, распрацоўвае праекты Інстытута літаратуры імя Горкага ў Маскве, тэатра ў Таганрогу, дома на Махавой вуліцы ў Маскве.

У 1939 г. І. У. Жалтоўскі быў прызначаны кіраўніком архітэктурнай майстэрні, што ў 1945 г. была рэарганізаваная ў школу-майстэрню Жалтоўскага. Вучні гэтай майстэрні бралі ўдзел у будаўніцтве і аднаўленні не толькі Масквы, але і гарадоў Беларусі. У ягонай маскоўскай майстэрні праектаваліся і карэктаваліся планы паваеннага аднаўлення Гомеля і будаўніцтва паасобных аб’ектаў у Мазыры і Пінску… Менавіта вучні Жалтоўскага — славутыя дойліды Баршч і Парусьнікаў — стваралі ансамбль праспекта Сталіна ў Мінску. Гэтак акадэмік архітэктуры Жалтоўскі спрычыніўся да будаўніцтва ў родным краі…

Месца для пабудовы тэатра ў Гомелі было абранае яшчэ перад вайною Іванам Жалтоўскім асабіста. Ягоны праект, зроблены напярэдадні вайны, у 1941 г. стаў асноваю для ягонае пабудовы ў 1947–1956 гг. Праект быў распрацаваны яшчэ ў 1940–1941 гг. Усесаюзным трэстам «Театрпраект». Аб’ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка падпарадкавана строгай сіметрыі з акцэнтаваннем галоўнае восі, на якой размешчаныя ўсе памяшканні, ад вестыбюля да вялікае глядзельнае залы і падсобак. У мастацкім афармленні выкарыстаны традыцыйны для будынкаў Жалтоўскага чатырохкалонны портык з развітым франтонам, аздобленым скульптураю.

У 1949 г. пастановаю СНК БССР было вырашана аднавіць ў Гомелі будаўніцтва тэатра. Паваенным будаўніцтвам гомельскага тэатра кіраваў адзін з вучняў слыннага дойліда — ленінградскі архітэктар Аляксандр Тарасенка, які, дарэчы, пабудаваў таксама тэатры ў Ашхабаце, Ніжнім Тагіле і г. д. У будаўніцтве і абсталяванні тэатра з вялікім энтузіязмам удзельнічалі прадпрыемствы і будаўнічыя арганізацыі Гомеля. Відавочна, што працы, зробленыя архітэктарам А. В. Тарасенкам пад кіраўніцтвам Жалтоўскага, вымагалі карэктавання на месцы.Так атрымалася, што сцэнічная каробка гомельскага тэатра, выступаючы за асноўны аб’ём будынка, не гарманічна звязаная з агульнай архітэктурнай кампазіцыяй. У выніку павелічэння глядзельнае залы да 800 месцаў, нашмат больш, чым у перадваенным праекце, атрымалася такая недасканаласць, адыход ад першаснага ўзору культавага дойліда. Тым часам Гомель з нецярплівасцю чакаў тэатральнага свята. І 6 лістапада 1954 г. на прэм’еру спектакля былі запрошаныя гараджане і самі будаўнікі. Жыхары Гомеля памкнуліся ў светлы храм мастацтва, што ўвянчаны статуяй Мельпамены. На жаль, першапачатковы праект Жалтоўскага гэтага тэатра пакуль не знойдзены. Як і шмат іншых ягоных беларускіх праектаў…

У сярэдзіне 1950-х гг. у майстэрні-школе Жалтоўскага пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам выконваюцца ўсе конкурсныя работы, што праводзіліся ў Маскве: Барадзінскім панарама, Палац піянераў, Палац працы, Палац Саветаў на Ленінскіх гарах (1957), там жа пантэон Вялікім людзям (1952–1954), серыя праектаў тыпавых клубаў і кінатэатраў, Дом саюзаў ВЦСПС на Крымскай набярэжнай (1953–1957). На жаль, не ўсе яны былі ажыццёўленыя. Конкурс на дом ВЦСПС меў складаныя абмежавальныя ўмовы, будынак мусіў адпавядаць адначасова блізка размешчанай да ракі Масквы, галоўнай воднай артэрыі сталіцы, і да Садовага кальца, цяпер велізарнай транспартнай магістралі. Жалтоўскі зрабіў некалькі варыянтаў праекта. Амаль у кожным любімая архітэктарам вежачка, увянчаная каронай, завяршаюць раскрыццё плошчы на раку, пазначаючы ўваход у комплекс і падтрымліваючы сувязь маскоўскіх вышын-

ных дамінантаў — МДУ і Крамля. Пры кансультацыі І. У. Жалтоўскага быў створаны комплекс элітнага санаторыя «Горны» ў Ялце. Па сутнасці славуты дойлід выступаў натхняльнікам гэтага праекта, рэалізацыя і адказнасць за якаснае выкананне якога леглі на плечы членаў школы-майстэрні, ужо самастойных архітэктараў. Маляўніча раскіданыя карпусы і альтанкі-ратонда, лёгкія і ажурныя будынкі, працяты паветрам і паўднёвым сонцам, увасаблялі галоўную запаведзь акадэміка: архітэктура павінна гарманічна злучацца з прыродай. Бадай, гэтае збудаванне ёсць квінтэсэнцыяй метаду і поглядаў вялікага дойліда.

Напрыканцы 1940-х гг. школа Жалтоўскага пачала падлягаць крытыцы і ганенням, але ў 1950 г., калі майстрам школы на чале з мэтрам прысудзілі Сталінскую прэмію, крытыка і сумневы аціхлі…

Перад Вялікай Айчыннай вайной ён праектуе, а ў канцы 1940-х гг. будуе два жылыя будынкі ў Маскве: на Смаленскай плошчы і на Вялікай Калужскай вуліцы.

Наогул, дом на Смаленскай плошчы — адна з найлепшых работ майстра. Будаўніцтва было пачатае напярэдадні вайны і завершанае ў 1951 г. Нягледзячы на велізарны аб'ём і простую форму, будынак не выклікае адчування грувасткасці і манатоннасці. Гэта тлумачыцца ўмела знойдзенымі гарызантальнымі чляненнямі, светлай абліцоўкай, але перш за ўсё — арыгінальным рытмам дэкаратыўных уставак на ўзроўні 6-га і 7-га паверхаў, што імкнуцца да кампазіцыйнай цэнтра. Гэты «рух налева» падкрэслены і зрушаны ў бок Арбата магутнай аркай. Масіўны аб'ём дома завяршаецца з тарца вежаю, што стылізуе формы італьянскага рэнесансу і замыкае перспектыву значнага адрэзка Садовага кальца. У 1958 г. у цокаль будынка ўбудавалі вестыбюль станцыі метро «Смаленская», чым яшчэ больш ўзмацнілі «важкасць» левай часткі дома. На пачатку 1950-х гг. разам са сваімі вучнямі Жалтоўскі ўдзельнічае ў конкурсе на фасады буйнапанельных гмахаў. На конкурс імі былі прадстаўленыя шэсць дамоў рознай канфігурацыі.

Іван Уладзіслававіч Жалтоўскі глыбей за каго б то ні было ведаў і, магчыма, таньчэй за іншых класічную архітэктуру. Пры гэтым вызначаўся дзіўнай паслядоўнасцю ў сваёй творчасці. Ад пачатку і да канца сваёй шматгадовай дзейнасці ён не выходзіў з кола архітэктурных ідэй і тэм італьянскага Адраджэння. Апошняй буйной працай дойліда стаў конкурсны праект Палаца на Ленінскіх гарах. Вялікаму майстру было ў той час дзевяноста гадоў.

Памёр Жалтоўскі ў Маскве 16 ліпеня 1959 г. Так атрымалася, што разам з ім сышоў і той вялікі стыль, што быў ім створаны і развіты ў невераемных памерах, што насамрэч, як і наканаваў Сталін, пераўзышло амаль усё, створанае ў папярэдні эпохі. І гэтая акалічнасць паводле іроніі лёсу амаль разбурыла памяць пра вялікага дойліда часоў культу асобы. У 1960–1970-я гг. згадваць яго лічылася наогул непрынятым…

Як тое ні парадаксальна, вялікая бібліяграфія Жалтоўскага, ягоных перакладаў, артыкулаў і ўспамінаў да сёння слаба вывучаная. Наколькі аўтарскімі былі, напрыклад, запісы ягоных успамінаў пра Леніна? Сёння мы маем вялікую колькасць мемуараў ягоных вучняў, але даследаванняў менавіта ў беларускім кантэксце не праводзілася. Засталіся неапублікаванымі мемурныя нататкі пра сустрэчы з Жалтоўскім слынных беларускіх архітэктараў Уладзімера Караля і Яўгена Заслаўскага. Урэшце, недаступнымі пакуль ёсць для даследчыкаў шкіцы і праекты Жалтоўскага для беларускіх гарадоў. Роўна ж, як і ягонае ліставанне са Сталіным.

Жалтоўскі імкнуўся па-свойму асэнсаваць іх дачыненні да новых грамадскім умоваў і магчымасцям будаўніцтва. Гэты творчы вынаходніцкы пачатак парадаксальна выявіўся нават у тых выпадках, калі архітэктурныя матывы і формы, запазычаныя

ў Італіі, падаюцца амаль літаральнымі, як, напрыклад, у вядомым доме на Махавой вуліцы ў Маскве. За якім стаіць своеасаблівая і глыбокая філасофія архітэктуры, складае самы моцны бок творчае індывідуальнасці Жалтоўскага. І менавіта гэтая мяжа паміж кампіляцыяй, перайманнем і натхненнем аказалася вельмі тонкай, амаль няўлоўнаю. І менавіта яе разуменне Жалтоўскі, геніяльны настаўнік і дойлід ня здолеў перадаць сваім шматлікім вучням. Яны, заставіўшы Беларусь і ўсю шостую частку свету сваімі будынкамі, не здолелі ўзняцца да тых вышыняў, па-над якімі ззяў ягоны геній. На памяць пра земляка ў Беларусі засталіся два шэдэўры, што прыпісваюцца менавіта яму — званіца касцёла ў Пінску і тэатр у Гомелі. Але таксама і сотні будынкаў, узведзеных па ўсёй Беларусі ў эпоху Сталіна ягонымі вучнямі і пераймальнікамі.

***Літаратура:*** Архітэктура Беларусі // Беларуская Энцыклапэдыя імя Пятруся Броўкі. Мінск, 1993; Воінаў А. А. Горадабудаўніцтва і архітэктура // Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 5. Мінск: Навука і тэхніка, 1992; Градостроительство Белоруссии / В. И. Аникин, Е. Л. Заславский, И. А. Иодо, Г. А. Потаев, А. В. Сычева; под общей редакцией А. В. Сычевой. Минск: Вышэйшая школа, 1988; Астафьева-Дуглач М. И., Волчок Ю. П. И. Жолтовский // Зодчие Москвы XX в. М., 1988; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии. Минск: Вышэйшая школа, 1987; Зальцман А. Творчество Жолтовского // Архитектура СССР. № 3–4; Емельянова О. Л. Воспоминания о Жолтовском // Архитектура и строительство Москвы. 2003. № 4; Иван Владиславович Жолтовский // Мастера советской архитектуры об архитектуре. Т. 1. М., 1957; Игнатьева Л. Жолтовский и московская архитектурная традиция // Архитектура СССР. 1987. № 3; Игнатьева Л. Иван Владиславович Жолтовский // Архитектура и строительство Москвы. 1987. № 12; Круглов М., Лебедев Г., Сукоян Н. Иван Владиславович Жолтовский. К 90-летию со дня рождения // Архитектура СССР. 1957. № 12. С. 21–28; Ощепков Г. Д. И. В. Жолтовский. Проекты и постройки. М.: ГСИ, 1953; Потапов Л. С. Силуэт Минска. Минск: Навука і тэхніка, 1980; Ревзин Г. И. Архитектурная теория И. В. Жолтовского // Искусство. 1988. № 10; Соболев И. Выдающийся мастер советской архитектуры. К 85-летию И. В. Жолтовского // Архитектура и строительство Москвы. 1952. № 2. С. 14–18; Фирсова А. В. Учитель (об архитекторе Иване Владиславовиче Жолтовском) / А. В Фирсова. Архитектура и строительство Москвы. 2004. № 3; Харэўскі С. Культавае дойлідства Заходняй Беларусі 1915–1940 гг. Вільня: ЕГУ, 2008; Хигер Р. Зодчий И. В. Жолтовский. К 100-летию со дня рождения // Архитектура СССР. 1968. № 2.

*Сяргей ХАРЭЎСКІ*

# БЮВАР МАКСІМА ЛУЖАНІНА

Ядлоўцавы кій дарэмна чакаў яго ў прадаўгаватым калідоры — гаспадар з дому амаль не выходзіў. Куды там з дому! Бывала, пакуль датупае дзверы адчыніць — чакаць надакучыць. Таму, абазваўшыся да яго ў дамафон, я не выклікаў ліфт, а няспешна падымаўся па лесвіцы. Я на пяты паверх, ён з дальняга пакоя да ўваходных дзвярэй — даходзілі звычайна адначасова.

Аднойчы я спытаўся пра той адшліфаваны рукамі кій і пачуў, што гэта не проста кій, а посах і музейная рэліквія, бо належаў раней Якубу Коласу. Народны паэт падараваў яго свайму сакратару з пажаданнем доўгай хады па дарозе жыцця. Пажаданне збылося: новы гаспадар кія пражыў дзевяноста два гады і на сваё дзевяностагоддзе зладзіў тры творчыя вечарыны.

Дзень нашага знаёмства зафіксаваны аўтографам на кнізе «Трое»: «Пазнаёміліся, можа, і падружым. Міхасю Скоблу — жадаю дабра. Максім Лужанін. 28 лістапада 1994 года». Я і сёння люблю пагартаць яе, перачытаць эсэ пра Аркадзя Куляшова, Тодара Кляшторнага, Уладзіміра Жылку, Уладзіміра Караткевіча. «Дарога поруч прайшлася нелапая», — так пачынаўся лужанінскі ўспамін пра майго ўлюбёнага паэта Уладзіміра Жылку. Зачапіўшыся за незразумелае для мяне слоўца «нелапая», я пачаў распытвацца пра Жылку больш падрабязна — акурат рыхтаваў ягоны том для «Беларускага кнігазбора». Урэшце дамовіліся, што аўтар эсэ дапоўніць яго новымі згадкамі. І абяцанне сваё ён неўзабаве стрымаў. А пісьмовы дадатак падмацаваў унікальным здымкам, на якім два Уладзіміры — Жылка і Дубоўка — па-маладому бадзёра паглядаюць у аб'ектыў фотакамеры.

Гаварыў Максім Лужанін нетаропка. Пазначанай тэмы, як правіла, хапала на цэлую гадзіну, а то і дзве. Памяць ён меў выдатную, праўда, часам пачынаў расказваць ужо напісанае і надрукаванае. А я з далікатнасці не перапыняў. Сёння памяць мераюць кампутарнымі мегабайтамі. Думаю, што лужанінская памяць магла б паспаборнічаць з любым кампутарам, у ёй спарадкавана ляжалі незлічоныя «файлы» і паслухмяна адкрываліся на жаданне гаспадара.

Пра што і пра каго я ў яго пытаўся? Пра Юрку Лістапада, пра братоў Міколу і Рыгора Казакоў і Лістападаўскі працэс у 1926 г. Пра сустрэчу з Ганнай Ахматавай, якая перакладала вершы Лужаніна. Пра «Узвышша» і трагічны лёс ягоных чальцоў — Адама Бабарэкі, Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы. Пра ваенны побыт у Маскве і загадкавую смерць Янкі Купалы…

Пра штосьці Аляксандр Амвросьевіч расказваў ахвотна, пра штосьці — не вельмі, часам — адмоўчваўся. Я не адступаўся і ў сваёй настойлівасці, здаецца, перабіраў меру. Але, нягледзячы на гэта, адносіны Лужаніна да мяне заставаліся прыязнымі.

Аднойчы ён папрасіў пачытаць машынапіс падрыхтаванай для выдавецтва «Мастацкая літаратура» аповесці «Наўздагон за падвойнікам». Свежае, незамыленае вока і чуйнае вуха, звычайна, былі патрэбныя пісьменніку для апрабацыі новых рэчаў. І вось пільнавокім і чуйнавухім ён чамусьці палічыў мяне. Я прачытаў аповесць і даволі самаўпэўнена наставіў на палях галачак і пытальнікаў. Дакладна памятаю, што іх было значна больш, чым плюсаў і клічнікаў. Думаў, аўтар пакрыўдзіцца. Не пакрыўдзіўся і прыслаў адказ у пісьмовай форме — на пяці старонках дробным почыркам.

Дадаткова прыязніла нас і любоў да кнігі. Прачуўшы пра цікавае выданне, Лужанін прасіў пашукаць лішні асобнік і для яго. Наўзамен мог аддзячыць такім рарытэтам, якія і ў букіністычнай краме — рэдкасць. Помніцца, як ён сваёй нечаканай шчодрасцю здзівіў і сваіх хатніх (яшчэ жыла Яўгенія Эргардаўна Пфляўмбаўм, а даглядала іх абаіх

унучка Тодара Кляшторнага — Тамара), і мяне. Ды і сам, па-мойму, здзівіўся. Падвёўшы мяне да кніжнай шафы, Лужанін разнасцежыў ніжнія дзверцы і без ваганняў прамовіў: «Бярыце ўсё, што вам трэба!» Паліцы былі літаральна забітыя заходнебеларускімі і дарэвалюцыйнымі выданнямі. Я нерашуча ўзяў у рукі кнігу ў мяккай някідкай вокладцы, разгарнуў і прачытаў: «Мілай Жэні — Янка Купала»… Я паставіў кнігу на ранейшае месца, каб быць далей ад спакусы. Наступным трапіў мне ў рукі зборнік таго ж Янкі Купалы «Шляхам жыцця» — ужо без аўтографа. «Бярыце-бярыце», — зноў пабачыўшы нерашучасць на маім твары, гэтым разам не змоўчаў гаспадар. Я ўзяў. І сёння я люблю перачытваць Купалу не па новых выданнях, а па тым, заўважна пашкуматаным царскай цэнзурай, зборніку.

Здзівіў мяне Максім Лужанін і яшчэ раз. Я шанаваў і шаную паэтку Яўгенію Пфляўмбаўм. Мне пашчасціла размаўляць з ёю, хоць паэтка ўжо не ўставала з ложка. Памятаю, радавалася, калі я прынёс ёй кнігу Сяргея Дубаўца «Практыкаванні» з артыкулам «Тры паэзіі» — пра Наталлю Арсенневу, Ларысу Геніюш і яе, Яўгенію Пфляўмбаўм. У адзін са сваіх прыходаў я прыхапіў з сабой яе зборнік «На захадзе сонца» — на подпіс. Зборнік адразу забраў Лужанін, сеў за стол і на маіх вачах левай рукой (звычайна пісаў ён правай) напісаў колькі словаў і распісаўся: Яўгенія Пфляўмбаўм. Агаломшаны такім паваротам падзей, я спачатку хацеў абурыцца: чаму і па якім праве ён падпісвае чужыя кнігі?! Але ў гэты момант Лужаніна гукнулі да тэлефона, а па вяртанні ён неяк асабліва пранікліва паглядзеў мне ў вочы, і я не абурыўся, разумеючы, што тут мае месца нейкая сямейная таямніца, калі не драма…

З Анатолем Вярцінскім мы неаднаразова бывалі на лужанінскіх днях народзінаў, у тым ліку на шыкоўным застоллі ў таварыстве «Радзіма» з нагоды 90-годдзя. Там было шумна, шматлюдна, юбіляр сядзеў у паважным прэзідыуме… Мне больш падабаліся хатнія святкаванні — са сціплай пачосткай, але з раскошай размовы пра ўсё на свеце. Па коле пускалася маленькая срэбная чарачка, знойдзеная пасля вайны Лужаніным на папялішчы Купалавай хаты. У куце стаяў посах Коласа, на стале — чарка Купалы… Антураж! Натуральна, звінелі ў тых застоллях і больш ёмістыя чаркі, але злоўжыванняў не памятаю — да Лужаніна ішлі не з Бахусам абдымацца. Чаркавання з ім сам-насам я не памятаю, і тым не менш аднойчы паэт «узнагародзіў» мяне вершам-эпіграмай:

Міхась, Вы заўсёды ў раз’ездах,
І вас у мой бок не хіне.
А тут у абдымках жалезных
Хваробы трымаюць мяне.

Ды я ў камізэльку не плачу
Нікому, ў тым ліку і Вам.
Жадаю у справах удачы
І памяці — хоць на сто грам.

Гэтыя «сто грам памяці» і тады мяне збянтэжылі, ды і сёння прыгадваюцца, калі трэба адведаць каго са старэйшых, а часу ўсё не хапае і не хапае.

Ад Лужаніна я ўпершыню пачуў крамольны верш Уладзіміра Дубоўкі, які пачынаецца радкамі: «Падобны з твару да машчэй, а па душы — даўно нябожчык, ты жыў яшчэ, стары кашчэй, усё мінаеш хату з дошчак…». Гэты верш амаль дваццаць гадоў распаўсюджваўся ў машынапісных копіях, быў напісаны ў 1975-м, а ўпершыню апублікаваны — у 1994 г. у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Увайшоў ён і ў Дубоўкаву кнігу «О Беларусь, мая шыпшына» (2002), укладзеную Змітром Давыдоўскім.

На маё пытанне, хто ж гэты «стары кашчэй», Лужанін адказаў адназначна: Пятрусь Броўка. Я папрасіў яго напісаць, дзе і пры якіх абставінах трапіў да яго гэты тэкст. Аляксандр Амвросьевіч тут жа прысеў да стала, на другім аркушы машынапісу зрабіў прыпіску ад рукі і абодва аркушы перадаў мне.

Вось тая прыпіска: «Уладзімір Мікалаевіч прыйшоў да нас ранічкай, як заўсёды, бываючы ў Мінску, — паснедаць разам. Тады, як успамінаецца, ён перш за ўсё папрасіўся паляпаць на машынцы. Калі праз паўгадзіны я зайшоў у свой пакой сказаць, што снеданне стыне, ён з усмешкай падаў мне гэтыя лісткі і пачаў рваць на шматкі прынесеныя з сабой кавалкі паперы, відаць, чарнавікі, накіданыя ўночы ў гасцініцы. Аддаць мне — не захацеў, толькі папрасіў: *"Цяпер не паказвай нікому, пакажаш, калі некага з нас не стане: мяне ці яго"*. Так і даляжаўся гэты верш да 1993 году, калі пры генеральнай падчыстцы архіва выгарнуўся з папкі, дзе складалася напісанае не мною».

Нягледзячы на такое прызнанне, даследчыкі да гэтай пары сумняваюцца, што Дубоўка прысвяціў свой знішчальны верш менавіта Броўку. Аўтар біяграфічнага рамана пра Дубоўку Алесь Пашкевіч лічыць, што «кашчэем» паэт назваў Кандрата Крапіву. А Зміцер Давыдоўскі, спасылаючыся на неапублікаваныя раздзелы ўспамінаў Дубоўкавай удавы Марыі Пятроўны, цвердзіць, што верш адрасаваны… самому Лужаніну.

А як жа сняданкі ў Мінску з маскоўскім госцем і просьба апублікаваць верш, калі «некага з нас не стане»?

Максім Лужанін пра многае паспеў расказаць і напісаць, але да апошніх сваіх дзён захоўваў пэўную асцярожнасць. Памятаю, паказваў ён мне віншаванне з Днём Перамогі ад кіраўніка краіны, згадваў пра нейкія зваблівыя прапановы ад вярхоўнай улады. І тут жа, разгарнуўшы нататнік, з усмешкай чытаў свежанапісаныя радкі: «Да вянца мяне вядуць, // хочуць, каб згалеў дашчэнту // і каб выдзьмуў у дуду // гімн ухвальны прэзідэнту». Гэткіх палітычна завостраных вершаў у Лужаніна назбіралася з дзесятак, і мне захацелася запісаць іх для радыё «Свабода». Паэт завагаўся, і тут, памятаецца, мне дапамагла Тамара Кляшторная: «Дзядуля, ну колькі можна баяцца?» Я хуценька дастаў дыктафон, пачаўся запіс. Але, не міргнуўшы вокам, Лужанін замест «прэзідэнту» прачытаў «неспадзеўку». Такой бяды, што ў адрэдагаваным на хаду вершы прападала дакладная рыфма і губляўся сэнс… Верш з перадачы, зразумела, выпаў.

Нядаўна ў сваёй фанатэцы я знайшоў той даўні запіс — трыццаць хвілінаў размовы. У радыёэфір, разам з астатнімі вершамі, у лістападзе 1999 г. пайшла толькі палова. А паколькі было гэта ў даінтэрнэтную эпоху, то тэкст гутаркі застаўся толькі на дыктафоннай касеце. Памятаючы сакрамэнтальнае «Verba volant scripta manent», прапаную чытачам альманаха поўны тэкст таго інтэрв'ю.

* * *

**М. С.:** Аляксандр Амвросьевіч, у пісьменніцкім даведніку пазначана, што вы вучыліся ў «трэцяй групе працоўнай школы I ступені». Назва не зусім звычайная. А навучанне якое было?

**М. Л.:** Навучанне было адпаведнае назве, але, калі ўжо гаварыць праўду, то паступіў я ў першы клас гімназіі, славутай Слуцкай гімназіі. Тады якраз савецкай улады на Случчыне не было, былі палякі, яны выселілі нашу гімназію і занялі яе пад польскую, імя Юльюша Славацкага. А мы вучыліся на Калоніі, гэта ўскраіна Слуцка, там былі будынкі барачнага тыпу, у адным з іх мы і вучыліся. Хадзіць туды было даволі далёка ад той кватэры, дзе я жыў у Слуцку, і я аднойчы спазніўся на лекцыю, прыйшоў пазнавата. У класе было халодна. Сярэдняга росту, даволі шчуплы чалавек хадзіў між партамі, і пальцечка ў яго было такое самае, як і ў мяне, на падбіўцы з ветрам. Ён адразу даў мне кніжку ў рукі

і кажа: «На, чытай!» Я паглядзеў: кніжка была надрукавана па-беларуску. Я бачыў раней адну беларускую кніжку — «Шляхам жыцця» Янкі Купалы, але Купалу я не адолеў. А настаўнік даў мне чытанку «Наша крыніца», якую выдаў Жылуновіч (Цішка Гартны) у Берліне. Ён там выдаў некалькі кніжак: гэтую чытанку, сваю кніжку (першую частку рамана «Сокі цаліны») і спеўнік Тэраўскага. Калі я адмовіўся чытаць, настаўніка гэта здзівіла: «Дык гэта ж твая мова, ты на ёй гаворыш!» Я прыгледзеўся і пачаў чытаць, але так, як у нашай вёсцы гаварылі. А ў нас трошкі своеасаблівае вымаўленне, у нас гавораць «аўёс», «прыўёз», «смолны», «палцы» — без мяккага знака. Я так і чытаў. Настаўнік трошкі пасміхаўся, а потым, калі я скончыў чытаць невялічкае апавяданне, сказаў: «Ну што ж, чытаць ты ўмееш. Гэта твая родная мова, і ты на ёй павінен чытаць». Потым высветлілася, што гэтага настаўніка завуць Юры Лістапад. Потым з гэтым прозвішчам была звязаная цэлая справа, якая называлася Лістападаўшчына. Судзілі групу вучняў і самога настаўніка ў менскім Доме працаўнікоў асветы, і мы бегалі туды глядзець і слухаць, як гэты працэс ішоў.

**М. С.:** Што вам запомнілася з таго працэсу?

**М. Л.:** Там казалі, што лістападаўцы быццам разлеплівалі нейкія адозвы. А сутнасці гэтай справы па маладосці мы не разумелі.

**М. С.:** Здзіўляе ваша бібліяграфія: 1930 год — тры кнігі, 1931 — таксама тры кнігі, 1932 — две кнігі. А паэту Максіму Лужаніну тады было ўсяго 20 гадоў з хвосцікам… Хто з вашых літаратурных раўналеткаў мог на той час пахваліцца гэткім жа выдавецкім поспехам?

**М. Л.:** Тут мне цяжка адказаць. Разумееце, якая справа, — тады ў выдавецтве не было такіх драконаўскіх законаў: калі ты выдаў кніжку сёлета, то налета ўжо павінен пачакаць. Тады было так: ёсць што друкаваць — друкуй. А ў мяне тады было напісана шмат. Я помню тыя гады. Помню, як выйшла першая кніжка «Крокі», потым — «Новая ростань». А потым пайшло па тры: «Неаплачаны рахунак», «Галасуе вясна за вясну», «Кастрычнікам, ліпенем, маем!». Была такая магчымасць. Калі чалавек пісаў, і плён гэтага пісання прызнаваўся дастойным публікацыі, то гэта і публікавалі. Так і ў мяне.

**М. С.:** А хто яшчэ шмат публікаваўся? Уладзімір Дубоўка? Паўлюк Трус?

**М. Л.:** Дубоўка скупаваты быў. У яго выйшла ў «Кніжніцы “Маладняка”» невялічкая паэмка «Там, дзе кіпарысы», і ў выдавецтве выйшла кніжка «Трысцё». А паміж гэтымі кніжкамі была даволі вялікая адлегласць. Апошняй выйшла «Наля», гады праз тры пасля «Трысця». Паўлюка Труса можна назваць найбольш плодным, таму што ў яго кніжкі выдаваліся і ў «Маладняку», і ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве, якім тады загадваў Гартны. Пятро Глебка, Сяргей Дарожны таксама выдавалі па адной кніжцы. Можа быць, з майго боку гэта было нясціпла, але мае кніжкі мелі станоўчыя водгукі, і перашкод мне ніхто не чыніў.

**М. С.:** Хто для вас быў тады аўтарытэтам у літаратуры?

**М. Л.:** У «Маладняку» я мала набыўся, адразу пасля сканчэння пры Белпедтэхнікуме маладнякоўскай студыі нас усіх прынялі кандыдатамі ў члены «Маладняка». Гэта было, здаецца, у 1925 г. А ўвесну 1926-га мы выйшлі з «Маладняка» і пайшлі ўслед за старэйшымі, больш сталымі пісьменнікамі — за Бабарэкам, за Дубоўкам, за Кузьмой Чорным — ва «Узвышша». Адносіны ў нас былі вельмі таварыскія, не было такога размежавання. Не заўважалася, напрыклад, што я маладзейшы за Дубоўку, што ў яго за плячыма Брусаўскі інстытут і добрая кніжка вершаў, якою ўсе захапляліся. Жылі мы вельмі згодна. Аб’яднаўчай сілаю ва «Узвышшы» быў усё ж Адам Бабарэка. Ён быў, відаць, самы адукаваны сярод нас, па натуры — самы глыбокі, ён меў за

плячыма вялікую педагагічную практыку, пісаў артыкулы, рабіў уступныя даклады на маладнякоўскіх з'ездах. Артыкулы ён пісаў вельмі грунтоўныя, такія, што жывуць не адзін дзень. Мне Якуб Колас дзесьці ў 50-я гады гаварыў, што «вось Адам Бабарэка» (магчыма, Колас не назваў прозвішча, бо Бабарэка тады яшчэ не быў рэабілітаваны), «вось быў у нас адзін крытык, здольны чалавек, ён разгадаў кампазіцыю паэмы "Сымон-музыка", ён сказаў, што яна пяціпялёсткавая. А я так і задумваў». Без парады Бабарэкі (а ён фактычна чытаў увесь часопіс) ніхто з нас не мог надрукаваць вершы ва «Узвышшы». У другіх часопісах ці газетах — калі ласка, друкуй, а вершы для «Узвышша» абавязкова прачытваліся Бабарэкам. І самыя тонкія, самыя слушныя заўвагі рабіліся ім — па мове, па стылістыцы, па недасканаласці, па недагаворанасці ў самім змесце, калі не здолееў выцягнуць тэму.

Бабарэка заўсёды падказваў, як гэта зрабіць. І да яго нават у маладосці павага была, хоць, разумееце, маладосць — такая пара, поўная заўсёды сумняванняў. Я помню, як мы аднойчы паўночы хадзілі з Глебкам і Бабарэкам па Мінску і гаварылі пра сэнс жыцця. Мы тады пачалі задумвацца, для чаго мы жывем, і Бабарэка нам вельмі тонка гаварыў: «Прызначаны шлях свой рабі дарагім». І дадаваў: «Старайся, каб напісанае было дасканалым, давершаным, каб гэта кранала не толькі тваю душу, а кранала ўсіх, да каго тваё слова дойдзе»…

Бабарэка быў арыштаваны са старою групаю ўзвышаўцаў у 1930 г. Тады забралі Бабарэку, Дубоўку, Пушчу, засталіся на волі толькі Бядуля і Крапіва са старэйшых. З маладых узвышаўцаў тады, па-мойму, толькі Антона Адамовіча арыштавалі. Трэба сказаць, што ў Адама Бабарэкі быў вельмі складаны жыццёвы шлях яшчэ да прыходу ў літаратуру. Ён быў актыўным удзельнікам грамадзянскай вайны, а потым яго захапілі польскія легіянеры і дзесьці там у пастарунку, ці як называліся тыя катавальні, выразалі ў яго на спіне пяцікутную зорку. Здаецца, нехта больш дасведчаны ўдакладняў: вялікую і малую зоркі, але аб гэтым пэўна не зналі. Напрыклад, у мяне была гаворка з Дубоўкам наконт гэтай зоркі. Дубоўка не знаў, не зважаючы на тое, што яны з Бабарэкам разам адпачывалі і вельмі шчыра і часта абменьваліся пісьмамі — і па гісторыі «Узвышша», і асабістымі. І ўсё ж Дубоўка не знаў, што над Бабарэкам чыніліся такія здзекі.

**М. С.:** Як адчувалі сябе тыя, хто пасля арыштаў заставаўся на волі? Пра што, сустрэўшыся, размаўлялі?

**М. Л.:** Я тады жыў у Маскве. І там хадзіла такая прымаўка ці анекдот: «Як жывяце?» — «Як у аўтобусе». — «А што?» — «Адны сядзяць, а другія трасуцца». Так і было: адны сядзелі, а другія калаціліся. Я, напрыклад, чакаў, што паеду паўторна, бо паўторна паехалі Таўбін і Астапенка. Яны былі ізноў арыштаваныя, я знаў, дзе Таўбін жыў на кватэры, і там мне пра гэта сказалі. Адносін ніякіх не было. У Маскве адзін час, праўда, сабралася даволі многа беларусаў: Таўбін, Астапенка, я, Сядура (Глыбінны), Нічыпар Чарнушэвіч, сталымі масквічамі былі Міхась Дуброўскі і Канстанцыя Буйло. У Маскве існаваў Беларускі клуб, там працаваў, здаецца, такі Даніла Асташонак, ён пісаў апавяданні і рабіў добрыя цымбалы. І ўсе, хто наведваў Беларускі клуб, таксама развіталіся з воляй. Што датычыцца тагачасных падзей у Мінску, то я пра іх нічога не ведаў. Я ведаю адно: седзячы ў Маскве, я трымаў пра запас торбу з сухарамі, думаў, што давядзецца і мне паўтарыць дарогу, якую прайшоў у 1933–1934 гг. Але не паўтарыў. Відаць, проста праз нейкі выпадак, а можа, таму, што я вельмі сціпла займаўся выдавецкай работай і карэктурай, працаваў стыльрэдактарам і нідзе не быў відзён.

**М. С.:** Вы шмат гадоў працавалі сакратаром Якуба Коласа. Нядаўна ўнучка паэта Вера Міцкевіч у адной з нашых гутарак расказвала пра Коласа, які ўмеў падабацца жанчынам. Колас давяраў камусьці свае сардэчныя таямніцы?

**М. Л.:** У мяне з Канстанцінам Міхайлавічам, здаецца, сакрэтаў не было, але пра яго апошняе мінскае захапленне я даведаўся зусім выпадкам. Мы з ім тады былі ў Маскве, ён заставаўся ў гасцініцы, а я некуды ішоў — у кіно ці тэатр. Ён мне сказаў: «Ты выходзіш, дык вазьмі ліст Былінцы, па дарозе кінеш». Калі ён прамовіў слова «Былінка», я паглядзеў на прозвішча на канверце, і аказалася, што гэтую жанчыну я ведаў не горш, чым Якуб Колас, таму што яна працавала ў бухгалтэрыі газеты «Звязда». Звалі яе Аляксандра Кетлер. Гавораць, што Коласавых пісьмаў у яе было многа. Я пра гэтыя пісьмы, апрача данесенага да паштовай скрынкі, не ведаю. На адной з «Казак жыцця» стаяла: «Прысвячаецца М. Б.». Ператлумачылі: прысвячаецца Марыі Дзмітрыеўне, жонцы Коласа, але прысвячэнне расшыфроўвалася — «маёй Былінцы». Мне было няцяжка здагадацца аб гэтым. Сам Колас пра гэта не гаварыў. Я таксама ведаю пра яго ташкенцкае захапленне, бачыў вершы, якія пісаліся ў той час. Але Якуб Колас не даў мне таго сшытка. Ён меў яго ў руках у Маскве. Я прапаноўваў перадрукаваць вершы з яго, але ён адказаў, што перапіша сам. Такім чынам, вершаў ташкенцкага перыяду я не ведаю. А наогул, і Канстанцін Міхайлавіч, і Іван Дамінікавіч у прысутнасці жанчын ператвараліся ў праўдзівых джэнтльменаў — і далікатных, і ўважлівых. І жанчыны плацілі ім за гэтую ўвагу. Плацілі добрымі адносінамі.

**М. С.:** Вашы вершы на расейскую мову перакладала Ганна Ахматава. Але чамусьці гэтых перакладаў не фіксуе біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменьнікі». Ці сустракаліся вы з Ахматавай, і чаму пераклады не адразу траплялі ў друк?

**М. Л.:** З Ахматавай я бачыўся толькі здалёк і здалёк ёй пакланіўся. Падысці і загаварыць з ёю я не асмеліўся. Было гэта на адным з пасьляз’ездаўскіх банкетаў, дзе прысутнічаў урад. Ахматава сядзела ў бакавой ложы, вакол яе было многа людзей, і я прыйшоў паглядзець на яе. Другая справа была з вершамі. Ахматава пераклала тры маіх вершы. Яны ўвайшлі ў кнігу «Стихи» на рускай мове, якая выходзіла ў Ленінградзе. Я бязмерна ёй удзячны. Мае не зусім паўнавесныя вершы (адзін вершык пра новы горад) пад яе рукою вопытнага майстра і вялікага паэта ператварыліся ў тое, што можа дайсці і, напэўна, даходзіла да чытача. Я пабачыў паведамленне ў замежным друку пра двухтомнік Ахматавай, які выходзіў за мяжой пад рэдакцыяй Струвэ. Там успамінаецца пра перакладзеныя вершы, але толькі пра два, трэці не згадваецца. Там змешчаныя некаторыя пераклады, але мае вершы ў адбор не трапілі, каб потым перайсці ў кнігу. Кніга мая ў Ленінградзе выходзіла ў неспрыяльны час — пасля жданаўскіх дакладаў, калі лаялі Аляксандра Пракоф’ева за тое, што ён пераклаў верш Уладзіміра Сасюры «Любі Украіну». І Ганна Ахматава тады таксама была, што называецца, у няласцы. І калі я прыехаў па справах кніжкі ў Ленінград, то ў выдавецтве мне, не саромеючыся, прапанавалі зняць пераклады Пракоф’ева і Ахматавай. Я доўга не вагаўся. Я не зняў гэтых вершаў і паехаў дамоў, думаючы, што кніжка мая не выйдзе. Але, аказалася, што і кніжка выйшла, і выйшлі ў ёй пераклады і Пракоф’ева, і Ахматавай.

**М. С.:** Нядаўна вы падпісалі ліст дзеячаў культуры да ўладаў — аб разбурэнні ў Мінску старых будынкаў. Ці была якая рэакцыя з боку тых, каму ліст адрасаваны?

**М. Л.:** Я падпісаў гэты ліст, таму што не мог не падпісаць. Я гаварыў пра разбурэнне старажытнага Мінска яшчэ Пятру Міронавічу Машэраву. І ён адною рукою прытрымаў разбуральнікаў. Тады напісалі ліст мастакі, а пісьменнікі не сабраліся падпісаць, апрача Рыгора Шырмы і мяне, больш подпісаў пад пісьменніцкім лістом не было. Я Машэраву тлумачыў: тое, што прапануецца, далёка не арыгінальнае — так пабудаваны Вашынг-

тон, ёсць элементы ленінградскай планіроўкі. Нам трэба як-небудзь захаваць тое, што ў нас ёсць сваё, але нейкім чынам звязаць яго з абліччам сучаснага горада. Скажам, як у Нью-Ёрку пабудаваны музей новага жывапісу Гугенхайма. Ён — як свердзел, як конус, пастаўлены вяршыняй уніз. Ты падымаешся па кружных дарожках знізу ўверх і глядзіш адну палавіну музея. Потым спускаешся і аглядаеш другую палову, з другога боку музея. Я думаю, што такая архітэктура была выклікана наступнай прычынай: будаваўся музей у цэнтры Нью-Ёрка, а зямля там страшэнна дарагая, таму і мусілі конус паставіць вяршыняй на зямлю і пашырыць у паветра… Што да нашага нядаўняга ліста, то я атрымаў паведамленне, што створана камісія, якой даручана «вывучыць пытанне, падрыхтаваць прапановы і вынесці на абмеркаванне».

**М. С.:** Мне прыгадваецца адзін з вашых даўніх вершаў: «Певень лопае крыллем і кукарэча. // Кліча раннюю зорку на дзённы палон, // І здаецца Радзіма дзіўною Турэччынай…». Чым вам сёння здаецца радзіма?

**М. Л.:** Мне радзіма — заўсёды была, ёсць і будзе радзімай. Я веру ў душу свае нацыі, у яе светланоснасць, у яе шырыню і глыбіню, у яе мужнасць і трываласць. Я проста шчаслівы, што да беларушчыны горнецца наша моладзь, што ўсе пачынанні, можа, не адразу, будуць працягвацца, і наша моладзь вывядзе краіну на шырокія далягляды. А гэта значыць — Беларусь жыла, Беларусь жыве, Беларусь будзе жыць. Будзе жыць і наша літаратура. У мяне ляжыць рукапіс кніжкі эсэ на аркушаў дваццаць — «Неспарадкаваная хата». Каб толькі былі папера і ахвотнікі друкаваць. Як кажуць, служу народу.

* * *

Аднойчы Максім Лужанін патэлефанаваў мне на працу і папрасіў зайсці «па важнай, але не пільнай справе». Адклад, як вядома, не ідзе ў лад — вечарам таго ж дня я няспешна падымаўся па лесвіцы ў элітным лужанінскім доме (вул. Янкі Купалы, 7). Жылі там пераважна былыя начальнікі, у тым ліку экс-прэм’ер-міністр Сяргей Лінг. Дзверы адчыніла заўсёды далікатная і прыветная Тамара. Лужанін чакаў мяне ў кабінеце. Перад ім на стале ляжала карычневая тэчка, падобная на бювар. У часы эпісталярныя нашы продкі ў бюварах захоўвалі паштовую паперу, канверты і свежую карэспандэнцыю. Аляксандр Амвросьевіч кіўнуў на тэчку: «Возьмеце гэта сабе. Пачакаўшы (тут ён зрабіў паўзу, каб я, відаць, зразумеў, якое *пачаканне* маецца на ўвазе), можаце распарадзіцца змесцівам гэтай папкі, як палічыце патрэбным».

Дома я адкрыў той бювар — здымкі, пажаўцелыя аркушы паперы рознага фармату з рукапіснымі і машынапіснымі тэкстамі, копіі нейкіх лістоў, напісаных ледзь не вяззю — цяжкачытэльных, з рознымі завітушкамі…

Я пачакаў, як і дамаўляліся. Прайшло амаль дзевяць гадоў, як Максім Лужанін пакінуў гэты свет. Стагоддзе ягонае было адзначанае вельмі сціпла — вечарынай у Музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Для публікацыі ў альманаху «Асоба і час» я адабраў некалькі лістоў — самога Лужаніна, Міхася Клімковіча і Юркі Віцьбіча. Цікавыя яны найперш тым, што ў іх праліваецца святло на адзін няспраўджаны праект — выданне літаратурнага альманаха «Сталіца», які задумвалі выдаваць два сябры па «Узвышшы» Максім Лужанін і Лукаш Калюга. Не паспелі яны згуртаваць вакол ідэі аднадумцаў, як на стол начальніка сакрэтна-палітычнага аддзела ОГПУ леглі адпаведныя даносы…

Неабходна адзначыць, што ў лужанінскім бювары знаходзяцца ксеракопіі публікаваных лістоў. Месцазнаходжанне арыгіналаў мне невядомае.

## ЛІСТ МАКСІМА ЛУЖАНІНА ЮРКУ ВІЦЬБІЧУ

[Лістапад 1932 г.]

Дарагі Юрка[1]!

Хачу Вас пазнаёміць з адною справаю. Я й Калюга[2] мяркуем зрабіць вось якую рэч. Нешта хочацца сьвежага, арыгінальнага, нясказанага. Апрыкралі банальныя формы часопісаў, траскучыя вершы ды іншае такое, чаго ня хочацца цягнуць на паперу. Мы мяркуем сабраць зборнік на аркушаў 7–8 лепшых сваіх рэчаў. Зборнік альманахавага характару. Думаем назваць яго «Сталіца». З гэтай назвы выцякае шмат чаго. Па-першае, усе матэрыялы павінны быць высокай якасьці, сталічныя, насупар затхласьці цяперашніх часопісаў. Матэрыялы павінны адпавядаць лёзунгу: «Навэля — ня ніжэй майстэрства О'Гэнры, верш — ня ніжэй, як Пастарнака. Вышэй дазваляецца». Па-другое, усе гэтыя матар'ялы павінны адыходзіць ад Менску. Сьмех сказаць, што пра нашу сталіцу не напісана нічога людзкага! Трэба ствараць вакол Менску такую атмасфэру пашаны, як і да іншых сталіц. Няхай пачатак будзе з літаратуры. Да ўдзелу мы прыцягваем выдатнага мастака Рамана Семашкевіча[3]. Цяпер у Менску ягоная выстаўка. Ён аформіць кнігу і ўвойдзе ў зборнік як аўтар з рэпродукцыямі лепшых карцін. Даў згоду яшчэ далучыцца Хадыка[4]. Як бачыце, капэля — нішто.

Дык вось, я пішу Вам. Калі гэтую справу ўпадабаеце, дайце навэлю, можна гістарычную — на менскім матэрыяле. Па-мойму, Вы трохі заседзеліся на тэрыторыі ад Віцебску да Латвійскай граніцы. Ляціце адтуль, Юрка, у сталіцу. Ваш удзел дужа пажаданы, бо мы вылучаем Вас з празаікаў як постаць арыгінальную і колёрытную. Так, апроч Вас, мне хацелася б прыцягнуць да гэтай справы Алеся[5]. Папрасеце за мяне ў яго прабачэньня, што не пішу асобнага ліста яму — дужа заняты, пазнаёмце з ідэяю ды пісанеце мне пра Ваш погляд. Чакаю адказу хуткага.

Ленінская, 25, кв. 4 (заўважце — 4, бо ліст згубіцца).

Пасылаю Вам чарговы экзэмпляр пакалечанай выдавецтвам кніжкі.

Цісну руку. Ваш Максім Лужанін.

## ЛІСТ МІХАСЯ КЛІМКОВІЧА[6] Ў ОГПУ

[1933 г.]

Начальніку сакрэтна-палітычнага аддзела ОГПУ Бел[арусі].

У дадатак да пасланага мной Вам праз т. Бэндэ[7] ліста Юркі Віцьбіча да П. Глебкі[8] (ліст мне быў перададзены самім Глебка) дасылаю зараз ліст Максіма Лужаніна да Юркі Віцьбіча. Ліст гэты перадаў мне Віцьбіч, які прыехаў у Менск лячыцца.

У лісьце шмат цікавых мейсц для характарыстыкі мэтадаў работы нацдэмаўскай арганізацыі (спосаб падбора людзей, вярбоўка, маскіроўка формай новел, папулярызацыя ў нацдэмаўскім духу «нашай» сталіцы.

Старшыня Аргкамітэту ССПБ Міхась Клімковіч.

## ЛІСТ ЮРКІ ВІЦЬБІЧА ПЯТРУ ГЛЕБКУ

Вяліж Заход[няй] воб[ласці], 1 красавіка 1933 г.

Дарагі тав. Глебка!

На вялікі жаль, не атрымаў яшчэ «Заклік»[9], але чытаў артыкул Кучара[10] ў «ЛіМу». Я не крытык, я толькі ўважлівы чытач і на маю думку Ваша памылка і для Вас менавіта не страшна, але страшна для пэўнай часткі чытачоў. Чытаючы Вашы творы (асабліва «Арка над акіянам» і «Арлянка») няма мажлівасці ўявіць сабе памылку гэтага парадку, а памылка ў артыкулу тлумачыцца бракам часу, які перашкаджае прадумаць да кроплі

рэч. Праўда, пяцігодка зроблена ў чатыры гады не за конт якасці, але ж чалавек не храномэтар і «рэцыдывістам» Вы тут не будзеце. Ваш анціпод у гэтым стасунку Лукаш Калюга. Не даю веры, што ён калі-небудзь памылкова напіша сацыяльна няшкодную рэч, бо сёньня ён з немым самсонасамасуеўскім поганенькім падходам узрывае «задний двор революции». Якабінец Марат хадзіў у дзіравых ботах, але ж ён не пераставаў быць для санкюлётаў Маратам. Мажліва, у бараках будаўнікоў Асінбуду па сьценах поўзалі клапы, але ж адсюль ні на адзін мэтр не паменьшыўся радыус уплыву Асінстану на жабрацкую адвеку ваколічнасьць.

Буйную памылку зрабіў Максім Лужанін. Разумны і разумны чалавек, а напісаў зусім не разумную рэч і спусьціўся да славутага Захара Бульбяніка[11], які ў свой час пісаў:

Цераз рэчку ляжыць кладка
Тонкая, ківаецца.
Мне савецкая уладка
Вельмі падабаецца.

Лужаніну чагосьці не хапае. Актуальнасьць і мастацкасьць у яго ў адваротна-прапарцыянальных адносінах, і паміж імі вялікія «нажніцы». Я дрэнна ведаю паэзію, але ў «Сьпявай, прыбой» адчуваецца ўплыў Асеева[12], у «Бальшавіцкай папраўкі да геаграфіі» — Кірсанава[13]. «Сьпявай, прыбой» па сваёй сацыяльнай важкасьці — варыяцыя на старую тэму: «Цір-лю-лі-ля, на вёсцы я».

«Рэцыдывіст», шчыра кажучы, — ганебная рэч, як ганебны, дарэчы, і выказванні ў апошніх лістах да Вас. Добры песьняр перакінуўся ў трубадура каганаў. «Праблема пяці рублёў» — паклёп на сёньня. Хочацца зрабіць праўку ў радку: «Пяць рублёў — дык гэта ж абед ды шклянка гарэлкі».

І, на жаль, памылкі робяцца ўсё больш і больш звычайнымі для Лужаніна. Трэба быць «алімпійцам», каб крычаць: «Буду я са ўсякімі Ушаковымі друкавацца!» А ў Андрэя Ушакова[14], і асабліва Максіму Лужаніну, ёсьць чаму павучыцца. Гэта дробязь, але надзвычай яскравая дробязь. Яшчэ больш яскрава наступнае. 10. XI. 32 г. я атрымаў ад Лужаніна прапанову прыняць удзел у альманаху «Сталіца», ініцыятары якога — ён і Калюга. Устаноўка альманаху: «Матар'ялы павінны быць высокае якасьці, сталічныя, насупар затхласьці цяперашніх часопісаў».

З рэпрадукцыямі лепшых сваіх карцін увойдзе «выдатнейшы мастак» Раман Семашкевіч. Хіба ж не разумее Лужанін, што гэта мадэрнізацыя старой, моцна патрапанай, але, на жаль, дашчэнту ня зьнішчанай, устаноўкі: «Каб нас угледзілі вякі і народы».

Дарэчы, Раман Семашкевіч, якога добра ведаю асабова, не выдатны мастак, а партач, «халодны шавец».

Я пішу Вам столькі пра Лужаніна таму, што паважаю яго як паэта і вельмі, і вельмі хачу, каб ён намацаў нагамі шлях.

Дзякую за каштоўную рэцэнзію на маю шматпакутную кніжку[15]. Сам яе яшчэ ня бачыў, але пазаўтра куплю ў Віцебску. Ня ведаю, чаму ў яе не ўвайшлі «Арцыбіскуп і сьмерд», «Грыміць Перакагрыж», «Ян Непамуцэн» і г. д. Адсюль яе аднабокасьць. За тры з паловай гады я напісаў 19 апавяданьняў і дзьве аповесьці («Арцыбіскуп і сьмерд» і «Лшона габоа бійрушалайм»). «Вятры заходнія» — сапраўды, як Вы трапна адзначылі, мяжа ў маёй творчасьці. Мне чамусьці здаецца дрэнным і мажліва не адназначным для мяне малюнак надыходу вясны ў параўнаньні з уцёкамі зьвярэй з пушчы, з змаганьнем зьвярэй за жыцьцё і асабліва з канцом апавяданьня. Надыход вясны сьмела можна скараціць на 50 %, і ад гэтага апісаньне палепшае, а ў канец апавяданьня: «Плылі над пушчай…» нельга нічога ні прыбавіць, ні скараціць. І гэта сьцісласьць («адточанасьць», як называе яе Ушакоў) здаецца, адназначнай для мяне. Напрыклад: «Было ў старой ткачыхі тры сыны — Юрыс, Альбэрт і Кароль». З каханьнем у мяне справа дрэнная. Між іншым, у апов. «Арцыбіскуп і сьмерд» адзін з герояў крычыць: «Тэклюся! Сэрцайка маё!»

Ультрарамантычны, сантымэнтальны падход. Мова — мая буйная загана. Дзеяпрыметнікі ў мяне з лёгкай рукі «Вясны»[16]. Акрамя русізмаў у мяне, здаецца, яшчэ шмат палянізмаў, што заўважана на першай палітрэдакцыі аповесці «Лшона габоа бійрушалайм». Мяне некалькі зьдзівіла наступнае: «Стыль ягоных апавяданьняў просты, роўны… Гэта ўсё страшна перагружвае стыль, робіць яго штучным…»

Вы пішаце: «Віцьбіч як пісьменьнік стаіць сярод нашых маладых нейк асобна». І тут у мяне вялікая просьба больш канкрэтызаваць маю асаблівасьць, якую адчуваю, але ня ведаю, калі толькі гаворка не па-за межамі рэцэнзіі. Дзякуй за дапамогу.

Вельмі і вельмі рад, што мая другая кніжка трапіла на палітрэдакцыю да Клімковіча. Назва «Пра жыцьцё, прапахлае жыцьцём» — штучная, нязграбная. Лепш будзе — «Пра людзей тваёй краіны». Пра аснача Самуся Галабурду і яго бацькоў, пра лябаранта Андрэя Шабету, пра скарбніцу Сколю Гадунскую, пра калбейніка Хацю Камара, пра інжынэра Рыгора Турбу, пра камандзіра дывізіёна Мартына Путру і г. д. «Тваёй» — таму што тут зварот да чытача незалежна ад яго нацыянальнасьці, таму што «маёй» — занадта лірычна. Таму што зразумела: «тваёй = маёй».

Як, на Вашу думку, гэта назва?

Працую над аповесьцю «Апошні Лянжэрон». Багата чытаю. Жадаю Вам усяго лепшага. Чакаю Ваш ліст.

З пашанай — Ю. Віцьбіч.

Вельмі прашу паведаміць наконт «Лшона габоа бійрушалайм». Ю. В.

* * *

У бювары Максіма Лужаніна знойдзецца яшчэ сёе-тое — для наступных выпускаў «Асобы і часу».

*Міхась СКОБЛА*

## ЗАЎВАГІ

[1] *Юрка Віцьбіч* (сапр. *Шчарбакоў Серафім*; 1905–1975) — беларускі пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч; з 1944 г. жыў на эміграцыі.

[2] *Калюга Лукаш* (сапр. *Вашына Кастусь*; 1909–1937) — беларускі пісьменнік; у 1933 г. быў арыштаваны, высланы ў г. Ірбіт, у 1937-м — расстраляны.

[3] *Семашкевіч Раман* (1904–1937) — беларускі мастак і скульптар.

[4] *Хадыка Уладзімір* (1905–1940) — беларускі паэт; у 1936 г. арыштаваны і высланы на Далёкі Усход, дзе загінуў у адным з канцлагераў.

[5] Асобу *Алеся* высветліць не ўдалося.

[6] *Клімковіч Міхась* (1899–1954) — беларускі паэт і літаратурны функцыянер, быў адным са стваральнікаў і першым старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі.

[7] *Бэндэ Лукаш* (1903–1961) — крытык-вульгарызатар, у 1930-я гг. займаўся палітычнай дыскрэдытацыяй беларускіх пісьменнікаў.

[8] *Глебка Пятро* (1905–1969) — беларускі паэт і навуковец, акадэмік Беларускай Акадэміі навук.

[9] *«Заклік»* — літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаваўся Аргкамітэтам Саюза пісьменнікаў Беларусі.

[10] *Кучар Алесь* (сапр. *Евелевіч Айзік*; 1910–1996) — крытык, драматург; у 1930-я гг. ацэньваў беларускую літаратуру з вульгарызатарскіх пазіцый.

[11] *Захар Бульбянік* — псеўданім паэта-сатырыка *Захара Біралы* (1906–1993).

[12] *Асееў Мікалай* (1889–1963) — расійскі паэт.

[13] *Кірсанаў Сямён* (1906–1972) — расійскі паэт.

[14] *Ушакоў Андрэй* (1912–1941) — беларускі паэт; загінуў на фронце падчас Другой сусветнай вайны.

[15] Маецца на ўвазе кніга Ю. Віцьбіча *«Смерць Ірмы Лаймінг»* (1932).

[16] *«Вясна»* — літаратурны дадатак да бабруйскай акруговай газеты «Камуніст».

# Да 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча
# «І ПАДУМАЦЬ ТОЛЬКІ, ШТО МЫ МАГЛІ Б НЕ СУСТРЭЦЦА»
## Лісты і дарчыя аўтографы
## Уладзіміра Караткевіча Рыгору Барадуліну

Што-нішто з аўтографаў Уладзіміра Караткевіча Рыгору Барадуліну раней друкавалася: «Каляды ў доме генія» факсімільна ўзноўлены ў барадулінскім «Здубавецці»; «Меню на Вялікдзень» і старадаўнюю песню «А за тым краем…», запісаную Караткевічам, Барадулін прыгадваў у эсэ «І коскі з месца не зрушу!..»; апошні з гэтай падборкі аўтограф сябра ён таксама ўжо даверыў свету. Між тым лістоў, паштовак, тэлеграм і дарчых аўтографаў Караткевіча ў народнага паэта захоўваецца чатыры з паловай дзесяткі. Сустракаюцца тыя аўтографы нярэдка ў самых нечаканых месцах: у нататніку, на малюнку самога Караткевіча, на адвароце фотаздымка, нават на этыкетцы з-пад гарэлкі. Часта — вытанчана жартоўныя, іншыя нават уголас прымушаюць рагатаць, напрыклад такі аўтограф на кнізе: «Найлепшаму майму сябру і вечнаму ўратавальніку Грышы (не, непачціва), Рыгору Іванавічу Барадуліну». У асобных выпадках — сумныя да камяка ў горле, такі настрой авалодваў Караткевічам, калі не стала ягонай жонкі Валянціны Браніславаўны, калі развіталіся з Акулінай Андрэеўнай Барадулінай… І паўсюль рассыпаныя звесткі-залацінкі да біяграфіі Караткевіча, да яго партрэта — літаратурнага і проста чалавечага.

І зноў жа амаль паўсюль лёгка прачытваецца найвялікшая павага і любоў да сябра. І гэта — без перабольшвання, бо ці магчыма нешта дадаць да такога прачулага прызнання: «Міламу Рыгору, без існавання якога сябе не мыслю і без якога я не існаваў бы ў поўнай меры такі, які я ў літаратуры ёсць»? Гэтыя ацэнкі падштурхоўваюць нават па-іншаму зірнуць на Рыгора Барадуліна. Яны быццам абярэг яму, своеасаблівая ахоўная грамата на будучыню… «Дарагому Рыгору Барадуліну з любоўю да яго самога, добрага і шчырага чалавека, і яго светлай, сапраўды вялікай, нашай, беларускай паэзіі. Нічога, браце, зразумеюць, побач з кім жылі» — гэтак абнадзейваў Караткевіч сябра ў 1964 г. Сорак шэсць гадоў таму. Амаль паўстагоддзя мінула. Барадуліну было 28, Караткевічу — 33. Усё жыццё, здавалася, наперадзе… Хоць так яно і было на самай справе — жыццю і сяброўству двух вялікіх сучаснікаў яшчэ быў час.

[Не раней 1960 г.]

Дарагому Грышку Барадуліну, панотцу беларускай сучаснай паэзіі, з любоўю, як другу, ад сэрца.

Уладзімір.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Вячэрнія ветразі: вершы, паэмы. Мінск: Дзяржвыд БССР, 1960.*

Дарагому Рыгору Барадуліну з любоўю да яго самога, добрага і шчырага чалавека, і яго светлай, сапраўды вялікай, нашай, беларускай паэзіі. Нічога, браце, зразумеюць, побач з кім жылі.

Ул. Караткевіч.

25.I.64.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Блакіт і золата дня: апавяданні і аповесці. Мінск: Дзяржвыд БССР, 1961.*

Дарагому нашаму генію, а для мяне проста другу і добраму хлопцу з вялікай любоўю — ягоны

Ул. Караткевіч

3 мая-траўня 65 г.

*Аўтограф на адвароце фотаздымка.*

Другу майму дарагому, Грышу Барадуліну, сонцу і месіку паэзіі нашай, найлепшаму на свеце сябру, залатому хлопцу ад У. Караткевіча, які ганарыцца быць ягоным сучаснікам

Валодзя.

10.VI.65

Менск.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Матчына душа: вершы. Мінск: Дзяржвыд БССР, 1958.*

[Ліпень 1965 г.]

«Кожны мае свае Ушачы…»[1]

І вось цяпер сяджу я ў сваіх рагачоўскіх Ушачах[2], пішу (скончыў скарачаць «Хрыста») і ўспамінаю цябе і ўсё іншае такое. Як там Ваўчэнскае возера[3]? Ці пішуцца на ягоных берагах вершы? А ты ж мне на дзве тэлеграмы не адказаў. Хаця паштоўку грымзні. Слухай, ты памятаеш, што калі нас не забяруць у рады[4], то 7-га жніўня мы павінны быць у яго, Адама[5], а потым у Вільні. І таму трэба нам з табою чысла 6-га (7-га Адасю Хрыстоў узрост) сустрэцца ў Гудагаі[6], або 5-га ў Мінску. Думай над гэтым. І напішы мне, як ты мяркуеш з гэтым быць.

Цалую. Твой сябар

Уладзімір.

Прывітанне ад дзядзькі[7]. Кажа: «Напішы, што прама цалую хлапца».

*Рукапісная паштоўка. На штэмпелі — 6.07.[неразб.].*

---

1 Першы радок з паэмы Р. Барадуліна «Куліна».

2 Маецца на ўвазе г. Рагачоў Гомельскай вобласці.

3 Любімае возера Р. Барадуліна ва Ушачах, куды і была адрасаваная паштоўка.

4 У жніўні–верасні 1965 г. У. Караткевіч, Р. Барадулін і Г. Кляўко праходзілі вайсковыя зборы ва Уладзівастоку, у «Боевой вахте», штодзённай газеце Ціхаакіянскага флоту.

5 Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932) — беларускі літаратуразнавец, пісьменнік, перакладчык. Доктар філалагічных навук, прафесар. З 1962 г. быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы. Сябра У. Караткевіча.

6 Гудагай — мястэчка ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці (тут жа, у вёсцы Расолы, нарадзіўся А. Мальдзіс).

7 Дзядзькі У. Караткевіча (брата маці) І. В. Грынкевіча.

Валі і Рыгору
ад
Міхала[8] і
Фамы Фаміча[9].
22 ліпеня 65 г.
Менск

*Аўтограф на адвароце фотаздымка.*

29.IV.66.
Рагачоў

Rygorus primus —
— salve!
Uladsimirus scribit![10]

Віншую цябе, маму, Валю[11] і Лану[12] з наступаючым святам. Жадаю табе здароўя, шчасця, доўгіх год. А таленту не жадаю, бо ён у цябе і так ёсць, а таму толькі ваюй і мей творчыя поспехі. Як з'ехаў я, дык хаця-б слова пісануў. Кепска, дзед! Не ведаю нават, дзе ты, траву топчаш ці асфальт. Пішу і на Ўшачы[13], і на Мінск. Будзь ласкавы, напішы ты мне, прыедзеш ці не. Буду ў Рагачове да 8–10-га. Але як атрымаю аб цябе ліст-тэлеграму, або тэлефонны званок, што будзеш — можам паседзець тут і да самога з'езду[14].

Ну вось, уласна, і ўсё. «Хрыста» скончыў, вершы праўлю. Можа, вазьмуся і за «Чазенію»[15].

Цалую цябе

твой Уладзімір.

*Рукапісная паштоўка.*

Рыгорка!

Віншую цябе з наступаючым святам, братка. Жадаю найлепшых — перш за ўсё творчых — поспехаў.

Як паехаў я, то ты ані словам не абмовіўся. Кепска! Не ведаю, нават, дзе ты, таму пішу і на Ушачы. Дай ты мне звестку, прыедзеш ці не. Пазвані, а, можа, ліст—тэлеграму дашлі. Я тут да 8–10-га, але як даведаюся, што ты будзеш — затрымаемся да з'езду. Цалую цябе.

29.IV.66 Твой сябра У. Караткевіч

Прыязджай, трэба абмеркаваць, што скажам на з'ездзе.

*Рукапісная паштоўка.*

---

[8] На фотаздымку У. Караткевіч разам з мядзведзем.

[9] Фама Фаміч — жартоўная мянушка, якую далі У. Караткевічу яго сябры.

[10] Рыгорус першы — вітаю! Уладзімірус піша! *(лац.)*.

[11] Жонку Р. Барадуліна Валянціну Міхайлаўну.

[12] Дачку Р. Барадуліна Ілону.

[13] Гэтая паштоўка, мусіць, была дасланая ва Ушачы, паколькі наступная паштоўка адрасаваная на мінскі адрас.

[14] Відаць, маецца на ўвазе V з'езд СП БССР, які 12–14 мая 1966 г. праходзіў у Мінску.

[15] «Чазенія» — аповесць У. Караткевіча.

[1965–1966 гг.?]

Пане Гжэгож!

Падацель сяго[16], як ты, пэўна, і сам здагадваешся, і ведаеш, прыйшоў да цябе не так сабе, а па нашай з табою дамоўленасці наконт рэкамендацыі (паколькі я далёка). Ты згадзіўся ўсё арганізаваць, і я вельмі ўдзячны табе. Калі ён цябе не застане — хай пакіне тэлефон і вы дамовіцеся аб сустрэчы. Моцна цісну тваю лапу.

У. Караткевіч

P. S. Абавязкова, тэрмінова пазвані Янку Брылю[17] і даведайся, як з паездкай весняй[18].

*Рукапісны тэкст.*

Геніяльнаму спяваку Беларусі-Ушаччыны-Латгаліі-Сібіры-Тувы-etc ад беларускага бялюткага баксёра Бена[19]. Аж язык высалопліваю ад асалоды, калі чую твае зорныя вершы.

Бенъ КАРАТКЕВІЧЪ[20]

16.XII.66 г.

*Аўтограф на адвароце фотаздымка.*

[1967 г.?][21]

Хлопцы выручайте обещал Заболотский[22] грошей выслать но студия не дала хоть одолжите а вышлите двадцать пять на адрес Брест 13 Московская 57/1 кв 36 лучше телеграфом через пару дней буду дома сразу отдам крепко вас всех целую и обнимаю много и хорошо тут работаю книгу почти кончил. Ваш Владимир.

*Тэлеграма.*

Любай маме, Куліне Андрэеўне[23] — ад усяго нашага Віцебска-Ушацкага сэрца

Ул. Караткевіч

24.II.68

*Аўтограф на адвароце фотаздымка.*

[16] Асоба не высветлена.

[17] Брыль Янка (Іван Антонавіч) (1917–2006) — народны пісьменнік БССР (1981), сябра У. Караткевіча.

[18] У другой палове мая (ці на пачатку чэрвеня) 1966 г. У. Караткевіч, Я. Брыль і Р. Барадулін «калясілі па Налібоцкім пушчанскім наваколлі» (Караткевіч У. Шляхі ў палях // Полымя. 1972. № 9). Аднак ліст можа быць датаваны і першай паловай 1965 г., бо ў чэрвені таго года У. Караткевіч, Я. Брыль і Р. Барадулін таксама падарожнічалі (па Магілёўшчыне і Віцебшчыне).

[19] На фотаздымку У. Караткевіч разам з сабакам пароды баксёр.

[20] Некаторыя літары прозвішча (у прыватнасці, «к» і «в») напісаны па прынцыпе люстэркавасці.

[21] Тэлеграма можа быць датавана 1967 г., бо не выключана, што размова ідзе пра ганарар за сцэнарый фільма «Житие и вознесение Юрася Братчика» (1967), на якім А. Забалоцкі быў аператарам; таксама ў 1967 г. у Брэсце была наладжаная чытацкая канферэнцыя па рамане «Каласы пад сярпом тваім», у якой удзельнічаў У. Караткевіч.

[22] Забалоцкі Анатоль Дзмітрыевіч (н. 1935) — аператар к/с «Беларусьфільм» (1960–1969); заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1967) і РСФСР (1976).

[23] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971) — маці Р. Барадуліна.

[5 сакавіка 1968 г.]

Только вернулся из Вильни узнал о твоей болезни вот бедолага слава богу что тебе лучше поправляйся скорей приезжай все друзья опечалены твоей болезнью выздоравливай пиши ещё долго на радость всем нам мы все тебя любим дурню будь счастлив а таланта тебе не занимать. Короткевич.

*Тэлеграма.*

Дарагім Грышу і Валі Барадуліным, сябрам маім вялікім у дужа цяжкі дзень, які мы, аднак, здолелі перанесці[24] (і заўсёды перанясем, толькі хай лепш не трэба), са шчырай братняй любоўю, каб жылі мы і сябравалі, пілі і пісалі яшчэ сто год.

Іхні Ўладзімір

Караткевіч

29.I.69 г.

Генію паэзіі нашай, генію Ушаччыны, Віцебшчыны нашай, Беларусі, Еўропы, усяго свету і ягонай геніялессе, з пяшчотнай любоўю.[25]

Міламу слаўнаму майму Зверх-Чалавеку, другу і брату Рыгору ад Неда-чалавека

Уладзіміра[26]

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Каласы пад сярпом тваім. Мінск: Беларусь, 1968.*

2 красавіка 69 г.
Ялта

Рыгор!

Трымай пераклады[27].

Бачыш, ты атрымаеш іх якраз на пару дзён раней таго тэрміна, аб якім дамаўляліся. Пабачу я цяпер, калі ты выкалаціш пераклады з другіх.

Стараўся перадаць манеру старога, а манера ў яго цемнаватая. Яснасці няшмат. Так яно і атрымалася. Трэба было б яшчэ папрацаваць, высветліць, зрабіць лепей, але ж ты насеў з нажом, не думаючы, што я па 12 гадзін сядзеў на тых вайсковых зборах.

Ладна, абыйдзецца, мабыць.

Адрас мой: «Ялта, Дом творчасці пісьменнікаў, мне».

Тэлефон 2-33-61 (званіць лепей з 8[-і] да 9[-і] раніцы). Я гэта табе вось чаму кажу. Сяджу я тут амаль на бабах. Бурсаў[28] і «М[олодая] гв[ардия]» грошай не высылаюць, хаця Ваня і абяцаў, што даб’ецца, каб 25-га выслалі (я яму тэлеграму даўно даў). Пераплётчыкаў — таксама.

Таму просьба мая такая. Пазвані:

---

24 Немагчыма высветліць, што меў на ўвазе У. Караткевіч.

25 Гэты сказ напісаны вертыкальна і побач з папярэднім прысвячэннем.

26 Сказ напісаны тут жа на франтыспісе, але ніжэй і ўверх нагамі.

27 Магчыма, размова ідзе пра пераклад вершаў латышскага паэта Судрабкална Яна (1894–1975) і яго кнігу «Яшчэ адна вясна» (выйшла ў 1969 г. у Мінску; тут былі змешчаны пераклады У. Караткевіча «Сярэдневяковы чалавек», «Зломлены», «Лірычны скандал у бочцы»).

28 Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (н. 1927) — беларускі паэт, перакладчык. З 1965 г. жыве ў Маскве. У 1969 г. у яго перакладзе выйшаў зборнік паэзіі У. Караткевіча «Вечерние паруса».

1) Пераплётчыкаў Ісак Абрамавіч (тэл. 3-11-55)[29].

Як справы з Кар[аткевічам?] Ён прасіў даведацца. Калі добра, то куды выслалі? Можа, дамоў? І нагадаць адрас ялцінскі.

2) Пазваніць Мішу Стральцову[30]. На работу, дадому не званіць. Як там справы. Ці не атрымана на дом з Масквы? Калі так — хай пазвоніць, а я дашлю яму даверанасць. А ён хай высылае хутчэй.

І ты мне звякні. А я ўжо тады сам табе пазваню, калі буду ведаць, што і як.

Ну, вось і ўсё. Моцна цісну руку.

Зрабі гэта абавязкова і хутчэй. Твой Уладзімір.

*Рукапісны тэкст.*

[1969 г.?]

RYGORU BARADULINU — УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ[31] —
Вышэйшаму —
— ніжэйшы —
— дэдукую —
цалуючы прах пад
ягонымі ступамі.
Дарагому майму сябру —
МАЯ ІЛІЯДА * ВЕРШЫ[32]
— не чыя-небудзь, а мая, на знак трапятання, павагі, любові, яснаму нашаму ззянню, заранцы нашай

Уладзімір

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Мая Іліяда: вершы. Мінск: Беларусь, 1969.*

[1960-я гг.?]

А за тым краем,
Як за тым раем
Цяжка ўздыхаем
І плачам.
Яшчэ раз,
Яшчэ раз,
Яшчэ раз убачым.
. . . .
Бойся, урад,
Бойся, кат,
Яшчэ раз убачым.

---

29 Далей ідзе сказ: «Ці з Масквы выслалі дакум [енты] на Караткевіча», які быў закрэслены.

30 Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч) (1937–1987) — беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык.

31 «УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ» — тыпаграфскі надпіс на франтыспісе кнігі. На гэтай жа старонцы два малюнкі У. Караткевіча: уверсе сяброўскі шарж на Р. Барадуліна ў чалме; унізе — аўташарж: Караткевіч, стоячы на каленях і гледзячы ўверх (на Барадуліна), склаў рукі ў маленні.

32 «МАЯ ІЛІЯДА * ВЕРШЫ» — тыпаграфскі надпіс на фронтпісу кнігі; слова «мая» падкрэслена У. Караткевічам; ад прысвячэння: «Дарагому майму сябру —» да назвы «МАЯ ІЛІЯДА» ідзе стрэлка.

Яшчэ раз,
Яшчэ раз
Вернемся,
Убачым[33].
Барадулін,
Караткевіч

*Рукапісны тэкст на адвароце этыкеткі ад «Столичной водки» са штампам «Ресторан “Неман”».*

[12 мая 1971 г.]

Дарагі Рыгор смуткуем[34] разам вельмі кахалі тваю маці заўсёды будзем яе помніць любім цябе шкадуем трымайся цалуем. Караткевічы.

*Тэлеграма.*

«Мой первый друг, мой друг бесценный…»[35]

Любаму майму Рыгору Барадуліну на памяць аб усіх тых дастаслаўных і забаўных прыгодах, у якія ставілі нас гады, пражытыя разам, рука да рукі і плячо да пляча.

Ул. Караткевіч
17 лістапада 74 г.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Вока тайфуна: апавяданні і аповесці. Мінск: Мастацкая літаратура, 1974.*

Бясцэннаму сябру, Рыгору Барадуліну — гэтую шматпакутную Зямлю пад Белымі Крыламі. З любоўю і пацалункам

Ул. Караткевіч
4 верасня 77 г.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі: нарыс. Мінск: Мастацкая літаратура, 1977.*

Найлепшаму майму сябру і вечнаму ўратавальніку Грышы (не, непачціва), Рыгору Іванавічу Барадуліну

Уладзімір Караткевіч
17 сакавіка 78 г.

*Аўтограф на кн.: Karatkevic U. Kralovska pomsta. Praha: Lidove nakladatelstvi.*

33 Народная песня. Паводле сведчання Р. Барадуліна, «Уладзімір дужа шчымліва спяваў гэтую песню з часінаў паўстання Кастуся Каліноўскага, праўда, крыху з іншымі словамі:

Краю наш,
Раю наш,
Мы цябе не ўбачым» (Барадулін Р. Зб. тв. Т. 4. Мінск: Мастацкая літаратура, 2002. С. 194).

34 Тэлеграмма з нагоды смерці маці Р. Барадуліна Акуліны Андрэеўны.

35 Першы радок з верша А. Пушкіна «И. И. Пущину».

Так вось і я хварэю, дарагія мае. Пашкадуйце беднага за яго сабачае жыццё[36].

Уладзімір з
казарменна-баль-
нічным лёсам.

Пятроўшчына, 9 клініка.

26 красавіка 78 г.

*Рукапісны тэкст.*

Мілы Рыгорус!

Лічаных пару дзён засталося мне быць тут. Не ведаю, ці падлекаваўся я, а вось што запсеў ад няробства — гэта неабвержны факт.

І ўсё ж чыркаю табе паштоўку, пару словаў, у адказ на твае пару слоў, якія вельмі ўзрадавалі мяне. Толькі сюжэтаў тут у мяне так мала, што і вершы не прыдумаеш у адказ. Абдымаю цябе і цалую. Скора ўбачымся. Твой

Уладзімір.

17 ліпеня 79 г.

Друскенікі.

*Рукапісная паштоўка.*

Міламу майму Рыгору
Барадуліну, з
якім мы
«на ўзмежках цвілі і выстаялі»[37].
А мабыць, што выстаялі. Хаця
лепей сказаць аб гэтым пазней.

Ул. Караткевіч

24 ліпеня 79 г.

*Рукапісны тэкст.*

Славутаму другу майму, генію не толькі «вякоў мінулых», але і «вякоў будучых» (асабліва) — ад барзапісца таго, што мінула —

— Ул. Караткевіча

4 жніўня 79 г.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. З вякоў мінулых: апавяданні, аповесці. Мінск: Мастацкая літаратура, 1978.*

---

[36] Подпіс пад малюнкам, на якім У. Караткевіч намаляваў хворага сабачку.

[37] Не зусім дакладная цытата з верша Р. Барадуліна «Дзятлінка», прысвечанага У. Караткевічу: «Таксама і Беларусь мая // На ўзмежках цвіла і выстаяла».

Пры Напалеонаўскай позе, пры яшчэ кімсьці, міт наган, міт партупея, міт…[38]

З глыбокім сорамам за сябе і з павагаю да таго, каму падпісваю — другу майму, Рыгору Барадуліну.

Ул. Караткевіч

18 красавіка 80 г.

*Аўтограф на адвароце фотаздымка.*

Годнаму нашчадку Францыска Скарыны і зямляку ягонаму Рыгору Барадуліну.

Ул. Караткевіч

19 красавіка 80 г.

*Аўтограф у часопісе «Беларусь» (1980. № 4. С. 18), дзе было надрукаванае эсэ У. Караткевіча «Подзвіг Францыска Скарыны».*

Мы не дачакаліся Вас, Рыгор Іванавіч! Адыходзім у мяккіх тапачках.

Ул. Караткевіч
Н. Кіслік[39]

3.VII.80
г. Мінск

«Бес удалился, смердя»
/Н. В. Гоголь/.

*Рукапісны тэкст на адвароце лістка календара.*

Грышачка ты мой. Самы-самы…. У дзень свайго пяцідзесяцігоддзя даю табе ў рукі гэты свой слабы дар. За Ушачы, за святую для нас памяць неацэннай тваёй Мамы, за Верасовачку, і Завечалле, і Задаброцце[40]. За тое, што ёсць на Беларусі ты, друг мой шчыры. І падумаць толькі, што Мы маглі б не сустрэцца.

Валасы дыбарам!

Твой да канца

26.XI.80 г. Ул. Караткевіч

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. З вякоў мінулых: апавяданні, аповесці. Мінск: Мастацкая літаратура, 1978.*

Міламу, бясцэннаму майму сябру, Рыгору Барадуліну, паэту найвышэйшай літасцю Божай, каб жыць, і дружыць, і пісаць нам яшчэ сто год і тры гады, і каб ніхто не здолеў нас «спыніць і стрымаць»[41].

Ул. Караткевіч

5 студзеня 81 г.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Выбр. тв.: у 2 т. Т. 1. Мінск: Мастацкая літаратура, 1980.*

---

[38] У. Караткевіч на фотаздымку стаіць у «напалеонаўскай» позе.

[39] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998) — беларускі паэт, перакладчык; пісаў на рускай мове.

[40] Верасоўка — хутар, на якім нарадзіўся Р. Барадулін; Вечалле —возера недалёка ад Ушачаў; Задаброцце — мясціны на Ушаччыне.

[41] Не зусім дакладная цытата з верша М. Багдановіча «Пагоня»: «Старадаўняй Літоўскай Пагоні // Не разбіць, не спыніць, не стрымаць».

Каляды ў доме генія

Кватэра ў Грышы лепшая на свеце:
Тут філіял Грунвальда ў кабінеце.
У шуфлядах — вершы лепшыя ў сусвеце,
І сто Індыраў скача ў туалеце.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Між рукапісаў геній Барадулін
Згубіўся з жонкай, Ланай і Рыжуляй[42].

Уладзімір Караткевіч

7 студзеня 82 г.

*Рукапісны тэкст.*

Найдарожчаму сябру Рыгору Барадуліну ў адзін добры вечар на ўспамін аб ім.
«Блажэн муж, ідзежэ не ідзе на савет нечасцівых».

12 лютага 82 г. Ул. Караткевіч

*Аўтограф на кн.: Короткевич В. Седая легенда: повести / пер. В. Щедриной. Москва: Советский писатель, 1981.*

Меню на Вялікдзень 18 красавіка 1982 г.

Фарбаванкі.
Студзіна з хрэнам.
Студзіна без хрэна.
Хрэн без студзіны.
Целенціна, шпігаваная часныком, для важнасці па-польску.
Огеркі хіньскі (або в'етнамскія, хто іх ведае).
Бульба вараная a la Караткевіч.
Бутэрброды з сырам гарачым.
Крывое мяса (па-простаму каўбаса).
Сала a la свіння.
Кансервы скумбрыя п'янага пасолу.
Грыбы-баравікі над грыбамі палкаўнікі.
Масліны a la Арыстафан Папасатырас.
Зялёны гарошак па-заечаму (фірменнае Валі Барадулінай).
Лімон a la Кісламардзевіч.
Сыр хатні з радзімы Янкі Купалы.

———

Напіткі

Тураўская Юбілейная Крыварылаўка.
Жыватоўка з перцам.
et cetera, et cetera.

Дарагі Рыгор! Дасылаю табе меню, якое хацеў забраць. Віншую з 1 мая і жадаю тысячы год і дзвюх тысяч кніг. Будзь шчаслівы.

Уладзімір.

Дадатак да меню: «лыжка дзёгцю». Бо трэба, калі абяцаў, заходзіць да сяброў не толькі на Вялікдзень. Нават калі-б у цябе стрыечны брат адышоў да Абрама прабацькі

[42] Кошка Р. Барадуліна.

на піва — пазвані, папрасі жонку ці сябра. І не адгаворвацца, што меў на ўвазе 28 красавіка… 1983 года.

Справа, для якой ты быў патрэбен, — ляснулася. Цяпер пра яе і гаварыць не буду. Іншым можаш «званіць ужо з трамвая», але я ані разу, абяцаючы зайсці, не падвёў цябе.

*Рукапісны тэкст.*

Бясцэннаму майму Другу, Рыгору Барадуліну, перад творчасцю якога я ніколі не адчуваў нічога, акрамя захаплення, і якога шчыра люблю, — гэты шматпакутны раман[43].

Ул. Караткевіч
21 лютага 83 г.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Нельга забыць. Мінск: Мастацкая літаратура, 1982.*

18 красавіка 83 г.

Валечка, дарагая![44]

З гэтымі страшнымі падзеямі[45] разгубіў усе мазгі. Згубіў адрас і не ведаю, куды ў энцыклапедыю я павінен быў адаслаць гэтую артыкуліну[46]. Можа, ты ведаеш, лепей разбіраешся і занясеш (і папросіш прабачэння, што я заліў машынапіс кавай: у гэтыя дні я, па-мойму, заліў ёю ўсе лісты і ўсе рукапісы). Загадзя дзякуй табе за гэта.

Я схаваўся. Нікога не магу бачыць, асабліва з сяброў. Як убачу — успамінаю, як ездзілі ў лес і шашлыкі смажылі і былі шчаслівыя. Ці яшчэ нешта ўспамінаю. І… сама разумееш.

Скора ўсё адно вымушаны буду з'явіцца. Трэба ж зборнік вершаў скласці[47]. А там зноў, як камета, куды-небудзь. Ад дома, дзе жыве непапраўнасць.

Цалую цябе і сябра твайго і майго найлепшага Рыгора. Скажы яму, што толькі думка аб тым, што ён жыве і працуе, і так! працуе, дае мне крыху асэнсавання неабходнасці цягнуць далей усю гэтую непатрэбшчыну і муру.

Ваш Уладзімір.

*Рукапісны тэкст.*

Міламу Рыгору, без існавання якога сябе не мыслю і без якога я не існаваў бы ў поўнай меры такі, які я ў літаратуры ёсць.

1.I.84 Уладзімір Караткевіч

*Аўтограф на праспекце выд-ва «Мастацкая літаратура» «Владимир Короткевич. Vladimir Korotkevich».*

---

43 Упершыню раман У. Караткевіча «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі») надрукаваны ў часопісе «Полымя» (№ 5–6) у 1961 г.; асобнае выданне рыхтавалася ў 1963 г., аднак набор кнігі быў рассыпаны, аўтара абвінавацілі «в абстрактном гуманизме и прочих смертных грехах» (з ліста У. Караткевіча да сям'і Е. Стулпана ад 16 лістап. 1963 г.; Верабей А. Летапіс жыцця і творчасці // Караткевіч У. Зб. тв.: у 8 т. Т. 8. Кн. 2. Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. С. 441). Выдадзены толькі ў 1982 г.

44 Ліст да жонкі Р. Барадуліна Валянціны Міхайлаўны, якая працавала ў выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».

45 28 лютага памерла жонка У. Караткевіча Валянціна Браніславаўна.

46 Немагчыма высветліць, што меў на ўвазе У. Караткевіч.

47 Відаць, маецца на ўвазе зборнік паэзіі У. Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» (выйшаў у 1986 г.).

Дарагому, найлепшаму майму сябру, бясцэннаму Рыгору Барадуліну, чалавеку і паэту, якіх вельмі люблю — каб часам узяў і прыпомніў.

Ул. Караткевіч

10 лютага 84 г.

*Аўтограф на кн.: Караткевіч У. Чорны замак Альшанскі: раман, аповесць. Мінск: Мастацкая літаратура, 1983.*

[1984 г.]

[…][48] Сабрату […] А. Е. Макаёнак[49] — в память о совместном пребывании в ООН[50] — автор У-Танъ[51].

*Аўтограф на кн.: У-Танъ. Стихотворения / Изданіе С. Дороватовского, А. Чарушникова. С.-Петербургъ: Лештуковская Паровая Скоропечатня П. О. Яблонского, 1900.*

* * *

Дорогому Милому Ригору від однодумців.
Дарагому Любаму Рыгору ад аднадумцаў і калег.
Dargajam un milajam Rigoram no kolegiem un lidzbiedriem.
Drogiemy, milieny Rygor_______ od jednodumin i coliegem.
Дорогому, милому Рыгору от единомышленников и коллег[52].

Ул. Караткевіч, М. Стральцоў, Ieranims Stulpans

*Рукапісная паштоўка.*

— Рыгор Іванавіч, «Белавежскую» можаце?
— Магу, дружа, магу, стары, магу.
— А «Пліску»[53], Рыгор Іванавіч, можаце?
— І блізка магу.
— А «Сталічную», Рыгор Іванавіч, можаце?
— Магу!!!!!!!!!!!

[48] Тут і пасля слова «Сабрату» намаляваны іерогліфы. У гэтай жа кнізе ёсць два малюнкі У. Караткевіча.

[49] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982) — беларускі драматург, перакладчык, народны пісьменнік БССР (1977). Як член дэлегацыі БССР у 1965 г. удзельнічаў у рабоце XX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

[50] Відаць, маецца на ўвазе ўдзел Р. Барадуліна ў 1984 г. у рабоце XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (у складзе дэлегацыі БССР).

[51] Тут, магчыма, яшчэ адзін жарт У. Караткевіча, бо гэтае ж самае імя — У Тан — насіў Генеральны сакратар ААН (1962–1971).

[52] На ўкраінскай, беларускай, латышскай, польскай і рускай мовах. Надпіс па-латышску зроблены, відаць, латышскім пісьменнікам Е. Стулпанам.

[53] Назва каньяка.

— А Хванч-Кару, Рыгор Іванавіч, можаце?
— Не магу, стары. Мяшаць баюся.
— Ну і дуп вы, Рыгор Іванавіч!

*Рукапісны тэкст з подпісам «ПІФУЛЕЧКА»*[54] *і, магчыма, самога У. Караткевіча, а таксама з трыма неразборлівымі подпісамі*[55].

Найвялікшаму беларускаму хунвэйбіну[56] і Маодзэдуністу Рыгору Барадуліну з вялікай падзякай ад яго кітайскіх паслядоўнікаў. Прыпадаем пад ногі твае, вялікі бахдыхан Нябеснай Імперыі нашай!

Мао 1

Мао 2

Мао 3

*Рукапісны тэкст на адвароце паштоўкі «Председатель Мао Цзэ-дун на строительстве Шисаньлинского водохранилища. Китайская тушь. 1958 г.». Побач з подпісамі (Мао 1, Мао 2, Мао 3) напісаны іерогліфы.*

Гіене — баяцца, сабаку — вішчаць,
Пацю — рокхаць у брудзе сваім.
А льву патрэбны саванаў гушчар,
Родны край і свабода ў ім.

І таму не пабойвайся, не чакай,
А скачком бяры частакол.
І рыкай. І калоціцца вораг няхай,
Калі гойсае леў вакол.

Жыві сярод кінутых родных лясоў,
Клыкамі за іх ірві…
Бо мы з табой не з гіен, не з псоў,
Бо мы — ільвінай крыві.

*Рукапісная паштоўка (з выявай льва).* Побач з вершам У. Караткевічам пазначана: «Льву Рыгору», ніжэй — «Леў Уладзімір».

Рыгору ад Альмы[57] і Ўладзіміра. Аблізваем па чарзе ягоную пысу. Вакол туман і лёд.

*Аўтограф на фотаздымку.*

---

[54] Літары «у» і «к» напісаныя па прынцыпе люстэркавасці.

[55] Тут і далей прыводзяцца аўтографы У. Караткевіча, вызначыць дату якіх не ўяўляецца магчымым.

[56] Хунвэйбіны («чырвоная гвардыя», «чырвоная ахова» (*кіт.*) — члены атрадаў студэнцкай і школьнай моладзі, створаных у 1966–1967 гг., актыўныя ўдзельнікі «культурнай рэвалюцыі» ў Кітаі, ініцыятарам якой быў Мао Цзэдун (1893–1976), кітайскі дзяржаўны і палітычны дзеяч, старшыня Камуністычнай партыі Кітая (1943–1976).

[57] На фотаздымку У. Караткевіч з сабакам.

Віншуем Барадуліна, Барадуліху і Барадулінятка з Вялікаднем!

Жадаем поспехаў, доўгіх год, новых кніг, высокіх учынкаў, здароўя, шчасця і ўсяго-ўсяго добрага.

В. і Ул. К.

*Рукапісны тэкст на адвароце малюнка, на якім У. Караткевічам намаляванае кураня і яйка, напісана: «З Вялікаднем!».*

Мілы Рыгор!

Жыві не «дзень за днём», а «стагоддзе за стагоддзем».

Ул. Караткевіч

*Аўтограф на «Книжке-календаре».*

Уступнае слова, публікацыя і каментары
*Сяргея ШАПРАНА*

# БЕЛАРУСКІ ПАДАРУНАК УЛАДЗІСЛАВУ МІЦКЕВІЧУ[1]

Вясной 1861 г. Уладзіслаў Міцкевіч наведаў радзіму свайго бацькі, што расцягнулася ад 11 сакавіка да 22 чэрвеня (з улікам выезду ў Пецярбург). Першым прыпынкам для яго стаў Мінск[2], далей былі Навагрудак і ваколіцы, затым Вільня. У адваротнай дарозе з Пецярбурга ён паўторна наведаў Віленшчыну, Навагрудак, маёнтак Губерня[3] Кобрынскага павета і Бярэсце[4]. Для тутэйшай шляхты сустрэча з сынам Адама Міцкевіча стала знамянальнай падзеяй, якая ўзмацняла патрыятычныя пачуцці і давала магчымасць, хоць і апасродкавана, дакрануцца да спадчыны свайго земляка, які як сярод эмігрантаў, так і сярод ліцвінаў успрымаўся сімвалам вольнасці. У аднагодкаў Адама Міцкевіча гэтая сустрэча ўзмацняла настальгічныя пачуцці і ў той жа момант пакідала надзею на паспяховаць таго руху, які імкліва разгортваўся з пачатку 1860-х гг. у Беларусі. Пацверджанне гэтаму — адсутнасць на сустрэчах, арганізаваных у гонар Уладзіслава Міцкевіча, выпадковых асобаў. Павітаць сына паэта сабраўся сапраўдны гонар шляхты.

Вандроўка Уладзіслава Міцкевіча на Украіну і Беларусь знайшла пэўнае адлюстраванне ва ўспамінах і літаратуры[5]. Адначасова з гэтым паўстала і некалькі пытанняў. Пачаткова Эдвард Паўловіч, а за ім Рышард Мяніцкі пазначаюць, што згаданая падзея адбывалася вясной 1862 г.[6], у той момант як сам Міцкевіч-сын і захаваўшыяся крыніцы сведчаць, што прыходзіцца гэта на 1861 г. Цікавым для даследчыкаў з’яўляецца згадка Міцкевіча аб альбомах фотаздымкаў, падараваных яму мінскай, наваградскай і віленскай шляхтай. Аднак гэты факт не знайшоў адлюстравання ў каталогах, прысвечаных міцкевічаўскім зборам.

Падчас працы ў 2006 г. у Польскай бібліятэцы ў Парыжы, праглядаючы інвентар неапрацаваных матэрыялаў (так званых акцэсій), мы натыкнуліся на назву справы, якая нас узрушыла. У перакладзе з польскай мовы гэта гучала як «Альбом фотаздымкаў, падараваных У. Міцкевічу ліцвінамі з Мінска ў 1861 г.»[7]. Аднак вялікага спадзявання на

---

[1] Артыкул паўстаў дзякуючы дапамозе Польскага гісторыка-літаратурнага таварыства і Польскай бібліятэцы ў Парыжы, а таксама Касе Мяноўскага. Выказваем таксама шчырую падзяку доктару гісторыі Яну Трынкоўскаму, доктару габілітаванаму Магдзе Міціньскай і кандыдату гістарычных навук Вячаславу Паўлаву, аказаўшым дапамогу ў зборы матэрыялаў.

[2] У адпаведнасці з падарожнай, атрыманай Уладзіславам Міцкевічам 28 лютага 1861 г. у Кіеве, у Мінску ён накіраваўся 11 сакавіка. Гл.: Muzeum Literatury imienia Adama Mickiewicza w Warszawie. Depozyt Biblioteki Polskiej w Paryżu (далей — Muz. Lit. Dep. BPP) 42, k. 8–9.

[3] У маёнтку Губерня жыў са сваёй сям’ёй малодшы брат Адама Міцкевіча Аляксандр. Уладзіслаў Міцкевіч прабыў тут некалькі дзён, наведаўшы таксама і ваколіцы. Ягонае апісанне навакольных мясцін, а таксама сваяцкія сувязі выклікалі прыезд у Губерню таксама сясцёр. Гл.: Kossak E. K. Rodzina M. Warszawa, 1991. S. 97, 100.

[4] Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. 1862–1870. Warszawa, 1927. S. 101–108; Zienkewicz T. Śladami ojca. Władysław Mickiewicz na Białorusi w roku 1861 // Acta Polono-Ruthenica. T. 2. Olsztyn, 1997. S. 351.

[5] Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 50–77; Marachow G. Przyjazd Władysława Mickiewicza na Ukrainę i polskie manifestacje patryotyczne w Żytomierzu w świetle urzędowej korespondencji // Blok-Notes Muzeum Litaratury im. Adama Mickiewicza. № 11. Warszawa, 1994. S. 165–173; Wiengerów Ł. O pobycie Władysława Mickiewicza na Ukrainie (Według niewydanych materiałów archiwalnych) // Kwartalnik Instytutu Polsko-Radzieckiego. 1956; Śnieżko A. Dworek Mickiewiczowski w Nowogródku. Lida, 1939. S. 43–46; Zienkewicz T. Śladami ojca. S. 341–352.

[6] Pawłowicz E. Wspomnienia. S. 88–87; Mienicki R. Ziemia nowogródzka w dobie porozbiorowej (1793–1915). Wilno, 1935. S. 35.

[7] Biblioteka Polska w Paryżu (далей — BPP), akc. 2305. «Album z fotografiami ofiarowany Wł. Mickiewiczowi przez Litwinów z Mińska w 1861 r.».

такую даследчыцкую ўдачу ў нас не было, бо папярэдне замоўленыя некалькі альбомаў, дзе павінны былі змяшчацца зацікавіўшыя нас фотаздымкі, аказваліся пустымі. І толькі праз нейкую гадзінку, калі нам ў рукі трапіў аксамітавы, карычневага колеру, ціснены золатам, памерам 26×20 см альбом, прыйшло разуменне, што мы натрапілі на каштоўнейшую архіўную знаходку. Гэты падарунак Уладзіславу Міцкевічу ад мясцовай шляхты з'яўляецца сапраўдным падарункам сучасным даследчыкам. Тут захаваліся як выявы Навагрудка і яго наваколля, так і цэлага шэрагу асобаў, здымкі якіх паходзяць дзесьці з канца 50-х гг. XIX ст.

Альбом са сховішчаў Польскай бібліятэкі ў Парыжы, на наш погляд, сфармаваны з фотаздымкаў, якія раней уваходзілі ў асобныя альбомы, падараваныя Міцкевічу пры яго наведванні Мінска, Навагрудка[8] і здымкаў, атрыманых у Вільні[9]. Хутчэй за ўсё, менавіта Мінскі альбом стаў асновай для ўключэння ў яго здымкаў, што захаваліся ад асобных альбомаў. У пацверджанне нашай думкі гаворыць тое, што першыя сем старонак[10] утрымліваюць мінскія матэрыялы. Далейшае размяшчэнне фотаздымкаў у альбоме прадстаўлена з парушэннем храналогіі падзей. Замест наваградскіх матэрылаў у альбоме прадстаўлена некалькі фрагментаў, звязаных з прыбываннем Уладзіслава Міцкевіча ў Вільні. На адным з аркушаў альбома захаваўся подпіс аб размяшчэнні там калісьці здымка Віктара (Віктарына), Альдона і Клеменса Занаў, падараванага Міцкевічу 1/13 красавіка 1861 г.[11], а на наступным змешчана гравюра Тамаша Зана. Адначасова з гэтым Міцкевічам пазначаецца, што здымкі ён атрымаў ад усіх асобаў, з якімі сустракаўся ў Вільні[12]. У самім жа Альбоме віленскіх здымкаў не захавалася, толькі ўмоўна мажліва адносіць да іх адзін з ненатаваных партрэтаў — маладой жанчыны перад люстэркам і мужчыны без прозвішча.

Яшчэ адным момантам, які выступае на карысць нашай думкі, з'яўляецца наяўнасць у альбоме паперы рознай якасці і колеру. Мінскія матэрыялы размешчаны на звычайнай альбомнай паперы жаўтаватага колеру, наступныя ж фотаздымкі знаходзяцца на рознай па якасці і колеры паперы. Факт спалучэння ў альбоме розных матэрыялаў падцвярджае таксама прынцып афармлення, які выкарыстаны ў дачыненні навагрудскіх фотаздымкаў. Толькі яны па краях абклеены белай рыфлёнай паперай.

Усяго ў альбоме размешчана 36 фотаздымкаў, сярод якіх знаходзяцца два групавыя здымкі і шэсць сюжэтных, прысвечаных Навагрудку і яго наваколлю. На фотаздымках змешчана 41 асоба, пад дзвюма з якіх адсутнічаюць прозвішчы. Здымкі ў альбоме раз-

---

8 Наваградскі альбом з памятным надпісам «Сыну бессмяротнага Адама Уладзіславу Міцкевічу на памяць ад наваградскіх землякоў аб яго побыту на роднай зямлі 22 сакавіка / 4 красавіка 1861 года ў Навагрудку» падараваў, як пазначаецца Аляксандрам Сняжко, Канстанцін Тuганоўскі. Гл.: BPP, akc. 2305, k. 10 (у адпаведнасці з умоўнай пагінацыяй); Śnieżko A. Dworek Mickiewiczowski. S. 45–46.

9 Адказаць на пытанне, ці існаваў асобны віленскі альбом, складана, таму што нават сам Уладзіслаў Міцкевіч недакладна апісвае гэты факт. У адным месцы ён пазначае, што альбом с фотаздымкамі яму быў падараваны і ў Вільні, а далей канкрэтызуе, што гэта былі асобныя фотаздымкі, якія не ўтрымлівалі нават подпісаў. Гл.: Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 70, 76.

10 Альбом не пагінаваны. Намі даецца ўмоўная пагінацыя, пры якой пустыя аркушы не ўлічваюцца.

11 Мажліва выказаць меркаванне, што варыянт падараванага ў 1861 г. Уладзіславу Міцкевічу фотаздымка сыноў Зана захоўваецца цяпер у «Альбоме Віктарына Зана», які В. Зан (1848—?) атрымаў ад маці на дзясяцігоддзе. На гэтым здымку захавалася выява жонкі і трох сыноў Тамаша Зана. Брыгіта Зан сядзіць на крэсле, а побач з ёй стаяць два хлопчыкі ў гімназічнай форме. Трэці хлопчык апусціўся з правага боку ад маці на калена. Фотаздамак не датаваны, аднак паходзіць ён, мажліва, з 1858 г., як і большасць з матэрыялаў, уключаных у гэты альбом. Гл.: Muzeum Litaratury im. Adama Mickiewicza w Warszawie (далей — Muz.Lit.) rkps 290. Album Wiktoryna Zana, k. 1; Katalog rękopisów Muzeum Litaratury im. Adama Mickiewicza w Warszawie. T. 1: sygnatury 1–500 / Oprac. T. Januszewski, W. Kordaczuk, G. Niedusyńska, M. Polakowska. Warszawa, 1996. S. 164–166.

12 Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 70.

мешчаны на дваццаці двух аркушах, акрамя гэтага напрыканцы альбома знаходзіцца адзін непрыклееныя фотаздымак.

На першай старонцы альбома знаходзіцца выява Божай Маці Бялыніцкай, выкананая ў фатаграфічнай майстэрні Антонія Прушынскага ў Мінску. На другой старонцы змяшчаецца рукапісны надпіс: «Сыну Адама Уладзіслава землякі ліцвіны ў Мінску 1861 г. 18 сакавіка», пасля чаго змяшчаюцца подпісы наступных асобаў: Мікалай Караткевіч, Аляксандр Валіцкі, Юзаф Казакоўскі, Рудольф Пішчал, Міхал Лажнеўскі, Антоній Бржазіцкі, Браніслаў Любічанкоўскі[13], Міхал Ялец, Багуслаў Семірадзкі, Міхал Янкоўскі, Нестар Буш, Юзаф Снядэцкі, Францішак Дабкевіч, Валерый Валодзька, Юзаф Любічанкоўскі, Ян Навакоўскі, Міхал Дабравольскі, Рыгор Раманоўскі, Люцыян Неслухоўскі[14], Аляксандр Барташэвіч, Браніслаў Крупскі, Эдмунд Булгак, Караль Станкевіч, Антоній Прушынскі, Яўген Мірскі, Антоній Івашкевіч, Мячыслаў Слізень[15]. На трэцяй старонцы альбома змяшчаюцца тосты, выказаныя ў гонар Уладзіслава Міцкевіча Аляксандрам Валіцкім[16] і асобай з ініцыяламі М. К.[17].

---

[13] Любічанкоўскі Напалеон Браніслаў (н. каля 1819 (х. 08.09.1821) — 07.1880) — шляхціц гербу «Любіч», нарадзіўся каля Рэчыцы (Асавец?), сын Яна (каля 1772—пасля 1833, доктар філасофіі, дырэктар гімназій у Магілёве, Мазыры, Навагрудку, член Камісіі па ліквідацыі Віленскага універсітэта, надворны саветнік) і Юзэфы, родны брат Отана (каля 1804 — да 1869) і Юзафа Леапольда (яго фотаздымак змешчаны ў альбоме), жанаты з Леанідай (Леанільдай) (каля 1830 — каля 1910) Солтан, з якой меў шэсць дзяцей. Пасля заканчэння Мінскай гімназіі з 1837 г. вучыўся ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. У 1840 г. за спрычыненні да дзейнасці таварыства Францішка Савіча быў арыштаваны і каля 2 гадоў утрымліваўся ў зняволенні. Пасля вызвалення працягнуў навучанне ў Харкаве. З канца 1840-х гг. займаўся ўрачэбнай практыкай, жыў у Мінску, працаваў мінскім гарадскім урачом. У 1854 г. становіцца калежскім асэсарам. З 13 жніўня 1863 г. знаходзіўся пад сакрэтным наглядам паліцыі «па палітычных справах». Затым па загадзе М. Мураўёва быў прывезены разам з сям'ёй у Вільню і высланы ў Аланецкую губерню. Жыў у Аланцы, займаўся прыватнай урачэбнай практыкай. Паліцыя атэставала яго наступным чынам: «Гатовы дапамагчы кожнаму. Усе яго любяць і паважаюць, асабліва просты народ. Добры ўрач, высокародны чалавек, добра ўплывае на людзей». Яго сын у 1868 г. вучыўся ў Аланецкай гімназіі. Памёр у ссылцы. Яго дачка Браніслава (22.07.1851–27.05.1928) пакінула ўспаміны, прысвечаныя ссылцы. Яго партрэт змешчаны ў выданні Ганны Брус. Гл.: Нацыянальны архіў Рэспублікі Карелія (далей — НАРК), ф. 1, воп. 36, спр. 91/1, арк. 133 адв. — 134; ф. 1, воп. 67, спр. 1/2, арк. 84; ф. 1, воп. 67, спр. 1/3, арк. 83 адв. — 84; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей — НГАБ), ф. 319, воп. 2, спр. 1898; Na nieznane losy. Między Ołońcem a Jadryniem. Dwa pamiętniki z zesłania po powstaniu styczniowym / Opracowała A. Brus. Warszawa, 1999. S. 53, 83 i inne; Szarejko P. Słownik lekarzy polskich XIX wieku. T. 3. Warszawa, 1995.

[14] Неслухоўскі Люцыян (каля 1816 — каля 1880) — паходзіў са Слуцкага павета Мінскай губерні, былы сакратар Мінскай палаты грамадзянскага суда, калежскі сакратар, бацька паэта Івана Неслухоўскага (Янкі Лучыны). Падазраваўся ў спрычыненні да паўстання 1863 г., у выніку чаго з 10 ліпеня 1864 г. трапіў пад следства. Да 10 кастрычніка 1868 г. утрымліваўся пад наглядам паліцыі. Напрыканцы жыцця з'яўляўся дэпутатам ад Слуцкага павета ў Мінскім дваранскім дэпутацкім сходзе. Жыў з сям'ёй у Мінску на вул. Юр'еўская. Гл.: Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. Мінск, 1977. С. 467–468, 474; Zienkewicz T. Śladami ojca. S. 344.

[15] Акрамя пералічаных прозвішчаў захаваўся таксама подпіс Францішка Дульскага, які закрэслены. Уладзіслаў Міцкевіч ва ўспамінах яго таксама абмінае. Гл.: Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 53–54.

[16] Валіцкі Аляксандр (27.01.1826–01.06.1893) — музычны крытык, спявак, біёграф Станіслава Манюшкі. Каля 1863 г. заснаваў у Мінску кнігарню, вакол якой групавалася перадавая інтэлігенцыя. Сябраваў з Манюшкам, Вікенціем Дуніным-Марцінкевічам, Адамам Кіркорам, Уладзіславам Сыракомлем. За удзел у антыўрадавых выступленнях у 1863 г. быў сасланы ў Тамбоў. Вярнуўся са ссылкі ў 1867 г. і абаснаваўся ў Варшаве, дзе пачаткова працаваў ў музычным аддзеле «Варшаўскага весніка». З 1872 г. уладкаваўся карэктарам у друкарні В. Анчыца, а затым кракаўскай кнігарні Густава Гебетнера. Апошнія тры гады свайго жыцця выконваў абавязкі кусташа ў Радзівілаўскай бібліятэцы ў Нясвіжы. Гл.: Słownik biograficzny pracowników książki Polskiej. Warszawa- Łódź, 1972. S. 936.

[17] Хутчэй за ўсё, гэтай асобай з'яўляецца Мікалай Караткевіч. З усіх прозвішчаў, якія сустракаюцца ў альбоме, і тых, каго ўзгадвае ва ўспамінах Уладзіслаў Міцкевіч, падыходзіць толькі ён. Самі тосты зафіксаваны ва ўспамінах У. Міцкевіча. Гл.: Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 52–53.

Чацвёртая старонка змяшчае фота памерам 13 × 17 см, выкананая ў фотаграфічнай майстэрні Антонія Прушынскага, якое датуецца 18 сакавіка 1861 г. і паказвае дзесяць асобаў, размешчаных у два рады: верхні рад — сам уладальнік майстэрні Прушынскі, Міхал Дабравольскі[18], Багуслаў Серадскі і Валерый Валодзька; ніжні рад — Ян Навакоўскі, Юзаф Любічанкоўскі, Караль Станкевіч, Юзаф Барташэвіч, Мікалай Караткевіч, Міхал Янкоўскі.

На пятай старонцы змяшчаюцца асобныя фотаздымкі Яўгена Мірскага і Юзафа Снядэцкага, падпісаныя 19 сакавіка 1861 г. Шостая старонка змяшчае фота маладой жанчыны перад люстэркам без пазначэння прозвішча і даты. На сёмай старонцы знаходзіцца фотаздымак мужчыны сярэдніх гадоў па прозвішчы Ванькові[19].

На наступнай, восьмай старонцы, перад якой знаходзіцца шмат пустых лістоў, застаўся толькі адзін подпіс: «На памяць дарагому Уладзіславу, сыну Адама, у доказ брацкай любові ахвяруюць дзеці Тамаша — Віктар, Альдон, Клеменс Заны», датаваны 1/13 красавіка 1861 г., Вільня. Гэты фотаздымак, як згадвае Уладзіслаў Міцкевіч, трапіў да яго ад сям'і Занаў[20]. Да сучаснасці ён не захаваўся, застаўся толькі надпіс. Наступная старонка змешчае гравюру Тамаша Зана.

Дзесятая старонка альбома змяшчае прысвячэнне Уладзіславу Міцкевічу ад навагрудчанаў, дoff датаванае 22 сакавіка/4 красавіка 1861 г. На наступнай старонцы змешчаны тост, выказаны на абедзе ў гонар сына Адама Міцкевіча Канстанцінам Туганоўскім[21]. Пасля гэтага тэксту ў альбоме зноў ідуць пустыя аркушы[22].

Некалькі старонак альбома прысвечаны Навагрудку. На дванаццатай старонцы знаходзіцца фотаздымак Замкавай гары, на чатырнаццатай — выява (фотаздымак 17,5 × 14 см) адной з башняў Навагрудскага замка[23], семнаццатая старонка змяшчае фотаздымак памерам 13 × 11,5 см з выявай Навагрудскай ратушы, плошчы і дамініканскага касцёла. На дваццаць першым аркушы знаходзіцца фотаздымак адной з вуліц Навагрудка. Подпіс з дакладным пазначэннем аб гэтым адсутнічае. Але ўлічваючы той факт, што ўсе папярэднія і наступныя здымкі звязаны з Навагрудкам і яго жыхарамі, мажліва меркаваць, што перад намі выява навагрудскай вуліцы канца 50 — пачатку 60-х гг. XIX ст.

Трынаццатая старонка змяшчае фотаздымкі памерам 6 × 9 см трох чалавек — Канстанціна Туганоўскага, Уладзіслава Умястоўскага і адно фота, пад якім адсутнічае прозвішча.

На пятнаццатай старонцы — фотаздымак авальнай формы, на якім знаходзяцца Антоній і Антаніна Брахоцкія. Фотаздымак датуецца 28 сакавіка 1861 г. і ўтрымлівае акрамя гэтага назву маёнтка Морына.

---

18 Фота Міхала Дабравольскага пазнейшага часу змешчана ва ўспамінах Апалінарыя Свентаржэцкага. Гл.: [Świętorzecki A.] Ze wspomnień wygnańca / Spisała Z. Kowalewska. Wilno, 1911.

19 На фотаздымку адлюстраваны старэйшы сын Валенція Ваньковіча — Адам Ваньковіч. Пацверджаннем нашай думкі з'яўляецца другі фотаздымак Адама Ваньковіча, які змешчаны ў першым томе ўспамінаў Якуба Гейштара. Гл.: Gieysztor J. Pamiętniki z lat 1857–1865. Wilno, 1913. T. I. S. 259.

20 Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 76.

21 Словы Канстанціна Туганоўскага прыводзяцца Уладзіславам Міцкевічам. Гл.: Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 56–57.

22 На сёння ў альбоме адсутнічае старонка з прамовай Эдварда Паўловіча, пад якой пакінулі свае подпісы 69 навагрудчанаў. Аб гэтым згадваецца і самім выступоўцам, і Уладзіславам Міцкевічам. Гл.: Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57–58; Pawłowicz E. Wspomnienia. S 88–89.

23 Гэты фотаздымак адпавядае малюнку, які змешчаны ў выданні Эдварда Паўловіча. Гл.: Pawłowicz E. Nowogródek w XIX wieku. Lwów, 1902.

На шаснаццатай старонцы размешчана шэсць фота памерам 6,5 × 9 см — Уладзіслава Брахоцкага[24], Караля Бялапятровіча, Альбіна Чачота, Яна Наргілевіча[25], Аўгуста Несялоўскага, Стэфана Верашчакі.

Васемнаццаты і дзевятнаццаты аркушы альбома зноў утрымліваюць па шэсць асобных фотаздымкаў памерам 6,5 × 9 см. На першым з іх знаходзяцца Станіслаў Брахоцкі, Станіслаў Маліноўскі, Францішак Верашчака, Уладзіслаў Вяржбоўскі, Юльян і Канстанцін Кашыцы. На другім — Эдвард Паўловіч[26], Канстанцін Чачот, Адольф Мікульскі, Пётр Гнаінскі, Антоній Пуцята, Ян Маркевіч.

На наступным, дваццатым аркушы альбома змяшчаецца фотаздымак дырэктара Навагрудскай гімназіі Фелікса Чашніцкага[27]. На самім фота падпісана толькі адно прозвішча і пазначана яно ў іншай версіі — Часніцкі. Уладзіслаў Міцкевіч ва ўспамінах запісвае гэтую асобу як Часьніцкі і згадвае яго імя — Фелікс, што дазволіла нам у далейшым адшукаць архіўныя матэрыялы па гэтай асобе.

На апошнім, дваццаць другім аркушы альбома змешчаны тры фотаздымкі памерам 6,5 × 11 см, на якіх знаходзяцца Канстанцін Урублеўскі, Ануфрый Калупайла і Раман Бохвіц. Здымкі датаваны сярэдзінай мая 1861 г. і трапілі да Уладзіслава Міцкевіча ўжо пры вяртанні ў Парыж.

Асобна ў альбоме захоўваецца фотаздымак, на якім знаходзіцца дом Міцкевічаў[28]. На ганку стаяць некалькі дарослых з дзецьмі. На жаль, здымак зроблены са значнай адлегласці, што не дазваляе разгледзець твары людзей. Аднак мажліва меркаваць, што адным з тых быў сам Уладзіслаў Міцкевіч і здымак мог быць зроблемы падчас яго побыту ў Навагрудку, а апынуўся ў яго ці падчас вяртання, ці пазней быў перасланы яму ў Парыж. У 1922 г., калі Уладзіслаў Міцкевіч на схіле свайго жыцця яшчэ раз наведаў Навагрудак, ён таксама сфатаграфаваўся на фоне гэтага дома[29].

Работа над апрацоўкай прадстаўленых матэрыялаў была досыць складанай, што абумоўлівалася пошукам асобаў, пра большасць з якім нам не было вядома нічога, акрамя імя і прозвішча, а ў некаторых выпадках нават гэтага. Пачаткова мы адштурнуліся ад ідэі, што гэтых людзей, якія палічылі для сябе за гонар павітаць сына Адама Міцкевіча, не маглі не закрануць паўстанцкія падзеі 1863–1864 гг. Мы звярнуліся ў Інстытут гісторыі Польскай Акадэміі навук, дзе захоўваецца «Картатэка ўдзельнікаў январскага паўстання», складзеная калектывам гісторыкаў пад кіраўніцтвам прафесара Вікторыі Слівоўскай. Доктар

---

[24] Вядомы яшчэ адзін фотаздымак Уладзіслава Брахоцкага, які зроблены ў фотамайстэрні братоў Чыж у Вільні пасля вяртання былога наваградскага маршалка з ссылкі незадоўга да яго смерці. Арыгінал гэтага здымка, датаваны 1885–1890 гг., памерам 113×81 см, захоўваецца ў Аддзеле іканаграфіі Нацыянальнай бібліятэкі Варшавы і трапіў туды са збору Міхала Брэнштэйна. Гл.: Biblioteka Narodowa (далей — BN) F. 3726/II-2; Гарбачова В. В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі. Мінск, 2001.

[25] У выданні С. Васілеўскага таксама змешчаны фотаздымак Яна Наргілевіча, на якім ён адлюстраваны разам са сваёй жонкай Мальвінай Дыбоўскай. Гэтая крыніца паходзіць, на наша меркаванне, з 80-х гадоў XIX ст. Гл.: Wasylewski S. Pod kopułą lwowskiego Ossolineum. Wrocław, 1958.

[26] Вядомы таксама фотаздымак, датаваны пачаткам XX ст., які Эдвард Паўловіч змясціў у адным са сваіх выданняў. Гл.: Pawłowicz E. Nowogródek w XIX wieku.

[27] Прозвішча паходзіць ад пасады чашнік, якая па-польску гучыць як *cześnik*, а ў ВКЛ яна пазначалася *czasznik* ці *czaśnik.* Прадстаўлены варыянт напісання прозвішча ўжыты намі на падставе выкарыстання наступных матэрыялаў: НГАБ, ф. 333, воп. 1, спр. 619, арк. 160; ф. 3157, воп. 1, спр. 43, арк. 261–261 адв.

[28] Змены ў выглядзе дома Міцкевічаў у розныя часы знайшлі адлюстраванне ў выданні Аляксандра Сняжко. Гл.: Śnieżko A. Dworek Mickiewiczowski. S. 11, 47, 59 i inne.

[29] Фотаздымак з другога прыезду У. Міцкевіча змясціў у сваім артыкуле Рыгор Марахаў. Гл.: Marachow G. Przyjazd Władysława Mickiewicza. S. 166.

габілітаваны Магда Міцінськая прадставіла нам матэрыялы з гэтай картатэкі, да складання якой спрычыніліся гісторыкі Польшчы, Беларусі, Літвы і расійскіх ускраін. Шэраг персанажаў з альбома апынуліся сярод тых, хто браў удзел у паўстанні і быў сасланы ў аддаленыя губерні Расіі. Каштоўнасць гэтых матэрыялаў заключаецца ў тым, што нам удалося выкарыстаць дадзеныя, змешчаныя ў архівах Масквы, Омска, Вільні, Варшавы, Львова, Казані, Пермі, Кунгура і Карэліі. Адначасова з гэтым найбольш каштоўныя матэрыялы знойдзены намі ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі.

Прадстаўленыя ніжэй біяграфічныя нататкі не з'яўляюцца аднолькавымі па напаўняльнасці. І ў той жа момант для кожнага персанажа мы імкнуліся адлюстраваць, па-мажлівасці, даты нараджэння і смерці (у некаторых выпадках прыводзяцца толькі даты хрышчэння), саслоўную прыналежнасць і маёмасны стан, месца жыхарства і нараджэння, імёны бацькоў, жонкі, нашчадкаў, узровень і месца атрымання адукацыі, сферу прафесійнай занятасці, інфармацыю па веравызнанні. Таксама намі звярталася пільная ўвага на дзейнасць разгляданых асобаў, якая асвятляецца па храналагічным прынцыпе. Напрыканцы падаецца бібліяграфічны матэрыял, дзе спачатку пазначаюцца творы персаналіі, затым кірылічныя і лацінамоўныя архіўныя крыніцы. Завяршаюць бібліяграфічны пералік кірылічныя і лацінічныя даследаванні. Інфармацыя, прадстаўленая нам іншымі даследчыкамі, падаецца ў дужках.

У некаторых выпадках нам прыйшлося абмежавацца толькі генеалагічнай інфармацыяй. Некалькі асобаў, сярод якіх Ануфрый Калупайла, маладая жанчына і мужчына сярэдніх гадоў без прозвішчаў, пакуль увогуле не ідэнтыфікаваны. Аднак спадзяемся, што далейшыя даследаванні ў беларускіх, літоўскіх і польскіх архіўных сховішчах дазволяць істотна пашырыць нашы веды аб асобах, якія паўстаюць з фотакартак так званага Альбома Уладзіслава Міцкевіча.

**Прушынскі Станіслаў Антоній** (1826–1895) — шляхціц Мінскай губ. герба «Любіч», сын Антонія (п. каля 1873), уладальніка маёнтка Асінцы Вілейскага пав., гранічнага суддзі, і Розы Станьскай. Бацька, верагодна, у 1827 г. кантактаваў з А. Міцкевічам (?).

Актыўна ўдзельнічаў у грамадскім руху, у 1844–1845 гг. належаў да так званых спіскоўцаў, меў радыкальныя погляды, якія не падзяляў яго бацька. Ажаніўся з беднай шляхцянкай Пелагеяй Кулаковай, што таксама не задавальняла сваякоў. Пералічанае паўплывала на пазбаўленне Антонія Прушынскага права на спадчынную маёмасць. Пасля гэтага А. Прушынскі пераехаў у Мінск, дзе пачаткова сродкамі для ўтрымання сям'і былі прыватныя ўрокі ігры на фартапіана, затым ён адкрывае невялікую фабрыку па выпуску лаку. Каля 1850 г. адчыніў фотамайстэрню, якая размяшчалася ў Мінску на вул. Францысканскай. У 1850-я гг. меў дачыненне да дзейнасці Мінскага гарадскога тэатра, у 1856 г. выступаў на сцэне гэтага тэатра ў оперы Станіслава Манюшкі «Рэкрутскі набор».

У перыяд крымскай вайны ўдзельнічаў у вызваленчым руху, за што ў 1855 г. быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў Бабруйскай турме. У перадпаўстанцкі перыяд далучыўся да чырвоных Мінскага паўстанцкага камітэта. У пачатку 1863 г. быў арыштаваны і 29 кастрычніка 1863 г. сасланы на жыхарства ў Сібір. У якасці пакарання было вынесена рашэнне аб канфіскацыі маёмасці, аднак у студзені 1864 г. пры правядзенні вобыску прыставам мінскай гарадской паліцэйскай управы была знойдзеная толькі фотамашына, на якую прад'явіла свае правы жонка Пелагея Прушынская. Да паўстання 1863 г. па звестак Станіслава Рэйманта, меў дачыненне і бацька А. Прушынскі, які таксама быў сасланы ў Сібір, адкуль атрымаў дазвол вярнуцца да 1868 г. без мажлівасці пражывання на сталым месцы жыхарства. Пасля вяртання бацька пасяліўся ў Варшаве.

Пакаранне Антоній Прушынскі адбываў у Каінскай акрузе Томскай губ. У 1864 г. да яго прыбыла жонка Пелагея Вікторыя Кулакова разам з дзецьмі: Конрадам (19.02.1851,

Мінск — 08.07.1908, Варшава), Максіміліянам і Зянонай. Відаць, ужо ў Томску ў іх нарадзіўся сын Севярын (п. каля 1869). У 1864–1873 гг. у Томску Прушынскі ўтрымліваў невялікую фотамайстэрню, асновай да заснавання якой стала фотамашына, перавезеная з Мінска. Акрамя гэтага, Прушынскі даваў прыватныя ўрокі музыкі. У яго доме арганізоўваліся музычныя вечары, дзе бралі ўдзел нават дзеці. Падчас ссылкі А. Прушынскі быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў зняволенні за ўдзел у тайных сходах. У 1869 г. ён атрымаў дазвол на выезд у Польшчу, пасля чаго назад не вярнуўся. Да 1873 г. томскія ўлады шукалі яго, што асвятлялася ў перыядычным друку і архіўных справах.

З 1873 г. Прушынскія жылі ў Варшаве, дзе на працягу 1874–1895 гг. Антоній Прушынскі кіраваў фатаграфічнай майстэрняй, якая пачаткова з-за адсутнасці афіцыйнага дазволу на яе заснаванне лічылася за Анастазіям Пуцятай, цесцем сына Конрада. Як сведчыць Ядвіга Астраменцкая, якая сустракалася з ім, у 1891 г. А. Прушынскі жыў у Варшаве і, «нягледзячы на страту зроку, захаваў добры настрой і расчулена ўспамінаў сібірскія часы, калі складаныя бытавыя ўмовы, смутныя перажыванні і аддаленасць ад радзімы аб'ядноўвала людзей як бы ў адну сям'ю». Я. Астраменцкая пакінула ўспаміны пра лёс дзяцей Прушынскага. Сын Конрад выехаў з Томска раней за бацькоў з мэтай працягу навучання. Пазней ён становіцца рэдактарам «Святочнай газеты». Максіміліян Прушынскі, былы студэнт Політэхнічнага універсітэта ў Рызе, ажаніўся з жанчынай нямецкага паходжання, стаў бацькам чатырох дачок, памёр ва ўзросце каля пяцідзесяці гадоў. Дачка Зянона (Зеня) пасля вяртання са ссылкі закончыла Варшаўскую кансерваторыю, ажанілася з Дыянісіем Бекам (1865–1907), вядомым польскім публіцыстам і грамадскім дзеячам.

У Нацыянальнай бібліятэцы Варшавы захоўваюцца партрэты бацькоў Антонія Прушынскага, выкананыя ў 1858 і 1871 гг., фотаздымак сям'і Прушынскага з жонкай Пелагеяй і дзецьмі, а таксама іншыя фотаздымкі з калекцыі сына Конрада, зробленыя ў мінскай і варшаўскай майстэрнях Прушынскага. Акрамя гэтага фотаздымак А. Прушынскага, выкананы ў фотамайстэрні «А. Пуцята», захоўваецца ў зборах Гістарычнага музея Варшавы. *(Львоўская навуковая бібліятэка імя Васіля Стэфанэка (далей — ЛНБ), ф. Асалінскіх, спр. 4533, арк. 103; спр. 4535, арк. 46–47; Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (далей — ДАРФ), ф. 109, 1 эксп., 1865, спр. 31, арк. 278 адв.; там жа: 1871, спр. 62, арк. 457; Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей — РДГА), ф. 1286, воп. 29, спр. 1090, арк. 495–497; воп. 24, спр. 139, арк. 306. — Інф. М. Міціньскай); НГАБ, ф. 299, воп. 1, спр. 576, арк. 648–650; ф. 299, воп. 2, спр. 6062, арк. 70; ф. 299, воп. 2, спр. 6063, арк. 97; ф. 319, воп. 2, спр. 2639, арк. 14; Biblioteka Narodowa (далей — BN) rkps II. 5966; rkps I. 5977; F. 10452/W; F. 10467/W; F. 10470/W; F. 10474/G; Ендрыховская Б. Музыкальная жизнь польских ссыльных в Сибири в XIX веке // Сибирь в истории и культуре польского народа. М., 2002. С. 215; Кісялёў Г. Імгненне і вечнасць // Мастацтва Беларусі. 1984. № 6; Мулина С. А. Участники польского восстания 1863 года в западносибирской ссылке: Автореф. дис… канд. ист. наук. Омск, 2005; Пачынальнікі. С. 25; Пашкин Ю. А. Русский драматический театр в Белоруссии. Минск, 1980. С. 30; Томские губернские ведомости. 1870. № 12, 21 марта; Фотографическая иллюстрация. № 8/9. Минск, 1863. С. 10; Konarski K. Konrad Prószyński (Kazimierz Promyk). Warszawa, 1948; Lewicki S. Konrad Prószyński. Warszawa, 1987; Malinowski M. Dziennik / Wyd. M. Kridl. Wilno, 1914. S. 67; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 54; Ostromęcka J. Pamiętnik z lat 1862–1911 / Oprac. A. Brus. Warszawa, 2004. S. 42–44, 65, 254, 262; Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy. Katalog fotografii ze zbiorów Muzeum Historzcznego m. st. Warszawy. Cz. II. Zesłańcy syberyjscy / Oprac. E. Kamińska. Warszawa, 2005. S. 19, 323; PSB. T. 28. S. 565–568; Reymont S. Życie i działalność Konrada Prószyńskiego (Kazimierza Promyka). Warszawa, 1948; [Świętorzecki A.] Ze wspomnień. S. 121.)*

**Дабравольскі Міхал** (29.11.1831–17.08.1898) — шляхціц Мінскай губ., сын Міхала (н. каля 1794), суддзі Мінскага павятовага суда, калежскага асэсара, і Тэклі, брат Зыгмунта (н. 03.03.1823), тытулярнага саветніка, Уладзіслава (н. 01.06.1824), паручніка Нізаўскага егерскага палка, Эміліі Юліі (н. 21.10.1825), Анэлі (н. 03.09.1827) і Адэлаіды (н. 1833), праваслаўны па веравызнанні, хрышчаны ў Навасадскай Прылуцкай царкве. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, у 1850 г. меў намер паступаць у Санкт-Пецярбургскі універсітэт. У 1863 г. працаваў чыноўнікам у Канцылярыі мінскага губернатара, калежскі рэгістратар.

З пачатку 1860-х гг. Дабравольскі ўдзельнічаў у антыўрадавай дзейнасці. Перад паўстаннем з'яўляўся сябрам Таварыства апекі над рэпрэсаванымі палякамі-ўдзельнікамі супрацьурадавых маніфестацый 1860-х гг. Разам з К. Станкевічам і Я. Навакоўскім уваходзіў у склад мінскай паўстанцкай арганізацыі (памочнік начальніка горада). За ўдзел у паўстанцкай арганізацыі быў асуджаны па Віленскай акрузе. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі ад 19 чэрвеня 1864 г. пакараны на 12 гадоў цяжкіх работ у рудніках са стратай шляхецкіх правоў. 24 чэрвеня 1864 г. накладзена забарона на маёнтак Чачкава, які лічыўся за яго бацькам. Пакаранне Дабравольскі адбываў у Іркуцкай губ. Першую палёгку ён атрымаў 16 красавіка 1866 г. З 25 мая 1868 г. пераведзены на пасяленне ў Іркуцкай акрузе. З 1870 г. перабраўся ў Арэнбургскую губ., дзе знаходзіўся пад наглядам паліцыі. 13 мая 1871 г. Дабравольскаму вярнулі страчаныя правы. 22 жніўня 1881 г. атрымаў дазвол на мажлівасць паступлення на дзяржаўную службу з абмежаваннем пражывання ў сталіцах і гарадах заходніх губерняў. 15 мая 1883 г. гэтае абмежаванне было адмененае.

Пасля вяртання з ссылкі Дабравольскі жыў у брата ў г. Улацлавэк (Włocławek) Варшаўскай губ.

Фотаздымкі М. Дабравольскага знаходзяцца ў зборах Музея польскай арміі і Гістарычнага музея Варшавы, а таксама змешчаны ва ўспамінах Апалінарыя Свентаржыцкага. *(ДАРФ, ф. 109, 1 эксп., 1863, спр. 23, ч. 416, арк. 153; тасама: 1865, спр. 31, арк. 174, 341; тасама: 1866, спр. 8, арк. 239, 251; тасама: 1869, спр. 129, арк. 89; ЛНБ, ф. Асалінскіх, спр. 4533, арк. 32; РДГА, ф. 1286, воп. 31, спр. 1586, арк. 8–12. — Інф. М. Міціньскай); НГАБ, ф. 299, воп. 1, спр. 579, арк. 171 адв.; ф. 299, воп. 2, спр. 6062, арк. 28 адв.; ф. 299, воп. 2, спр. 6063, арк. 16 адв.; ф. 319, воп. 2, спр. 929; ЭГБ. Т. 3. С. 185; Fajnhauz D. 1863. Litwa i Białoruś. Warszawa, 1999. S. 70; Giller A. Spis Polaków będących w Usolu 1866–1868. [Poznań], 1872. S. 165; Lasocki W. Wspomnienia z mojego życia / Przygotował do druku M. Janik i F. Kopera. Kraków, 1934. T. II. S. 330; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 53, 54; Powstanie styczniowe i zesłańcy syberyjscy. Cz. II. S. 252, 254; Rok 1863 na Mińszczyźnie. Mińsk, 1927. S. 95, 105; Śliwowska W. Syberia w życiu i pamięci Gieysztorów — zesłańców postyczniowych. Wilno — Sybir — Wiatka — Warszawa. Warszawa, 2000. S. 172; [Świętorzecki A.] Ze wspomnień. S. 81.*

**Семірадскі Праспер Багуслаў** (н. 13.11.1838) **—** шляхціц з Мінска, сын Стэфана (н. каля 1800), рэгента Навагрудскага гродскага суда, па сведчанні Гейштара — доктар. Удзельнічаў у паўстанні 1863 г., за што на падставе рашэння М. Мураўёва ад 1 чэрвеня 1864 г. быў сасланы на жыхарства ў Ноўгарадскую губ. Па інфармацыі Ж. Клюкоўскага, ён атруціўся па дарозе ў ссылку. *(ДАРФ, ф. 109, 1 эксп., 1863, спр. 23, ч. 416, арк. 103 адв.; ЛНБ, ф. Асалінскіх, спр. 4535, арк. 245; РДГА, ф. 1286, воп. 50, спр. 488, арк. 61 адв. — Інф. М. Міціньскай); НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 2946, арк. 22, 95, 117 адв.; Gieysztor J. Pamiętniki. T. I. S. 405; Klukowski Z. Lekarze zesłańcy po powstaniu 1863 r. // Lekarz Wojskowy. 1927. T. IX. S. 20; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 53.*

**Валодзька Валерый (Валяр'ян)** — памешчык Мінскага і Бабруйскага пав. Мінскай губ., уласнік маёнтка Забалацце Бабруйскага пав., жыў у Мінску. У паўстанні 1863 г. дзейнічаў пад прозвішчам Вацлаў Кошчыц, уваходзіў у склад атрада Паўла Дыбоўскага. 30 сакавіка 1864 г. быў накладзены секвестр на яго частку маёнтка Рубяжэвічы.

У пасляпаўстанцкі перыяд, як пазначае Г. Кісялёў, нейкі час знаходзіўся ў Турцыі, дзе будаваў масты. Пакінуў шэраг успамінаў, у тым ліку пра ўдзел у паўстанні. *Koszczyc W. Wspomnienia z powstania województwa mińskiego w r. 1863 // Polska w walce. Zbiór wspomnień i pamiętników z dziejów naszego wyjarzmienia / Wydał A. Giler. Kraków, 1875. S. 183–318; НГАБ, ф. 299, воп. 2, спр. 6062, арк. 16–16 адв.; ф. 299, воп. 2, спр. 6063, арк. 4 адв.; ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 204 адв.; Кісялёў Г. На пераломе дзвюх эпох: Паўстанне 1863 г. на Міншчыне. Мінск, 1990. С. 20; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 53, 54.*

**Навакоўскі Ян** (н. каля 1835 (1831?) — шляхціц Мінскай губ., сын Отана. Закончыў Пецярбургскі універсітэт. У 1862 г. выступаў адвакатам у крымінальных справах у мінскім судзе, калегіяльны сакратар. Сям'і не меў.

Перад паўстаннем 1863 г. з'яўляўся сябрам Таварыства апекі над рэпрэсаванымі палякамі-ўдзельнікамі супрацьурадавых маніфестацый 60-х гг. Уваходзіў у склад мінскай паўстанцкай арганізацыі разам з М. Дабравольскім і К. Станкевічам. Быў арыштаваны за ўдзел у выступленнях, якія адбываліся ў Мінску ў лістападзе 1862 г. падчас выбараў мясцовага маршалка. На падставе рашэння генерал-губернатара Паўночна-Заходняга краю ад 12 студзеня 1863 г. Навакоўскага саслалі на жыхарства ў Вяцкую губ. Прыбыў ён у Вятку ў студзені 1863 г., з 22 лютага 1863 г. знаходзіўся пад паліцэйскім наглядам. 17 сакавіка 1864 г. Навакоўскі быў пераведзены ў Арол, але 21 жніўня гэтага ж году зноў вернуты ў Вятку. На падставе маніфеста ад 17 мая 1867 г. Навакоўскі быў 18 красавіка 1868 г. вызвалены з-пад нагляду паліцыі без права вяртання на радзіму. Праз нейкі час ён выехаў у Варшаву. *(ДАРФ, ф. 109, 1 эксп., 1863, спр. 23, ч. 416, арк. 103; ЛНБ, ф. Асалінскіх, спр. 4535, арк. 243; РДГА, ф. 1286, воп. 50, спр. 488, арк. 11 адв. — Інф. М. Міцінькай); Мулина С. А. Участники; Fajnhauz D. 1863. S. 70; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 53, 54; [Świętorzecki A.] Ze wspomnień. S. 81.*

**Любічанкоўскі Юзаф Леапольд** (х. 13.12.1835) — шляхціц Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Яна, надворнага саветніка, і Юзэфы, брат Отана (х. 31.7.1814) і Напалеона Браніслава (х. 8.9.1821), мінскага гарадскога ўрача. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1898; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 53; Na nieznane losy. S. 96.*

**Станкевіч Караль** (н. каля 1833 (1834)—1898) — шляхціц Ковенскай губ., па звестках Я. Гейштара, нарадзіўся ў Мінску, сын Іллі, брат Рамуальда Каспера (1837–1864), звязанага з расійскай арганізацыяй «Зямля і воля», удзельніка паўстання 1863 г. Закончыў Горы-Горацкі сельскагаспадарчы інстытут. На пачатку 1860-х гг. працаваў справаводам у Мінскай палаце дзяржаўных маёмасцяў. Перад паўстаннем з'яўляўся сябрам Таварыства апекі над рэпрэсаванымі палякамі-ўдзельнікамі супрацьурадавых маніфестацый 1860-х гг. Распаўсюджваў сярод сялянаў падручнікі польскай мовы. Сам з'яўляўся аўтарам прац па сацыяльнай тэматыцы, якія распаўсюджваліся ці ў друкаваным, ці ў рукапісным выглядзе.

Падчас візіту Уладзіслава Міцкевіча ў Мінск удзельнічаў у канспірацыйным сходзе, які адбываўся ў доме Аляксандра Валіцкага, дзе абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з будучым паўстаннем. У лістападзе 1862 г. удзельнічаў у працы губернскіх шляхецкіх сеймікаў, на якіх разглядаўся праект складання на імя Аляксандра II адраса з патрабаваннем аб'яднання Літвы з Каралеўствам Польскім.

У 1863 г. уваходзіў у склад мінскай паўстанцкай арганізацыі разам з М. Дабравольскім і Я. Навакоўскім. На першым этапе паўстання адыгрываў у ім значную ролю. З 15 лютага да 15 лістапада 1863 г. знаходзіўся пад следствам у Мінскай следчай камісіі, утрымліваўся пад арыштам за прыналежнасць да паўстанцкай арганізацыі. Па канфірмацыі М. Мураўёва перад 1 ліпеня 1864 г. прызначаны да ссылкі «ў найбольш аддаленыя месцы Сібіры». 7 лютага 1865 г. прыбыў у Табольск, адкуль 3 сакавіка гэтага ж года адпраўлены з партыяй ссыльных далей ва Усходнюю Сібір. 27 красавіка 1865 г. знаходзіўся ў Краснаярску. 16 мая яго выслалі на падводзе ў Іркуцкую губ. Аднак на падставе маніфеста ад 17 мая 1868 г. быў пераведзены пад нагляд паліцыі ў Вяцкую губ. З 25 лютага 1871 г. Станкевіч жыў у гэтай губ. у г. Слабадское. 30 ліпеня 1871 г. ён ажаніўся са шляхцянкай з Мінскай губ. Адэляй Вяржбоўскай, дачкой Аўгусціна Вяржбоўскага. Сведкам гэтых падзей быў Якуб Гейштар. У далейшым Станкевіч жыў у Вятцы, працаваў бухгалтарам у купца А. Красоўскага, а таксама ў Крэдытным таварыстве. 25 студзеня 1872 г. быў вызвалены з-пад нагляду паліцыі, аднак права на вяртанне на радзіму не атрымаў. Меў дачку Ганну (1875–1928) і сына Стэфана (6.1.1877–1906), выпускніка Пецярбургскага тэналагічнага інстытута.

16 ліпеня 1883 г. К. Станкевіч выехаў у Варшаву, дзе затым працаваў архівістам у Гандлёвым банку. Памёр у Варшаве. *(ДАРФ, ф. 109, 1 эксп., 1863, спр. 23, ч. 416, арк. 82; тасама: 1865, спр. 31, арк. 174, 347 адв., 510; тасама: 1867, спр. 55, арк. 259–260, 267 адв.; тасама: 1869, спр. 17, ч. 354; тасама: спр. 129, арк. 71 адв.; ЛНБ, ф. Асалінскіх, спр. 4533, арк. 124; тасама: спр. 4535, арк. 144; Нацыянальны архіў Рэспублікі Татарстан у г. Казань (далей — НАРТ), ф. 709, воп. 22, спр. 1, арк. 42. — Інф. М. Міцінькай); Кісялёў Г. На пераломе. С. 9; Fajnhauz D. 1863. S. 70; Gieysztor J. Pamiętniki. T. 2. S. 305; Lasocki W. Wspomnienia. T. II. S. 206; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 54; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 56; PSB. T. XLII. S. 188–189; Rok 1863 na Mińszczyźnie. S. 31, 47, 75, 104; Śliwowska W. Syberia. S. 327; [Świętorzecki A.] Ze wspomnień. S. 81.*

**Барташэвіч Юзаф** (н. каля 1838) — шляхціц, сын Ануфрыя. Працаваў урднікам у канцылярыі Мінскай палаты грамадзянскага суда. Падчас падзей 1863 г. абвінавачваўся ва ўдзеле ў маніфестацыях. Па рашэнні М. Мураўёва перад 1 чэрвеня 1864 г. быў прымусова адпраўлены на службу ў войска. Адбываў пакаранне ў заходнесібірскіх батальёнах у Табольскай губ. На падставе ўласнага жадання пасля звальнення са службы атрымаў дазвол на жыхарства ў Цюмені, дзе займаўся юрыдычнай практыкай у Альфонса Козел-Паклеўскага і іншых мясцовых купцоў і прадпрымальнікаў. У ліпені 1872 г. на падставе пункта № 3 маніфеста ад 13/17 мая 1871 г. быў вызвалены з-пад нагляду паліцыі з абмежаваннямі. У студзені 1873 г. жыў у Табольскай губ. Сям'і не меў. *(Дзяржаўны архіў Арэнбургскай вобласці ў г. Омску (далей — ДААВ), ф. 3, воп. 6, спр. 9081, арк. 31–33, 42; ДАРФ, ф. 109, 1 эксп., 1863, спр. 23, ч. 228, арк. 190–190 адв.; тасама: ч. 416, арк. 103; РДГА, ф. 1286, воп. 34, спр. 1096, арк. 2. — Інф. М. Міцінькай); Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 54.*

**Караткевіч Мікалай** (п. каля 1865) — шляхціц Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Яна, брат Фёдара, жанаты з Апалоніяй. У 1843–1848 гг. Караткевіч з'яўляўся канцылярыстам люстрацыйнага аддзялення Мінскай палаты дзяржаўных маёмасцяў. У перыяд 10.8.1848–27.08.1849 пераведзены на пасаду лічыльніка ў гэтай установе. У 1851 г. Караткевіч знаходзіўся на пасадзе памочніка люстратара і меў чын калежскага сакратара. Меў сыноў Аляксандра (н. 03.01.1856) і Мікалая (н. 05.01.1859).

Пісаў вершы на польскай і беларускай мовах. У так званым Альбоме Вярыгі-Дарэўскага (1858–1863) упісаны яго верш на беларускай мове, датаваны 4 лістапада 1858 г.

У альбоме фотаздымкаў Уладзіслава Міцкевіча на трэцяй старонцы пад ініцыяламі М. К. змешчаны яго тост на польскай мове. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1523, арк. 106, 118 адв., 124–125, 135, 149, 151, 174, 188, 192; Пачынальнікі. С. 259–260; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 53, 54; Zienkewicz T. Śladami ojca. S. 344.*

**Янкоўскі Міхал Караль** — шляхціц Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Усціна, урач, ардынатар шпіталя старавераў у Мінску. Быў арыштаваны па абвінавачванні ў палітычнай ненадзейнасці, але пад следства не трапіў. Па рашэнні М. Мураўёва ад кастрычніка 1863 г. сасланы на пасяленне ў Тамбоўскую губ. Відавочна, на пачатку 1867 г. атрымаў дазвол на жыхарства ў Польшчы, бо 17 мая 1867 г. запісаны ў лік сталых жыхароў Варшавы.

У студзені 1875 г. у адпаведнасці з маніфестам ад 9 января 1874 г. прыбыў у Мінск. Па звестках на снежань 1876 г., жыў у Мінску на Саборнай плошчы, займаўся прыватнай урачэбнай практыкай. *(ДАРФ, ф. 109, 1 эксп., 1863, спр. 23, ч. 416, арк. 103 адв.; тасама: 1874, спр. 38, арк. 279, 280–280 адв.; ЛНБ, ф. Асалінскіх, спр. 4535, арк. 244; РДГА, ф. 1286, воп. 50, спр. 488, арк. 61. — Інф. М. Міціньскай); НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 3026, арк. 9; спр. 3492, арк. 52 адв.—53; ф. 319, воп. 2, спр. 3760, арк. 208; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 54.*

**Мірскі Яўген** — па сведчанні А. Смародскага, на пачатку 60-х гг. XIX ст. быў дырэктрам Мінскага гарадскога тэатра. Выступаў разам з Юзафам Снядэцкім арганізатарам сустрэчы з нагоды прыезду ў Мінск Уладзіслава Міцкевіча. *Памятная книжка Минской губернии на 1891 год. Минск, 1890. С. 84; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 51, 53, 54.*

**Снядэцкі Юзаф Анджэй (?)** (п. 1893) — сын Юзафа (п. 1856), унук Анджэя Снядэцкага, уласнік маёнткаў Варняны Вілейскага пав. і Балтупы Ашмянскага пав., жонка Марыя Верашчынская. На працягу 1858–1862 (1859–1861) гг. з'яўляўся дырэктарам Мінскага гарадскога тэатра, што лічыцца перыядам росквіту тэатра. Акцёрская трупа тэатра налічвала 30 чалавек, акрамя гэтага, ён меў аркестр, які налічваў 30 музыкантаў. У 1861 г. тэатр выязджаў на гастролі ў Бабруйск і Магілёў. На сцэне тэатра ставіліся пастаноўкі як на рускай, так і польскай мовах. Па сцвярджэнні А. Смародскага, Снядэцкі самастойна адмовіўся ад выканання абавязкаў дырэктара тэатра.

18 сакавіка 1861 г. Снядэцкі арганізоўваў у Мінску сустрэчу ў гонар Уладзіслава Міцкевіча. *НГАБ, ф. 24, воп. 1, спр. 1262, арк. 2, 3; Гісторыя беларускага тэатра. У 3 т. Т. 1. Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г. / М. Каладзінскі, А. Мальдзіс, І. Ягорава і інш. Мінск, 1983. С. 248, 250; Памятная книжка Минской губернии на 1891 год. Минск, 1890. С. 82, 84–85; Пашкин Ю. А. Русский драматический театр. С. 22–23, 25; Gazeta Codzienna. 1860. Nr 195 z 16/28 VII; Jankowski Cz. Powiat oszmiański. Materiały do dziejów ziemi i ludzi. Petersburg, 1896–1898. Cz. 1. S. 187–188; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 51, 53; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765–1965. Warszawa, 1973. S. 728; Zienkewicz T. Śladami ojca. S. 344.*

**Ванькові́ч Адам** (1827–24.12.1895) — памешчык Мінскага пав., старэйшы сын мастака Валенція Ваньковіча і Анелі Растоцкай, брат Казіміра, Яна Эдварда і Алены, нарадзіўся ў Сляпянцы, уласнік маёнткаў Сляпянка і Дуды (да яго перайшла каштоўная мастацкая калекцыя бацькі, якая захоўвалася ў Малой Сляпянцы), католік па веравызнанні.

Навучаўся А. Ваньковіч пачаткова ў Мінскай гімназіі, куды паступіў у жніўні 1839 г. 16 жніўня 1843 г. паступіў у Кандуктарскую роту Галоўнага інжынернага вучылішча

(у будучым Мікалаеўскага). 13 чэрвеня 1848 г. атрымаў чын прапаршчыка інжынерных войскаў. 25 чэрвеня 1849 г. Ваньковіч быў пераведзены ў 2-і рэзервовы сапёрны батальён, а 11 ліпеня 1851 г. атрымаў чын падпаручніка. 14 красавіка 1854 г. ён становіцца паручнікам і з-за хваробы выходзіць у адстаўку. У 1859 г. Ваньковіч становіцца старшынёй Мінскага сумленнага (совестного) суда, 24 мая 1860 г. яго зацвярджаюць Мінскім сумленным суддзёй, а з 1861 г. ён працуе ў Мінскай губернскай установе па сялянскіх справах, за што 17 красавіка 1861 г. быў узнагароджаны сярэбраным медалём на Аляксандраўскай стужцы.

У 1854 г. Адам Ваньковіч ажаніўся. Яго абранніцай стала Амелія Клячкоўская, з якой ён меў шэсць сыноў: Баляслава Фелікса (н.18.08.1855), Маўрыцыя Дыанізія (н. 03.10.1856), Францішка Салезія Валенція (н. 29.01.1858), Караля Эразма (н. 04.06.1859), Вацлава Станіслава (н. 27.09.1860) і Адама Юзафа (н. 09.05.1864).

У паўстанні 1863 г. Ваньковіч уваходзіў у склад мінскай паўстанцкай арганізацыі, займаючы пасаду мінскага камісара, з'яўляючыся адным з кіраўнікоў паўстанцаў па Мінскім пав. Аднак з цягам часу ён выйшаў са складу арганізацыі. Нягледзячы на гэта, Ваньковіч быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў Мінскай турме. Па канфірмацыі камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі за прыналежнасць да паўстанцкай арганізацыі яго пазбавілі правоў стану і пакаралі ссылкай у аддаленыя раёны Сібіры. 2 красавіка 1864 г. быў накладзены секвестр на маёнтак Малая Сляпянка, а рухомая маёмасць была ацэненая ў 83 руб. У далейшым маёнтак і мастацкая калекцыя былі канфіскаваныя.

Ссылку Ваньковіч адбываў без сваёй сям'і. Жонка з дзецьмі перабраліся з Мінска ў свой маёнтак Мікелеўшчына Сакольскага пав. Гродзенскай губ. З 24 мая 1870 г. Ваньковіч жыў у Казані, дзе з кастрычніку 1870 г. месцам яго жыхарства быў дом Марусава на Рыбнарадскай вуліцы. У Казань ён прыбыў з Табольскай губ. праз Астрахань.

На радзіму Ваньковіч вярнуўся ў 1871 г. У 1875 г. ён жыў у маёнтку Галынка Аўгустоўскага пав. Сувалкаўскай губ., з 1876 г. перабраўся на сталае жыхарства да сваёй сям'і ў Мікелеўшчыну, дзе і памёр.

Якуб Гейштар змяшчае ва ўспамінах яго фотаздымак. *НГАБ, ф. 146, воп. 2, спр. 497; ф. 147, воп. 3, спр. 6057; ф. 147, воп. 3, спр. 6087; ф. 299, воп. 1, спр. 579, арк. 165–167, 171; ф. 299, воп. 2, спр. 6062, арк. 17–17 адв.; ф. 299, воп. 2, спр. 6063, арк. 5 адв.; ф. 319, воп. 2, спр. 440; ф. 319, воп. 3, спр. 108; Павлов В. А. Губернские и уездные органы власти и политическая ссылка в Российской империи (по материалам ссылки в Казанскую губернию участников восстания 1863–1864 гг.). Чебоксары, 2006. С. 126–127; Сычева Н. В. Семейные хроники рода Ваньковичей // Музеі XXI стагоддзя: актуальныя праблемы дзейнасці. Мінск, 2008. С. 309–313; Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Przeczypospolitej. T. 1. Województwa mińskie, mścisławskie, połockie, witebskie. Wrocław, 1991. S. 159; Bielecki R. [et al.]. Polacy pochowani na cmentarzu Montmartre oraz Saint-Vincent i Batignolies w Paryżu. Warszawa, 1999. S. 191; Gieysztor J. Pamiętniki. T. I. S. 254, 259, 403–404; T. 2. S. 148; Kowalewska Z. Obrazki Mińskie (1850–1863). Wilno, 1912. S. 31; Niebielski E. Listy Mielchiora Wańkowicza do Henryka Wiercieńskiego w sprawie pamiątek po ojcu Melchiorze — zesłańcu z 1863 roku // Wrocławskie Studia Wschodnie. R. 10. Wrocław, 2006. S. 243–250; Rok 1863 na Mińszczyźnie. S. 95, 105; Śliwowska W. Syberia. S. 356; [Świętorzecki A.] Ze wspomnień. S. 10, 11, 22.*

**Туганоўскі Канстанцін** (каля 1810–1863) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Вікенція, жанаты з Соф'яй Верашчакай, ад якой атрымаў маёнтак Тугановічы, якія папярэдне належаў Юзафу Верашчаку і куды неаднаразова прыязджаў Адам Міцкевіч да Міхала Верашчакі, акрамя гэтага валодаў маёнткам Рудашы, католік па веравызнанні.

Туганоўскі закончыў поўны курс навучання ў Віленскім універсітэце, пасля чаго 19 сакавіка 1835 г. быў залічаны ў штат канцылярыі Гродзенскага губернскага межавага суда канцылярыстам. 21 студзеня 1835 г. ён атрымаў чын губернскага сакратара. 9 верасня 1840 г. у сувязі з закрыццём межавых судоў быў пакінуты за штатам. 29 студзеня 1843 г. удзельнічаў у арганізаваным у Далматаўшчыне святкаванні, арганізаваным з нагоды імянінаў Тамаша Зана пасля яго вяртання з Сібіры. Туганоўскі меў дачыненне да дзейнасці Навагрудскай бібліятэкі, у фонды якой каля 1860 г. ахвяраваў 105 выданняў у 251 томе на французскай мове.

Удзельнічаў у паўстанні 1863 г., уваходзіў у склад навагрудскай паўстанцкай арганізацыі, дзе выконваў абавязкі акруговага начальніка. Быў арыштаваны і зняволены. Памёр у турме ў Вільні падчас следства. Хутка памерла таксама яго жонка і дзве дачкі. Апошняя яго дачка Юзэфа Туганоўская, паміраючы ў 1930 г., ахвяравала маёнтак Тугановічы дзяржаве.

У 1861 г. яго маёнтак Тугановічы наведаў сын Адама Міцкевіча Уладзіслаў. *НГАБ, ф. 299, воп. 5, спр. 182, арк. 1–2, 17–18 адв.; ф. 319, воп. 3, спр. 297; ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 32 адв.; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 387–389; Kowkiel L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie w pierwszej połowie XIX wieku. Kraków, 2005. S. 56, 79, 144, 191; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 56–60; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 40, 56; Pawłowicz E. Wspomnienia. S. 52; яго ж: Wspomnienia z nad Wilii i Niemna. Lwów, 1882. S. 77, 170; яго ж: Nowogródek. S. 64, 127; Śnieżko A. Dworek Mickiewiczowski. S. 45, 70–71.*

**Умястоўскі Уладзіслаў** (1833–1905) — шляхціц Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Казіміра (п. 1863), ашмянскага маршалка, і Юзэфы Дунін-Раецкай (1814–1877), брат Альберта (п. 1876), сясцёр Аляксандры і Габрыэлі. Уласнік маёнтка Кашалёва, які атрымаў ад цёткі (роднай сястры маці) Аляксандры Вільгельміны (1819–1881), дачкі навагрудскага маршалка Францішка Дуніна-Раецкага; маёнткаў Клевіцы, Алберцін, Канвалішкі. Маёнткі Нянькава і Пузіневічы Навагрудскага пав. атрымаў ад маткі. У 1882 г. ажаніўся з Янінай Астрарог-Садоўскай, ад якой дзяцей не меў.

З 1879 г. троцкі маршалак, у 1882 г. атрымаў графскі тытул. Пасля смерці брата Альберта яму перайшла багатая калекцыя старадрукаў, мастацтва і нумізматыкі, якую апошні планаваў перадаць у Акадэмію Умейтнасці ў Кракаве ці Ягелонскую бібліятэку. *Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 231–233, 274; Jankowski Cz. Powiat oszmiański. Cz. 3. S. 128–171; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 58.*

**Брахоцкі Антоній Ігнацій Юзаф Валенцій** (х. 10.04.1824) **—** памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., паходзіў з роду Брахоцкіх герба «Праўдзіц», сын Роха (н. каля 1763), стольніка, і Аляксандры Алендскай, брат Уладзіслава і Аляксандра Канстанціна Эзехіля (х. 03.05.1819), апошняга ашмянскага маршалка, жонка Антаніна (н. 1838), католік па веравызнанні. З’яўляўся ўласнікам маёнтка Морына Навагрудскага пав., які пасля яго смерці перайшоў у пажыццёвае карыстанне жонцы. Меў чын губернскага сакратара. Удзельнік паўстання 1863 г., за што быў сасланы. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 275, арк. 3–6, 17, 20, 32, 37; ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 23 адв.; ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 12; Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Przeczypospolitej. T. 2. Województwa nowogródzkie, brzesko-litewskie. Wrocław, 1993. S. 215; Jankowski Cz. Powiat oszmiański. Cz.2. S. 270; Cz. 3. S. 94.*

**Брахоцкі Уладзіслаў Казімір Гіпаліт** (х. 30.05.1816–10.12.1896) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Роха і Аляксандры Алендскай, брат Антонія (1824–

1885) і Аляксандра, разам з братамі саўладальнік маёнткаў Морына і Гаўя, а таксама маёнтка Вераскава Навагрудскага пав., які перайшоў да яго ад жонкі пасля шлюбу, жанаты з Аленай Дыбоўскай (1823–1878), дачкой старшыні Навагрудскага гродскага суда Тамаша Дыбоўскага, каталік па веравызнанні. Вучыўся ў Віленскім універсітэце. 22 мая 1829 г. атрымаў чын калежскага сакратара.

22 студзеня 1831 г. падпісаў адрас ад імя таварыства Згуртаванне братоў да варшаўскага сейма. У 1831 г. дзейнічаў пад кіраўніцтвам свайго дзядзькі Валенція Брахоцкага, затым паручнік 13-га ўланскага палка, у складзе якога дайшоў да Варшавы, дзе 8 жніўня 1831 г. удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранні дэпутатаў на сейм. 5 кастрычніка 1831 г. прыбыў з Мацеем Рыбінскім у Прусію. Маёнткі трапілі пад секвестр. Знаходзіўся за мяжой 3 гады, пасля звяртаўся да ўладаў з просьбай аб літасці. У працэсе разгляду справы яго ўдзел у паўстанні быў ацэнены як непаўналетняга, што ставіць пад сумненне дату яго нараджэння 24 студзеня 1810 г., прыведзеную ў Польскім біяграфічным слоўніку. У якасці пакарання быў скіраваны на прымусовую ўрадавую службу пры віленскім генерал-губернатары Мікалае Далгарукаве. Пасля трох гадоў пакінуў службу і пасяліўся ў родавым маёнтку Гаўя ў Навагрудскім павеце.

З 1856 г. на падставе запрашэння Яўстафія Тышкевіча становіцца членам-дабрачынцам Віленскай археалагічнай камісіі. У перыяд 1858–1863 гг. з'яўляўся апошнім маршалкам Навагрудскага пав. У 1860 г. выступіў адным з ініцыятараў заснавання Навагрудскай бібліятэцы, выступаючы таксама яе ганаровым куратарам. У 1861 г. ахвяраваў гэтай бібліятэцы 64 выдання ў 111 тамах і акрамя гэтага выдаў сродкі на яе заснаванне і ўтрыманне. Зборы Навагрудскай бібліятэкі, канфіскаваныя пасля паўстання 1863 г., былі перавезеныя ў Вільню.

Падчас прыезду Уладзіслава Міцкевіча вясной 1861 г. у Навагрудак Брахоцкі з'яўляўся арганізатарам сустрэчы, арганізаванай у яго гонар.

У паўстанні 1863 г. належаў да навагрудскай паўстанцкай арганізацыі. Сярод паўстанцаў знаходзіўся таксама яго родны брат Антоній, маршалак Ашмянскага пав., сасланы ва Уфімскую губ. Акрамя гэтага, у яго маёнтку пры дапамозе жонкі Алены Дыбоўскай хаваліся паўстанцы. З 24 мая 1863 г. трапіў пад следства Мінскай следчай камісіі. У выніку ён быў асуджаны за тое, што не паведаміў уладам аб прапанове Канстанціна Кашыца ўзначаліць выступленне ў Навагрудскім павеце, а таксама за фінансавую дапамогу паўстанцам, на патрэбы якіх выдаў грошы з кіраванага ім маёнтка Умястоўскай. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі ад 13 студзеня 1864 г. Брахоцкі быў асуджаны на ўтрыманне пад пільным паліцэйскім наглядам і 10-працэнтную кантрыбуцыю з маёнтка. 22 студзеня 1864 г. ён быў высланы на жыхарства ў Пермскую губ. У 1865 г. атрымаў дазвол на часовы прыезд у Навагрудскі пав. У 1867 г. Брахоцкі ўжо жыў у Рызе, а ў 1873 г. ён знаходзіўся ў Адэсе, дзе атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Як пазначае Р. Афтаназі, у 1874 г. Брахоцкі вярнуўся ў Вераскава і заставаўся там да канца жыцця, займаючыся гаспадаркай. Па дакументах на 1878 г., Брахоцкі быў удаўцом. Памёр у Вераскава.

З каштоўных збораў, якімі валодалі Брахоцкія, амаль нічога не захавалася. Большасць з іх знікла яшчэ перад 1939 г. Узгадваецца толькі аб сярэбраным посудзе з гербам Дыбоўскіх і партрэтах самога Брахоцкага і яго жонкі Алены Дыбоўскай. У Нацыянальнай бібліятэцы Варшавы захоўваецца яго фотаздымак, зроблены ў 1885–1890 гг. у віленскай майстэрні «Братоў Чыж». *(Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей — LVIA), f. 1248, ap. 2, b. 970, l. 626, 631 v.—632. — Інф. М. Міціньскай); НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 3026, арк. 19; спр. 3492, арк. 40 адв.; ф. 319, воп. 2, спр. 275, арк. 4–5, 17, 20; ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 12; Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў (далей — РДВГА), ф. 1, воп. 1, спр. 12031, ч. 8, арк. 32; BN F. 3726/II-2; BPP, rkps 380, s. 22; Гарба-*

*чова В. В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі. Мінск, 2001. С. 155; яе ж: Удзельнікі паўстання 1830–1831 гадоў на Беларусі: біябібліяграфічны слоўнік. Мінск, 2006. С. 61; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 215, 216, 394, 395; Bielecki R. Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. Warszawa, 1995. T. 1. S. 250; Dyaryusz Sejmu z r. 1830–1831 / Wyd. M. Rostworowski. Kraków, 1912. T. 6. S. 386; Ilgiewicz H. Wileńskie towarzystwa i instytucje naukowe. Toruń, 2005. S. 361; Jankowski Cz. Powiat oszmiański. Cz.2. S. 270; Cz. 3. S. 94; Kowkiel L. Prywatne księgozbiory. S. 57, 79, 165; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 55, 56, 57; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 35, 46, 48, 55, 56; Pawłowicz E. Wspomnienia. S. 53, 66; яго ж: Nowogródek. S. 59, 65; PSB. T. 2. S. 440; Rok 1863 na Mińszczyźnie. S. 13, 58, 77, 122, 123; Zdanie sprawy przez Braci Zjednoczonych z tego co w celu oswobodzienia Litwy, Wołynia, Podoła i Ukrainy w sprzecągu czterech miesięcy od dnia rewolucyi 29 listopada na wolnej ziemi polskiej działano. Warszawa, 1831. S. 17.*

**Бялапятровіч Караль** (х. 12.08.1792 — п. пасля 1864) — памешчык Слуцкага і Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Юрыя і Кунегунды Буржымоўскай, брат Юрыя (12.04.1785–18.03.1871), жанатага з Кунегундай Гедройц (1793–1883), вядомай пісьменніцы і грамадскай дзяячкі на эміграцыі, адстаўнога капітана польскіх войскаў, эмігранта, жанаты з Міхалінай, уласнік маёнтка Брацянка Навагрудскага пав., адстаўны паручнік польскіх войскаў, навагрудскі падкаморый. З 1812 г. знаходзіўся на ваеннай службе ў 22-м пяхотным палку, 11 жніўня 1812 г. атрымаў чын паручніка. Удзельнічаў у кампаніі 1812 г., трапіў у палон. 30 снежня 1815 г. быў дэмабілізаваны з вайсковай службы. Удзельнік паўстання 1831 г., дзейнічаў у складзе атрада Юзафа Кашыца, затым далучыўся да фарміравання Генрыка Дэмбінскага, дзе выступаў у чыне капітана атрада навагрудскай конніцы, у складзе якога прыбыў у Варшаву. 8 жніўня 1831 г. у Варшаве ўдзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранні дэпутатаў на сейм. 14 верасня 1831 г. адзначаны залатым крыжам Virtuti Militari. Па рашэнні Гродзенскай губернскай следчай камісіі ад 8 кастрычніка 1832 г. быў аднесены да 2-га разраду злачынцаў, на маёнтак Брацянка быў накладзены секвестр.

Пасля дэмабілізацыі і да 1864 г. жыў у сваім маёнтку Брацянка. Каля 1860 г. ахвяраваў Навагрудскай бібліятэцы адно выданне. Меў сыноў Юрыя Тадэвуша (н. 19.11.1833) і Станіслава Міхала Эдварда (х. 23.09.1839). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 388, арк. 206, 215, 226, 241, 248, 252, 288, 334, 412; ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 23; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 37; РДВГА, ф. 1, воп. 1, спр. 12031, ч. 8, арк. 41; Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie (далей — AGAD), WCPL, nr 724, k. 64; BPP, rkps 380, s. 21; Гарбачова В. В. Удзельнікі паўстання. С. 71; Bielecki R. Słownik. T. 1. S. 190; Dyaryusz Sejmu z r. 1830–1831. T. 6. S. 385; Kowkiel L. Prywatne księgozbiory. S. 163; Księga pamiątkowa w 50-letnią rocznicę powstania roku 1830, zawierająca spis imienny dowódców i sztabsoficerów tudzież oficerów, podoficerów i żołnierzy armii polskiej w tymże roku krzyżem wojskowym «Virtuti Militari» ozdobionych. Lwów, 1881. S. 146; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 30; PSB. T. 2. S. 16.*

**Чачот Альбін Юльян** (н. каля 1810 (1806?) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., паходзіў з роду Чачотаў герба «Астоя», прадстаўнікі якога вядомы ў Слонімскім павеце з XVI ст., а пазней рассяліліся ў Навагрудскім і Мінскім пав., сын Тадэвуша, уласнік маёнтка Асташын, жанаты з Фаўнай Венічук (?), меў дачку, католік па веравызнанні. Вучыўся ў Віленскім універсітэце. 28 студзеня 1834 г. быў абраны суддзёй Гродзенскага губернскага межавага суда. 25 студзеня 1837 г. абіраецца старшынёй Навагрудскага павятовага межавага суда. 17 студзеня 1840 г. становіцца апекуном сельскіх запасных магазінаў. Меў сына Рышарда Тадэвуша Адама Альбіна (н. 1846), які вучыўся ў Грод-

зенскай гімназіі, дачку Канстанцыю (н. 1855). У 1878 г. быў удаўцом. *НГАБ, ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 33 адв.; ф. 319, воп. 3, спр. 310; ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 100; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 314; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57.*

**Наргілевіч Ян Тадэвуш** (1825–03.11.1886) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., уласнік маёнтка Войнава, жанаты з Мальвінай Дыбоўскай (н. 1845). Вучыўся ў Дэрпцкім універсітэце. Валодаў бібліятэкай, якая налічвала каля 20 тысяч тамоў. Большасць кніг была на замежных мовах, тычылася геаграфіі, этнаграфіі і падарожжаў. Каля 1860 г. Наргілевіч ахвяраваў Навагрудскай бібліятэцы 12 выданняў у 42 тамах. У 1878 г. жыў у сваім маёнтку Войнава. Памёр у Варшаве.

Пасля яго смерці частка бібліятэкі перайшла да Урублеўскага, а астатняя частка да ўдавы Мальвіны Дыбоўскай. Пазней удава выкупіла кнігі, трапіўшыя да Урублеўскага, і ў 1903 г. ахвяравала Бібліятэцы Асалінскіх у Львове 3 684 выдання ў 8 790 тамах, а таксама некалькі дзесяткаў атласаў. У 1900 г. у Вільні быў выдадзены рускамоўны каталог кніг бібліятэкі Я. Наргілевіча.

У Войнава пасля вяртання са ссылкі жыў знакаміты даследчык Бенядзікт Дыбоўскі, брат Мальвіны Наргілевіч.

Партрэт Яна і Мальвіны Наргілевічаў змешчаны ў выданні С. Васілеўскага. *НГАБ, ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 62; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 394; Dybowski B. Wspomnienia z przeszłości półwiekowej. Lwów, 1913. S. 3, 12–13, 16–17, 47; Fiszer A. Zakład Narodowy imienia Ossolińskich (Ossolineum) 1817–1917. Lwów, 1917. S. 74–77; Kowkiel L. Prywatne księgozbiory. S. 23, 74, 144, 151, 179; Maliszewski J. Powstanie styczniowe. Warszawa, 1932. S. 100; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57; Słownik biograficzny pracowników książki Polskiej. S. 620–621; Wasylewski S. Pod kopułą.*

**Несялоўскі Медард Аўгуст Станіслаў** (н. 29.06.1833) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ. герба «Корзбак», сын Антонія (н. каля 1786, у 1831–1845 гг.), адстаўнога капітана польскіх войскаў, уласніка маёнтка Сэрвач, брат Сільверыуша Казіміра Ануфрыя (н. каля 1825, у 1831–1836 гг.), каталік па веравызнанню. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 2231, арк. 25, 36, 38, 40, 60–60 адв.; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57.*

**Верашчака Стэфан Ян Мікалай** (н. каля 1840) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., уласнік маёнткаў Ясянец, Гутаўшчына, Ротлава, жонка Францішка, каталік па веравызнанні. Састаяў на службе ганаровым міравым суддзёй Навагрудскай акругі. Меў сыноў Стэфана (н. 1871) і Барыса (н. 1876). *НГАБ, ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 24 адв.; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57; Rymkiewicz J.M., Siwicka D., Witkowska A., Zielińska M. Mickiewicz. Encyklopedia. Warszawa, 2001. S. 573.*

**Брахоцкі (Янсан-Брахоцкі) Станіслаў** (н. 27.02.1826) **—** памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., паходзіў з роду Брахоцкіх герба «Праўдзіц», сын Андрэя, губернскага рэгістратара, і Анастасіі Рэут, брат Фрыдэрыка Феліцыяна (х. 26.09.1802), сына А. Янсан-Брахоцкага ад першага шлюбу, Мікалая (26.04.1829), Рафала (х. 24.10.1823), Караліны, Ганараты, Эміліі і Аляксандры. Саўладальнік з братамі маёнтка Завалочыцы, размешчанага ў Навагрудскім пав. Бацька А. Янсан-Брахоцкі з'яўляўся шляхціцам Мазырскага пав., у 1834 г. займаў пасаду мазырскага маршалка.

У 1837 г. Станіслаў Брахоцкі ажаніўся з Соф'яй Малеўскай (п. 1875), ад якой меў сына Канстанціна. С. Малеўская была малодшай дачкой рэктара Віленскага універсітэта Шымона Малеўскага і Кацярыны Вітакоўскай, сястрой філамата Францішка Малеўскага. Соф'яй Брахоцкай захапляліся Томаш Зан і Ян Чачот. Апошні пакінуў

ёй пяць рукапісных тамоў, тры з якіх утрымлівалі 230 яго арыгінальных твораў, чацвёрты — вершы Тамаша Зана, пяты — копіі твораў Адама Міцкевіча перыяду 1820–1826 гг., склаўшых так званы малы архіў філарэтаў. У 1922 г. гэты «малы архіў філарэтаў» быў знойдзены Вітольдам Клінгерам у Лодзі ў сям'і Збігнева Карпінскага і Ванды Дрэцкай, якая паходзіла з роду Брахоцкіх.

Юзаф Траццяк выказаў меркаванне, што Соф'я Брахоцкая стала прататыпам Зосі ў «Пане Тадэвушу» Адама Міцкевіча. Сам А. Міцкевіч адрасаваў ёй два ліста з Адэсы і Масквы, датаваных адпаведна 02.05.1825 і 14.10.1826. Захаваліся таксама 16 лістоў, адрасаваных ёй Тамашам Занам, і яе адказ Зану ад лістапада 1823 г. Акрамя гэтага Соф'я Брахоцкая знаходзілася ў перапісцы і з Уладзіславам Міцкевічам, пра што сведчыць яе ліст да апошняга ў Парыж (знаходзіцца ў Музеі літаратуры ім. Адама Міцкевіча ў Варшаве).

У лістападзе 1855 г., пасля смерці Адама Міцкевіча, Францішак Малеўскі прапанаваў правесці паніхіду па паэтце менавіта свайму пляменніку Канстанціну Брахоцкаму. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 264, арк. 98, 104, 106, 109, 111, 114, 125–128 адв.; Muz. Lit. rkps 85. Listy Władysława Mickiewicza do żony. T. III. Odpis listu Zofii Brochockiej z 1 III 1862 do W. Mickiewicza, k. 97–98 v.; Muz. Lit. Dep. BPP 34, t. 23, k. 6–7; Archiwum filomatów. Listy z więzienia / Zebrał, oprac. i wstępem wprowadził Z. Sudolski. Warszawa, 2000. S. 71–94; Archiwum filomatów. Listy z zesłania. T. 3. Krąg Franciszka Malewskiego i Józefa Jeżowskiego / Zebrał, oprac. i wstępem wprowadził Z. Sudolski. Warszawa, 1999; Klinger W. Z niedrukowanych poezyj więziennych Jana Czeczota // Tygodnik Illustrowany. 1922. N 22. S. 342; Mickiewicz A. Dzieła. T. XIV. Listy. Część pierwsza. 1815–1829. Wydanie rocznicowe. Warszawa, 1998. S. 337, 373, 645; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57; Saloni J. Rękopisy ze spuścizny po Zofii Malewskiej. Warszawa, 1948; Tretiak J. Dwie Zosie Mickiewicza // Świat. 1890. Nr 13. S. 320–325.*

**Маліноўскі Station** — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Віктара, уласнік маёнтка Лозаўцы. Каля 1860 г. ахвяраваў Навагрудскай бібліятэцы адно выданне ў пяці тамах. Мажліва, меў дачыненне да паўстання 1863 г., таму што быў сасланы і знаходзіўся ў Табольскай губ. У 1868 г. выехаў за мяжу. *НГАБ, ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 29; Мулина С. А. Участники; Kowkiel L. Prywatne księgozbiory. S. 177; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57.*

**Верашчака Міхал Францішак Канстанцін Стэфан Казімір** (н. каля 1840) — шляхціц Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа, брат Соф'і, якая выйшла замуж за Канстанціна Туганоўскага, уласнік маёнтка Райца Навагрудскага пав., каталік па веравызнанні. Вучыўся ў Віленскім дваранскім інстытуце. *НГАБ, ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 24 адв.; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 325–326; Mickiewicz. Encyklopedia. S. 573.*

**Вяржбоўскі Уладзіслаў Баляслаў Отан** (20.10.1830 — пасля 1871) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Антонія, былога старшыні Навагрудскага гродскага суда, уласніка часткі маёнтка Далматаўшчына, брат Стэфана Караля Ірэнія (н. 11.09.1827), Ігнацыя Юзафа Францішка (н. 18.10.1831), Розы (н. каля 1820), Наталлі (н. каля 1830) і Эльвіры (н. каля 1831), жанаты з Соф'яй Верашчакай, адстаўны штабс-ротмістр. Меў сыноў Антонія Валенцыя Стэфана (н. 05.04.1858), Оскара Ігнацыя Стэфана (н. 10.11.1859) і Леапольда Ігнацыя (н. 27.02.1862). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 479, арк. 87, 162, 174, 182, 310, 312, 316; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 58.*

**Кашыц Юльян** — шляхціц, мажліва сын Юзафа Кашыца, удзельніка паўстання 1831 г., эмігранта, і Соф'і Дунін-Раецкай, брата Канстанціна і Караля. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 1703 а, арк. 58–59; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 306.*

**Кашыц Канстанці**н **Ян Казімір Яўстафій** (23.3.1819–1881) — памешчык Мінскай губ., сын Юзафа і Соф'і Дунінай-Раецкай, брат Юліуша і Караля, уласнік маёнткаў Обрын і Тарноўшчына, жанаты з Юліяй Весялоўскай (Несялоўскай?) (н. 1830), католік па веравызнанні.

Бацька Канстанціна дзейнічаў у кампаніі 1812–1814 гг. на баку Напалеона, афіцэр 17-га уланскага палка. Пасля заканчэння вайны ён выехаў на 3 гады за мяжу для працягу адукацыі, пасля чаго вярнуўся і асеў у маёнтку Ятра Навагрудскага пав. У 1830 г. Ю. Кашыц быў абраны навагрудскім маршалкам. Падчас паўстання 1831 г. з'яўляўся арганізатарам выступлення ў Навагрудскім і Слонімскім пав., стварыўшы ў сваім маёнтку асобны атрад, які ў ліпені 1831 г. налічваў каля 1 тыс. чалавек.

Пасля паразы паўстання 1831 г. Канстанцін Кашыц разам з бацькам апынуўся ў эміграцыі ў Францыі. 26 кастрычніка 1831 г. яны разам прыбылі ў Парыж. У 1838–1842 гг. К. Кашыц вучыўся ў Дэрпцкім універсітэце, дзе вывучаў дыпламатыку, кандыдат дыпламатычных навук, член мясцовай арганізацыі «Палонія». Па матэрыялах «Палоніі» праходзіць інфармацыя, што К. Кашыц спрычыніўся да справы Шымона Канарскага, аднак у іншых крыніцах гэты факт пацверджання не знаходзіць.

У паўстанні 1863 г. Кашыц выконваў абавязкі цывільнага кіраўніка па Навагрудскім пав., аднак выступаў супраць пашырэння паўстання. Пазней ён сцвярджаў, што пагадзіўся на кіраўніцтва з мэтай нейтралізаваць актыўнасць прыхільнікаў узброенага выступлення. 20 красавіка 1863 г. Кашыц адмовіўся ад выканання сваіх абавязкаў і выехаў у Рыгу, затым Пецярбург і далей у Мінск. 17 чэрвеня 1864 г. ён быў арыштаваны і падчас допытаў 30 ліпеня 1864 г. зрабіў абшырныя і шчырыя паведамленні, па выніках якіх былі раскрыты шэраг членаў і дзеянні навагрудскай паўстанцкай арганізацыі. Рашэннем часовага палявога аўдытарыята ў Вільні Кашыц быў прызначаны да смяротнага пакарання, аднак гэтае рашэнне было перагледжанае М. Мураўёвым і па канфірмацыі ад 15 студзеня 1864 г. «з прычыны заслуг перад следствам» ён быў пакараны ссылкай у Казанскую губ. з утрыманнем пад пільным паліцэйскім наглядам. Правы і маёнткі былі захаваны за Кашыцам. Пасля выплаты ім 9 000 руб. серабром з маёнткаў быў зняты секвестр.

Паводзіны Кашыца перыяду разбіральніцтва з удзельнікамі паўстання ў далейшым становяцца сталай прычынай нападак на яго. Гэта прасочваецца ва ўспамінах, прысвечаных перыяду этапавання і ссылкі. Аб негатыўным стаўленні да Кашыца з боку былых паўстанцаў згадвае Якуб Гейштар. Прыпыняецца на гэтым факце і Рышард Мяніцкі. Даследчык пісаў, што да канца жыцця за Канстанцінам Кашыцам, быццам цені, цягнуліся «слушныя папрокі і кляймо здрадніка. Пасля вяртання палякі не жадалі прымаць яго ў сваіх дамах, не жадалі з ім размаўляць…». Апісвае сваю сустрэчу з Кашыцам па дарозе ў ссылку і Апалінарый Свентаржыцкі. Як пазначае апошні, з Кашыцам ён сустрэўся на этапе ў Цюмені. «У партыі польскіх ссыльных па караблі знаходзіўся Кашыц з Навагрудскага павета… хтосьці з прыяцеляў пазнаў яго. У нашай групе было чалавек дваццаць навагрудчанаў і большасць з іх лічыла сябе ахвярамі ״здрады״ Кашыца. Слова ״здрада״ прычапілася да гэтага слабага і нешчаслівага чалавека, як чорная пляма, якую ніколі не мажліва адмыць. Распавядалася аб гэтым шмат і шырока. Падлічваліся яго ахвяры… Абурэнне і агульнае заклейменне нарастала па меры разыходжання разнастайных версій. Калі на караблі даведаліся аб прысутнасці Кашыца, усё забурліла. Асабліва моцна выступалі навагрудчане. Уся затаенная антыпатыя і крыўда вылілася, як вулканічная лава. Вайсятыч, Грынявецкі, Пансет і іншыя

мяталі гром і маланкі. Дарма больш спакайнейшыя людзі, жадаючы прадухіліць буру, спрабавалі ахалодзіць разгарачаныя галовы. Усё скончылася тым, што Кашыца перавялі з групы палітычных ссыльных і адправілі яго на *"*баржу*"* да крымінальных злачынцаў. Акт помсты быў выкананы». Аднак у рэчаіснасці справа Кашыца не была настолькі адназначнай. У каментарыях да ўспамінаў А. Свентаржыцкага Соф'я Кавалеўская, якая рыхтавала іх да друку, пакідае наступнае ўласнае дапаўненне: «Адчуваю свой абавязак дадаць тут некаторыя факты, якія ў пэўнай ступені павінны рэабілітаваць імя і памяць памерлага Кашыца. Склаў ён свае сведчанні на судовым следстве не з мэтай уратаваць сябе, як меркавалі аб гэтым іншыя, а пад уплывам трохкратнага катавання; у хвіліну болі і фізічнага аслаблення і дух мог лёгка аслабець. Вусны прашапталі месца схованкі пад палацам Абрынскага, дзе захоўваліся дакументы Нацыянальнага ўрада. Ці тыя, хто пазней кідаў у яго камяні, маглі б прысягнуць, што ў адпаведнай сітуацыі былі б больш трывалымі, чым Кашыц? Сведка, які апынуўся там па нейкай цывільнай судовай справе… распавядае, што ўбачыў у астрозе слабы цень чалавека, параненага кнутамі і страціўшага напалову прытомнасць ад болі. Кашыц усё жыццё шкадаваў аб гэтай хвіліне слабасці, якая вырвала ў яго паказанне і прывяла да новых ахвяраў». У той жа час захаваліся і іншыя звесткі, якія тычацца сітуацыі Кашыца. Вандалін Чэрнік, удзельнік падзей на Навагрудчыне, піша: «Пан К[ашыц] ніколі не сядзеў у астрозе ў Навагрудку; пасля арышта ён быў адразу адпраўлены ў Вільню і адтуль ў Цывільск (Казанскай губ.) і ў Табольску ніколі не мог быць. Праз год ён вярнуўся на радзіму, пра што ведаюць усе навагрудчане. Узгаданы выбух гневу і абурэння *"*навагрудчан*"* Вайсятыча, Грынявецкага і Пансета з'яўляецца чарговай хлуснёй, таму што згаданыя тут асобы не былі ўвогуле навагрудчанамі. Ні адзін з іх не меў нават ніякага ўяўлення пра пана К[ашыца],… а з навагрудчан на караблі былі толькі я і доктар Навадворскі, таксама запэўніваю, што ніякіх скандалаў у Табольску не было». Немалаважнай акалічнасцю ў дачыненні сведчанняў самога Чэрніка з'яўляецца той момант, што дакладнасць яго ўласных успамінаў ставіцца пад сумненне даследчыкамі, а сам ён пазначаецца як асоба, якая здзейсніла ўчынак, адпаведны таму, у якім абвінавачваецца Кашыц.

Архіўныя дакументы збольшага з'яўляюцца пацверджаннем версіі В. Чэрніка. З 22 мая 1865 г. Кашыц знаходзіўся ў Цывільску. 19 сакавіка 1866 г. ён атрымаў дазвол на трохмесячную паездку ў Мінскую губ. для продажу свайго маёнтка, пасля чаго ў Цывільск болей не вярнуўся. У 1866 г. ён выехаў на 4 месяцы ў Пецярбург, а 2 студзеня гэтага ж года выехаў у Маскву. У 1867 г. Кашыц атрымаў дазвол на выезд за мяжу, а ў снежні 1868 г. яму было дазволенае пражыванне ў Рызе. Некалькі разоў затым Кашыц прыязджаў у свой маёнтак Обрын Навагрудскага пав. У красавіку 1869 г. ён быў вызвалены з-пад паліцэйскага нагляду, а ў 1872 г. атрымаў дазвол на свабодны выбар месца пражывання. З 1876 г. Кашыц жыў у маёнтку Обрын і займаўся гаспадаркай. Меў сыноў Юзафа Калікста (н. 1855) і Аляксандра Фелікса (н. 1857), дачку Ванду Людвіку (н. 1860). Маёнтак Обрын з'яўляўся ўласнасцю сям'і Кашыцаў да 1939 г.

Канстанцін Кашыц пакінуў успаміны, прысвечаныя перыяду навучання ў Дэрпцкім універсітэце, якія захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (BN, rkps 2981), апрацаваныя праф. Янам Трынькоўскім. *[Kaszyc Konstanty] Dorpackie wspomnienia (1837–1842) / Oprac. i skomentował J. Trynkowski. Warszawa, 2000 (na prawach rękopisu); НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 1703 а, арк. 69–70, 79, 15–16; ф. 295, воп. 1, спр. 2407, арк. 1–8; ф. 295, воп. 1, спр. 3026, арк. 20; ф. 299, воп. 2, спр. 6063, арк. 145 адв.; ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 46 адв.; Гарбачова В. В. Удзельнікі паўстання. С. 179–181; Павлов В. А. Губернские и уездные органы. С. 163; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 306–307; Czernik W. Pamiętniki weterana 1864 r. Wilno, 1914. S. 77; Gieysztor J. Pamiętniki. T. 1. S. 254, 406, 407; T. 2. S. 159, 165, 172, 200, 260, 301; Konwent*

*Polonia. Historia — ludzie — czyny. Wilno, 1939. S. 61; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 39–47, 49, 53–58; Ostromęcka J. Pamiętnik. S. 257; Rok 1863 na Mińszczyźnie. S. 122, 123, 124; [Świętorzecki A.] Ze wspomnień. S. 115–116.*

**Паўловіч Эдвард Баніфацы** (07.06.1825 (1818 ?)—10.02.1909) — нарадзіўся ў мястэчку Тургелі Віленскага пав., сын Францішка, каморніка ВКЛ, і Кунегунды Пагаржэльскай, грамадскі дзеяч, мемуарыст, мастак, асветнік. Вучыўся пры базыльянскім кляштары ў Жыровічах, Слоніме, Слуцкай гімназіі, якую закончыў у 1836 г. Затым пераехаў у Вільню, дзе ў якасці вольнага слухача наведваў лекцыі ў Медыка-хірургічнай і Духоўнай акадэміях. Акрамя гэтага, браў прыватныя ўрокі па мастацтве ў Кануты Русецкага і Караля Рысінскага. У 1849 г. пераехаў у Пецярбург, дзе паступіў у Акадэмію мастацтваў, якую закончыў у 1853 г. У перыяд навучання рабіў копіі з палотнаў Эрмітажа.

У 1853–1856 гг. падарожнічаў па Заходняй Еўропе, наведаў Італію, Іспанію, Францыю, дзе таксама рабіў копіі, выконваючы просьбы землякоў-калекцыянераў. У Парыжы завязаў стасункі з мастакамі-эмігрантамі Тэафілам Ленартовічам, Уладзіславам Невяровічам і інш. Будучы ў Парыжы, пачаў друкаваць свае творы. У 1857 г. выйшла яго кніга пад назвай «Колькі слоў ліцвіна».

У 1859 г. Паўловіч вярнуўся з падарожжа ў Навагрудак, дзе пачаў працаваць выкладчыкам малявання ў мясцовай гімназіі. Заняўся антыалкагольнай прапагандай сярод мясцовых сялянаў, у справе чаго выдаў ліст, адрасаваны святарству, які быў надрукаваны ў 1859 г. у пецярбургскім выданні «Слова». Свае погляды па сялянскім пытанні друкаваў у парыжскім выданні «Польскія навіны», варшаўскай «Штодзённай газеце» і «Віленскім кур’еры». Пры падтрымцы куратарата навагрудскіх школ Канстанціна Радзівіла заснаваў у Навагрудку жаночы пансіён і нядзельную школу для сялянаў, а ў 1860 г. аматарскі тэатр, дзе з’яўляўся адначасова рэжысёрам, дэкаратарам і акцёрам. Акрамя гэтага, Паўловіч разам з мясцовай шляхтай і мяшчанамі становіцца заснавальнікам Навагрудскай бібліятэкі, паўсталай каля 1860 г. Сродкі на заснаванне гэтай бібліятэкі ахвяравалі каля трыццаці чалавек, сярод якіх Адам Кіркор, Ян Наргілевіч, Уладзіслаў Борзабагаты, Феліцыян Лашкевіч і Эдвард Паўловіч. Абавязкі ганаровага куратара выконваў У. Брахоцкі, віцэ-куратарам з’яўляўся ксёндз Канстанцій Эймант, адміністрацыйнымі справамі кіраваў ксёндз Лашкевіч, а сам Паўловіч выконваў абавязкі бібліятэкара. Шмат намаганняў Паўловіч прыкладаў дзеля адкрыцця помніка Адаму Міцкевічу, які планавалася ўстанавіць на гары Міндоўга, на што расійскія ўлады не далі згоды. У 1861–1862 гг., перыяд распаўсюджання ў Каралеўстве Польскім супрацьурадавых маніфестацый, не падтрымліваў ідэі ўзброенага паўстання. Свае намаганні накіроўваў на пашырэнне ў сялянскім асяроддзі ўзроўню самасвядомасці.

З пачаткам паўстання 1863 г. удзельнічаў у нарадзе навагрудскіх мяшчанаў, выступаўшых за вызваленне сялянаў з-пад прыгону. У сакавіку 1863 г. Паўловіч быў арыштаваны за «знойдзеныя ў яго творы злачыннага зместу і забароненыя лісты» і 8 сакавіка гэтага года трапіў пад следства Мінскай следчай камісіі. Пачаткова знаходзіўся на волі, а ў маі 1863 г., пасля зацвярджэння М. Мураўёва ў якасці генерал-губернатара, трапіў пад арышт. Па выніках следства Паўловіч быў сасланы на жыхарства спачатку ў Петразаводск, затым у Аланецкую губ. Там ён кантактаваў з сям’ёй Браніслава Любічанкоўскага, братам Юзафа Любічанкоўскага. За некалькі месяцаў да вызвалення ад пакарання быў пераведзены ў Екацярынаслаўль. Сям’і не меў. Атрымліваў на пражыванне па 15 кап. у суткі і на здым кватэры па 1 руб. 50 кап. у месяц.

Пасля вызвалення з ссылкі Паўловіч рабіў спробу абаснавацца ў Пецярбургу, аднак не атрымаў на гэта згоды, пасля чаго ў 1867 г. вярнуўся ў Навагрудак, затым у Варшаву, дзе на працягу двух гадоў працаваў у прыватнай мастацкай школе, затым пераехаў у Львоў.

Працаваў там настаўнікам па малюнку ў жаночай настаўніцкай семінарыі, даваў прыватныя ўрокі, а ў 1870 г. уладкаваўся кусташам у Музеі Любамірскіх, дзе адпрацаваў 35 гадоў. Памёр у адзіноце ў Львове.

Паўловіч з'яўляецца аўтарам успамінаў і мемуараў «Успаміны з-над Віліі і Нёмана» (1882), «Успаміны: Навагрудак — турма — выгнанне» (1887), «З падарожжа па Літве» (1890), «З успамінаў. Год 1846» (1898), «Навагрудак у XIX стагоддзі» (1902), «З жыцця ліцвіна» (1904), «Мае ўспаміны з часоў настаўнічання на Літве колькі дзесяткаў гадоў таму» (1904), «Двое памятных сутак у Мінску, 1863 г.» (1906).

На працягу жыцця Паўловіч займаўся навуковай дзейнасцю, падрыхтаваў і выдаў каталогі Музея Любамірскіх. Таксама ён аўтар працы «Погляд на становішча польскага выяўленчага мастацтва ў параўнанні з замежным мастацтвам» (1881). Акрамя гэтага, займаўся жывапісам, працаваў у жанры партрэта («Аўтапартрэт», 1853), рабіў замалёўкі Навагрудка і ваколіц, пісаў абразы. Фотаздымак Паўловіча 1900 г. змешчаны ў яго кнізе, прысвечанай Навагрудку XIX ст. *Pawłowicz E. Wspomnienia; яго ж: Wspomnienia z nad Wilii i Niemna; яго ж: Nowogródek; яго ж: Z życia Litwina. Lwów, 1904; яго ж: Moje wspomnienia z czasów szkolnictwa na Litwie. Lwów, 1904; НАРК, ф. 1, воп. 36, спр. 91/1, арк. 118 адв. — 119; ЭГБ. Т. 6. Ч. 2. С. 422; Janik M. Dzieje Polaków na Syberii. Kraków, 1928. S. 391–392; Kowkiel L. Prywatne księgozbiory. S. 144, 149, 181; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 57, 58; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 34, 67, 71; Na nieznane losy. S. 225; PSB. T. 25. S. 479–481; Rok 1863 na Mińszczyźnie. S. 33, 49.*

**Чачот Маўрыкій Канстанцін** — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша, межавага суддзі, які набыў у Радзівілаў маёнтак Барацін у Навагрудскім павеце, які затым пераходзіць да сына Маўрыкія, жанаты з Антанінай Вендорф (н. 1824), католік па веравызнанні. Меў сыноў Вітольда Тадэвуша (н. 1848), Станіслава Зыгмунта Венцаслава Алаізія (н. 1864), дачку Людвіку. *НГАБ, ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 23; ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 99 адв.; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 190–191.*

**Мікульскі Адольф** — шляхціц з Навагрудчыны, дэмабілізаваны капітан інжынерных войскаў. У 1863 г. уваходзіў у склад навагрудскай паўстанцкай арганізацыі, выконваў абавязкі павятовага начальніка. Быў арыштаваны і сядзеў у турме ў Вільні разам з Якубам Гейштарам, які ахарактарызаваў яго як «вельмі слабога» чалавека. Сасланы на жыхарства ў Томск, дзе ў 1865 г., паводле паліцэйскай справаздачы, «добра сябе паводзіў». 22 чэрвеня 1870 г. адпраўлены ў Ніжні Ноўгарад. У 1875 г. Мікульскі атрымаў дазвол на вяртанне ў Мінскую губ. *(РДГА, ф. 1286, воп. 50, спр. 473, арк. 642 адв.—643; LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 970, cz. 2, l. 119–120, 213; тасама: cz. 3, l. 752–765. — Інф. М. Міцiньскай); Gieysztor J. Pamiętniki. T. 2. S. 142, 149, 218; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 39, 52, 53; Śliwowska W. Syberia. S. 265.*

**Гнаінскі-Міткевіч Пётр** (х. 07.05.1799–1873) — памешчык Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Францішка, уласнік маёнтка Волца, брат Ксаверыя (х. 07.02.1796), губернскага сакратара, і Канстанціна (х. 15.01.1801), урача, жанаты з Ганнай Юрэвіч, католік па веравызнанні. Вучыўся ў Навагрудскай гімназіі, у 1817 г. вучань 5-га класа. Падчас навучання ў гімназіі выступаў у школьным тэатры. З 1818 г. вучыўся ў Віленскім універсітэце, які закончыў у 1823 г. і атрымаў тытул доктара медыцыны. Да 1826 г. займаўся прыватнай практыкай у Вільні, з 1831 г. перабраўся ў Навагрудак. У гэтым годзе выратаваў жыццё цяжка хворага М. Мураўёва, выпадак якога іншымі ўрачамі быў прызнаны за безнадзейны. У 1832 г. Гнаінскі лічыўся навагрудскім павятовым урачом, абавязкі якога выконваў і ў 1856 г. У 1852 г. меў чын надворнага саветніка.

Разам са сваёй жонкай спрычыніўся да падзей 1863 г. Паводле сведчанняў, яго жонка кіравала палітычнай маніфестацыяй у Навагрудку. Па канфірмацыі М. Мураўёва ад 15 мая 1864 г. Гнаінскага было прызначана саслаць у Арэнбургскую губ. Новым рашэннем Мураўёва ад 15 ліпеня 1864 г. папярэдняя пастанова была адмененая, і яго пакінулі на месцы сталага жыхарства. Наступствам яго прыналежнасці да паўстанцкіх падзей стала толькі звальненне з дзяржаўнай службы ў 1864 г.

Меў сына Вікенція Пятра Якава (х. 01.08.1853) і, мажліва, дачку Марыю (н. 1841), з якой ажаніўся Антоній Пуцята. Памёр у Навагрудку. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 727, арк. 9, 20, 32 адв., 35, 50, 55; ф. 320, воп. 1, спр. 331, арк. 25 адв.; (РДГА, ф. 1286, воп. 50, спр. 491, арк. 372; тасама: спр. 492, арк. 131. — Інф. М. Міціньскай); Jędrychowski Z. Hamlet w Nowogródku (1817) // Notatnik Teatralny. 2004. Nr 35. S. 154; Kowkiel L. Prywatne księgozbiory. S. 57; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 58; Pawłowicz E. Wspomnienia. S. 37; Szarejko P. Słownik lekarzy. T. I. S. 209.*

**Пуцята Антоній Зыгмунт Станіслаў** (н. 03.05.1832) — шляхціц Навагрудскага і Ігуменскага пав. Мінскай губ. герба ўласнага (памылкава прыпісваецца герб «Сыракомля»), сын Пятра і Соф'і Магнушэўскай, нарадзіўся ў мястэчку Узда Ігуменскага пав. Мінскай губ., адзіны сын у бацькоў, уласнік маёнткаў Гаўрылава (1450 дзесяцін) і Пшчолка (150 дзесяцін) Ігуменскага пав., жанаты з Марыяй Гнаінскай (н. 1841), дачкой Пятра Гнаінскага, каталік па веравызнанні, бяздзетны.

У ліпені 1843 г. паступаў у Ляздаўскае вучылішча ў Інфлянцкай губ. Са студзеня да 9 чэрвеня 1854 г. з'яўляўся студэнтам Дэрпцкага універсітэта, які пакінуў па асабістым жаданні. З 13 ліпеня 1856 г. уладкаваўся канцылярыстам у канцылярыю Мінскага дваранскага дэпутацкага схода. У красавіку 1858 г. выязджаў на чатыры месяцы на лячэнне на воды ў Германію і Італію, пасля вяртання ўладкаваўся на папярэдняе месца працы. 17 ліпеня 1857 г. атрымаў чын калежскага рэгістратара. 20 студзеня 1861 г. падае прашэнне аб звальненні са службы.

Мажліва, удзельнічаў у паўстанні 1863 г. Па сведчанні Давіда Файнхаўса, нейкі Пуцята дастаўляў паўстанцам бочку пораху. Па матэрыялах справаздачы камандзіра магілёўскага батальёна ўнутранай стражы ад 25 студзеня 1864 г., Антоній Пуцята ўтрымліваўся ў Магілёўскім турэмным замку.

Меў сыноў Пятра (н. 1862) і Аляксандра (н. 1869). Жыў у маёнтку Замір'е Навагрудскага пав. *НГАБ, ф. 319, воп. 3, спр. 275; ф. 319, воп. 2, спр. 3952; ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 72; ф. 3256, воп. 2, 54, арк. 23–23 адв.; Fajnhauz D. 1863. S. 170.*

**Маркевіч Ян** (н. каля 1798) — шляхціц Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Рафала, меў у Навагрудку дом і дзесяціну зямлі, католік па веравызнанні. У 1878 г. быў удаўцом. Меў сыноў Казіміра (н. 1830), надворнага саветніка, які працаваў у канцылярыі віленскага генерал-губернатара казначэем, і Ігнація (н. 1833). *НГАБ, ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 61; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 58.*

**Чашніцкі (Часніцкі) Фелікс** — шляхціц Навагрудскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша. Вывучаў фізіка-матэматычныя навукі ў Віленскім універсітэце, атрымаў ступень кандыдата навук. Па яго ўласным сведчанні пасля заканчэння універсітэта жыў у Вільні, дзе працаваў хатнім настаўнікам і займаўся рэпэтытарствам. У 1833 г. звяртаўся з просьбай да дырэктара вучылішчаў Віленскай губ. Кастана Красоўскага аб уладкаванні яго штатным настаўнікам па матэматычных навуках. Паводле з матэрыялаў Мінскай казённай палаты, ад красавіка 1862 г. Чашніцкі з'яўляўся ўжо статскім саветнікам і выконваў абавязкі дырэктара Навагрудскага вучылішча. Эдвард Паўловіч

згадвае яго як дырэктара Навагрудскай гімназіі, які выконваў гэтыя абавязкі да 1863 г. *НГАБ, ф. 333, воп. 1, спр. 619, арк. 160; ф. 3157, воп. 1, спр. 43, арк. 261–261 адв.; Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 2. S. 58; Pawłowicz E. Wspomnienia. S. 194.*

**Урублеўскі Канстанцін** (н. каля 1840 (1848?) — шляхціц Навагрудскага пав., жыў у Навагрудку, каталік па веравызнанні. Па канфірмацыі М. Мураўёва ад 1 красавіка 1864 г. за знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе быў асуджаны і сасланы на пасяленне ў Пермскую губ. пад паліцэйскі нагляд. Пакаранне адбываў у Кунгуры, дзе кантактаваў з сям'ёй Прандоўскіх. У 1867 г. атрымаў дазвол вярнуцца ў Каралеўства Польскае. Сям'і не меў. *(ДАРФ, ф. 109, 1 эксп., 1863, спр. 23, ч. 416, арк. 136 адв.; Дзяржаўны архіў у г. Кунгур, ф. 560, воп.1, спр. 1; Дзяржаўны архіў Пермскай вобласці (ДАПВ), ф. 297, воп. 3, спр. 260, арк. 254 адв.—257, 486 адв.; ЛНБ, ф. Асалінскіх, спр. 4535, арк. 215; РДГА, ф. 1286, воп. 28, спр. 1253, арк. 5; тасама: воп. 50, спр. 466, арк. 433 адв.—434; тасама: воп. 50, спр. 490, арк. 246; тасама: спр. 508; LVIA, f. 1135, ap. 4, b. 389, l. 38; — Інф. М. Міціньскай); НГАБ, ф. 296, воп. 1, спр. 83, арк. 259, 302 адв.; ф. 299, воп. 1, спр. 573, арк. 546; Мулина С. А. Участники; Maliszewski J. Sybiracy zesłani i internowani za udział w powstaniu. [Warszawa], 1930. S. 43; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 56; Prendowska J. Moje wspomnienia / Wyd. E. Kozłowski, K. Olszański. Kraków, 1962. S. 298, 322, 323, 328, 330.*

**Бохвіц Раман** (каля 1843–1939) — шляхціц з роду Бохвіцаў герба «Радван», аселых на Навагрудчыне і Міншчыне, сын Фларыяна (1799–1856), уласнік маёнтка Вашкоўцы, вядомага рэлігійнага пісьменніка і Паўліны Маеўскай, пляменніцы маці Адама Міцкевіча, брат Яна Отана (1835–1915), удзельніка паўстання 1863 г. — кіраўніка акругі, і Люцыяна (п. да 11.1864), каталік па веравызнанні. Каля 1870 г. ажаніўся з Казімірай, якая памерла ў 1875 г. З гэтага часу маёнтак Падагорск перайшоў ва ўласнасць Бохвіцаў і заставаўся ў іх да пачатку Другой сусветнай вайны. Пасля смерці першай жонкі Бохвіц ажаніўся ў 1880 г. з яе роднай сястрой Эльжбетай Чачот.

Маці Рамана Бохвіца, Паўліна, у 1861 г. мела дачыненне да дзейнасці таварыства, якое прапагандавала неабходнасць навучання для сялянскіх дзяцей, ліставалася з паўстанцам Вікенціем Клімовічам.

З 4 красавіка да сярэдзіны чэрвеня 1863 г. знаходзіўся сярод паўстанцаў у атрадзе Янкі Каваля, узначальваў невялікі аддзел у складзе шасці чалавек, затым адышоў ад паўстання і 22 верасня 1863 г. з'явіўся да ўладаў. Трапіў пад следства Мінскай губернскай следчай камісіі, якая разглядала яго справу з 2 лютага 1864 г. да 16 студзеня 1865 г. Па рашэнні часовага палявога аўдытарыяту ад 15.03.1865 г. і канфірмацыі галоўнакамандуючага Віленскай ваеннай акругі Патапава Бохвіц быў асуджаны на чатырохмесячнае зняволенне ў турме з далейшым утрыманнем пад пільным паліцэйскім наглядам. У Гістарычным архіве Літвы захаваўся ягоны фотаздымак, выкананы ў Кракаве ў 1860 г., на якім Бохвіц адлюстраваны ў польскім кунтушы, які затым трапіў у справы следчай камісіі і стаў прычынай разбіральніцтва за распаўсюджванне патрыятычных выяў. *НГАБ, ф. 1081, воп. 1, спр. 2, арк. 19; LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1460; Aftanazy R. Dzieje rezydencji. T. 2. S. 314, 393; Mienicki R. Ziemia nowogródzka. S. 55; PSB. T. 2. S. 175–176.*

*Вольга ГАРБАЧОВА*

# ГЛОБУСЫ
## Словы пра прозвішча маёй маці — Ніны Глобус

### УСТУП
### Псеўданім і пашпартнае прозвішча

Тата вельмі любіў і ганарыўся сваім прозвішчам Адамчык. У гутарках пра нашае прозвішча ён заўжды падкрэсліваў ягоную чалавечнасць. Не стану казаць, што я не люблю сваё пашпартнае прозвішча, і люблю, і ганаруся ім, але падпісваю свае літаратурныя і мастацкія творы псеўданімам, бо не люблю блытаніны. Тата — Вячаслаў Уладзіміравіч Адамчык, я — Уладзімір Вячаслававіч Адамчык, падабенства настолькі вялікае, што кожная другая бухгалтарка блыталася, выпісваючы ганарары, таму я вырашыў падпісвацца прозвішчам маці — Глобус. А каб не крыўдзіць тату, дадаў да Глобуса імя Адам. Так з’явіўся мой псеўданім — Адам Глобус. Большасць маіх чытачоў лічаць псеўданім прыдуманым і штучным, але я да такога памылковага стаўлення прызвычаіўся.

### ГЛАВА ПЕРШАЯ
### Глобусы з розных куткоў свету

#### Глобус і Напалеон

Пасля першай публікацыі маіх вершаў у маскоўскай «Літаратурнай газеце», я атрымаў ліст ад сям’і Глобусаў з Тбілісі. Яны пісалі, што іх продкі некалі жылі ў Гародні. У сям’і захавалася легенда пра паходжанне прозвішча Глобус… Сам Напалеон звярнуўся да іх сваяка — заможнага і разумнага яўрэя, каб той паказаў на карце найлепшы шлях да Масквы. Разумнік дапамог Напалеону, а той у якасці ўдзячнасці назваў яго «жывым глобусам». У памяць пра сустрэчу з Напалеонам яўрэй змяніў сабе прозвішча на Глобус… Нашчадкам гарадзенца я даслаў паштоўку з падзякаю за казку. На гэтым ліставанне і скончылася.

#### Глобусы і Букоўскі

Я моцна дзівіўся, прачытаўшы прозвішча Глобус у цітрах геніяльнага фільма «П’янтосы», які быў пастаўлены французскім рэжысёрам Барбетам Шродарам паводле твораў амерыканскага літаратара Чарльза Букоўскі. Галоўную ролю гіперрэальнага п’янтоса выканаў Мікі Рурк. Прадзюсарамі шэдэўра былі пазначаны Менахем Голан і Ёрам Глобус. У мяне нават узнікла жаданне напісаць ім ліст у Галівуд. Але сваё жаданне я не здзейсніў. Пасаромеўся, пэўна ж. Пасля заўчаснай смерці Ёрама Глобуса, Менахем Голан вярнуў сабе сваё сапраўднае прозвішча. І не трэба здзіўляцца! Ён стаў Глобусам. Голанам Менахем зрабіўся ў 1948 г., калі служыў у ізраільскіх вайскова-паветраных сілах. Тады ён мяняў прозвішча з патрыятычных меркаванняў, Голан гучала ў Ізраіле больш патрыятычна за лацінскае Глобус.

#### Глобус і караімы

Не ведаю, наколькі патрыятычна гучыць прозвішча Глобус для караімаў, але старшынёй таварыства караімаў у сучаснай Літве з’яўляецца менавіта Глобус. Караімы — татары, што спавядаюць іудаізм. Таму можна ўпэўнена казаць, што прозвішча Глобус носяць людзі з розных нацый.

### Глобус і Сікорскі

У Архіве Польскага інстытута і музея імя генерала Сікорскага ёсць дакумент ад 17.VI.1944, у якім згадваецца Сцяпан Глобус, праваслаўны з Баранавіцкага павета, ён служыў ў першай танкавай дывізіі, у дзевятым стралковым батальёне. Выпіску ў архіве зрабіў для мяне навуковец Ігар Войніч.

### Глобус у «Канвееры смерці»

Сярод кніжак серыі «Архіў найноўшай гісторыі» ёсць зборнік дакументаў, сведчанняў, успамінаў, складзены Ігарам Кузняцовым, «Канвеер смерці». У раздзеле «Мартыралог. Спіс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных на тэрыторыі Заходне-Сібірскага краю (Томская вобласць) у 30–40-я гады і на пачатку 50-х гадоў» я знайшоў такі запіс: «ГЛОБУС Мірон Ільіч (1895, Шчучын) жыў у Томску, загадчык кафедры № 2 Томскага універсітэта. Арыштаваны ў 1937. Расстраляны».

### Глобус — поўны кавалер ордэна Славы

У капэрце, якую я атрымаў ад галоўнага рэдактара віцебскага часопіса «Мішпоха» спадара Аркадзя Шульмана, быў укладзены ліст з Арэнбурга. У ім я прачытаў пра Льва Глобуса — поўнага кавалера ордэна Славы. «…22 снежня 1944 года, падчас блакавання вялікага дома на ўскраіне горада Секешфехервара, што ў Венгрыі, Глобус выявіў на гарышчы гэтага дома кулямётчыка. Прабраўшыся на гарышча, ён знішчыў кулямётны разлік і дваіх аўтаматчыкаў. Там жа ён захапіў варожую радыястанцыю і перадаў яе ў штаб палка…» Леў Глобус загінуў у Будапешце 1 студзеня 1945 г. Нарадзіўся ён «у 1914, быў сержантам і камандаваў аддзяленнем штурмавога інжынерна-сапёрнага батальёна. Да вайны ён жыў па адрасе: Чкалаўская (цяпер Арэнбурская) вобласць, горад Орск, вуліца Сцяпана Разіна, дом 78». За свае подзвігі Леў Глобус «быў узнагароджаны, акрамя ордэна Славы ўсіх трох ступеняў, ордэнамі Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі і трыма медалямі *"За адвагу"*. Кожная з гэтых узнагарод — сведчанне доблесці, мужнасці, высокага вайсковага майстэрства». «Пакуль што не знойдзена сваякоў нашага славутага земляка».

Пісаць у Арэнбург я не стаў.

## ГЛАВА ДРУГАЯ
## Ліда і Пілаты

Даўно збіраўся наведаць мясціны, дзе жыў мой дзед — Валодзя Глобус. Мама казала, што жыў ён на Капыльшчыне, у пасёлку Жыліхава. Там і маці мая — Ніна Глобус — нарадзілася. Вось і выбраўся я ў вандроўку з журналістам Зміцерам Бартосікам. У нядзелю прыехалі мы ў тое Жыліхава. Раніца была хмурная, а пасярод дня праяснілася. «Добра ў іх тут, у Жыліхава, сонца свеціць і цёпла!» Бартосік пасмяяўся з майго хвалявання. Пачалі мы людзей распытваць пра маіх Глобусаў. Спачатку ніхто не мог згадаць іх. Усе казалі, што ў Жыліхава Глобусы ніколі не жылі. Валодзю Глобуса ніхто не памятаў. Нарэшце адна цётка згадала, што ў Жыліхава працаваў Мікалай Глобус, сын Мікалая. Яшчэ знайшлі мы жанчыну, што вучылася ў школе з Галяй Глобус. Яна і падказала, што ўсе Глобусы жылі ў пасёлку Гулевічы. Ва ўсіх маміных дакументах пазначаны менавіта пасёлак Жыліхава, таму я вырашыў адведаць жыліхаўскія могілкі. А раптам тамака знойдзецца хоць нейкі след-напамін пра майго дзеда Валодзю. Колькі мы ні хадзілі па кладах, а ніводнага Глобуса не знайшлі. Затое там вельмі шмат Пілатаў. Ледзь не палова магіл належыць людзям з прозвішчам Пілат. Як ні паварочвай, а прозвішча Глобус мне падабаецца больш за прозвішча Пілат. Зрэшты, і Пілат гучыць магутна, па-імперску.

І ўражвала тое, што старажытны біблійны вобраз меў не толькі мужчынскае, але і жаночае аблічча. На якое імгненне мне падалося, што я недзе ўжо бачыў Пілата ў жаночым абліччы. Я паразглядаў твары Пілатаў на помнікавых фотаздымках, але так і не згадаў, дзе я іх мог бачыць. Сярод жыліхаўскіх Пілатаў я знайшоў невялічкі, пафарбаваны ў глыбока-блакітны колер камень, зарослы ў зямлю. Пад тым каменем ляжыць Ліда Ваўчок. Надпіс-напамін пра Ліду зроблены па-беларуску. Пра гэтую Ліду Ваўчок мы папыталіся ў людзей. Памерла яна маладой. Мужчына ўзяў яе з нейкага інтэрната. Чаму надпіс зрабілі па-нашаму ніхто не сказаў. Мае спадзяванні знайсці магілу дзеда Валодзі ў Жыліхава не спраўдзіліся.

Дарэчы, прозвішча Ваўчок у маёй сям'і не чужое. Першая жонка майго малодшага брата Міраслава — Наталля Ваўчок, маці майго пляменніка Чэсіка.

Каб дараспавесці пра Пілатаў, я зайду крышку наперад…

У сераду, ідучы на працу, на аўтобусным прыпынку я сустрэў журналістку Тацяну Снітко, якая, разам з дачкою Вераю, часам бярэ замовы і ў маім выдавецтве «Сучасны літаратар». Таня сказала, што ў нядзелю ездзіла на вёску, ну і я распавёў пра сваё падарожжа ў Жыліхава. Тутака і высветлілася, што баба Тацяны і прабаба Веры жыла ў Жыліхава, што пад Копылем, а прозвішча ў яе дзявочае — Пілат. Таня згадала, што некалі даўно яе маці пыталася: «Ці не мае твой знаёмы пісьменнік Глобус сваякоў у Гулевічах?» А Таня сказала, што не, бо я нарадзіўся ў Койданава.

## Павел і магілы

У пасёлку Гулевічы я не пабачыў на вуліцы ніводнага старога чалавека. Мы з Бартосікам праехалі ўвесь пасёлак і не знайшлі, з кім бы пагаварыць пра майго дзеда. «Што будзем рабіць?» — «Шукаць, будзем хадзіць па хатах…» На ўскрайку пасёлка пасвіўся конь. Мне захацелася падысці да гнядога каня і спытацца ў яго пра майго Уладзіміра Рыгоравіча Глобуса. Але распытваць я пачаў не маладога каня, а старога конюха Паўла. «Валодзю Глобуса? Ведаю! Тут ён і жыў. І дом яго стаіць. І жонка ягоная першая — Алена яшчэ жыве. Ёй 97 гадоў. Хутка будзе 98. І пляменніца ягоная тут. Магу паказаць іх хаты…» — «Можа, спачатку на могілкі з'ездзім, вы мне магілу дзедаву пакажыце…» — «Можна і на могілкі…» Сівавусы Павел загрузіўся ў бартосікаву «волгу», і мы паехалі на клады. «А вы хто яму?» — «Унук!» — «А ад якой жонкі?» — «Ад Ядзі!» — «Не помню Ядзю. У Валодзі было 5 жонак!» — «5?» — «Алена — першая жонка. Ваша баба, з якой ён ажаніўся, калі ў войску служыў, — другая. Потым ён Маню ўзяў. Дзяцей у іх не было, і ён Маню, сваю трэцюю жонку, прагнаў. Ездзіў ён у Тамбоў, і казалі, што там у яго была нейкая жонка, але пра яе я нічога не ведаю. А пятая, апошняя жонка Валодзі — Антоля, яна яго і глядзела, яна яго і пахавала тут. Недзе тут усе вашы Глобусы…» Ніякага хвалявання я не адчуваў, стоячы на беразе зарослых бярэзінамі могілак. Было такое адчуванне, што я некалі быў тут, у пасёлку Гулевічы, бачыў гэтыя дамкі, вуліцу, бачыў неголенага старога, падобнага да эсэіста Сяргея Дубаўца — Паўла. Ён хутка пайшоў шукаць магілу майго дзеда, а я закурыў цыгарэтку і пачаў глядзець на далёкі сінявата-зялёны лес. «Во тут ляжыць Мікалай, малодшы брат вашага Валодзі…» Я падышоў да шэрага, абвязанага бэзавай стужачкай помніка з фотапартрэтам немаладога лысаватага мужчыны. На помніку быў надпіс, з якога вынікала, што мой дваюрадны дзед Глобус Мікалай Рыгоравіч нарадзіўся 22.12.1911, а памёр 08.02.1983. Непадалёк стаяў помнік маёй дваюраднай бабе Мані, якая жыла з 1918 да 1991 г. Яе твар не сказаў мне нічога. Побач з Маняю пад шэрым каменным слупком з крыжыкам ляжала мая прабаба — Вольга Глобус, якая пражыла 89 гадоў, з 1885 да 1974. «Маці ў Валодзі была вялікая жанчына, кілаграмаў 120. Яна і дзяцей ягоных глядзела. Ён іх прывозіў,

адвозіў, а глядзела іх яна. Яе ўсе паважалі, Здаровая была баба…» — так расказаў Павел пра маю прабабу — Вольгу Глобус. «Валодзя, хадзі сюды!» — гукнуў мяне Зміцер Батосік. Я падышоў да жалезнай агароджы, за якою стаяў помнік майму дзеду. «Ага, вось тут ён і ляжыць, ваш Валодзя!» — сказаў, нібыта папіхнуў мяне ў спіну, конюх Павел. Бартосік зрабіў сур'ёзны твар і нейкім тэатральна-замагільным голасам спытаў: «І што ты адчуваеш?» Нічога я не адчуваў, але каб крышку падыграць Бартосіку зрабіў суворы твар: «Плакаць хочацца!» — «Праўда?» — Зміцер мне не паверыў, а мне стала радасна на душы. Вось ехаў я, шукаў, на нешта там нейкае цьмянае спадзяваўся і нарэшце знайшоў магілу дзеда Валодзі, майго Глобуса Уладзіміра Рыгоравіча, майго лейтэнанта Глобуса. Маці мне казала, што ён нарадзіўся ў 1902 г., а насамрэч — у 1907, казала, што памёр ён прыблізна ў 1962, на металічнай шыльдачцы быў пазначаны 1961 г. Побач з дзедам адпачывае ў вечным сне і ягоная апошняя жонка — Глобус Антаніна Сцяпанаўна. «А які ён быў, Валодзя Глобус?» — спытаў я ў конюха. «Разумны быў, адукаваны, рабіў добра, харошы чалавек, каб не…» — «Каб не што?» — «Каб не жонкі, каб не бабы… Хітры ён быў!» — «Чаму хітры?» — «У банку працаваў, і наогул…» — Павел пакруціў у паветры загарэлай і парэпанай рукою. «Скажэце, а якой яны веры былі гэтыя Глобусы?» — «Ні ў што яны не верылі, вашы Глобусы…» Не ведаю, што мой дзед зрабіў кепскага Паўлу, ці што такога непрыемнага я яму сказаў, але твар ягоны зрабіўся злосны, і ў вачах засвяціўся недавер: «Дык вы ўнук Валодзі?» — «Унук!» — «А з якога вы году?» — «З 58-га…» — «Мой з 57-га… Дачка з 68-га… Нешта вы замолада выглядаеце…» — «Паехалі ў пасёлак!» — сказаў я Бартосіку. Злаваць старога Паўла я не хацеў.

## Алена і авечка

Алене — 97. У яе васільковыя вочы і востранькі носік. Я пытаюся ў яе пра першага мужа, пра свайго дзеда, пра Валодзю Глобуса. «Харошы быў. На вас не падобны. Сярэдняга росту. Плотны. Прыгожы і разумны… Работу розную ўмеў рабіць. Усё рабіў сваімі рукамі. І дом мог пабудаваць. Сам, усё сам рабіў. І не піў…У мяне ад яго дачка ёсць, Надзя. Яна жыве ў вёсцы Старыца. У доме, каля возера. Там адзін дом каля возера. У Старыцы спытаеце дом каля возера, і вам кожны пакажа. Калі Надзя замуж выходзіла, я Валодзю запрашала на вяселле, а потым і ён запрашаў да сябе нашу Надзю з жаніхом. Мы з ім не сварыліся. А вы ягоны ўнук… Як, Вы кажыце, вашу маму звалі? Ніна? Помню я вашу Нінку. Я ўжо сабе іншага мужыка ўзяла. Валодзі тры гады не было, і я сабе іншага ўзяла. А ён вярнуўся і прывёз вашу… Як вы кажаце? Ядзю? Ну так… Ядзю. Яны не па вуліцы ішлі ў сваю хату, а там, вунь там, па загуменнях. Ён, мусіць, баяўся, што я іх біць буду… Выскачу з хаты, налячу і палкаю паб'ю…» Васільковавокая Алена ўзняла сваю кульбачку і засмяялася бяззубым ротам. Я злавіў сябе на думцы, што ў мяне зуім няма агіды да яе па-дзіцячы бяззубага рота. «Ён жа не ведаў, што ў мяне другі мужчына… А Нінку вашую помню. Яна ўсё прыходзіла да мяне і плакала. Не хацела Нінка жыць у нашых Гулевічах…» — «Ядзя, Ядзя не хацела жыць у Гулевічах!» — папраўляю я вясёлую Алену. «Правільна, Ядзя не хацела жыць у Гулевічах. А я ёй кажу, чаго табе з ім не жыць? Жыві! У мяне новы мужчына. А ты жыві з Валодзем. А яна харошая жанчына, прыгожая, з чыстым тварам, прыйдзе да мяне і плача. Тады Валодзя прадаў авечку, купіў ёй білет, і мы праводзілі яе ў Мінск. І дачку яна забрала з сабой, Нінку вашу…»

Мой падарожны сябра Бартосік спытаўся ў старой Алены: «Што трэба рабіць, каб пражыць 97 гадоў? Ці ёсць які сакрэт?» — «Рабі больш за ўсіх, і пражывеш даўжэй за астатніх. Я работы не баялася, рабіла больш за ўсіх, вось і пражыла доўга!»

## Зінкевіч і дом над возерам

У вёсцы Старыца, у рудавалосай прадавачкі з прадуктовае крамы я спытаўся, як знайсці дом над возерам, у якім жывуць спадары Зінкевічы, і патлумачыў, што мне патрэбна Надзея Уладзіміраўна. Прадавачка крыху нашаторылася: «У нас адзін дом над возерам. Вы аб'едзеце возера. Паставіце машыну каля гарматы, а потым сцежкаю пройдзеце ў той дом…» Які гэта дом! Сядзіба! Сад з вуллямі! Шэпты чароту… Мой сябра Бартосік доўга стукаўся ў дзверы, і нарэшце мы пабачылі сівога, моцна падвяселенага алкаголем дзядзьку: «А вы хто такія?» — «Я шукаю Надзею Уладзіміраўну Зінкевіч, старэйшую дачку Уладзіміра Глобуса!» — «Ясна, каго вы шукаеце. А вы хто такія?» — «Я — унук Валодзі Глобуса, бацькі Надзеі Уладзіміраўны!» — «Ясна. Вы — унук, а гэта ваш шафёр з магнітафонам?» — «Гэта мой таварыш…» — «Давайце пачнем з самага пачатку…» — «Я — унук…» — «У Валодзі Глобуса было 7 жонак… Вы ад якой жонкі ўнук?» — «Ад Ядзі!» — «Не ведаю Ядзі. Яна жыве?» — «Ядзя памерла ў 1971 г. Жыве яе дачка — Ніна Уладзіміраўна Глобус, мая маці…» — «Не ведаю Ніны…» — «Можа, Надзея ведае?» — «Можа і ведае… Вось, што я вам скажу… Калі гэта праўда, што вы — унук Валодзі Глобуса; калі гэта ўсё падцвердзіцца, нам трэба будзе зладзіць банкет. Гэта ж радасць, што сваякі адзін аднаго знаходзяць…» — «Вы нам скажыце, дзе Надзея Уладзіміраўна?» — «У бальніцы яна. Тут недалёка, па дарозе на Мінск…» Мне стала сумна, у бальніцу я ехаць не хацеў, не хацеў і ўсё… І не паехаў. Я адклаў сустрэчу з Надзяй Глобус да наступнай вандроўкі на Капыльшчыну.

У Мінску я адчуў спакой на душы. Я ўпарадкаваў сваё мінулае і адчуў спакой.

Смерць — толькі частка жыцця, як Бог — частка прыроды.

## Лена і 1000 дробязей

Адкрыццё чакае за кожным вуглом. Праўда. Вось я ўсё жыццё хадзіў і хаджу побач з крамаю «1000 дробязей». Сорак гадоў я праходзіў каля крамы «1000 дробязей», якая стаіць на пляцы Калініна ў Мінску, і не ведаў, што там працуе дваюрадная сястра маёй маці — Вольга Мікалаеўна Глобус. А цяпер вось даведаўся і зайшоў у «1000 дробязей» і спытаўся ў касіркі: «Дзе мне знайсці Вольгу Мікалаеўну?» — «Яна ў адпачынку…» — «А калі вернецца?» — «У аддзеле электрапрыбораў працуе яе дачка — Алена. Спытайцеся ў яе…» У атдзеле электрапрыстасаванняў я спытаўся ў прадавачак, хто з іх Алена. Мне паказалі на высокую, светлавокую і светлавалосую жанчыну. «Вы дачка Вольгі Мікалаеўны?» — «А што?» — «Нічога. Я проста хацеў бы з ёй пагаварыць… Яе прозвішча Глобус?» — «Глобус». — «Калі яе прозвішча Глобус, тады я — ваш брат!» — «Хxха-а-а!» Я хацеў быў дастаць пасведчанне з псеўданімам Адам Глобус, але перадумаў. «Мама зараз дома. Я дам вам яе сотавы тэлефон, пазваніце, пагаварыце…» Лена запісала на паперцы нумар, і я пакінуў краму з дробязямі.

## Вольга і імёны па бацьку

Затэлефанаваў я Вользе Глобус. «Што ж вы так доўга не прыходзілі?» — «Нагоды не было…» — «А маці ваша чаму не прыходзіла?» — «Мама сказала, што яе бацька ёй не цікавіўся, таму і яна не вельмі хоча цікавіцца ім. Яна мае права на такое стаўленне. А я напісаў кнігу пра сваю сям'ю, там ёсць згадка і пра Валодзю Глобуса. Цяпер я ўдакладняю дэталі, таму і прыйшоў да вас. Вы мне скажыце, калі ласка, як імя па бацьку вашай бабулі Вольгі Глобус?» — «А я і не помню…» — «А дзе пахаваны мой прадзед — Рыгор Глобус?» — «Там жа, у пасёлку Гулевічы. Ягоная магіла

ў адной агароджы з Валодзевай. Такі драўляны помнік. Вы яго не бачылі?» — «Не. А калі ён памёр?» — « У 1952, здаецца…» Мой прадзед — Рыгор Глобус — памёр у 52-м, ягонае імя па бацьку дырэктарка крамы таксама не згадала. Мы дамовіліся сустрэцца праз тыдзень у краме «1000 дробязей».

## Вольга і шлянка кісялю

Ісці да Вольгі Глобус, у яе краму «1000 дробязей», шчыра кажучы зусім не хацелася. Яе папрок, што я так доўга да яе не прыходзіў, можна павярнуць і ў адваротны бок. Ніхто з іх да мяне ні разу не звярнуўся. Не, канешне, зусім не з-за гэтага я не хацеў ісці да Вольгі, а з-за навальніцы, якая насоўвалася на горад. Патэлефанаваў я ёй, а яна не ўзяла слухаўку, я ўздыхнуў з палёгкаю, але яна тут жа пераздваніла, і я паабяцаў праз 15 хвілін быць у яе. Пачалася навальніца. Ліло так, нібыта ўсё яшчэ лета, а не другі тыдзень верасня. І грымела па-летняму, магутна. Давялося пераскокваць цераз шырокія і бруістыя ручаіны. У дырэктарскім кабінеце я знайшоў жанчыну, нечым падобную да маёй маці. «Лье тут у вас!» — «А ў вас не лье?» — «Я пра вуліцу Калініна… Давялося мне добра разагнацца, каб пераскочыць ручаіну…» — «Пераскочылі?» — «Так!» — «Значыцца вы ў добрай спартовай форме, калі можаце лёгка пераскочыць цераз шырокі ручай…» — «Бегаю раніцай… Вольга Міхалаўна, я тут пытанні да вас пазапісваў. Можна я іх пазадаю?» — «Задавайце?» — «Вашую бабулю, а маю прабабу звалі Вольга. А вы не ўзгадалі, як яе імя па бацьку?» — «Іванаўна. Здаецца, Іванаўна. Так мне старэйшая сястра Валянціна сказала. Мы з ёй сазвоньваліся…» — «Выдатна. Мая прабаба — Вольга Іванаўна Глобус. А мой прадзед — Рыгор?..» — «Сямёнавіч…» — «Мой прадзед — Рыгор Сямёнавіч Глобус. Выдатна. А хто яны былі па веравызнанні?» — «Праваслаўныя. Там, у Гулевічах, у нас усе праваслаўныя…» — «А Глобусы заўсёды жылі ў Гулевічах? Ці, можа, яны аднекуль туды прыехалі?» — «Глобусы лічыліся сярэднякамі, і іх не раскулачвалі. У Гулевічах іх дакладна не раскулачылі… Але ў сям’і казалі, што раней іх высылалі на Каўказ, што раней яны жылі недзе пад Баранавічамі ці ў Баранавічах… Дакладна я пра высылку на Каўказ нічога не ведаю, і пра Баранавічы толькі чула ад старэйшых…» — «А майго дзеда — Валодзю Глобуса — вы помніце?» — «Ён памёр у 61-м, мне было дзевяць гадоў. Памятаю, як яны ўсёй сям’ёю прыйшлі да нас на нейкае свята. Сядзелі ў нас за сталом… Твараў не помню…» — «У Валодзі Глобуса было чатыры жонкі: Алена, Ядзя — мая баба, Маня і Антаніна?» — «Маню не ведаю». — «Мне Павел, той, што ў Гулевічах каня трымае, расказаў пра Маню, якая жыла з Глобусам пасля Ядзі…» — «Вы ўжо больш за мяне ведаеце…» — «А як прозвішча Паўла? Я не спытаўся ў яго…» — «Аляшкевіч». — «Ён мне сказаў, што ў Мані ад Глобуса дзяцей не было… Ад Алены ў яго была Надзя, ад Ядзі — Ніна, а якія дзеці былі ад Антаніны?» — «Быў сын Мікалай. Ён старэйшы за мяне, яму недзе пад 60. Жыве ён у Копылі. Ляжыць. Спаралізавала яго. Ён хацеў быць мараком. Ёздзіў у Кранштат, некалькі разоў паступаў у мараходку, але не паступіў. Жыў недзе ў Петразаводску, а потым вярнуўся…» — «А яшчэ былі дзеці?» — «Быў яшчэ сын — Іван Глобус з 1948 г. Я з ім у школе вучылася. Вы на іх, на Ваню і Колю нечым падобныя. Нешта такое ёсць. Не скажу што, але нешта ёсць…» — «Мне ў Гулевічах казалі, што ў Івана не ўсё добра?» — «Ай, у калгасе мех бульбы, ці нечага там узяў… Яго судзілі. Сядзеў ён нядоўга, а потым з’ехаў… Дзе ён, ніхто не ведае… Мала я вам інфармацыі дала. А прозвішча сваё Глобус я люблю. Каб ведала наперад, як маё жыццё складзецца, дык і засталася б на сваім прозвішчы… Вы ўжо збіраецеся сыходзіць?» — «Так… Адно

пытанне ў мяне засталося… Як памёр Валодзя Глобус?» — «Ад шклянкі кісялю. Яму зрабілі аперацыю ў Мінску. Доўга рабілі. Баба Вольга нават жыла ў Мінску, пакуль Валодзя ў бальніцы ляжаў. Потым прывезлі яго ў Гулевічы. Яму захацелася кісялю. Дактары казалі, што яму нельга пасля аперацыі піць шмат вадкасці, а ён выпіў цэлую шклянку кісялю і памёр…» — «Містычнасць ёсць у гэтай шкляцы кісялю, бо прозвішча другога мужа маёй бабы Ядзі — Кісель. Мамін айчым — Бронік Кісель — вельмі любіў Ядзю, а Валодзю Глобуса ўсе Кісялі страшэнна не любілі… Я пайду?» — «На Пасху мы — усе Глобусы — збіраемся ў Гулевічах, ходзім на могілкі. Вы ж бачылі, у нас там цэлы радок магілаў. Можаце прыехаць. Там вам старэйшыя больш за мяне раскажуць». — «Я пайду?..» — «Заходзьце…» — «Зайду!» Навальніца сціхла, але дождж усё яшчэ сыпаўся, дробны восеньскі дождж.

*Адам ГЛОБУС*

# ЗМЕСТ

## ЮБІЛЕЙНАЕ



## АБРЫСЫ ДЗЁН МІНУЛЫХ



## РАДАВОДНАЕ ДРЭВА

# АСОБА І ЧАС
# Беларускі біяграфічны альманах

Заснаваны ў 2009 годзе

Выпуск 2

Адказны за выпуск *М. У. Шыбко*

Мастак *Г. І. Мацур*

Вёрстка і дызайн *В. Я. Нога*

Карэктар *М. М. Шавыркіна*

Падпісана ў друк 00.06.2010. Формат 70x100 1/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 32,8. Ул.-выд. арк. 31,2. Наклад 300 асоб. Заказ 0000.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус». ЛИ № 02330/0494401 ад 16.03.2009.
Вул. Стралковая, 14, 220030, г. Мінск.

Надрукавана ў друкарні ТДА «НоваПрынт». ЛП № 02330/0150476 ад 25.02.2009.
Вул. Купрэвіча, 2, 220047, г. Мінск.